10–12

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ



МЕНСК
1930

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 10—12

КАСТРЫЧНІК—СЬНЕЖАНЬ

МЕНСК—1930

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



Галоўлітбел № 2742. Зак. 447—1250 экз. „Палесдрук“, Гомель.

К. В. Гей

# Аб выніках аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП (б)

(*Апрацаваная стэнаграма дакладу на Менскай гарадзкой канфэрэнцыі*)

Таварышы, асноўнае пытаньне, якое абмяркоўвалася на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б), было пытаньне пляну народнай гаспадаркі на 1931 год, г. зн. пытаньне аб контрольных лічбах.

Пленум зрабіў асноўныя падагуленьні выкананьня пляну другога году пяцігодкі. Гэтыя падагуленьні гавораць аб тым, што па ўсіх асноўных паказальніках заданьне пяцігодкі намі перавыконваецца: соцыялістычная прамысловасьць за першыя два гады выкананьня пяцігадовага пляну дала продукцыі на 30,5 мільярдаў рублёў, у той час, як паводле намётак пяцігодкі яна павінна была даць на 29,3 мільярда рублёў. На першым месцы перавыкананьня заданьняў пяцігодкі стаіць цяжкая індустрыя.

Апошні 1929—30 гаспадарчы год мы закончылі тым, што выпусьцілі продукцыі прамысловасьці больш як у два разы ў параўнаньні з даваенным часам.

Найвялікшыя посьпехі разгортваньня соцыялістычнага сэктару мы маем у сельскай гаспадарцы.

Мы маем рост засеўных плошчаў з 118 млн. га ў 1928—29 г. да 127,8 млн. га ў мінулым гаспадарчым годзе. Мы маем павялічэньне агуловага збору збожжа ў 1930 годзе на 22 проц. у параўнаньні з 1929 г. І асабліва вялікія дасягненьні ў сэнсе павялічэньня аб'ёму продукцыі мы маем па розных тэхнічных культурах: у сёлетнім годзе ўраджай бавоўны складзе ня менш 13,5 мільёнаў цнт супроць 8,6 млн. цнт у мінулым годзе. Ясна, якое гэта мае значэньне для разгортваньня галін прамысловасьці, што пераапрацоўваюць бавоўну.

Збор цукровых буракоў у сёлетнім годзе дае 152 млн. цнт супроць 62, 5 млн. цнт. у мінулым годзе, г. зн. больш чым удвое. Гэта адкрывае перад намі шырокія магчымасьці разьвіцьця цукровай прамысловасьці.

У справе колектывізацыі ў сярэднім па Саюзу да канца 1930 году мы дасягнулі ахвату 24 проц. сялянскіх гаспадарак, пры чым у асноўных зернавых раёнах процант колектывізацыі павялічыўся да 50 проц. (дакладней кажучы—49,3 проц.), г. зн. палова сялянскіх гаспадарак у асноўных зернавых раёнах ужо ахвачана колектывізацыяй.

Такім чынам за першыя 2 гады пяцігодкі мы значна перавыканалі намёткі гаспадарчага пляну; напрыклад, у справе колектывізацыі гэтыя два гады далі ў два разы больш, чым меркавалася к канцу пяцігодкі.

За апошні год мы маем далейшае падвышэньне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных. У сувязі з тым, што разьвіваецца і разгортваецца прамысловасьць, разгортваецца соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі, мы маем і агульны рост колькасьці рабочых у краіне. Мы маем і рост зарплаты рабочых: за 2 гады пяцігодкі зарплата рабочых узрасла на 12 проц. На 7-гадзінны рабочы дзень пераведзена амаль палова ўсіх рабочых, занятых у дзяржаўнай прамысловасьці; на бесьперапынку пераведзены дзьве трацiны агульнай колькасьці рабочых, занятых у прамысловасьці.

На грунце дасягненьняў другога году пяцігодкі пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) намеціў асноўныя заданьні гаспадарчага пляну на наступны год.

Контрольныя лічбы, зацьверджаныя пленумам, устанаўляюць агульны аб'ём народнага даходу Савецкага Саюзу на трэці год пяцігодкі ў 49 млрд. руб. У параўнаньні з закончаным годам гэта складае прырост на 35 проц.

Контрольныя лічбы ўстанаўляюць агульны аб'ём капітальных укладаньняў у аграмаджаны сэктар народнай гаспадаркі—прамысловасьць, транспорт, соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі, народная сувязь ды інш.—у 17 млрд. руб.

Гэта лічба забясьпечвае такія тэмпы росту соцыялістычнага сэктару народнай гаспадаркі, якія дазволяць нам поўнасьцю і цалкам ажыцьцявіць лёзунг „Пяцігодка—у 4 гады", а па цэлым радзе вельмі важных галін народнай гаспадаркі нават і ў 3 гады.

У галіне прамысловасьці контрольныя лічбы ўстанаўляюць прырост агуловай продукцыі на 45 проц. супроць 1930 году, прычым галоўная ўвага павінна быць па ранейшаму накіравана на вырашэньне проблемы мэталю і вугалю. Краіна ў надыходзячым гаспадарчым годзе павінна атрымаць 8,5 млн. тон чыгуну і 84 млн. тон вугалю. Гэта задача павінна быць выканана на 100 проц., таму што разьвіцьцё здабычы чыгуну і вугалю вызначае далейшае ажыцьцяўленьне задач індустрыялізацыі краіны. Аснова індустрыялізацыі нашай краіны—вытворчасьць машын у Савецкім саюзе, а гэта вытворчасьць можа грунтавацца толькі на савецкім чыгуне, на савецкім вугалі.

Крыху меншы разьбег мяркуецца ў паасобных галінах лёгкай прамысловасьці, напр., баваўнянай. Хоць ураджай бавоўны ў гэтым годзе значна вышэй мінулага году, і прадпрыемствы будуць загружаны значна паўней, чым у мінулым годзе, усё-ж колькасьць сыравіны не дазваляе разгарнуць баваўняную прамысловасьць у поўным аб'ёме.

Разгортваньне прамысловасьці абумоўлівае агульны рост ліку рабочых на 10 проц., пры росьце продукцыйнасьці працы на 28 проц., зьніжэньні сабекошту продукцыі на 10 проц. і пры абавязковым паляпшэньні якасьці продукцыі.

У галіне сельскай гаспадаркі контрольныя лічбы ўстанаўляюць ахват колектывізацыяй, у асноўным, у зернавых раёнах да 80 проц. сялянскіх гаспадарак; па цэнтральнай чарназемнай вобласьці—Сібіры, Уралу, Украіне, Казакстану—ахват 50 проц. гаспадарак, для спажываючай паласы—20—25 проц.

Мы ўстанавілі па нашых контрольных лічбах у БССР крыху больш высокі процант. Да вясны 1931 г. мы, прыкладна, разьлічваем мець да 30 проц. гаспадарак, ахвачаных колектывамі, і к канцу 1931 г. дабіцца 45 проц. колектывізаваных сялянскіх гаспадарак.

На маю думку, гэта ўстаноўка зусім рэальная і забясьпечана дасягнутым у цяперашні час узроўнем колектывізацыі.

Усьлед за збожжавай проблемай перад партыяй стаіць задача вырашыць мясную і малочную проблемы, задачу жывёлагадоўчых продуктаў. Гэта задача можа быць вырашана намі толькі тымі-ж мэтодамі, якія абумоўлівалі вырашэньне ў асноўным збожжавай проблемы, г. зн. стварэньнем буйных саўгасаў і калгасаў, якія разводзяць малочную скаціну, сьвіней і г. д. Дзеля гэтага асноўныя капітальныя ўкладаньні па лініі саўгасаў накіроўваюцца на разгортваньне жывёлагадоўчых саўгасаў. Гэта ўскладае на КП(б)Б надзвычайна вялікія і адказныя задачы, паколькі мы зьяўляемся бясспрэчна раёнам жывёлагадоўлі. Нам трэба будзе выканаць тут па-ўдарнаму цэлы рад найбуйнейшых работ у справе будаўніцтва гэтых саўгасаў, узбуйненьня іх, організацыі і г. д.

Аграмадныя задачы пастаўлены контрольнымі лічбамі і ў галіне транспорту. Транспорт, як вы ведаеце, ёсьць адно з вузкіх месц народнай гаспадаркі ў цэлым. Паводле контрольных лічбаў капітальныя ўкладаньні ў транспорт намячаюцца на 1931 г. у суме 3 млрд. 185 млн. р. Гэта—колёсальная сума, якая забясьпечвае рашучы зрух у рабоце транспорту і падрыхтоўку нашага транспорту да 4-га году пяцігодкі, калі перад чыгуначнай сеткай (гутарка ідзе галоўным чынам аб чыгуначным транспорце) стануць колёсальныя па свайму аб'ёму задачы.

Гэта ўскладае на нас абавязак узмацніць нашу ўвагу да пытаньняў транспорту, узмацніць работу сярод чыгуначных рабочых, яшчэ больш рэзка і рашуча выганяць адтуль элемэнты опортунізму на практыцы, элемэнты нядбайнасьці ў рабоце транспорту, з якімі мы змагаліся і раней. Рашучае змаганьне з нядбайнасьцю ў рабоце транспорту забясьпечыць правядзеньне ў жыцьцё ўсіх задач, якія стаяць перад нашым чыгуначным транспортам.

Па лініі Наркомснабу, без прамысловасьці (на элеватары, халадзільнікі і да т. п.) намечана капітальных укладаньняў на 230 млн. р. Рад запроектаваных паказальнікаў гаворыць аб значным росьце колькасьці рабочых і аб паляпшэньні іх матар'яльнага становішча ў 1931 гасп. годзе. Колькасьць рабочых і служачых у 1931 г. складзе 16 млн. чалавек супроць 14 млн. ў 1930 годзе—павялічэньне на 2 млн. чалавек. На 7-гадзінны рабочы дзень, на 5-дзёнку, пераводзяцца новыя прадпрыемствы. Заработная плата павінна быць падвышана для прамысловых рабочых на 6 проц., для чыгуначнікаў—на 8 проц. Павялічваецца фонд соцыяльнага страхаваньня, фонд паляпшэньня быту рабочых; гэты фонд складзе ў 1931 г. 2423 млн. руб. супроць 1725 млн. руб. у 1930 годзе. У жыльлёвае будаўніцтва намечана ўкласьці 1100 млн. руб. супроць 582 млн. р. у мінулым годзе, г. зн. павялічэньне асыгнаваньня на жыльлёвае будаўніцтва ў два разы.

Вось так выглядае наш гаспадарчы плян у яго асноўных вытворчых лічбах. Мы нядаўна перайшлі на сыстэму адзінага фінансавага пляну. Гэты пераход стаў магчымым толькі ў выніку росту і ўзмацненьня соцыялістычных элемэнтаў нашай народнай гаспадаркі. Фінансавы плян абымае бюджэт, крэдытную сыстэму і ўласныя сродкі гаспадарчых організацый—асноўныя элемэнты народнай гаспадаркі.

Фінансавы плян складзены такім парадкам, што на наступны 1931 г. маецца на ўвазе стварыць рэзэрв у 1,5 мільярда рублёў. Без рэзэрвы гаспадарыць наогул нельга.

Для таго каб выканаць фінансавы плян, які ў даходнай частцы прадугледжвае 31,1 млрд. руб., нам трэба будзе вельмі і вельмі падвысіць якасьць нашай работы. Аграмадныя сродкі, аграмадная частка гэтага фінансавага пляну павінны быць рэалізаваны за кошт паляпшэньня якасьці нашай работы. Адкуль мы будзем чэрпаць сродкі для таго, каб 17 млрд. руб. укласьці як капітальныя затраты ў сельскую гаспадарку, прамысловасьць і транспорт? Значную частку гэтых сродкаў павінна даць нам такое мерапрыемства, як зьніжэньне сабекошту продукцыі пры адначасовым паляпшэньні яе якасьці, такое мерапрыемства, як паляпшэньне работы тавараправоднай сеткі.

Пры росьце раздробнага звароту на 25—30 проц., мы ставілі сваёй задачай у наступным гаспадарчым годзе не павялічваць зваротных капіталаў, а паскорыць зварот у сыстэме тавараправоднай сеткі. Гэта дае магчымасьць правесьці некаторую экономію сродкаў і накіраваць іх у капітальныя ўкладаньні. Усяго каля $4^1/_2$ млрд. накапленьняў, якія мы накіроўваем у капітальныя ўкладаньні, у гэтым адзіным фінансавым пляне складаюцца за кошт больш высокай якасьці работы

ня толькі нашых фабрык і заводаў, але і транспорту, сельскай гаспадаркі. тавараправоднай сеткі,—карацей кажучы, за кошт паляпшэньня ўсяе нашае работы. Таму якасьць работы, дакладнасьць, спраўнасьць, выкананьне якасных заданьняў (не гаворачы, вядома, аб колькасных заданьнях, якія павінны быць выкананы сваім парадкам),—вось той вагар, на які мы павінны націскаць з усіх сіл у наступным гаспадар чым годзе.

У галіне фінансаў мы часам наглядаем своеасаблівае капітулянства, опортунізм у адносінах да савецкага рубля. Опортуністычныя капітулянцкія адносіны да яго пашыраны досыць значна: у каго-колечы з нашых таварышоў сустракаюцца погляды, што за грашыма справа ня стане, што грошы мы выробляем друкарскім спосабам, і, значыцца, калі грошы патрэбны, дык іх можна друкаваць колькі-хочаце, а таму няма чаго турбавацца аб мобілізацыі сродкаў, аб адшуканьні грашовых рэсурсаў і крыніц: раз патрэбна—грошы будуць. Вось з такой псыхолёгіяй нам трэба будзе самым рашучым чынам пакончыць. Бюджэт наступнага 1931 гаспадарчага году падагулены як безэмісійны бюджэт. Нам трэба рашуча перамагчы опортунізм і капітулянцтва ў фінансавых справах і па-сур'ёзнаму падцягнуць усе тыя органы, якія да гэтага часу зрываюць выкананьне нашых фінансавых заданьняў. Тая акалічнасьць, што нашы партыйныя організацыі на працягу ўсяго асобнага кварталу, ня гледзячы на вялікае напружаньне сіл для пасылкі дзесяткаў і сотняў людзей, пры заўсёднай дапамозе ўпаўнаважаных ЦК КП(б)Б і ЦК Усе КП(б), не змаглі поўнасьцю выканаць плян мобілізацыі фінансавых сродкаў,—плян зусім рэальны і зусім выканальны,—сьведчыць аб тым, што опортуністычная практыка ў нашых фінансавых справах глыбока сядзіць у таварышоў комуністаў, тармозіць, зрывае выкананьне мерапрыемстваў у справе мобілізацыі грашовых сродкаў, у справе рэалізацыі тавараў, прысьпешаньня звароту і г. д.

Вядома, таварышы, што выканаць гаспадарчыя задачы, якія стаяць перад намі ва ўсім іх аб'ёме магчыма толькі пры пасьлядоўным правядзеньні генэральнай лініі партыі. Ва ўсіх галінах нашай работы і нашага будаўніцтва мы павінны рашучым чынам весьці змаганьне з праваопортуністычнай практыкай, якая сустракаецца ня вельмі рэдка, павінны рашуча ліквідаваць „левыя“ загібы і ўсякія „права-лявацкія“ выпады супроць генэральнае лініі, якія зрываюць выкананьне гэтых гаспадарчых мерапрыемстваў. Толькі на грунце пасьлядоўна правадзімай генэральнай лініі партыі можна пасьпяхова выканаць задачы 3-га году пяцігодкі.

Даючы палітычную ацэнку тым лічбам, якія я перад вамі выклаў, тым задачам, якія пастаўлены пленумам Цэнтральнага Камітэту на наступны гаспадарчы год, трэба сказаць, што гэтыя задачы поўнасьцю і цалкам ідуць у тым кірунку, які ўказаны XVI зьездам партыі.

„Мы ўступілі ў паласу соцыялізму“,—вось што было сказана на XVI зьезьдзе партыі, як асноўны падрахунак нашых гаспадарчых дасягненьняў. Пленум Цэнтральнага Камітэту партыі гэту агульную палітычную формулу перавёў на мову конкрэтных лічбаў, конкрэтных задач, пастаўленых перад кожнай паасобнай галінай нашай гаспадаркі. Кожная з гэтых лічбаў зьяўляецца дасканалай ілюстрацыяй таго факту, што мы ўжо ўступілі ў паласу соцыялізму, што нячувана вырас соцыялістычны сэктар нашай гаспадаркі, і што гэты нячуваны рост соцыялістычнага сэктару гаспадаркі забясьпечвае нам тэмпы разьвіцьця, якія значна перавышаюць тое, што было запроектавана раней, і далёка пакідаюць адзаду тэмпы гаспадарчага разьвіцьця, калі-б то ні было бачаныя ў сусьветнай гісторыі.

Пры абмеркаваньні контрольных лічбаў на пленуме Цэнтральнага Камітэту выступалі тт. Рыкаў і Бухарын. Іх выступленьні мелі,

прыкладна, такі сэнс: „Мы за генэральную лінію партыі, мы падтрымліваем контрольныя лічбы і гаспадарчыя пляны, паданыя на зацьверджаньне пленуму Цэнтральнага Камітэту". Да гэтага т. Рыкаў палічыў патрэбным дадаць, што ён перааацаніў сілу капіталістычных элемэнтаў у нашай гаспадарцы, недааацаніў сіл рабочай клясы, недааацаніў магчымасьцяй разгортваньня соцыялістычнага сэктару, ня ўлічыў поўнасьцю неабходнасьці павароту нашай політыкі ў бок ліквідацыі кулацтва як клясы, у бок шырокага разгортваньня колгаснага руху і такім чынам зрабіў памылку, якую ён, тав. Рыкаў, прызнае праваопортуністычнай. Тав. Бухарын, у асноўным солідарызуючыся з тав. Рыкавым, прымушаны быў спыніцца больш падрабязна на пытаньні аб організаваным капіталізьме.

Гутарка ідзе аб тым, што тав. Бухарын у свой час у радзе артыкулаў і выступленьняў даваў такую ацэнку сучаснай фазы разьвіцьця імпэрыялізму, якая супадае з ацэнкай соцыял-фашыстаў. Ён перааацэньваў організаванасьць сучаснага капіталізму, перааацэньваў здольнасьці капіталізму да перамаганьня анархіі вытворчасьці, перамаганьня крызісаў, да разьвязаньня тых клясавых супярэчнасьцяй, якія няўнікнёна павінны зруйнаваць капіталістычнае грамадзтва.

Калі тав. Бухарын загаварыў на гэтую тэму, мы не пачулі яснага і выразнага асуджэньня тых поглядаў, якія ён у гэтых артыкулах разьвіваў, а пачулі, што, моў, тое, аб чым пісаў Бухарын у гэтых артыкулах, што ён сам з гэтым ня быў згодны; але ён так няясна формуляваў, што публіка падумала, што ён згодны з соцыялдэмократамі, тады як фактычна ён быў ня згодны, а тое, што яго формулёўка была няўдалай, ён і сам прызнае. Нешта накшталт такога тлумачэньня ён падаў пленуму ЦК па гэтым асноўным пытаньні.

Як-жа была справа ў рачаіснасьці? Справа была і знаходзіцца ў такім стане, што існавалі дзьве лініі—генэральная лінія партыі і лінія правых ухілістаў, пры чым правыя ўхілісты абаранялі сваю лінію, змагаліся супроць генэральнай лініі партыі.

Аб гэтым Рыкаў і Бухарын не гаварылі. Яны гаварылі аб тым, што недааацанілі адно, перааацанілі другое, зрабілі праваопортуністычную памылку. Але ацэнкі існасьці лініі правых ухілістаў яны ня далі, не сказалі выразна, што гэта лінія правых ухілістаў у існасьці сваёй азначала падтрыманьне капіталістычных элемэнтаў у краіне, азначала стаўку на капіталістычную рэстаўрацыю і на абярненьне нашага Савецкага Саюзу ў колёнію міжнароднага імпэрыялізму. Аб тым што правы ўхіл зьяўляўся і зьяўляецца кулацкай агентурай у радох нашай партыі, ня было сказана ні Бухарыным, ні Рыкавым, і гэтага, як відаць, яны яшчэ не разумеюць да цяперашняга часу.

Між тым досыць напомніць шырока вядомы факт аб тым, што шкоднікі, контррэволюцыянэры ўсіх масьцей і ўсіх адценьняў ставілі стаўку іменна на правых ухілістаў, што ўсе рэнэгаты ад комунізму і ўсе сілы соцыял-фашызму ў капіталістычным сьвеце ставілі стаўку на нашых правых ухілістаў, на іх падтрыманьне, на праваўхілісцкую лінію, якую ў змаганьні супроць генэральнай лініі партыі імкнуліся ў свой час правесьці Бухарын і Рыкаў.

Ня было, нарэшце, ані слова сказана ў выступленьнях абодвых таварышоў і аб „унутрыпартыйным рэжыме". Гэтае пытаньне яны поўнасьцю і цалкам абыйшлі маўчаньнем.

Нарэшце, зусім нездавальняючай была заява Бухарына па пытаньні аб організаваным капіталізьме.

У т. Бухарына невыпадковы гэтыя, як ён называе, няўдалыя формулёўкі ў пытаньні аб організаваным капіталізьме. Тэорыя орга-

нізаванага капіталізму створана Гельфэрдынгам і іншымі тэорэтыкамі соцыял-дэмократаў; яна разьвіваецца ўсімі соцыял-дэмократамі і соцыял-фашыстамі і зьяўляецца лепшай прыладай для абслугоўваньня капіталу.

Тэорыя арганізаванага капіталізму праскальзвае ў т. Бухарына невыпадкова: яна ўваходзіць складанай часткай у сьветапогляд правых опортуністых ва ўсіх краінах.

На гэты грунт становяцца і ўсе тыя правыя рэнэгаты, якія выкінуты з радоў комуністычнай партыі. Выключаная з радоў Амэрыканскай комуністычнай партыі група Лаўстона, якая ў існасьці справы нічога комуністычнага ня мае і якая зараз самым шалёным спосабам змагаецца супроць комуністычнай партыі Амэрыкі, у сваіх выступленьнях спасылаецца на Бухарына, выстаўляе Бухарына як свайго правадыра, як свой сьцяг, заяўляе, што яны праводзяць палітыку Бухарына, што, моў, Комуністычны інтэрнацыянал сам адмовіўся ад сваёй ранейшай палітыкі і г. д.

Амэрыканская комуністычная партыя зьвярнулася ў ЦК УсеКП(б) да т. Бухарына з прапановай (пры чым ужо даўно, некалькі месяцаў таму назад), каб т. Бухарын адмежаваўся ад гэтай групы Лаўстона і пазбавіў магчымасьці гэтую групу рабіць на яго спасылкі. М. І. Бухарын у адказ напісаў такі ліст, які ЦК нашай партыі не палічыў магчымым перадаць амэрыканскім таварышом, таму, што т. Бухарын адказаў у такім сэнсе, што ён адмяжоўваецца ад групы Ловстона не па сутнасьці, а толькі па формальных організацыйных момантах.—„Я, моў, працаваў у камісіі Комінтэрну, якая вынесла асуджэньне Лаўстону, падтрымліваў рашэньне камісіі і прымаў удзел у тым Конгрэсе Комінтэрну, якім група Лаўстона была асуджана“ і г. д.—чыста формальная мотывоўка, замест асуджэньня па існасьці позыцыі Лаўстона, зусім варожай комунізму.

Гэта гісторыя цягнулася некалькі месяцаў. Цэнтральны Камітэт так і не атрымаў больш здавальняючага тэксту адказу на просьбу Амэрыканскай комуністычнай партыі. Заява Бухарына, апублікаваная ў газэтах за 30 лістапада, таксама мае даволі доўгую гісторыю.

Трэба сказаць, што рад істотных момантаў застаецца неасьветленым і ў аканчальным тэксьце гэтай заявы. Калі ЦК прыняў рашэньне аб тым, што заява тав. Бухарына ў асноўным здавальняючая, гэта ні ў якай меры не азначае таго, што партыя не патрабуе ад т. Бухарына далейшых крокаў у кірунку набліжэньня да лініі партыі. Наадварот, лічачы ў асноўным заяву гэту здавальняючай, мы разглядаем яе як адзін з крокаў на шляху набліжэньня тав. Бухарына да генэральнай лініі партыі, але з усёй рашучасьцю мы падкрэсьліваем неабходнасьць далейшых крокаў у тым-жа кірунку і, галоўным чынам, крокаў, якія паказалі-б, што тав. Бухарын на справе ажыцьцяўляе генэральную лінію партыі, змагаецца за яе правядзеньне і г. д. Тав. Бухарыну трэба добра ўразумець тую акалічнасьць, што калі ён ня зробіць далейшых крокаў па шляху набліжэньня да лініі партыі, не разьясьніць партыі тых пытаньняў, па якіх ён да гэтага часу прадаўжае адмоўчвацца, ня дасьць здавальняючага адказу на тыя пытаньні, на якія ён дае зусім нездавальняючыя тлумачэньні як, напр., па пытаньні аб організаваным капіталізьме, дык партыя ня спыніцца перад далейшымі мерапрыемствамі ў адносінах да тав. Бухарына.

Пленум ЦК і ЦКК, заслухаўшы даклады аб становішчы рабочага забесьпячэньня, забесьпячэньня мясам і гароднінай, па пытаньні работы сыстэмы спажывецкай коопэрацыі прызнаў работу Наркомснабу па лініі Саюзмяса і Саюзплодагародніны нездавальняючай.

Мы нездавальняюча справіліся з задачамі забесьпячэньня рабочага насяленьня нашых буйнейшых цэнтраў мясам і гароднінай. Асноўнай прычынай такой зьявы трэба лічыць засьмечанасьць гэтых арганізацый шкодніцкімі элемэнтамі.

Усім памятны расстрэл 48 шкоднікаў, якія праводзілі шкодніцкую работу ў галінах рабочага забесьпячэньня і ў нарыхтоўчых апаратах. Надзвычайна засьмечаны апарат Саюзмяса, Саюзрыбы і Саюзплодагародніны, у выніку гэтага мела месца раскраданьне мяса, гародніны, прапажа продуктаў, утвараліся пробкі ў адных мясцох, нястачы мяса ды гародніны — у другіх; быдла, прызначанае на зарэз, спадала ў вазе і г. д.

Комуністы—кіраўнікі гэтых устаноў, працуючыя ў галіне забесьпячэньня прамысловых цэнтраў мясам і гароднінай, ня вывучылі даручанай ім справы. Яны абмяжоўваліся кіраваньнем гэтай справай „у агульным і цэлым“, давалі агульныя дырэктывы і ўказаньні, не правяраючы, як выконваюцца гэтыя дырэктывы і ўказаньні, не жадаючы прасачыць за тым, каб гэтыя агульныя ўказаньні, тая ці іншая агульная дырэктыва былі правільна распрацаваны, з веданьнем справы, з застасаваньнем патрэбных мэтодаў. Пленум ЦК і ЦКК сыгналізуе цэламу раду партыйных таварышоў, якія знаходзяцца на адказнай гаспадарчай рабоце, у першую чаргу аб неабходнасьці паінакшаму падыходзіць да кіраваньня даручанай ім справай.

Занадта многа ў нас „у агульным і цэлым“, занадта многа агульных і дырэктыўных указаньняў і надта мала сапраўднай работы і сапраўднага веданьня гэтай справы, на якую той ці іншы таварыш прызначаны.

Мы сустракаемся з такімі зьявамі ў галіне, напр., загатовак гародніны. Калі агульны разьмер загатовак па рэспубліцы быў устаноўлены, паўстала пытаньне аб конкрэтызацыі заданьняў па раёнах, што патрабуе веданьня экономікі раёну, гаспадарчых умоў кожнага раёну ўпаасобку. Нашы органы Наркомснабу справіліся з гэтай задачай вельмі нездавальняюча. Адным раёнам даваліся заданьні пераўвялічаныя супроць магчымасьцяй, другім—зьменшаныя, у выніку чаго шкодніцкія элемэнты мелі магчымасьць стварыць рад труднасьцяй у справе пасьпяховага выкананьня загатоўчых плянаў.

Мне здаецца, што гэты ўрок трэба ўлічыць ня толькі тым таварышом, якія працуюць на гароднінай і мясной справе, але і цэламу раду іншых таварышоў варта было-б падвучыцца, больш блізка і шчыльна падыйсьці да тае справы, якою яны кіруюць, і быць здольнымі даваць ня толькі агульныя дырэктывы, але і ўмець па-гаспадарчаму прапрацаваць пытаньне.

Пленум адзначыў таксама тую акалічнасьць, што ў нас у партыйнай арганізацыі мае месца недаацэнка задач мясазагатовак. У нас ужо ўстанавілася ў партыі ня дрэнная традыцыя—калі пасьпявае збожжа і надыходзіць пэрыод загатоўкі яго, партыйная організацыя мобілізуецца на хлебную кампанію параўнаўча лёгка і быстра. Усе разумеюць, што трэба выканаць збожжазагатоўкі. Усе разумеюць, што трэба ўжыць рад захадаў, паслаць людзей. Усе знаюць мэтоды работы збожжазагатовак, і партыйная організацыя з гэтымі задачамі спраўляецца добра.

Што справа стаіць іменна так, паказвае хоць-бы той факт, што мы ў цяперашні загатоўчы сэзон ужо загатовілі больш мільярду пудоў збожжа. Вядома, тут праяўляецца і тая акалічнасьць, што збожжавая проблема ў нас у асноўным вырашана, тады як проблему жывёлагадоўлі мы толькі яшчэ пачынаем вырашаць. Але вось да справы мясазагатовак зараз, у самы гарачы час, у самы асноўны сэзон, у нас такой увагі з боку партыйнай організацыі няма. Тымчасам задача

забесьпячэньня мясам рабочых прамысловых цэнтраў ёсьць найважнейшая гаспадарчая задача загатоўчай работы ў сёлетнім годзе.

Хлебам мы рабочых забясьпечылі. Хлеба даволі ў нас у руках. У адносінах хлеба труднасьцяй ня будзе. Будуць мець месца труднасьці і перабоі ў справе забесьпячэньня мясам, і трэба напружыць усе сілы, каб гэтыя труднасьці зжыць лёгка і хутка.

Надзвычайна мала зроблена ў нас для выкарыстаньня такога важнага рэсурсу рабочага забесьпячэньня, як рыбнай гаспадаркі, у прыватнасьці для разьвіцьця рыбнай гаспадаркі малых вадазбораў, г. зн. такой рыбнай гаспадаркі, якая маецца ў нас на Беларусі. Мы можам значна палепшыць забесьпячэньне нашых прамысловых гарадоў, нашых прадпрыемстваў вельмі каштоўным продуктам харчаваньня, які ў значнай ступені можа папоўніць недахват мясных продуктаў Аднак у нас на Беларусі рыбная гаспадарка па-ранейшаму застаецца аднэй з вельмі дрэнна пастаўленых галін гаспадаркі.

Мы на працягу ўсяго мінулага году мелі вялікае недавыкананьне плянаў улову рыбы, мы маем заўсёдныя перабоі ў забесьпячэньні невадамі. Невыкананьне пляну мы маем і цяпер. За гэтую справу партыйным, гаспадарчым і савецкім арганізацыям трэба ўзяцца як сьлед. Тады мы загатоўкі выканаем і пакрыем недавыкананьне.

Пленум прыняў рад рашэньняў у пытаньні агароднай і мясной гаспадарак, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на пашырэньне засеваў гародніны (бульба, капуста) у прыгарадных раёнах і ў тых раёнах, дзе дагэтуль недастаткова разьвіты засевы гародніны.

Шырокую вядомасьць набыло заданьне, якое атрымала Заходняя вобласьць на адгрузку бульбы для... Баку. ЦК УсеКП(б) умяшаўся ў гэтыя бульбяныя перавозкі, асадзіўшы як сьлед тых гаспадарнікаў, якія далі такія заданьні.

Значыць, трэба разьвіваць агародныя культуры ў тых раёнах, дзе яны разьвіты мала. Трэба каб забесьпячэньне буйнейшых нашых гарадоў, у тым ліку і буйных гарадоў Беларусі у асноўным пакрывалася сумежнай зонай. Трэба, каб прыгарадныя гаспадаркі разьвівалі засевы гародных культур, якія да таго-ж ва ўмовах прыгарадных гаспадарак бязумоўна мэтазгодны і рэнтабельны.

ЦК, падыходзячы да пытаньня па-дзелавому, вызначыў рад заданьняў у справе абсталяваньня пунктаў прыйманьня, хаваньня і перапрацоўкі гародніны, у справе загрузкі старых і новабудуемых консэрвавых заводаў, у справе вырабу тары для гародніны. Пленум ЦК—кіруючы орган партыі—даў прыклад конкрэтнага, дзелавога кіраваньня, распрацаваўшы практычныя заданьні і ў справе вырабу тары для гародніны, у справе організацыі прыймальных пунктаў і г. д.

Работа сыстэмы спажывецкай коопэрацыі і Цэнтрасаюзу так сама, як і работа Наркомснабу ў галіне забесьпячэньня мясам і гароднінай была прызнана пленумам ЦК нездавальняючай. Яшчэ на XVI зьезьдзе партыі ў справаздачным дакладзе тав. Сталіна рабоце спажывецкай коопэрацыі быў прызначаны спэцыяльны разьдзел, у якім гаварылася аб тым, што спажывецкая коопэрацыя ў нас заражана „нейкім нэпманскім духам“, і рэзка крытыкаваліся заганы ў рабоце спажывецкай коопэрацыі.

Зараз пленум ЦК усутыч падышоў да гэтага пытаньня, распрацаваў яго і раскрыў карціну становішча нашай спажывецкай коопэрацыі, даў ёй вышэйпаказаную ацэнку. Наяўнасьць нэпманскага духу, стаўка на самацёк у рабоце спажывецкай коопэрацыі, бюрократызм, опортунізм на практыцы становяць сабою вельмі пашыраную зьяву ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі і прыводзяць нашу таваpаправодную сеткy ў такое становішча, што важнейшыя задачы, ускладзеныя на сыстэм-
у

спажывецкай коопэрацыі, ня выконваюцца. У нашай практычнай рабоце, у рабоце з Белкоопсаюзам і яго сыстэмай на шмат якіх паседжаньнях ЦК бюро ЦК прама адчувае тую акалічнасьць, што рад указаньняў і зусім конкрэтных, ясных і выразных дырэктыў сыстэмай скажывецкай коопэрацыі ня выконваюцца. Калі гаворыцца аб тым, што трэба завезьці цукер у вёску, здавалася-б, справа гэта не цяжкая; цукер адпускаецца, даецца дырэктыва прасунуць цукер у вёску, у раёны, пусьціць у нізавую сетку. Праз пэўны час правяраем; аказваецца, у 81 раёне цукер ёсьць, у 19 раёнах яго няма. Праз 10 дзён правяраюць яшчэ раз, як выконвае гэта заданьне спажывецкая коопэрацыя; аказваецца, у 11 раёнах цукру ўсё-ж няма. Такія выпадкі ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі сустракаюцца вельмі часта. Заданьне, якое можна і трэба выканаць, аказваецца нявыкананым імення дзякуючы бюрократызму, опортунізму на практыцы, засьмечанасьці чужым элемэнтам і г. д.

Тут у Менску, каб не ходзіць далёка, можна было-б падаць некаторыя факты, калі, з мэтаю паскорыць праходжаньне тавару праз тавараправодную сетку, робіцца распараджэньне той або іншы тавар пусьціць у продаж бяз ордэру. Праз 4-5 дзён вы ідзеце ў краму, з вас патрабуюць ордэр на гэты тавар. Патрэбен націск, патрэбна другая рэзолюцыя, каб на працягу 5-6 дзён правесьці ў горадзе такое вялікае мерапрыемства, каб тавар, які раней адпускаўся па ордэрах, адпускаўся-б па кніжках, альбо-ж тавар, які адпускаўся па кніжках, адпускаўся-б бяз кніжак. Я ня помню конкрэтна, які тавар, але я помню, што ў Менскім ЦРК быў такі выпадак, і патрэбна было некалькі ўказаньняў і некалькі тыдняў, каб правесьці ў жыцьцё такую простую рэформу.

Скажаецца цэлы рад добрых мерапрыемстваў у справе організацыі рабочага забесьпячэньня. На пленуме ЦК выступіў т. Кагановіч з вялікай прамовай аб рабочым забесьпячэньні, ён з сваёй уласнай практыкі падаваў некаторыя прыклады ў рабоце спажывецкай коопэрацыі, калі ў часе свайго наведваньня аднаго з маскоўскіх прадпрыемстваў т. Кагановіч высьвятліў гэты факт. Створаны пры прадпрыемстве закрыты разьмеркавальнік. Здавалася-б, палітыка партыі праводзіцца,—мы якраз закрытыя разьмеркавальнікі ставім у вяршыню кута давядзеньня тавару да рабочага спажыўца. Гэты закрыты разьмеркавальнік уводзіць сыстэму папярэдніх заказаў, таксама, здавалася-б, ня дрэннае мерапрыемства. Сыстэма папярэдніх заказаў—сыстэма вельмі зручная для спажыўца: вы робіце заказ напярэдадні, вам на другі дзень дастаўляюць пакет на дом. Зручна, ніхто не адмовіўся-б і ў чарзе ня прышлося-б стаяць,—заказаў, заплаціўшы грошы, і на другі дзень атрымліваеш пакет. На практыцы вышла другое: гэты закрыты разьмеркавальнік увёў такую сыстэму заказаў, як правіла, і ніякай іншай сыстэмы гандлю не прызнае. Калі патрэбна купіць іголкі і шпульку нітак, дык будзьце ласкавы заказаць і вам прышлюць на дом. Затым самая гэта сыстэма ажыцьцяўляецца такім парадкам: вы здаеце кніжку, плоціце грошы, праходзіць 5-6 дзён,—вы ня можаце знайсьці ні вашай кніжкі, ні вашых грошай; вам не дастаўляюць тавараў, вам трэба траціць рабочы дзень, каб дабіцца толку ў фабкоме, у праўленьні закрытага разьмеркавальніка, каб потым, праз 2 тыдні, вы атрымалі кніжку назад і грошы назад і засталіся без тавару.

Вось такія скажэньні добрых правільных указаньняў партыі аб організацыі закрытага разьмеркавальніка, такое застасаваньне гэтага мэтоду зрывае пастаноўку рабочага забесьпячэньня нашых прадпрыемстваў.

Возьмем справу грамадзкага харчаваньня. Партыя ўсяляк падтрымлівае і разьвівае наша грамадзкае харчаваньне, сталоўкі і г. д., бо гэта вызваляе рабочага, жонку яго ад цэлага раду турбот, дазваляе лягчэй манэўраваць запасамі продуктаў і мае шмат іншых выгод і пераваг. На практыцы гэта передавое пачынаньне абарачаецца ў тое, што грамадзкае харчаваньне пашыраюць коштам зьніжэньня якасьці, абеды становяцца дрэннымі, вас пояць малаядомым, а часам і зусім неядомым пойлам, з вамі абыходзяцца груба, прымушаюць выстойваць у аграмадных чаргах.

У чым-жа прычына такіх недахопаў і недалікаў?

Як адну з прычын, трэба паставіць засьмечанасьць апарату спажывецкай коопэрацыі чужымі і варожымі нам элемэнтамі. У Цэнтрасаюзе выкрыта зараз даволі буйная шкодніцкая організацыя. Беспартыйныя члены праўленьня Цэнтрасаюзу ў ліку 4-х чалавек стаялі на чале гэтай шкодніцкай організацыі і сыстэматычна зрывалі правядзеньне ўсіх нашых мерапрыемстваў. У сваіх паказаньнях яны высьвядчаюць цяпер, як яны засылалі тавары, патрэбныя ў адным раёне,—у другі раён. У Ленінград, напрыклад, была заслана—на пленуме паведамляўся такі факт—партыя сельска-гаспадарчых прылад для апрацоўкі вінаграднікаў.

Загатоўкі хлеба ў нас, як вядома, пачынаюць спачатку ў паўднёвых раёнах, а потым паўночных і паўночна-ўсходніх. Таварныя фонды шкоднікамі накіроўваліся ў першыя месяцы загатовак у паўночна-ўсходнія раёны, Уральскія ды Сібірскія раёны, дзе яны доўгі час ляжалі нявыкарыстанымі. Украіна і Паўночны Каўказ адчувалі адсутнасьць таварнага фонду, і потым ужо гэтыя таварныя фонды пасылаліся на Украіну, калі труднасьці там ужо былі створаны, праводзілася цэлая сыстэма шкодніцкіх актаў у цэлым радзе мерапрыемстваў.

Але ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі мела месца ня толькі шкодніцтва, організаванае нашымі клясавымі ворагамі, але таксама і прымірэнчыя адносіны да клясава-варожых элемэнтаў, якія (адносіны) стваралі спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця такога шкодніцтва. Таму сыстэму спажывецкай коопэрацыі нам трэба зараз пераглядзець самым уважлівым чынам.

Мы мелі і ў Менску процэс шкоднікаў у ЦРК, якія стварылі труднасьці з бульбаю летам гэтага году, калі пакінулі Менск бяз бульбы: далі распараджэньне аб тым, каб бульбу не завозіць у Менск і як быццам забыліся адмяніць гэта распараджэньне, а ўспомнілі толькі праз месяц-паўтара, калі горад застаўся бяз бульбы на працягу досыць доўгага часу.

Апрача чысткі спажывецкай коопэрацыі ад усяго гэтага варожага нам элемэнту і ад тых, што абюрократыліся і разлажыліся, Пленум ЦК намеціў у асноўным такія мерапрыемствы: організацыя сеткі закрытых разьмеркавальнікаў, добра пастаўленых і выконваючых справу рабочага забесьпячэньня на прадпрыемствах, змаганьне з раскраданьнямі тавараў, якія маюць месца—напрыклад, справа з дзіцячымі пайкамі ў нас у Менску, змаганьне з адсутнасьцю клясавага падыходу да спажыўца, з імкненьнем ня даць тавару ў рукі рабочага спажыўца, а даць ў рукі нэпманскіх ды паўнэпманскіх элемэнтаў, шырокае разьвіцьцё грамадзкага харчаваньня, змаганьне супроць тэндэнцый зраўнілаўкі.

Пленум ЦК і ЦКК у сваіх рашэньнях з усёй выразнасьцю паставіў пытаньне, што ў справе забесьпячэньня рабочых, у процівагу тэндэнцыі зраўнальнасьці, трэба аддаць перавагу ўдарніку, пера-

доваму змаганьніку за соцыялістычнае будаўніцтва, а адсталым элемэнтам—гультаём, рвачом ды лятуном—элемэнтам, з якімі мы змагаемся, даваць у другую чаргу, забясьпечваць іх у меншым разьмеры. Калі, напрыклад, не хапае для забесьпячэньня ўсіх рабочых прадпрыемстваў ботаў або вопраткі—паліто і да т. п., то даць у першую чаргу перадавіком, ударнікам—тым, хто паказвае прыклад у рабоце, хто працуе самааддана, хто працуе больш,—такаво правільнае вырашэньне пытаньня.

Агульны палітычны сэнс пастаноўкі пытаньняў рабочага забесьпячэньня на пленуме Цэнтральнага Камітэту заключаецца ў тым, што ўсе і ўсякія віды опозыцыі, якія існавалі і зьнікалі ў нашай партыі, і ў прыватнасьці, права-„лявацкі" блёк прабавалі іграць на рабочалюбстве, прабавалі іграць на тых труднасьцях з рабочым забесьпячэньнем, якія мелі месца ў апошні час. Права-„лявацкі" блок, як вам вядома, „турбаваўся" наўкола гэтага пытаньня, пісаў аб „панска-фэўдальных адносінах савецкага апарату", пісаў аб становішчы рабочых. Пытаньні рабочага забесьпячэньня служылі якраз такім момантам, на якім усе опортуністычныя элемэнты, у асаблівасьці апошні права-„лявацкі" блёк, прабавалі працягваць сваю палітычную лінію. Пропозыцыя Сырцова заключалася фактычна ў тым, каб продукты, якія мы маем у сваіх руках, у соцыялістычным сэктары, якія знаходзяцца ў распараджэньні рабочае клясы, перадаць у рукі капіталістычных элемэнтаў, перакупшчыкаў ды іншых дробных гандляроў. Ці палепшыла-б гэта справу рабочага забесьпьчэньня? Ані ў якой ступені. Таму што мы здолеем распарадзіцца тымі продуктамі, якія ў нас ёсьць, лепш за перакупшчыка і дробнага гандляру. Палітычны сэнс гэтай пропозыцыі—пэўнае ажыўленьне капіталістычнага сэктару. Партыя, паставіўшы ва ўсёй шырыні пытаньні рабочага забесьпячэньня, на апошнім пленуме Цэнтральнага Камітэту падышла да гэтага пытаньня без панікёрства, без гістэрычных крыкаў, што „нешта трэба рабіць", падышла да гэтага, бязумоўна рашуча адкідаючы ўсякія спробы розных элемэнтаў адчыніць вакенца для прыватнакапіталістычных элемэнтаў. Пленум ЦК і ЦКК устанавіў рад буйнейшых недахопаў у рабоце забесьпячальнага і разьмеркавальнага апарату, паставіў задачу чысткі і паляпшэньня гэтага апарату і ўказаў конкрэтныя шляхі і мерапрыемствы, ажыцьцяўляючы якія мы пасьпяхова выканаем задачу рабочага забесьпячэньня.

Нарэшце, трэцяе пытаньне, якое стаяла на пленуме ЦК,—гэта пытаньне аб перавыбарах саветаў. Наша партыйная організацыя выкрыла праваопортуністычную практыку профсаюзаў і карэнным чынам аднавіла кіраўніцтва УсеЦСПС; было ліквідавана супраціўленьне генэральнай лініі партыі з боку праваопортуністычных элемэнтаў пад кіраўніцтвам Томскага ды іншых, якія тормозілі мобілізацыю рабочых мас на ажыцьцяўленьне гэтай генэральнай лініі партыі.

Нешта падобнае да становішча спраў у профсаюзах склалася ў паасобных зьвеньнях савецкага апарату. І ў савецкім апараце мела месца праваопортуністычная практыка. І гэта праваопортуністычная практыка там, дзе яна мела месца, зьяўлялася буйнейшым тормозам у ажыцьцяўленьні генэральнай лініі партыі.

Наша задача, у сувязі з перавыбарамі саветаў, заключаецца ў тым, каб падняць ролю саветаў у правядзеньні на практыцы Ленінскай палітыкі партыі. Моцна адбівалася на рабоце савецкага апарату тая акалічнасьць, што на чале СНК да апошняга часу стаяў т. Рыкаў, які, зьяўляючыся адным з лідэраў правай опозыцыі, тормозіў работу

савецкага апарату ў галіне ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі. З прычыны гэтага пытаньні, якія павінны былі разьбірацца ў савецкім парадку, пераносіліся ў партыйныя організацыі.

Тав. Молатаў паведаміў на пленуме, што ў гэтым годзе, ўпяршыню за 10 гадоў існаваньня і работы Політбюро ЦК УсеКП(б), прышлося заняцца разглядам пытаньня аб загатоўках сена. Было патрэбна ўмяшаньне партыі, каб зрушыць з месца ход загатовак.

Трэба падняць ролю і аўторытэт савецкага апарату, трэба забясьпечыць магчымасьць спраўляцца з цэлым радам заданьняў без спэцыяльнага націску партыйных організацый. Трэба, каб саветы сталі організатарамі мас на выкананьне дырэктыў портыі. Трэба падняць і ўзвысіць аўторытэт і сілу савецкага апарату, тым самым забясьпечваючы правядзеньне ў жыцьцё Ленінскай партыйнай лініі.

Саветы для ажыцьцяўленьня гэтай асноўнай задачы маюць магчымасьць абаперціся на новы актыў. У краіне адбыліся аграмадныя зрухі. За тыя два гады, што прайшлі з часу апошніх перавыбараў, стварыўся вялікі актыў ударнікаў сярод рабочых, і на гэты актыў у першую чаргу павінны абаперціся саветы. У вёсцы вырас новы актыў у асобе колгасьнікаў. Перавыбары саветаў павінны праходзіць пад лёзунгам павароту саветаў тварам да ўдарнікаў, да колгасьнікаў, апоры саветаў.

Актывізуючы гэтыя пласты ўдарнікаў і колгасьнікаў, апіраючыся на іх, саветы ўзвысяць сваю ролю ў справе ажыцьцяўленьня на практыцы Ленінскай політыкі партыі.

Тав. Рыкаў быў аслабанёны ад пасады старшыні Саўнаркому, і замест яго старшынёй Саўнаркому быў назначаны т. Молатаў. Т. Рыкаў быў таксама выведзены і з складу Політбюро. Гэта мае пэўную сувязь з той агульнай стадыяй разьвіцьця змаганьня партыі супроць правага ўхілу, супроць правага опортумізму, на якой мы зараз знаходзімся. Цэнтральным комітэтам намечана правесьці рад важнейшых мерапрыемстваў, якія сапраўды падвысяць работу савецкага апарату, якія дапамогуць забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі праз савецкі апарат.

Да такіх мерапрыемстваў належыць стварэньне спэцыяльнай комісіі, якая займалася-б праверкай выкананьня. Гэта асобная комісія будзе правяраць выкананьне пастаноў партыі, заданьняў кіруючых органаў.

Гэта забясьпечыць нам, што ў практыцы сваёй работы нам усё радзей і радзей прыдзецца констатаваць факты, калі рэзолюцыя, напісаная 2 месяцы таму назад, засталася не праведзенай у жыцьцё.

Не падлягае ніякаму сумненьню, што, праводзячы адпаведную работу і ў нас на мясцох, наладзіўшы праверку выкананьня, мы ў бліжэйшы час актывізуем наш савецкі апарат, узьнімем работу на вышэйшую ступень і забясьпечым больш актыўнае правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі.

Вось у кароткіх рысах вынікі апошняга пленуму Цэнтральнага комітэту. Пленум ЦК на аснове рашэньняў XVI зьезду партыі даў устаноўкі, якія забясьпечваюць па-бальшавіцку цьвёрдае і ў поўным аб'ёме выкананьне асноўных задач далейшага разгортваньня будаўніцтва социялізму ў надыходзячым трэцім годзе пяцігодкі.

А. Хацкевіч

# Ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў Беларускай ССР.

У. І. Ленін у тэзісах „Сацыялістычная рэвалюцыя і права нацый на самавызначэньне“ (Збор твораў, т. XIX) ўказваў у 1916 годзе, што „целью социализма является не только уничтожение раздробленности человечества на мелкие государства и всякой обособленности наций, но и слияние их. И именно для того, чтобы достигнуть этой цели, мы должны... требовать освобождения угнетенных наций не в общих расплывчатых фразах, не в бессодержательных декламациях, не в форме откладывания вопроса до социализма, а в ясно и точно формулированной политической программе, специально учитывающей лицемерие и трусость социалистов в угнетенных странах“.

Непасрэдна ў бліжэйшыя дні пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, у выніку якой ўся ўлада перайшла ў рукі пралетарыяту, камуністычная партыя на падставе дыктатуры пралетарыяту прыступіла да рэалізацыі свае праграмы па нацыянальным пытаньні. Яшчэ барацьба за ўладу саветаў працягвалася ў паасобных мясцох рэспублікі саветаў, а Савет народных камісараў 15 лістапада 1917 году ўжо выдаў вядомую „дэкларацыю праў народаў Расіі“. Дэкларацыя ўстанаўляла роўнасьць і сувэрэннасьць народаў Расіі; права народаў Расіі на свабоднае самавызначэньне, аж да адлучэньня і стварэньня самастойнае дзяржавы; адмену ўсіх і ўсялякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілей і абмежваньняў; свабоднае разьвіцьцё нацыянальных меншасьцяй і этнаграфічных груп, якія насяляюць тэрыторыю Расіі.

Гэтаксама асноўныя прынцыпы ленінскай нацыянальнай палітыкі знаходзяць свой адбітак у першай-жа канстытуцыі Сацыялістычнай савецкай рэспублікі Беларусі, прынятай на першым усебеларускім зьезьдзе саветаў 3 лютага 1919 году. Артыкул 15-ы гэтай канстытуцыі вызначае, што „ССРБ, прызнаючы роўныя правы для грамадзян, незалежна ад іх расавай і нацыянальнай належнасьці, абвяшчае супярэчачым асноўным законам рэспублікі ўстанаўленьне альбо дапушчэньне якіх-небудзь прывілей альбо перавагі на гэтай падставе, а роўна якое-б та ні было прыгнечаньне нацыянальных меншасьцяй альбо абмежаваньне іх роўнапраўя“. І пасьля, пазьней гэтага, калі нацярпеўшаяся змучаная Беларусь была аслабанена Чырвонай арміяй летам 1920 году ад белапольскіх акупантаў, савецкая ўлада ўрадовай дэкларацыяй аб абвяшчэньні незалежнасьці БССР зноў пацьвярджае, што Беларусь „будзе будаваць сваё жыцьцё на асновах уцягненьня ў савецкае будаўніцтва самых шырокіх працоўных мас, да якой-бы нацыянальнасьці і веравызнаньня яны ні належылі. Устанаўляецца поўнае роўнапраўе моваў (беларускае, расейскае, польскае, яўрэйскае) у зносінах з дзяржаўнымі ўстановамі і ў арганізацыях і і ўстановах народнае асьветы і сацыялістычнай культуры“.

Для выяўленьня поўнага адбітку Ленінскай нацыянальнай палітыкі ў асноўным законадаўстве Беларускай ССР, пасьля чаго можна будзе ў далейшым прыступіць да выяўленьня рэалізацыі гэтых прынцыпаў на практыцы, трэба яшчэ паказаць на тое, як вырашана нацыянальнае пытаньне ў чыннай канстытуцыі БССР, прынятай 11 красавіка 1927 годуVIII Усебеларускім зьездам саветаў. Арт. 20 канстытуцыі гаворыць, што „БССР на падставе поўнага зьнішчэньня нацыянальнага прыгнечаньня забясьпечыць свабоднае эканамічнае і культурнае разьвіцьцё і ўздым дабрабыту працоўных усіх нацыянальнасьцяй яе насяляючых, і арганізуе шырокі ўдзел іх у сацыялістычным будаўніцтве праз саветы рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў."

Такім чынам, Кастрычнікавая рэвалюцыя парвала ланцугі нацыянальнага прыгнечаньня народаў, насяляючых Саюз ССР, рашуча зьмяніла ўсганавіўшыяся, у выніку палітыкі царскай улады, адносіны паміж паасобнымі народамі, падарвала нацыянальную варожасьць і, на падставе дыктатуры пралетарыяту, дала магчымасьць ажыцьцёвіць шпаркае эканамічнае і культурнае адраджэньне ўсіх адсталых народаў, разьвіць іх нацыянальную культуру па форме і пралетарскую па зьместу.

Беларусь да Кастрычнікавай рэвалюцыі, у параўнаньні з іншымі прамысловымі раёнамі б. царскай Расіі, зьяўлялася і эканамічна і культурна найбольш адсталай краінай, аб чым сьведчаць наступныя зьвесткі. У 1908 годзе ў Расіі на 100 жыхароў налічвалася, 1,43 проц. рабочых, а ў Беларусі ў той-жа час—толькі 0,57 проц. Кошт прамысловых вырабаў у Расіі на аднаго жыхара быў 30 руб., а ў Беларусі—8 руб.; да гэтага трэба яшчэ дадаць, што характар прамысловасьці Беларусі (дробная прамысловасьць, пераважна рамесьніцкая) значна адрозьніваўся ад характару прамысловасьці цэнтральнай Расіі.

Перад імпэрыялістычнай вайной 1914 году ў Беларусі (лічачы тут і заходнюю Беларусь) было 2318 прадпрыемстваў з сярэдняй колькасьцю рабочых у іх у 37-38 чалавек. З гэтае колькасьці прадпрыемстваў толькі 7,1 проц. было такіх, якія мелі ад 100 да 500 рабочых, і толькі 0,9 проц. прадпрыемстваў мелі больш 500 рабочых. Калі параўнаць сельскую гаспадарку Беларусі з адсталай сельскай гаспадаркай б. царскай Расіі, дык і гэтае параўнаньне будзе не ў карысьць Беларусі. Гэтым тлумачыцца той факт, што ў той час, як у Расіі за час з 1900 па 1913 год нацыянальны даход ад сельскае гаспадаркі ўзьняўся на 33,8 проц., у Беларусі ён узьняўся толькі на 25,5 проц. (з 306 мільёнаў руб. да 387 мільёнаў руб.). Зямля, па статыстычных даных перапісу з 1887 г., сярод паасобных груп землекарыстальнікаў разьмяркоўвалася так: сялянская зямля (надзельная і купленая) складала 31,5 проц. усяе плошчы: уласная ў разьмеры да 50 дзесяцін на гаспадарку—1,9 проц., уласная ў разьмеры звыш 50 дзесяцін на гаспадарку — 56,3 проц., дзяржаўныя і царкоўныя землі складалі 10,3 проц.

Да гэтага трэба дадаць, што сярод абшарнікаў, якім належала больш паловы ўсяе зямлі, была большасьць такіх, якія мелі па 5 тысяч і больш дзесяцін зямлі.

У паказаным вышэй разьмеркаваньні за 30 год, да 1917 году, адбыліся наступныя зьмены: сялянская зямля складала 34,4 проц., уласная—да 50 дзесяцін—18,3 проц., буйна-ўласніцкая—40,7 проц.

Апошнія зьвесткі паказваюць, што буйныя абшарнікі да 1917 г. прадалі частку сваіх зямель, пры чым толькі 3 проц. прададзенай зямлі перайшло ў рукі працоўнага сялянства, а астатняя колькасьць

была куплена кулацтвам. Надзвычайная эксплёатацыя сялянства абшарнікамі, малазямельле, а таксама і тое, што лепшыя землі належалі абшарнікам і кулаком, выклікалі агромністую колькасьць батракоў у Беларусі. Напрыклад, па даных 1897 г., у б. Менскай губ. было 49 тыс. батракоў, а напярэдадні вайны 1914 году батракоў па ўсіх беларускіх губэрнях налічвалася да 300 тыс. чалавек.

Пасьля 1905 году, калі пачала праводзіцца ў жыцьцё так званая „сталыпінская рэформа“ хутарскога драбленьня, што моцна павялічыла колькасьць сялянскіх гаспадарак, разьмеры сялянскіх надзелаў, у зьвязку з выдзяленьнем новых гаспадарак, зьменшыліся ў два разы Па Магілеўскай, напрыклад, губэрні з 1877 па 1905 г. рост колькасьці сельскіх гаспадарак раўняецца 87 проц. Разам з гэтым значная колькасьць сялянства перасялілася ў Сібір, паехала ў Амэрыку. З 1896 да 1915 г. толькі па 4 беларускіх губэрнях перасялілася ў Сібір 642 тыс. і ў Амэрыку выехала да вайны 800 тыс. чалавек. Масы працоўнага сялянства з прычыны дробнасьці, адсталасьці сельскае гаспадаркі і слабасьці прамысловасьці не змаглі знайсьці сабе ў Беларусі прыстасаваньня сваіх сіл. Гэтая акалічнасьць, вядома, значна спрыяла пралетарызацыі беларускага сялянства.

Пралетарыят Беларусі, у параўнаньні з пралетарыятам астатняй больш прамысловай часткі б. царскай Расіі, адначаўся малалікасьцю і яшчэ горшым матар'яльным забясьпечаньнем. Сярэдняя гадавая заработная плата рабочага ў Расіі складала 243 рублі, а ў Беларусі — 185 рублёў. Становішча батракоў, пры вялікай і бескантрольнай эксплёатацыі абшарнікаў, было яшчэ больш цяжкім, бо яны ў сярэднім зараблялі „на хозяйских хлебах“ толькі 24—28 рублёў у год.

Звыш 60 проц. насельніцтва ў Беларусі было няпісьменным. Для навучаньня сельскага насельніцтва царская ўлада стварыла даволі рэдкую пры гэтым сетку так званых царкоўна-прыходзкіх школ. Сярэднія навучальныя ўстановы, ня прыступныя рабочаму, батраку і вясковай беднаце, былі згуртаваны толькі ў гарадох, буржуазна-мяшчанскіх кварталах. Вышэйшых навучальных установ у Беларусі ня было. Пры гэтым праз школы і, асабліва праз царкоўна-прыходзкія, працоўнае насельніцтва апрацоўвалася царкоўнікамі і рознымі агентамі царскай улады—„за веру царя и отечество“. Беларусь разглядалася, як частка расейскіх губэрняў, частка „адзінай непадзельнай“ Расіі. Усё нацыянальнае, беларускае дакладна вытуралася з дзяржаўнага, грамадзкага і прыватнага жыцьця. Беларуская культура, нацыянальнасьць, мова не прызнаваліся, ня мелі права на існаваньне. Беларускія школы забараняліся. Беларус лічыўся расейцам і толькі, як гэтакі, ён карыстаўся некаторымі правамі.

Яшчэ больш прыгнечаным было становішча іншых нацыянальнасьцяй Беларусіі, у першую чаргу, яўрэяў. Яўрэі ня мелі права служыць на дзяржаўных пасадах і ў царскай арміі на камандных пасадах. Колькасьць дзяцей яўрэяў пры паступленьні ў навучальныя ўстановы абмяжоўвалася ня звыш 10 проц. у адносінах да вучняў неяўрэяў. Яўрэям нельга было набываць зямлі ў сельскіх мясцовасьцях. Свабода перасоўваньня яўрэяў была абмежавана славутай „чертой оседлости“. Хаця Беларусь і ўваходзіла ў чырту аселасьці, аднак і ў гэтай чырце была, так сказаць, унутраная чырта аселасьці: яўрэі маглі жыць толькі ў гарадох і мястэчках. У сельскіх мясцовасьцях пражываньне іх паліцэйскімі мерамі забаранялася. Вядома, ўсе гэтыя абмежаваньні датыкаліся ў першую чаргу яўрэяў рабочых, яўрэйскай бедноты, бо паміж капіталістам—эксплёатарам яўрэем, як капіталістым наогул, з аднаго боку, рабочым, рамесьнікам, бяд-

няком, яўрэем, з другога, існавала глыбокая клясавая варожасьць. Зразумела, што яўрэйская буржуазія рознымі шляхамі знаходзіла сабе выхад з абмежаваньняў, якія былі створаны царскім урадам. Яўрэйская буржуазія, буржуазная інтэлігенцыя і яўрэйскае духавенства вялі сярод яўрэяў пэўную работу ў бок выраўніваньня сацыяльных супярэчнасьцяй паміж яўрэйскай беднатой і буржуазіяй. Нярэдка яўрэйскія рабочыя адцягваліся ад клясавай барацьбы, замест якой ім паднасілася адзінства нацыянальных інтарэсаў усіх яўрэяў. Існаваўшыя з ведама царскай улады пачатковыя яўрэйскія школы (хэдэры, талмудторы, потым эшыботы) знаходзіліся пад уплывам яўрэйскага духавенства, якое кіравала гэтымі школамі. Вывучэньне малітваў, талмуду, старое яўрэйскае мовы ў пэўным напрамку спрыяла таму, што паказаныя школы зьяўляліся асяродкам забабонаў і фанатызму. Часта яўрэйская бедната падпадала пад уплыў духавенства. Эшыботы служылі асяродкам фанатызму і клерыкалізму і падрыхтоўвалі кадры клерыкалаў-прафэсіяналаў.

У Беларусі, у сілу гістарычных умоў, знаходзіцца значная колькасьць карэннага польскага насельніцтва. Па сваёй клясавай належнасьці палякі належалі да груп, якія рэзка адрозьніваліся адна ад аднае. Агромністая колькасьць буйных маёнткаў належала абшарнікам-палякам. Па статыстычных даных 1907 году, каля 6 мільёнаў дзёсяцін зямлі, г. зн. звыш 39 проц. усяе зямельнай плошчы Беларусі, належала абшарнікам-палякам. Побач з гэтым была даволі вялікая колькасьць батракоў і безьзямельных сялян-палякаў, якія арандавалі зямлю ў абшарнікаў. Таксама з Польшчы, як больш разьвітай краіны ў прамысловых адносінах, у Беларусь прыяжджалі кваліфікаваныя рамесьнікі і рабочыя, якія лёгка знаходзілі тут заробак. Сярод гарадзкой інтэлігенцыі даволі значная колькасьць налічвалася палякаў—урачоў, адвакатаў, служачых у банках, чыгуначнікаў і інш. У адносінах польскага насельніцтва царскі ўрад праводзіў таксама жорсткую русіфікатарскую палітыку, забараняючы працоўнаму насельніцтву карыстаньне роднай мовай і навучаньне польскай мове, забараняючы палякам набыцьцё зямлі ад непалякаў. Жадаючы навучыць сваіх дзяцей роднай польскай мове, польскае насельніцтва прымушана было арганізоўваць нелегальныя польскія школы. Зразумела, арганізатарамі такіх школ былі, галоўным чынам, ксяндзы і абшарнікі і праз іх па-свойму, па-буржуазнаму ўплывалі на шырокія масы польскага працоўнага насельніцтва, распальваючы нацыянальную злабу і варожасьць, адлучаючы польскае працоўнае насельніцтва ад працоўных беларускай, яўрэйскай і іншых нацыянальнасьцяй. Тое самае ў адносінах іншых нацыянальнасьцяй, насяляючых Беларусь: латышоў, літоўцаў, немцаў, татар і інш., царскі ўрад сыстэматычна і ўпарта праводзіў тую-ж русіфікатарскую палітыку і прыгнечаньне працоўных мас, у выніку чаго ўсе нацыянальнасьці, пад уплывам апрацоўкі сваей буржуазіі і духавенства, замыкаліся і складалі „адзінае“ цэлае, якое разьляцелася ў пыл у дні Кастрычнікавай рэвалюцыі. Кастрычнікавая рэвалюцыя поўнасьцю ўскрыла ўсю хісткасьць, штучна-гвалтоўна склаўшыхся ўзаемаадносін, усе супярэчнасьці клясавых інтарэсаў сярод паасобных сацыяльных груп насельніцтва розных нацыянальнасьцяй, выкрыла адзінства клясавых інтарэсаў пралетарыяту ўсіх нацыянальнасьцяй.

Капіталістычная эксплёатацыя рабочых, царскае і буржуазна-абшарніцкае прыгнечаньне ў краіне, галота і беспраўе працоўных мас у Беларусі стваралі, фарміравалі, выхоўвалі і загартоўвалі беларускі пралетарыят усіх нацыянальнасьцяй для рашучай рэвалюцыйнай

барацьбы ў дні вялікай пралетарскай рэвалюцыі. І ніякім дробна-буржуазным нацыяналістычным партыям, як БСГ, бунд, НПС і інш. згоднікам, пры усіх іх стараньнях, не ўдалося разьбіць клясавую злучнасьць, інтэрнацыянальную салідарнасьць і рэвалюцыйную непахіснасьць пралетарыяту, як перадавога авангарду працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць Беларусь. Урокі забастовак і барыкадных баёў пралетарыяту Беларусі не прайшлі дарма, яны падрыхтавалі і загартавалі беларускі пралетарыят для барацьбы за Кастрычнік, за сусьветную сацыялістычную рэвалюцыю.

У дні Кастрычнікавай рэвалюцыі і потым у час нямецкай і польскай акупацый, у час налётаў розных бандаў, у прыватнасьці бандаў „беларускага генэрала“ Булак-Балаховіча, на фронце грамадзянскай вайны пралетарыят усіх нацыянальнасьцяй, згуртаваўшы свае сілы з бядняцкімі масамі сялян пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, самаахвярна абараняў заваёвы Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Пасьля вышэйпаказаных кароткіх гістарычных зьвестак аб нацыянальным, эканамічным і культурным мінулым Беларусі, аб тым, якую спадчыну ва ўсіх гэтых галінах атрымала Беларуская ССР ад царскай улады, неабходна высьветліць і паказаць вынікі ажыцьцяўленьня камуністычнай партыяй і савецкай уладай ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР.

Раней за ўсё трэба сказаць аб цяперашнім нацыянальным складзе насельніцтва Беларусі. Аб гэтым гавораць наступныя лічбы на 1 кастрычніка 1930 г.

| НАЗВА НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ | Колькасьць сельскага насельніцтва | Удзельная вага у % | Колькасьць гарадзкога насельніцтва | Удзельная вага у % | УСЯГО | Удзельная вага у % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусаў | 3 936.826 | 89,11 | 355.662 | 39,28 | 4.292.488 | 80,64 |
| Расейцаў | 268.838 | 6,08 | 141.259 | 15,6 | 410.097 | 7,7 |
| Украінцаў | 28.499 | 0,65 | 7.800 | 0,86 | 36.299 | 0,68 |
| Палякаў | 83.163 | 1,89 | 21.023 | 2,32 | 104.186 | 1,95 |
| Яўрэяў | 71.480 | 1,63 | 363.422 | 40,14 | 434.902 | 8,17 |
| Татар | 598 | 0,01 | 3.439 | 0,38 | 4.037 | 0,08 |
| Цыганоў | 2.349 | 0,05 | 181 | 0,01 | 2.530 | 0,05 |
| Латышоў | 11.613 | 0,26 | 3.410 | 0,38 | 15.023 | 0,28 |
| Літоўцаў | 5.070 | 0,11 | 2.262 | 0,26 | 7.332 | 0,14 |
| Немцаў | 5.084 | 0,11 | 2.475 | 0,27 | 7.559 | 0,15 |
| Іншых | 4.192 | 0,10 | 4.497 | 0,5 | 8.689 | 0,16 |
| Усяго | 4.417.712 | 100 | 905.430 | 100 | 5.323.142 | 100 |

Гэтымі данымі ўстанаўляецца, што ў БССР па колькасьці насельніцтва пасьля баларусаў займаюць першае месца яўрэі, другое—расейцы, трэцяе—палякі і г. д. Вось чаму насельніцтва гэтых нацыянальнасьцяй лічыцца асноўным. У канстытуцыі БССР (арт. 21) у адпаведнасьці з гэтым вызначана, што „ў дзяржаўных і грамадзкіх установах і арганізацыях БССР устанаўляецца поўнае роўнапраўе беларускае, яўрэйскае, расейскае і польскае моваў“ і што „апублікаваньне важнейшых законадаўчых актаў робіцца на беларускай, яўрэйскай, расейскай і польскай мовах“. (Арт. 23).

Ня гледзячы на эканамічную і культурную беднату і зруйнаваньне краіны, ня гледзячы на розны нацыянальны склад насельніцтва, ня гледзячы на спадчыну мінулага, распальваньне нацыянальнай варожасьці, Савецкая Беларусь, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі

і пры дапамозе Саюзу ССР, ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва мае вялізарнейшыя посьпехі. Адна з прычын посьпехаў хавaецца раней за ўсё ў правільным вырашэньні камуністычнай партыяй нацыянальнага пытаньня, у братэрскім зблізкэньні працоўных усіх нацыянальнасьцяй, у зьнішчэньні міжнацыянальнай варожасьці, нацыяналізму і шавінізму ўсіх адценьняў. Лепшым прыкладам у гісторыі ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня зьяўляецца факт узбуйненьня БССР у межах Савецкага саюзу. У другой палове 1920 г. Беларуская ССР складалася з шасьці паветаў б. Менскай губ. Тэрыторыя БССР займала 52.316 кв. клм., з насельніцтвам каля паўтара мільёнаў чалавек. У 1924 годзе пастановай ЦВК Саюзу ССР ад 4 лютага Беларусі былі перададзены з большасьцю беларускага насельніцтва часткі Гомельскай, Смаленскай, Віцебскай губ. VI Усебеларускі зьезд саветаў у 1924 г. у пастанове па дакладу аб пашырэньні тэрыторыі БССР адзначыў, што „вырашэньне пытаньня аб тэрыторыі Беларускай рэспублікі адбылося ў поўнай адпаведнасьці з тымі задачамі, якія ставіць перад сабой савецкая ўлада пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня ў адносінах народаў, якія насяляюць Саюз ССР“. К канцу 1924 г. тэрыторыя БССР павялічылася да 110.584 кв. клм. і колькасьць насельніцтва—да 4.171.886 чалавек. У канцы 1926 г. адбылося другое ўзбуйненьне Беларусі. Па пастанове ЦВК Саюзу ССР ад 6 сьнежня 1926 г. былі перададзены БССР Гомельскі і Рэчыцкі паветы Гомельскай губ. Прычына перадачы гэтых двух паветаў тая-ж, што і ў 1924 г.: пераважнасьць у іх беларускага насельніцтва. У выніку гэтага ўзбуйненьня БССР тэрыторыя рэспублікі пашырылася да 126.344 кв. клм.

Узбуйненьне Беларусі мірным добраахвотным парадкам служыць самым яскравым прыкладам правільнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня ва ўмовах існаваньня савецкай улады пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Толькі савецкая ўлада паказала ўсяму сьвету, як можна і павінна, на падставе дыктатуры пралетарыяту, нацыянальнай свабоды і братэрскага сужыцьця народаў мірным шляхам вырашаць усе тэрытарыяльныя пытаньні, невырашымыя без вайны ва ўмовах буржуазнага ладу і капіталістычных адносін.

Другім яскравым прыкладам вырашэньня нацыянальнага пытаньня савецкай уладай служыць той факт, што Саюз ССР аказвае сыстэматычную і даволі моцную дапамогу саюзным рэспублікам у справе ўздыму эканамічнага і культурнага ўзроўню ўсіх адсталых народаў. Беларусь, як вядома, у параўнаньні з цэнтральнай прамысловай часткай б. царскай Расіі, была аднэй з найбольш адсталых краін. У сучасны момант, у выніку ажыцьцяўленьня правільнай ленінскай нацыянальнай палітыкі, на працягу толькі 10 з невялікім год сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі, замест дробных саматужных майстэрняў і заводзікаў, шляхам канцэнтрацыі, рэканструкцыі, новага будаўніцтва, арганізаваны і створаны буйныя прадпрыемствы.

Узяўшыся за аднаўленьне прамысловасьці параўнальна пазьней іншых рэспублік Савецкага саюзу, савецкая Беларусь аднавіла даваенную прамысловасьць да 1926-27 г. і, стаўшы на шлях індустрыялізацыі краіны, шпаркімі і высокімі тэмпамі зусім зьмяніла характар народнае гаспадаркі рэспублікі. Прамысловасьць у народнай гаспадарцы БССР набывае вядучую ролю. Агромністы рост прамысловасьці БССР, прадугледжаны пяцігадовым плянам, падводзіць моцны сацыялістычны грунт пад усё далейшае пасьпяховае разьвіцьцё народнае гаспадаркі БССР. Капітальнае будаўніцтва па рэспубліканскай прамысловасьці ўзрасло з 16,2 млн. руб. у 1927-28 г. да 24,8 млн. руб.

у 1928-29 г. і да 52,6 млн. руб. у 1929-30 г. На 1931 год запраектавана капітальнае будаўніцтва рэспубліканскай прамысловасьці да 109,5 млн. руб. Валавая прадукцыя рэспубліканскай прамысловасьці ў 1927-28 г. складала 118 млн. руб., у 1928-29 г.—171 млн. руб., у 1929-30 г.—311 млн. руб. і ў 1931 г. па праекту павінна будзе скласьці 581,9 млн. руб. (без лесааб'яднаньня). Разам з вялізарнейшым ростам прамысловасьці непарыўна павялічваецца і агульная колькасьць занятых у ёй рабочых: у 1927-28 г. іх было 27,9 тыс. чал. (у даваенны час на тэрыторыі сучаснай Беларусі налічвалася 20.000 рабочых), у 1928-29 г.—32,9 тысяч чалавек, у 1929-30 г.—43 тысячы. У 1931 г. колькасьць рабочых павінна ўзрасьці па кантрольных лічбах да 65,6 тысяч чалавек, г. зн. ёсьць узрост колькасьці рабочых па адпаведных гадох: на 6,9 проц., 17,9, проц. 30,7 проц. і запраектаваны рост у 1931 г. на 52,8 проц. у адносінах толькі да 1930 г. У працягу 1931 г. будзе пераведзена на сямігадзінны рабочы дзень каля 95 проц. усяе рэспубліканскай прамысловасьці, замест 42,3 проц. у 1930 г. Сыстэматычна ўзрастае заработная плата рабочых: на 1931 г. запраектавана павялічэньне зарплаты, у параўнаньні з 1930 г., на 8,6 проц. Вытворчасьць працы за апошнія 3 гады адпаведна ўзьнімалася на 19,5 проц., на 25,6 проц. і на 29,9 проц. На 1931 г. рост вытворчасьці працы праектуецца на 30,4 проц. (без тарфянай прамысловасьці). За гэтыя 10 год створана салідная панчошна-трыкатажная прамысловасьць, абсталяваная па апошняму слову тэхнікі, зусім перабудавана ў тым-жа напрамку гарбарная прамысловасьць, створана буйнейшая швэйная прамысловасьць, якая была да Кастрычнікавай рэвалюцыі дробнай саматужнай прамысловасьцю. Створаны буйнейшыя дрэваапрацоўчыя камбінаты (Бабруйск), запалкавыя ф-кі (Барысаў, Рэчыца), шкляныя заводы, харчаапрацоўчыя фабрыкі, папяровыя (Добруш, Шклоў). Узрасла і з кожным годам пашыраецца ўсё болей і болей мэталяапрацоўчая прамысловасьць: Гомельскі і Віцебскі заводы сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва, Менскія заводы сярэдняга машынабудаўніцтва і станкабудаўніцтва, вытворчасьць стандартных частак для будаўніцтва і г. д. і г. д.

Прамысловасьць Беларусі шпарка і рашуча пераходзіць на новую тэхнічную базу, аб чым сьведчаць лічбы выпрацоўкі і спажываньня электрычнай энэргіі. У 1913 годзе на аднаго жыхара Беларусі прыходзілася 0,9 кілёўат-гадзін спажываемай электраэнэргіі, а ўжо ў 1926-27 г., г. зн. да моманту аднаўленьня разьмераў даваеннай прамысловасьці колькасьць спажываемай электраэнэргіі ўзрасла да 5,5 кілёўат-гадзін. У 1927-28 г. вытворчасьць электраэнэргіі ўзрасла да 32,8 млн. кілёўат-гадзін, у 1929-30 г.—да 66,4 млн. кілёўат-гадзін. На 1 студзеня 1931 г. вытворчасьць электраэнэргіі павялічыцца да 82,5 млн. кілёўат-гадзін і толькі ў працягу 1931 г.—да 183,6 млн. кілёўат-гадзін. Ужо пушчана ў ход і працуе першая чарга буйнай Асінаўскай раённай электрастанцыі імя тав. Сталіна, пабудаванай на асінаўскіх пакладах торфу, якога павінна хапіць прыблізна на 100-150 год. Буйны росквіт прамысловасьці Беларусі паглынуў свабодныя рабочыя рукі, і да гэтага часу зусім ліквідавана беспрацоўе. Пытаньне рабочых кадраў становіцца важнейшым пытаньнем парадку дню нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Адсталая сельская гаспадарка Беларусі да часу сканчэньня вайны з Польшчай, г. зн. да 1920 году, дасягнула амаль поўнага заняпаду. Імпэрыялістычная вайна, акупацыі польская і нямецкая, а потым закардонны бандытызм (аж да 1922 г.) затрымалі агульнае аднаўленьне сельскае гаспадаркі, у выніку чаго рэзка скарацілася

пасеўная плошча і жывёлагадоўля. Атрымаўшы, нарэшце, магчымасьць прыступіць да аднаўленьня і разьвіцьця сельскае гаспадаркі, Савецкая Беларусь шпаркімі тэмпамі пачынае ўзьнімаць яе на вышэйшую ступень сацыялістычнай рэканструкцыі, дасягнуўшы ў параўнаўча кароткія тэрміны вялікіх посьпехаў. Зразумела, што тэмпы аднаўленьня і разьвіцьця сельскае гаспадаркі значна перавышаюць тэмпы даваеннага разьвіцьця і ўзроўню, што відаць па наступных даных: у 1913 г. у процантных адносінах да 1910 г. пасеўная плошча складала 133,1 проц., у тым ліку пад зернавымі культурамі 99,1 проц., пад тэхнічнымі—110,1 проц., пад бульбай—137,7 проц. і пад травамі—191,9 проц., у 1928 г. у процантных адносінах да 1916 году пасеўная плошча складала 128,8 проц, у тым ліку пад зернавымі культурамі 118,0 проц., пад тэхнічнымі—148,2 проц., пад бульбай—192,5 проц. і пад травамі 216,0 проц.

Адначасова з пашырэньнем пасеўнай плошчы наглядаецца шпаркае разьвіцьцё жывёлагадоўлі, прычым па сваіх тэмпах гэтае разьвіцьцё зноў-такі значна перавышае разьвіцьцё дарэвалюцыйнага пэрыоду. У 1913 г. рост жывёлагадоўлі ў адносінах да 1910 г. выразіўся ў наступных процантах: коні—115,2 проц., буйная рагатая жывёла—121,5 проц., сьвіньні—187,5 проц., авечкі і козы—126,2 проц., а ўсяго ў перакладзе на буйную рагатую жывёлу—127,7 проц. У 1928 г. рост жывёлагадоўлі ў адносінах да 1916 г. выражаецца ў наступных лічбах: коні—119,8 проц., буйная рагатая жывёла—138,6 проц., сьвіньні—124,8 проц, авечкі і козы—197,4 проц., а ўсяго ў перакладзе на буйную рагатую жывёлу рост жывёлагадоўлі—137,7 проц.

Ня гледзячы на рост пасеўнай плошчы, на ўзьняцьце жывёлагадоўлі, таварнасьць сельскае гаспадаркі працягвала да гэтага часу заставацца на нізкім узроўні. Прычынай гэтага была наяўнасьць дробных распыленых сялянскіх гаспадарак. Вось чаму, улічваючы нізкі ўзровень сельскае гаспадаркі, слабую вытворчасьць, слабую яе таварнасьць, аграрнае перанаселеньне і вострае малазямельле, XII зьезд КП(б)Б падкрэсьліў, што „толькі калектывізацыя і сацыялістычная рэканструкцыя зьяўляюцца рашучым і асноўным шляхам разьвіцьця моцнае сельскае гаспадаркі“.

Шпаркі тэмп індустрыялізацыі Беларусі, у аснову якой была пакладзена ўсё ўзрастаючая творчая энэргія рабочае клясы і ўзмацненьне вядучай ролі буйнай сацыялістычнай прамысловасьці ў разьвіцьці ўсяе народнае гаспадаркі, дапамагалі, стваралі і ствараюць неабходныя ўмовы для сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, умацаваньня вытворчай змычкі паміж рабочай клясай і асноўнымі бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства і рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Для ліквідацыі вельмі нізкай тэхнікі апрацоўкі зямлі, нізкай таварнасьці індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, галоўных прычын тых цяжкасьцяй, якія наглядаюцца ў мясной і тлушчавай праблемах, у праблеме тэхнічных культур, савецкая Беларусь разам з усімі рэспублікамі Савецкага саюзу стала на шлях суцэльнай калектывізацыі і на гэтай падставе ліквідацыі кулацтва як клясы. Савецкая Беларусь у справе правядзеньня сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі сустрэлася з так званай „прышчэпаўшчынай“. Народным камісарыятам земляробства і яго органамі на мясцох скажалася палітыка партыі і ўраду, доўгі час праводзілася яўна кулацкая лінія і практыка ў сельскай гаспадарцы. Нават у апошнія гады, замест рашучага курсу на шырокую калектывізацыю, як адзіны правільны шлях рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, праводзілі хутарызацыю, арганізоўвалі карлікавыя

пасёлкі і г. д. Гэта кулацкая палітыка была да карэньняў выкрыта і пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі рашуча ліквідавана: практыка хутарызацыі заменена пасьпяховай масавай калектывізацыяй бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Калектывізацыя ў Беларускай ССР, праводзімая пад непасрэдным кіраўніцтвам камуністычнай партыі, за апошні час дасягнула значных посьпехаў. Аб гэтых посьпехах і аб шпаркіх тэмпах калектывізацыі сьведчаць наступныя даныя: усяго калгасаў у БССР у 1927 г.—440, у 1928 г.—994, у 1929 г.—1713; гаспадарак у калгасах у 1927 г.—4192, у 1928 г.—8499, у 1929 г.—25830.

Мінулы 1929/30 г. быў годам рашучага пералому ў сацыялістычным разьвіцьці сельскае гаспадаркі, і да сучаснага моманту калектывізацыяй ахоплена больш 100 тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, што складае каля 17 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР. Адначасова з гэтым пашыраюцца і ўзмацняюцца савецкія гаспадаркі. У працягу 1929-30 г., у параўнаньні з мінулым годам, займаемая савецкімі гаспадаркамі плошча павялічылася больш чым у тры разы і складае ў сучасны момант больш 300 тыс. гэктараў. Пасеўная плошча сацыялістычнага сэктару складае ўжо каля 20 проц. пасеўнай плошчы БССР. Аграмаджанае стада толькі за апошні год, у параўнаньні з мінулым годам, павялічылася: кароў з 20.900 да 120.000 галоў, сьвіньняў—з 7.000 да 70.000 галоў. Валавая прадукцыя сацыялістычнага сэктару складае прыблізна 20-25 проц. усяе прадукцыі сельскае гаспадаркі ў БССР. Таварная прадукцыя сацыялістычнага сэктару, загатоўкі складаюць звыш 30 проц. усіх загатовак па БССР. Пры гэтым неабходна адзначыць той факт, што асабліва пасьпяхова праходзіць калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у нацыянальных польскіх, латыскіх, літоўскіх сельскіх саветах. У паселішчах нацменшасьцяй процант калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак значна вышэй, чым сярэдні процант калектывізаваных гаспадарак па ўсёй БССР. Колькасьць гаспадарак яўрэйскай местачковай і гарадзкой бедноты ў калгасах за 1929-30 г. павялічыўся амаль у два разы. Рост калектывізацыі сярод нацыянальных меншасьцяй можна бачыць з наступных даных: уступіла ў калгасы палякаў—6116 гаспадарак, што ў сярэднім складае 17,2 проц., прычым у паасобных мясцох гэты процант узьнімаецца да 50. Агульная колькасьць польскіх калгасаў—86. Яўрэйскіх калгасаў ёсьць 103 і інтэрнацыянальных—313, з агульнай колькасьцю яўрэйскіх сем'яў каля 9.000—49.296 чалавек. Латыскае насельніцтва калектывізавана ўвогуле на 28,2 проц, а ў некаторых мясцох гэты процант узьнімаецца да 39. Літоўскае насельніцтва ў вялікіх паселішчах калектывізавана ад 21,8 проц. да 54,5 проц. У м. Сьмілавічах калектывізавана 63,3 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак татар. Ня гледзячы на штучна-прывітую ў мінулым нацыянальную варожасьць, у калгасах вельмі добра ўжываюцца і добра вядуць калектыўную працу працоўныя калгасьнікі розных нацыянальнасьцяй.

Праводзіцца машынізацыя сельскае гаспадаркі, і ўжо да гэтага моманту ў БССР ёсьць 800 трактараў. Па бюджэту на 1931 г. асыгнавана 4,6 млн. руб. на завоз новых трактараў. Да вясны 1931 г. колькасьць машына-трактарных станцый павялічваецца да 20. Шпаркімі тэмпамі на новай тэхнічнай базе праводзіцца рашучая сацыялістычная рэканструкцыя сельскае гаспадаркі. На падставе суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса, і яго імкненьні і спробы спыніць сацыялістычнае будаўніцтва разьбіваюцца аб цьвёрдую генэральную лінію партыі і ленінскага ЦК.

Беларусь, атрымаўшы магчымасьць прыступіць да сацыялістычнага будаўніцтва, да аднаўленьня і рэканструкцыі прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, была адсталай ня толькі ў гэтых галінах, але і ва ўсіх астатніх. Звыш 60 проц. насельніцтва БССР было няпісьменным, школ было мала, нацыянальных школ ня было, ня было на тэрыторыі рэспублікі ніякіх вышэйшых навучальных устаноў. Войны і акупацыі разбурылі ўсялякія ачагі культуры. Пры такіх умовах БССР пачала працу на культурным фронце і, вядома, без сыстэматычнай дапамогі ад ураду Саюзу ССР спэцыяльна на культурнае будаўніцтва, мы ня мелі-б тых вялізарнейшых вынікаў да сёньняшняга дню, якія ў нас ёсьць, Так, напрыклад, да канца пяцігодкі ўрад Саюзу ССР дае 50 мільёнаў рублёў на правядзеньне ўсеагульнага навучаньня. Пабудова будынкаў Беларускага унівэрсытэту (каля 10 млн. рублёў) праведзена таксама за кошт саюзнага бюджэту. За кошт саюзнага бюджэту часткова аднесена будаўніцтва Сельскагаспадарчай акадэміі, ВТНУ і інш.

Якія канкрэтныя посьпехі ў Савецкай Беларусі ў галіне культурнага будаўніцтва? Раней за ўсё, як самы буйны посьпех, трэба адзначыць увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, у выніку якога да канца 1931 году павінна быць ліквідавана няпісьменнасьць сярод працоўнага насельніцтва Беларусі ва ўзросьце ад 12 да 45 год. Ажыцьцяўленьне ўсеагульнага навучаньня бязумоўна будзе спрыяць пасіленьню тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, дасягненьню ў больш кароткі тэрмін болш значных посьпехаў у пабудове сацыялізму ў нашай краіне. Пры гэтым ўсеагульнае навучаньне праводзіцца на роднай мове працоўных усіх нацыянальнасьцяй. Колькасьць нацыянальных школ з году ў год павялічваецца, як гэта відаць з наступных зьвестак аб школах па нацыянальнай адзнацы:

Школы 4-годкі:

| ГАДЫ: | беларускія | жыдоўскія | польскія | іншыя | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1924-25 г. . . | 3.578<br>100% | 87<br>100% | 94<br>100% | 14<br>100% | 3.773<br>100% |
| 1927-28 г. . . | 4.843<br>135,4% | 148<br>170,1% | 133<br>141,5% | 39<br>78,6% | 5.163<br>136,8% |
| 1929-30 г. . . | 5.456<br>152,5% | 174<br>200% | 149<br>158,5% | 39<br>278,1% | 5.818<br>154,2 |

Школы 7-годкі

| ГАДЫ: | беларускія | жыдоўскія | польскія | іншыя | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1924-25 г. . . | 205<br>100% | 42<br>100% | 5<br>100% | 1<br>100% | 253<br>100% |
| 1927-28 г. . . | 234<br>114,3% | 61<br>145,2% | 12<br>240% | 1<br>100% | 308<br>121,7% |
| 1929-30 г. . . | 279<br>136,1% | 80<br>190,5% | 13<br>260% | 1<br>100% | 372<br>147% |

Гэтыя табліцы паказваюць, што прыагульным росьце школ усіх нацыянальнасьцяй школы нацменшасьцяй у процантных адносінах растуць значна хутчэй росту беларускіх школ. Гэта адзін з фактараў уважлівых адносін ураду БССР да справы абслугоўваньня працоўнага насельніцтва нацменшасьцяй.

Для падрыхтоўкі кваліфікаваных тэхнікаў для гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ёсьць звыш 30 тэхнікумаў, каля 40 прафэсіянальна-тэхнічных школ, каля 30 прафмайстэрняў, якія рыхтуюць кваліфікаваных рабочых для прамысловасьці і сельскае гаспадаркі БССР. Ёсьць 12 вышэйшых і спэцыяльных навучальных устаноў, у тым ліку Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт, Беларуская акадэмія навук і Акадэмія сельскай і лясной гаспадаркі. Ёсьць два яўрэйскія пэдагагічныя тэхнікумы, адзін польскі. Пры Беларускім унівэрсытэце на пэдагагічным факультэце арганізавана яўрэйскае аддзяленьне. У галіне разьвіцьця мастацтва кожная нацыянальнасьць мае бязумоўна вялікія дасягненьні. З 3 стацыянарных тэатраў — 2 беларускіх і 1 яўрэйскі. Арганізаваны і ўжо працуе некалькі год музычны тэхнікум, які мяркуецца ў бліжэйшы час рэарганізаваць у кансэрваторыю. Мяркуецца арганізацыя опэрнага тэатру. Кожны раён забясьпечваецца кіноперасоўкамі. Да агульнай культурнаасьветнай сеткі трэба дадаць звыш 500 хат-чытальняў, больш 100 народных дамоў, сотні рабочых клюбаў, чырвоных куткоў. У сталіцы Беларусі выходзяць 13 цэнтральных газэт (з 1 студзеня 1931 г. 14), з якіх 6 нацыянальных (яўрэйскіх—3, расейскіх—1, літоўскіх—1, польскіх—1). Тыраж нацыянальных газэт на 1 лістапада 1930 г. складае 61 тыс. экз. Тыраж усіх на гэтую-ж дату складае 300.500 экз. Для абслугоўваньня раёнаў арганізаваны 32 раённыя газэты. Павялічваецца лік выданьняў на нацыянальных мовах. За 8 месяцаў 1930 г. выдана 26 мільёнаў друкаваных аркушаў на беларускай мове, у той час, як за пяць папярэдніх год (1925-29 г.) выдана 57 млн. друкаваных аркушаў на беларускай мове. За апошнія пяць год выдана на яўрэйскай мове 460 тыс. экз. кніг, на польскай—185 тыс., на літоўскай і латыскай—9 тыс., на расейскай - 198 тыс.

Вось кароткі сухі пералік тых дасягненьняў, якія мае за мінулыя 10 год Савецкая Беларусь у галіне культуры. Усё гэта за 10 год змагло ня толькі арганізавацца і вырасьці, але і заняць пачэснае месца сярод культуры іншых народаў. Разьвітая мастацкая літаратура налічвае дзесяткі паэтаў, пісьменьнікаў, якія маюць агульнасаюзную славутасьць, дзесяткі маладых пралетарскіх сіл.

Калі мы зьвернемся да органаў дыктатуры пралетарыяту—да саветаў, да органаў кіраўніцтва і паглядзім на іх арганізацыю і склад з пункту погляду ўцягненьня ў іх працу нацыянальных меншасьцяй, дык і тут мы атрымаем бліскучае пацьвярджэньне ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР. Канстытуцыя БССР (арт. 20) устанаўляе, што „для больш поўнага і шырокага ўцягненьня працоўных нацыянальных меншасьцяй БССР у работу эканамічнага і сацыялістычнага будаўніцтва ў мясцох, дзе працоўныя тае альбо іншае нацыянальнасьці складаюць большасьць насельніцтва, арганізуюцца саветы, якія працуюць на мове гэтай нацыянальнасьці, і найбольш поўна ўлічваюць у сваёй працы нацыянальныя асаблівасьці". У адпаведнасьці з гэтым прынцыпам, пачынаючы з 1924 г. у БССР пачалі арганізоўвацца нацыянальныя саветы, і іх колькасьць з кожным годам павялічвалася, дайшоўшы да сучаснага моманту да 74 нацыянальных саветаў розных нацыянальных меншасьцяй. У выніку арганізацыі нацыянальных саветаў на адпаведнай тэрыторыі прыметна шпаркае разьвіцьцё культурнага і гаспадарчага росту насельніцтва нацыянальных меншасьцяй. У нацыянальных саветах амаль цалкам выжыты нацыянальная розьнь і недарэчнасьці паміж паасобнымі нацыянальнасьцямі, разьвіваецца і паглыбляецца клясавая сьвядомасьць батрацкай, бядняцкай і серадняцкай часткі насельніцтва, узмацняецца вера

ў савецкую ўладу і яе мерапрыяемствы. Напрыклад, каапэрацыяй у нацсаветах ахоплена насельніцтва нацменшасьцяй да 100 проц.

Адначасова з арганізацыяй нацсаветаў арганізаваны і нацыянальныя суды. Хоць законадаўствам ураду БССР права карыстаньня роднай мовай забясьпечана ва ўсіх установах і арганізацыях, аднак, для поўнага забясьпечаньня практычнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня і ў гэтай галіне кіраўніцтва неабходна, каб ўсё справаводзтва і судовы разгляд спраў праходзілі таксама на зразумелай роднай мове. Для гэтага ў БССР ёсьць спэцыяльныя судовыя нацыянальныя камэры народных судоў: яўрэйскіх—8, польскіх—2, латыскіх—1.

Склад саветаў апошняга скліканьня па нацыянальнай адзнацы: сельскіх беларусаў—91,5 проц., яўрэяў—2,4 проц., палякаў—2,7 проц., расейцаў—2,1 проц. і іншых—1,3 проц.; гарадзкіх саветаў: беларусаў—50,3 проц., яўрэяў—30,5 проц., расейцаў—11,0 проц., палякаў—3,5 проц. і іншых—4,7 проц.; раённых выканаўчых камітэтаў: беларусаў—77,2 проц., яўрэяў—10,3 проц., расейцаў—5,5 проц., палякаў—3,0 проц. і іншых—4,0 проц. Склад ЦВК БССР IX скліканьня зьезду саветаў па нацыянальнай адзнацы вызначаецца так: 53,5 проц. беларусаў, 20,5 проц. яўрэяў, 11,4 проц. расейцаў, 5,0 проц палякаў, 5,5 проц. латышоў, 2,6 проц. украінцаў і 1,5 проц. літоўцаў.

Прыведзеныя зьвесткі сьведчаць аб тым, што ў справу дзяржаўнага кіраўніцтва, у справу сацыялістычнага будаўніцтва ўцягваюцца ў аднолькавай ступені рабочыя і працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць Савецкую Беларусь.

Вялізарнейшыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, шырокі наступ сацыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, ліквідацыя кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, ажыцьцяўляецца ва ўмовах вострай клясавай барацьбы. Побач з контррэвалюцыйнай дзейнасьцю капіталістычных элемэнтаў, буржуазных спэцыялістых накшталт Рамзіна і К° на эканамічным фронце, наглядаецца актыўная скрытая і адкрытая дзейнасьць антыпралетарскіх, варожых рабочай клясе сіл, контррэвалюцыйных сіл на фронце ідэалёгічным, на фронце будаўніцтва нацыянальнай культуры па форме і пралетарскай па зьместу. У Беларускай ССР, як у нацыянальнай рэспубліцы, барацьба на ідэалёгічным фронце набывае спэцыфічныя формы і праяўляецца ў вялікадзяржаўным шавінізьме, беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызьме, шавінізьме і нацыяналізьме розных адценьняў іншых нацый. Барацьба гэта накіравана супроць ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня, а, значыць, супроць дыктатуры пралетарыяту, супроць яго передавога кіруючага атраду—камуністычнай партыі. Побач з галоўнай небясьпекай, якую прадстаўляе вялікадзяржаўны шавінізм, ва ўмовах Беларусі вялікую небясьпеку ўяўляе беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм, які адкрыта і скрыта вёў і вядзе барацьбу супроць гэгемоніі пралетарыяту, гаворачы, што ўвесь беларускі народ прадстаўляе адзіную сям'ю. Погляды нацыянал-дэмакратаў зусім яскрава выкладзены ў органе беларускага буржуазнага нацыянальнага руху „Нашай ніве", якая ў 1906 г. (№ 1) дэкляруе: „Ня думайце, што мы жадаем служыць толькі альбо панам, альбо мужыком. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму народу". Гэты-ж орган у перадавіцы ў 1912 годзе (№ 1) пісаў, што „мы яшчэ так нядаўна пачалі разьвіваць тое, у чым сіла і моц кожнай нацыі: сваю нацыянальную культуру. Мы яшчэ ня зусім асазналі, што, ня гледзячы на ўсялякія нязгоды, спрэчкі і сваркі, усе беларусы—гэта родныя браты, адна сям'я, што 9-мільённая маса раскіданых на вялікім абшары беларусаў—гэта адзін цэльны народ".

У гэтых словах сказваецца ўся буржуазная антыпралетарская сутнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў і поглядаў аб адзінстве нацый, якая вылілася ў контррэвалюцыйнай змове вярхушкі контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў.

Пры савецкай уладзе, пры дыктатуры пралетарыяту беларускія „бясклясавыя“ нацыянал-дэмакраты арыентуюцца ў сваёй контррэвалюцыйнай дзейнасьці на капіталістычны Захад, у прыватнасьці на буржуазную Польшчу, праводзячы барацьбу супроць пралетарскай Масквы. Беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм стварае адзіны фронт з беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі (Луцкевіч, Астроўскі, Станкевіч і інш.). Клясавыя карэньні беларускага нацыянал-дэмакратызму, яго апора на кулацтва яскрава выразіліся ў так званай „прышчэпаўшчыне“, у правядзеньні хутарской кулацкай зямельнай палітыкі. Гэта палітыка імкнулася павярнуць курс разьвіцьця сельскае гаспадаркі з шляху сацыялістычнага, шляху калектывізацыі на шлях капіталістычнага разьвіцьця. Нацдэмакраты, працуючы ў дзяржаўных установах і арганізацыях БССР, сьвядома дзейнічалі ў адным напрамку з кандрацьцеўшчынай у пытаньнях сельскае гаспадаркі і тэмпах індустрыялізацыі краіны, у пытаньнях сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Пад іх уплывам і пры непасрэдным удзеле нацдэмаў першыя праекты Наркамзему пяцігадовага пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі яшчэ ў 1925 годзе рабілі праваапартуністычную нацдэмаўскую ўстаноўку на разьвіцьцё індывідуальных гаспадарак, запэўняючы, што бліжэйшыя пэрспэктывы аднаўленьня ўсяе сельскае гаспадаркі залежаць, галоўным чынам, ад індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Па думцы гэтых гаспод, індустрыялізацыя краіны павінна ісьці за разьвіцьцём сельскае гаспадаркі, чаму ўсе дзяржаўныя мерапрыемствы павінны быць, па іх думцы, накіраваны раней за ўсё на разьвіцьцё сельскае гаспадаркі, прычым гаспадаркі індывідуальнай, і ўжо пасьля гэтага—на разьвіцьцё прамысловасьці. Ня гледзячы на гэта, ня гледзячы на скрытую альбо адкрытую шкодніцкую контррэвалюцыйную дзейнасьць нацдэмакратаў, савецкая Беларусь пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі стварыла даволі буйную прамысловасьць, шэраг новых фабрык і заводаў, стварыла Асінбуд, гэтую першую буйнейшую ў Беларусі электрастанцыю імя тав. Сталіна, і забясьпечыла гэтым вядучую ролю прамысловасьці ва ўсёй народнай гаспадарцы БССР.

Зусім зразумела, што беларускія нацыянал-дэмакраты праніклі таксама і ў навуковыя ўстановы БССР (Беларускую акадэмію навук, акадэмію сельскае і лясное гаспадаркі, Навуковыя дасьледчыя інстытуты, Дзяржаўны унівэрсытэт і інш.) і кіруючы орган культурна-асьветнай працы—Наркамсьветы. У галіне аграрнай навукі, у галіне мовазнаўства, права, гісторыі, літаратуры, поэзіі і г. д. беларускія нацдэмакраты таксама мелі свой уплыў і пакінулі глыбокія сьляды сваёй дзейнасьці. Частка навуковых працаўнікоў, спэцыялістых пэўнага напрамку, падводзіла тэарытычнае абгрунтаваньне „прышчэпаўшчыны“ і праводзіла адпаведную апрацоўку настаўніцтва, навучаючайся моладзі, маладых навуковых працаўнікоў у галіне культуры і сельскае гаспадаркі. Катэдры унівэрсытэту былі шырока выкарыстаны нацдэмакратамі для прапаганды ў скрытай, але даволі празрыстай форме, сваіх контррэвалюцыйных нацдэмаўскіх ідэй. Так падрыхтоўвалася інтэрвэнцыя супроць БССР і супроць Савецкага саюзу,

У свой час органамі АДПУ была выкрыта падпольная контррэвалюцыйная работа нацдэмаў па падрыхтоўцы інтэрвэнцыі і вайны

супроць Саюзу ССР. Беларускія нацдэмакраты, як аказалася, былі зьвязаны ня толькі з дзейнасьцю аднадумаў і саратнікаў па чорнай працы ў Саюзе ССР, але і за мяжой. Прабраўшыся ў такія адказьнейшыя вучасткі працы па сацыялістычнаму будаўніцтву, як Наркамзем, НКАсьветы, Дзяржплян, Акадэмію навук, унівэрсытэт, Белдзяржвыдавецтва і г. д., Лёсік, Ластоўскі, Некрашэвіч і інш. здраднікі імкнуліся ўсімі мерамі і сродкамі затрымаць сацыялістычны рост краіны, тэмпы індустралізацыі, шырокі размах калектывізацыі, падрыхтаваць неабходныя ўмовы для зьнішчэньня савецкай улады, для замежнай капіталістычнай інтэрвэнцыі. Вось чаму барацьба з беларускім контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам павінна быць глыбокай і бязьлітаснай.

Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі разам з усім пралетарыятам вяла і вядзе (асабліва востра ў апошнія два гады) рашучую барацьбу з усімі скажэньнямі тэорыі і практыкі ленінскай нацыянальнай палітыкі. На пленумах ЦК КП(б)Б, на апошнім партыйным зьезьдзе КП(б)Б з усёй бязьлітаснасьцю выкрываліся і разьбіваліся погляды і дзеяньні „прышчэпаўшчыны“, беларускага нацыянал-дэмакратызму, вялікадзяржаўнага шавінізму, нацапартунізму і іншых праяў і ўхілаў ад генэральнай лініі партыі ў нацыянальным пытаньні і зямельнай палітыцы.

З бальшавіцкай непрымірымасьцю былі выкрыты, даведзены і рашуча асуджаны погляды і памылкі адказнейшых кіраўнікоў паасобных вучасткаў працы: Прышчэпава, Баліцкага, Алеся Адамовіча, Ігнатоўскага, Жылуновіча [1]) і інш. Асаблівае становішча, якое займае Беларуская ССР, умовы барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі абавязваюць нас пасьлядоўна і яшчэ больш рашуча весьці барацьбу за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі, за ўзмацненьне дыктатуры пралетарыяту, за баявыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва і разьвіцьцё сацыялістычнай культуры.

Вынікі выяўленьня беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму спрабуе выкарыстаць вялікадзяржаўны шавінізм сваёй агітацыяй, што быццам нацдэмакратычныя вылазкі і праявы сьведчаць аб правале ўсяе палітыкі партыі і савецкай улады ў нацыянальным пытаньні. Вялікадзяржаўны шавінізм, спэкуляючы на паасобных памылках, гэтым робіць напад, робіць атаку на палітыку ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня. У гэтай сувязі барацьбы з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, markознымі шавінізмамі і апартунізмамі, асаблівую ўвагу павінен прыцягваць да сябе вялікадзяржаўны шавінізм, які на даным этапе зьяўляецца галоўнай небясьпекай. XVI зьезд УсеКП(б) у сваім рашэньні паказаў: „Зьезд адзначае, у сувязі з абвастрэньнем клясавага змаганьня ў краіне, актывізацыю ў шэрагах партыі нацыянальных ухілаў у бок вялікадзяржаўнага і мясцовага шавінізму. Галоўную небясьпеку на даным этапе становіць вялікадзяржаўны ўхіл, які прабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі і які пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьні аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарасейскай нацыі зьвярнуць сабе страчаныя прывілеі. Разам з гэтым актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыяналізму, які паслабляе адзінства народаў СССР і які грае на руку інтэрвэнцыі. Партыя павінна пасіліць барацьбу з абодвымі ўхіламі ў нацыянальным пытаньні і з прымірэнцтвам да іх, узмацніўшы адначасова ўвагу да практычнага правядзеньня ленінскай

[1]) Прышчэпаў, Баліцкі і Алесь Адамовіч у свой час, а Жылуновіч і Ігнатоўскі зараз выключаны з шэрагаў КП(б)Б.

нацыянальнай палітыкі, зьнішчэньня элемэнтаў нацыянальнай няроўнасьці і шырокага разьвіцьця нацыянальных культур народаў Савецкага саюзу".

Рашэньні партыйнага зьезду, прамова тав. Сталіна па нацыянальным пытаньні павінны быць наказам для кіраўніцтва і бязумоўнага выкананьня пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня ў Беларусі, як на адказьнейшым вучастку Саюзу ССР.

Вялікадзяржаўны шавінізм у Беларусі за апошні час меў некалькі яскравых праяў. Напрыклад, яшчэ ў мінулым годзе праф. Шчапоцьцеў, працаваўшы ў БССР 5 год, падаў заяву аб аслабаненьні яго ад абавязкаў прафэсара біалёгіі і заалёгіі бесхрыбетных таму, што „надыходзячая беларусізацыя маей катэдры, незнаёмства з беларускай мовай і немагчымасьць чытаць лекцыі на замежнай мове (хаця-б я яе і разумеў)" не даюць яму магчымасьці працаваць далей у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Праф. Афанасьеў, даючы друкаваць свой артыкул, піша ў рэдакцыю: „вельмі прашу мой артыкул надрукаваць на расейскай мове". Нічога дзіўнага няма ў тым, што пад уплывам такіх прафэсароў адзін студэнт у ананімнай анкеце піша: на „беларусізацыі сацыялізму не пабудуеш і няма чаго ёю асабліва займацца". Адзін выкладчык рабфаку Пянцюкоў, у адказ на прапанову весьці свой прадмет на беларускай мове, адказаў, што „беларуская мова штучная, гэта выдумка беларускіх шавіністых, да і сама Беларусь ёсьць „белая Русь", ёсьць Расія і ніякае асобнае мовы ня мае". Яшчэ шмат можна было-б прывесьці розных прыкладаў, якія яскрава сьведчаць, што вялікадзяржаўны шавінізм, які адбівае інтарэсы варожых эксплёататарскіх клясаў, клясы панаваўшай раней нацыі, зьяўляецца на даным этапе сапраўды галоўнай небясьпекай.

Адначасова з праявамі вялікадзяржаўнага шавінізму, з праявамі беларускага нацдэмакратызму мы наглядаем у Беларусі праявы таксама шавінізму яўрэйскага, польскага і інш. Гэтыя шавінізмы праяўляюцца галоўным чынам у нацыянальнай замкнёнасьці, у імкненьні адмежавацца ад агульнай хвалі сацыялістычнага будаўніцтва, ў зацішваньні клясавай барацьбы ўнутры данай нацыянальнасьці, ідэлізацыі дробнабуржуазных партый—Бунд, ППС і інш. Само сабой зразумела, што ўсе гэтыя праявы шавінізму і нацыяналізму—праявы антыпралетарскія і контррэвалюцыйныя, якія аб'яднаюцца ў агульнай барацьбе супроць дыктатуры пралетарыяту, у барацьбе за аднаўленьне капіталізму. Вось чаму, ажыцьцяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, Беларуская ССР змагаецца і будзе змагацца на нацыянальным фронце і наперад са ўсімі ўхіламі, са ўсімі антыпралетарскімі праявамі, з клясава-варожымі элемэнтамі, якія стаяць на шляху будаўніцтва сацыялізму. Беларуская ССР уцягвала і будзе ўцягваць і ў далейшым працоўных усіх нацыянальнасьцяй у сацыялістычнае будаўніцтва. Пралетарыят Беларусі будзе будаваць і разьвіваць культуру-нацыянальную па форме і пралетарскую па зьместу.

Пры вялізарнейшай дапамозе Саюзу ССР, Савецкая Беларусь да XII гадавіны свайго існаваньня мае вялікія дасягненьні ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, у ленінскім вырашэньні нацыянальнага пытаньня. Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі актыўнасьць рабочых мас, батрацтва, калгасьнікаў, бедпаты і серадня коў накіравана на забясьпечаньне бальшавіцкіх тэмпаў індустралізацыі, на разгортваньне і ўзмацненьне калектывізацыі і на яе падставе ліквідацыі кулацтва як клясы, на выкананьне

пяцігодкі ў чатыры гады, што забясьпечыць і ў далейшым правільнае практычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня.

У барацьбе за генэральную лінію нашай партыі і ленінскага ЦК з правым ухілам, права-„лявацкім "блёкам, з апартунізмам усіх відаў, з ухіламі і контррэвалюцыйнымі праявамі на нацыянальным фронце, БССР яшчэ больш узмацніцца палітычна, эканамічна і ў культурных адносінах, як перадавы аванпост Савецкага саюзу на мяжы з капіталістычным Захадам. Далейшы шлях Беларускай сацыялістычнай савецкай рэспублікі ёсьць шлях будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага Цэнтральнага камітэту.

31/XII 30 г.

---

**А. В.**

# Палітычная сутнасьць Беларускага нацыянал-дэмакратызму

Буржуазія, як кляса, якая эксплёатуе і прыгнятае, ня можа адкрыта і ясна гаварыць перад працоўнымі масамі аб сваёй дыктатуры, аб клясавым, прыгнятальным характары свае дзяржавы. Буржуазія мае патрэбу у тым, каб горкія пілюлі эксплёатацыі і прыгнету былі-б знадворна падсалоджаны. Яна мае патрэбу ў насаджваньні, культываваньні ілюзій, якія-б маскавалі сапраўдны характар капіталістычнага ладу і буржуазнай палітыкі.

Для гэтай мэты неабходны атрутныя матэрыі ідэалёгічнага парадку, якія-б замацавалі панаваньне капіталістых. Фэўдалы, рабаўласьнікі мелі ў сваім распараджэньні дурман рэлігіі. Буржуазія ахвотна карыстаецца гэтым старым выпрабаваным сродкам. Яна не адкідае ніякіх забабонаў, калі яны толькі змогуць ёй прыпатрэбіцца як сродак маны і прыгнету. Буржуазія, якая сама ня верыць ні ў чорта, ні ў бога, падтрымлівае папоў, ксяндзоў, рабінаў, мул, шаманаў, брамінаў усіх веравызнаньняў усіх толкаў. Але гэтым яна не абмяжоўваецца. Побач са старым зацяганым Саваофам і Хрыстом яна выстаўляе навейшыя сродкі. У ліку гэтых сродкаў атруты маюцца дэмократыя і нацыяналізм. Буржуазія і яе ідэолёгі, якія на старонках тоўстых часопісаў часца выказваюць клясавую праўду для мас імкнуцца паказаць, што яна абараняе не інтэрэсы клясы, а інтарэсы „усяго народу“, усяе „нацыі“.-Да гэтага зводзяцца ўсе прыёмы буржуазнага агітпропа. Адзінаму клясаваму фронту пралетарыяту супроцьстаўляецца адзіны нацыянальны фронт. Пад заслонай нацыянальных інтарэсаў“ буржуазія кожнай нацыі ўзмоцнена выкачвае кроў і пот „свайго“ „нацыянальнага“ пралетарыяту, ператвараючы іх у звонкую залатую манэту.

І гэтыя элемэнтарныя рысы буржуазнай ідэалёгіі і палітыкі ляжаць у аснове нацыянал-дэмократызму: за дыктатуру буржуазіі пад маскай „дэмократыі“, супроць дыктатуры пролетарыяту пад фігавым лісточкам „справы нацыі“. „Дэмократыя“, «нацыя“ — вось тая дымавая заслона, пад прыкрыцьцем якой павінна быць адноўлена дыктатура буржуазіі, непарушнае, сьвяшчэннае права ўласнасьці на зямлю, капіталістага на фабрыкі і заводы.

* * *

Раскатам гармат і куляметаў інтэрвэнцыі, якая рыхтуецца супроць СССР, павінна была быць папярэдніцай ідэалёгічная апрацоўка. Таму нацыянал-дэмократы ўзмоцнена ўзяліся за ідэалёгію, за „культуру“. Таму іхняя тактыка была разьлічана на тое, каб у першую чаргу аўладаць камандуючымі вышынямі на культурным фронце.

У цэнтры насаджваемай імі ідэолёгіі была установка на стварэньне культу нацыянальнай абмежаванасьці, скланеньня перад усім нацыянальным, каб слова „нацыя", якое зьмяняецца па ўсіх склонах, заглушыла слова „кляса", заглушыла-б лёзунг — „пралетары усіх краін, злучайцеся."

„Сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму, гаворыць т. Сталін, знаходзіцца ў імкненьні абасобіцца, замкнуцца ў рамках свае нацыянальнай шкарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры свае нацыі".

Адсюль—курс на „самабытнасьць", стаўка на тое, каб захаваць і замацаваць усе тое, што можа разьмежаваць працоўныя масы розных нацыянальнасьцяй, заглушыць і адмаўляць тое, што іх зьбліжае.

У 1928 г. нацыянал-дэмократ Касьпяровіч перадрукаваў у якасьці дэвізу, сьцягу наступныя словы з „Нашай Нівы":

„Кожны лёгка зразумее, якую цану павінна мець для нас кожная беларуская асобнасьць, дзе бы яна ні спаткалася... дзе бы мы ні спаткалі гэтую родную асобнасьць, арыгінальнасьць, мы павінны берагчы і захоўваць, а хто дуж, разьвіваць і шырыць" („Наш Край", 1928, № 6—7.)

Такім чынам, павінна быць захована і замацована кожная асаблівасьць, калі яна нават (ці дакладней кажучы, менавіта за гэтым) нясе на сабе адбітак адсталасьці, барбарства, цемры. І каб у гэтым сэнсе не засталося ніякіх няяснасьцяй, мы прывядзем словы другога нацдэмократа—Шлюбскага. У 1919 г., у гады грамадзянскай вайны, Шлюбскі плакаў аб тым, што зьнікае адсталасьць мас, што зьнікаюць астанкі першабытнасьці, дурман рэлігіі і абраднасьцяй. Вось што пісаў ён:

„У народным жыцьці адбываецца цяпер трагічная (!) ломка: старажытная абраднасьць, што насіла орэол сьвятасьці, зьнікае і нічым не замяняецца. Бясьследна зьнікла кумаваньне, зьнікаюць калядныя ўрачыстасьці і г. д.".

Вось „трагедыя"—кумаваньне зьнікае! Шлюбскаму ня сьпіцца адтаго, што „орэол сьвятасьці" зьнікае. Відавочна гэты „арэол" надта патрэбен і карысны той клясе, якой служыць Шлюбскі.

Замацоўваць тое, што абмяжоўвае працоўных розных нацыянальнасьцяй, вось гэты запавет тэорыі самабытнасьці праводзіўся у ва ўсіх галінах культурнага будаўніцтва, дастасоўваўся ўсюды.

Самабытнасьць праводзілася старанна ў мовазнаўстве. З беларускай мовы пільна і старанна выганялі ўсё тое, што напамінала пра савецкі лад, усё тое, што зьвязвае беларускіх рабочых і сялян з працоўнымі Саюзу. Пад знакам барацьбы за „чыстату" мовы слова „калектыў" было заменена словам „суполка", прафэсыянальны" словам „ўмецкі", „арцель"—словам „сябрыня" і г. д. і г. д. Даходзіла да ўвядзеньня ў беларускую мову такіх слоў як „брахняпісец" (памфлетист) спрэчкапісец" (полемист), г. е. да сьвядомага апашленьня беларускай мовы. Беларускія нацыянал-дэмократы праводзілі тут у падобных выпадках палітыку вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, прыдаючы беларускай мове характар заскарузлай, агрубелай мовы.

Кожнаму вядома, як старое чыноўніцтва, буржуазная інтэлігенцыя рэагавала на палітыку партыі ў кірунку беларусізацыі і ўкраінізацыі. „Творчы розум" чыноўніцкіх тупіц, розныя сачыніцелі „сакавітых" антысавецкіх анэкдотаў на ўсякія лады ўдасканальваліся ў тым, каб вынайходзіць і выдумляць аляпаватыя, бяссэнсоўныя быццам

бы беларускія ці ўкраінскія словы. Вынаходзячы такія карыкатуры над беларускай і украінскай мовай, яны потым сьвяткуючы ўрачыстасьць, іронізавалі над такою „дурною“ палітыкай, якая „выдумляе“ такое „глупства“, як ўкраінскую ці беларускую мову. Ілюстрацыяй таго, што беларуская і ўкраінская мовы зьяўляцца глупствам служылі такія фразы як „самопер попер да мордапісцу“, альбо: „ці ліў ў бульбу'лей“. Гэтая народная творчасьць з жанру чыгуначных анэкдотаў таксама служыла формай праяўленьня клясавай барацьбы, гэта было адною з форм праяўленьня вялікарускага шовінізму.

А ці палітыка нацыянал-дэмократаў, якія пад лёзунгам самабытнасьці насаджвалі такія словы, як „брахняпісец“, „уласнапісны“ (арыгінальны) і да т. п., не зьяўляецца паўтарэньнем тэндэнцый вялікадзяржаўнага шовінізму. Бязумоўна, так. Мы тут бачым перад сабою адну з многіх ілюстрацый таму, што клясавыя карэньні і вялікадзяржаўнага шовінізму і беларускага і іншага шовінізмаў—адны і тыя-ж, што гэта розныя ягадкі, але з аднаго поля.

Клясавы характар самабытнасьці ў лінгвістыцы дастаткова раскрываецца такімі прыкладамі, як пераклад слова „бядняк“ словам „злыдзень“ (лодар, гультай), слова „пралетарыят“ словам „убоства“ (жабрацтва). Ці могуць быць больш ясныя прыклады шкодніцкага контррэволюцыйнага характару гэтае, з дазволу сказаць, „навуковай дзейнасьці“ паноў Некрашэвічаў.

У галіне этнографіі тэорыя самабытнасьці выразілася галоўным чынам у стварэньні культу нацыянальных сьвятынь і рэліквій. Справа ня ў тым, каб улічваць нацыянальныя асаблівасьці, а справа тут у тым, каб замацаваць іх, замацаваць якраз тыя „асаблівасьці“, якія былі вякамі замацаваны пануючымі клясамі. Этнографія была пастаўлена на службу папоўшчыны, клерыкалізму.

Самабытнасьць прасякнула нават у такія здавалася-б „нейтральныя“, навукі, як прыродазнаўчыя навукі. Мы тут бачым яшчэ адзін довад таму, што нэйтральных навук, нэйтральных навуковых установак ня бывае. Фізыка, хэмія, фізыолёгія біолёгія былі пастаўлены на службу тэй установцы, каб давесьці існаваньне „чыстага беларускага тыпу, каб давесьці наліччa „чыстай“ беларускай крыві. І падобна таму, як лінгвісты шукаў чыстую беларускую мову ў глухіх кутках і носьбітам „чыстае“ беларускае мовы лічыў найболей адсталага селяніна (адмаўляючы гэтым ролю пралетарыяту ў разьвіцьці беларускай мовы), падобна гэтаму і антрополёг шукаў чыстую беларускую канстытуцыю... у цёмнай глушы. Чым-жа тлумачыцца гэта любоў нацыянал-дэмократаў да глухіх куткоў? Чым-жа тлумачыцца імкненьне нац. дэмократа да цемнай глушы? Карэньні гэтага ляжаць ва ўсякім разе не ў псыхолёгічных тонкасьцях і не ў рамантычных настроях. любіцеляў цёмных пэйзажаў. Карэньні ляжаць у палітыцы, у самай празаічнай клясавай барацьбе буржуазіі супроць дыктатуры пролетарыяту.

* * *

Было-б вельмі памылкова глядзець на гэрояў „самабытнасьці“ толькі як на „прыхільнікаў“ старыны, як на колекцыянэраў-чудакоў. Правільна, такое „прыхільніцтва“ таксама зьяўляецца вельмі рэакцыйным, але гэтым справа далёка ня вычэрпваецца. Тут справа ня толькі ў настроях, „сымпатыях“, душэўным настроі і іншай рэакцыйнай сантымэнтальнасьці. Справа тут у дзеяньнях. У пачатку было дзеяньне. „Слова“ нац. дэмократызму, яго ідэолёгічная коўдра, павінна быць расшыфравана з пункту погляду іх дзеяньняў. Ітак, якія апраўдны зьмест, дзейнічаючы мэханізм тэорыі самабытнасьці?

Здавалася-б, што строгія абаронцы самабытнасьці павінны быць ярымі праціўнікамі ўсяго „чужога“, не сапраўдна беларускага. Будзь ён—той ці іншы ўплыў—расійскім, француcкім, польскім, ангельскім, ён усёроўна павінен быць адкінут, як чужы, не самабытны. Аднак, які бок мы ні ўзялі-б ідэолёгіі „самастойнасьці“ і „самабытнасьці“, мы ўсюды ўбачым адну характэрную рысу. Гэта незалежнасьць і самабытнасьць выступае вельмі ўмоўна. Яна завострана толькі ў адзін бок.

Нац. дэмакраты з шалёнствам накідаюцца супроць усяго таго, што хоць малейшым чынам нагадвае аб Расіі, „кацап“, „маскаль“—гэта самая нянавісная істота, самае паважнае слова ў іхняй лаянцы. Даходзяць пры гэтым да самых сьмешных кур'ёзаў. „Рускіх“ абвінавачваюць у сямі сьмяротных грахох. Іх, бачыце, абвінавачваюць у такім страшным „злачынстве“, што яны нячыстыя славяне, што яны зьмяшалі сваю чыстую сьвятую славянскую кроў з фінскай „нечысьцю“. Ня могуць-жа чыстыя, сапраўды-славянскія беларусы сватацца з тымі, хто апаганіў сваю кроў, зьмешваючыся з „басурманамі!“. Між расійцам і беларусам нічога агульнага быць ня можа „З пункту погляду антрополёгіі, навучае нац.-дэм. з „вучонай“ мінай, беларусы бліжэй нават да італійцаў, чым да расійцаў.“

І аднасчасна з гэтым ідэолёгі чыстай „беларускасьці“ перастаюць імі быць, калі рэч ідзе пра польскую культуру, польскія ўплывы і наогул пра ўплывы Захаду. Вецер усходні—гэта спустошваючы самум. Вецер заходні—усё ажыўляе. Словы, што маюць нават далекае падабенства з расійскай мовай, старанна выганяюцца з беларускай мовы, польскія словы старанна насаджваюцца. Гаварыць хоць-бы пра малейшы ўплыў расейскай культуры на белорускую лічыцца чымсьці блюзьнерскім. За тое лічыцца вельмі разумным гаварыць пра агульны гістарычны лёс Беларусі і Польшчы, пра іхнія цесныя сувязі, якія былі і якія ёсьць. „Захаваліся два чыстыя славянскія тыпы,—абвяшчае нац.-дэм. Чужыловіч,—палякі і беларусы“. Адсюль ужо ясна, што палякі і беларусы (чытай: польская і беларуская буржуазія) павінны жыць у самым цесным сяброўстве і сумесна тварыць свою гісторыю“.

Чым гэта тлумачыцца? Чым тлумачыцца такая баязьлівасьць Усходу і такая любоў да Захаду? Чым тлумачыцца такое благатворнае дзеяньне заходняга клімату? (Цікава адзначыць наступнае адкрыцьце нацдэмаўскай мэдыцыны, што, чым бліжэй да заходняй мяжы, тым меншая дзіцячая сьмяротнасьць. Вось якім пагубным зьяўляецца страшны „усход“...).

Ня шукайце адказу ў клімаце, у географічных градусах, у даўжыні і шырыні. Ня з вобласьці географіі прыдзе адказ, а з вобласьці політыкі. У Расіі—РСФСР, у Польшчы—фашызм, вось што выклікае пякучую антыпатыю і гарачую любоў. Справа не ў расійскай культуры і ня ў польскай, справа ў савецкай культуры і ў фашыстаўскай. Польскі пролетарыят і польскае працоўнае сялянства такі-ж вораг нацдэмам, як і расійскія. Расійская буржуазія такі-ж сябра як і польская. Пад агульнымі назвамі „Расія“ і „Польшча“ гутарка ідзе на самай справе пра пануючую клясу ў РСФСР і ў Польшчы, пра пролетарыят і буржуазію.

Што расійцу здорава, тое беларусу—сьмерць,—так гаворыць нац.-дэмократычная „навука“. Сэнс гэтага палажэньня такі: няхай „расійцы“ (чытай: расійскі пролетарыят) трымаюцца свае савецкае ўлады, калі люба яна ім, а нам (чытай: беларускай буржуазіі і кулацтву) яна не да густу, нам яна, бясспрэчна, шкодная.

Вянцом „самабытнасьці“ зьяўляецца такім чынам палітычная установка на „вызваленьне“ Беларусі ад савецкай улады, на інтэрвэнцыю, на „братнюю“ „славянскую“ дапамогу польскага фашызму.

Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVI партзьезьдзе дае вычэрпваючы адказ на пытаньне: куды вядзе „імкненьне абасобіцца і замкнуцца ў рамках свае нацыянальнае шкарлупы“, што яно, гэтае імкненьне, сабою адлюстроўвае?

„Ухіл да мясцовага нацыяналізму адлюстроўвае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй рэжымам дыктатуры пролетарыяту, як імкненьне абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне“.

Ітак, „самабытнасьць“ павінна быць расшыфравана перш за ўсё ня „любоўю да старыны“, а ў сэнсе клясавай дыктатуры буржуазіі.

І калі Ластоўскі сьцьвярджае, што „каб ня наша старая пісьменнасьць, ня было-б у Расіі Пушкіна“, то гэтым пытаньне не завяршаецца. Спрэчкі пра ліру Пушкіна, напевы на той мотыў, што „наша старая пісьменнасьць“, крыніца ўсяе культуры, гэта толькі ўвэртура да сымфоніі Ластоўскага. Тая сымфонія будзе выканана не на лірах і старынных „дудках“, а якраз на найболей сучасных і найменей самабытных „інструмэнтах“ з францускіх і польскіх вайсковых заводаў...

Але мы хацелі паказаць пераход ад флейты да гаўбіц, ад лірыкі да інтэрвэнцыі.

Возьмем такое, здавалася-б, архі-акадэмічнае пытаньне, як называліся беларусы некалькі тысяч гадоў таму назад. Колькі гарачнасьці, тэмпэраманту, настойлівасьці выявілі нацдэмы у гэтым пытаньні. Дзе крыніцы гэтай гарачнасьці? Відавочна, ня ў „сівай старыне“, відавочна пад коўдрай архіўнага пылу тут ляжыць жыватрапечучае актуальнае пытаньне сягоньняшняга дню. У чым справа? Слова „Беларусь“ выклікае ярасьць у нацдэмаў. Абаронцы „ўсяго беларускага“ чуць ня могуць гэтае самае назвы „Беларусь“. Справа ў тым, што назва „Беларусь“ уключае ў сабе ненавіснае нацдэмам слова „Русь“, што нагадвае пра блізасьць з Расіяй. А паколькі Расія ўяўляе сабою не расійскую імпэрыю, а Расійскую Сацыялістычную Фэдэрацыйную Савецкую Рэспубліку, прычына прыпадку шалёнства ясна да відавочнасьці. Барацьба супроць назвы „Беларусь“—гэта барацьба супроць савецкай Беларусі. Беларускія нацдэмы з Расіяй Карскіх і Рамзіных сасьпяваліся і вельмі хутка, але быць у саюзе з РСФСР—гэта сапраўды закранае „кроўныя інтарэсы“ Ластоўскіх і Лёсікаў.

Слова „Беларусь“ было спачатку заменена словам „Беларутэнія“ (Weissruthenien). Гэтае самабытнае, сапраўды беларускае слова было пушчана ў ход „чыстымі беларусамі“... нямецкім штабам у час нямецкай акупацыі.

„У першыя часы, пасьля акупаваньня Беларусі, немцы паказвалі від, што яны спрыяюць беларускай справе. Назва „Беларусь“...—назва, якая да таго часу больш ужывалася ў нямецкай мове і выклікала ўражаньне, што тут гаворыцца аб нейкіх расійцах, а не аб самастойнасьці нацыі, была заменена. У дзяржаўнай мове (у дзелавых размовах) цяпер ужываўся выраз „Weiszruthenien“ („Працы катэдры права, 29, стар. 8).

Гэтая справа тым болей каштоўна, што яна ясна паказвае крыніцу падобных „лінгвістычных практыкаваньняў“. Нямецкае камандаваньне, як вядома, „навуковымі“ досьледамі „акадэмічнага“ характару не займалася. Кожны яго крок быў прадыктаваны інтарэсамі нямецкага імпэрыялізму. Гэта была тая „навука“, якая падносілася на лязе штыка.

Але і слова „Беларутэнія“ не зьявілася дастаткова „моцным“, навука-ж прогрэсуе... і Вацлаў Ластоўскі вынайшоў новае слова:—„крывічы“ і „Крывія“.

„Самай-жа галоўнай і першай адзнакай, пісаў у сваім эмігранцкім часопісе Ластоўскі, зьяўляецца нашае нацыянальнае імя „крывіч“, якое акрасьляе гісторыю нашага народу, як асобай нацыянальнасьці... Трымаючыся назвы „Беларусь“, мы ня можам пачынаць нашай гісторыі“...

Ітак, гісторыю Беларусі яшчэ трэба пачаць. Яна пакуль што не пачата... Першым, які пачне гісторыю Беларусі, будзе, відавочна, маршал Пілсудзкі.

І далей:

„Калі народ сіліцца адрадзіцца... у мове, мастацтве, у пісьменнасьці..., важна прыпомніць яму яго ўласнае імя, якое гаворыць аб лепшых днёх жыцьця нашага народу, з яго вольнымі вечамі і слаўнымі змаганьнямі за сваю незалежнасьць“. („Крывіч“, № 10, стар. 44).

Пад „лепшымі днямі“ патрэбна разумець змрочнае сярэднявечча. Пад свабодай трэба разумець тыя дні, калі ў панскіх хлявох свабодна секлі сялян. Вось было вольнае раздольле для паноў Ластоўскіх: бі каго хочаш, і гэтыя „лепшыя дні“ нацдэмы хочуць вярнуць.

Ластоўскі пускаецца ў „гісторычныя досьледы,“ дзе жылі гэтыя крывічы; ён дакладна ўстанаўляе граніцы іх распаўсюджваньня. Вось контуры ўсходняй мяжы: „сярэдняе цячэньне р. Варонеж ад апошняй да сутокаў р.р. Акі і Волгі, а адгэтуль на Белавозера“. „(Крывіч“, 1925 г. № 10).

Ітак межы „Крывіі“ даходзяць да самай Масквы. Прэтэнзіі тут не абмяжоўваюцца Смаленшчынай, а распаўсюджваюцца куды далей.

Ня трэба быць асабліва спакушаным чалавекам, каб разумець сапраўдны сэнс гэтых „гісторычных экскурсій“. Палітычная мэта гэтых „досьледаў“ ясна да відавочнасьці. Яе можна намацаць рукамі, адчуваць. Гутарка ідзе пра межы будучай незалежнай ад пролетарскай дыктатуры Беларусі пад скіпэтрам пана Юзэфа Пілсудзкага. Польская армія можа рушыць на СССР. Хай яна не сароміцца, што „хтосьці“ назаве яе акупанцкай. Вацлаў Ластоўскі ўжо прырахтаваў ей візу на імя „вызваленьня Крывіі“. Віза сапраўдна аж да Масквы...

Імпэрыялізм вельмі часта спасылаецца на „гісторычныя правы“. Польскі імпэрыялізм у прыватнасьці высоўвае лёзунг—межы 1772 г. Вацлаў Ластоўскі ажыцьцяўляе польскаму ген. штабу „маленькую паслугу“: ён пашырае рамкі гэтых меж, выдаючы Пілсудзкаму выдатковыя паўнамоцтвы, мандат ад „крывічоў“—да Масквы. Вось сэнс гэтых разважаньняў пра межы калёнізацыі крывічоў.

Правільна Ластоўскі паказвае там таксама і заходнія межы Крывічоў, але гэта ўжо сапраўды чыста „акадэмічная“ проблема. Да Польшчы Ластоўскія ніякіх запатрабаваньняў ня выстаўляюць. Рыцары незалежнасьці маюць толькі адну мэту—адарваць Беларусь ад СССР. На гэтым этапе яны „незалежнікі“. Але за першаю часткаю гэтае „п'есы“ ідзе другая—далучэньне Беларусі да Польшчы. Тут нацдэмы на сваю „незалежніцкую“ праграму забыліся і забываюцца. „Мне здавалася, гаворыць Лёсік, што граміць Польшчу гэта значыць падрубіць сук, на якім сісеў наш ідэал самастойнай Беларусі. Крушэньне польскай дзяржаўнасьці—крушэньне нашых ідэалаў“.

Лёсік таксама даволі дакладна тлумачыць, як павінны былі ажыцьцявіцца гэтыя „ідэалы“.

„Нашы надзеі на зьвяржэньне савецкай улады мы ўскладалі на вайну з Польшчай, інтэрвэнцыю, а потым у апошні час і на сялянскія (чытай: кулацкія) паўстаньні ў сувязі з раскулачваньнем і эканомічнымі труднасьцямі".

А ў імя чаго гэта павінна адбыцца, якія і-дэ-а-лы дыктуюць гэтую ўстаноўку? Вось яны шляхэтныя пабуджэньні, узвышаныя матывы...

Пачалася мобілізацыя нацыяналістычных сіл пад сьцягам стварэньня Беларускай рэспублікі, пад сьцягам абароны беларускай самабытнасьці, мовы, культуры, а на справе за звычны мяшчанскі парадак, за домікі, цьвятнікі, за буржуазны лад".

Лёсік не дагаварыў да канца. Не за домікі яны змагаліся, а за дамы, за фабрыкі, заводы ў руках буржуазіі. Не „мяшчанскі парадак" зьяўляецца канечнай мэтай беларускай контррэволюцыі, а фашыстаўскі.

* * *

Мы павінны зноў зрабіць агаворку: „антырусізм" нацдэмаў таксама зьяўляецца вельмі і вельмі ўмоўным. Яны крычаць пра „кацапскі прыгнет" толькі таму, што ў Расіі дыктатура належыць рабочым, урад зьяўляецца рабоча-сялянскім.

О, калі-б расійская буржуазная інтэлігенцыя скінула савецкую ўладу, о, калі-б Рамзін стаў бы на чале „сьвятой Русі"—расійская мова стала-б зноў „магучай, здаровай, багатай, прыгожай".

Ластоўскі ў гэтым сэнсе даў умоўную амністыю „расійцам".

Сэнс гэтай „амністыі" такі: скіньце савецкую ўладу, скажэце, што між вамі і савецкай уладай нічога агульнага няма, „вызвальцеся" ад яе, і вы... зноў станеце чыстымі славянамі.

„Бальшавіцкі зрыў ня быў духовным тварам вялікарускага народу, ня быў зрывам расійскай нацыянальнай інтэлігенцыі"...

Ластоўскі „даводзіць" гэты тэзіс: „Калі бальшавікі перамаглі ўжо і стварылі свой першы ўрад.. распадзел наступіў такі: кіраўніцтва надзвычайнай комісіяй узяў віленец-паляк Дзяржынскі, камісарыятам закардонных і вайсковых спраў—жыд Троцкі, камісарыят асьветы—украінец Луначарскі, кіраўніцтва III Інтэрнацыяналам—жыд Зіноўеў, а прадсядацелем быў Ленін, расіец, але татарскага пахаджэньня".

Так вось, няхай „гэтыя расійцы" гэта на ўвесь голас няхай скажуць, што бальшавізм нешта чужое „расійскаму духу", нешта наноснае, жыдоўска-латыска-кітайскі выраб—хай яны скажуць гэта, і „расійскі дух" зноў набывае ўвесь свой сапраўдны пах. З „сапраўды-расійцамі", з расійскімі шовіністымі ў Ластоўскіх рознагалосьсяў амаль няма. Ва ўсякім выпадку перад тварам агульных задач бляднеюць тыя невялічкія рознагалосьсі, якія існуюць. Ластоўскія, Лёсікі і г. д. зьяўляюцца незалежнікамі толькі па адрасу Савецкай Расіі. Ад буржуазнай Расіі яны незалежнасьці не жадаюць. „Беларуская інтэлігенцыя, адкрыта прызнаецца Лёсік, якая выкінула пры бальшавіках у Расіі лёзунг незалежнасьці Беларусі,—спачатку рэволюцыі пры Керанскім і ўстаноўчым сходзе дабівалася толькі простае аўтаноміі Беларусі".

Гэта нам трэба падкрэсьліць, каб кожнаму было зразумелым, што вялікадзяржаўны шовінізм не адкідае беларускага нацыянал-дэмократызму, беларускі нац.-дэмократызм не адкідае вялікадзяржаўнага шовінізму. Яны ня толькі ўзаемна ня выключаюць адзін аднаго, а, наадварот, падтрымліваюць адзін аднаго і блёкуюцца між сабой.

Той погляд, згодна якому беларускі нац.-дэмократызм зьяўляецца заядлым ворагам вялікадзяржаўнага шовіністага, зьяўляецца глыбока памылковым, антыдыялектычным і палітычна шкодным. Нельга ўявіць сабе справу так, як быццам у аднэй кішэні аднаго чалавека ляжыць беларускі нац.-дэмократызм, а ў другой—вялікадзяржаўны шовінізм. Розьніца між імі ня здымае і не адмаўляе іх адзінства. Шукаў-жа Некрашэвіч дапамогі ў Карскага, Карскі ў Некрашэвіча, Рамзін у Яфрэмава, Яфрэмаў у Рамзіна.

Хабарнік, віртуоз-шкоднік Сітнін аб'явіў сябе на судзе глыбока нацыянальным, сапраўды-расійцам, які тужыць і хварэе за „нацыянальную справу". Ён—патрыёт. Інтарэсы Рабушынскага і Канавалава зьяўляюцца ў яго перадачы інтарэсамі Расіі. Профэсар ад шкодніцтва, цуда-здраднік Рамзін—таксама патрыёт. Гэта ён „у імя Расіі" рыхтаваў аддаць Адэсу румынам, Украіну і Беларусь Польшчы, Каўказ—Францыі. „Верны" сын „вольнай" Украіны, Яфрэмаў быў на ўтрыманьні польскага ген. штабу. Яўрэйскі нацыяналісты Красны „міністэрстваў" у Пятлюры. Ён сапраўды быў абаронцам „яўрэйскага духу". Актыўна дапамагаючы гайдамакам вырэзваць дзесяткі тысяч яўрэйскіх працоўных, ён „вызваляў" яўрэйскі дух ад плоці... Беларускія нац-дэмы шукалі „беларускі дух" у... польскай дэфэнзыве, эмблему свабоды і дэмократыі—у жандарскім боце Пілсудзкага.

Усе нацыяналізмы, шовінізмы—зьвеньні аднаго ланцугу, імя ім—спробы рэстаўраваць капіталістычны лад. І Рамзіны, і Краскоўскія дабіваліся аднаго: „арганізацыя эканамічных адносін на прынцыпе прыватнай уласнасьці (на зямлю, прадпрыемствы, рухомую і нярухомую маемасьць) поўнай і неадлучнай".

Прычым вялікадзяржаўны шовінізм, непасрэдна зьвязаны з Рабушынскімі, Дзянісавымі, Нобелямі, з „кітамі" расійскага капіталу, грае першую скрыпку ў концэрце контррэволюцыйных сіл на тэрыторыі СССР. Вялікадзяржаўны шовінізм уяўляе з сябе загэтым галоўную небясьпеку на даным этапе. Ластоўскія ў саюзе з Рамзінымі—вось гэта формула з дастатковай яснасьцю ўскрывае агульнасьць і інтарэсаў, і сувязь між беларускім і вялікарасійскім шовінізмам. У гэты-ж оркестр уваходзяць „музыканты"—яўрэйскія і польскія шовіністыя. Усе яны разам рыхтуюць інтэрвэнцыю.

Барацьба супроць беларускага нац.-дэмократызму ня можа быць адлучана ад барацьбы супроць галоўнай небясьпекі, вялікадзяржаўнага шовінізму, ад барацьбы супроць яўрэйскага і польскага шовінізму

Барацьба супроць беларускага нац.-дэмократызму не выключае, а, наадварот, уключае ў сабе далейшую работу за разьвіцьцё беларускай культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу. Той, хто гэтага не разумее, той становіцца на позыцыі вялікадзяржаўнага шовінізму, на пазыцыі саюзьніка беларускага нац.-дэмократызму. Пытаньне далейшай беларусізацыі ёсьць пытаньне клясавай барацьбы. Пролетарыят на чале культурнага будаўніцтва—вось наш лёзунг. Гэты лёзунг можа быць ажыцьцёўлены пры ўзмацненьні работы па беларусізацыі.

Такая дыялектыка гісторыі. Глыбока інтэрнацыяналістычны пролетарыят, тая кляса, якая вядзе да зьліцьця працоўных усіх нацый, гэтая кляса дае максымальную магчымасьць і дапамогу ў справе разьвіцьця нацыянальнай культуры. Буржуазныя нацыяналістыя, накшталт Лёсікаў, Ластоўскіх і Рамзіных, гэроі „незалежнасьці", здольны прадаць усе нават тыя „нацыянальныя" інтарэсы, што яны клянуцца тры разы ў дзень. Яны вераць толькі ў адзін ідэал—капітал.

* *
*

Беларускія нацдэмы мелі свайго саюзьніка ў асобе нацыянал-опортуністых. Падобна таму, як Громаны і Кандрацьцевы адшукалі рупар сваіх „ідэй“ у асобе правых опортуністых, падобна гэтаму і беларускі нац.-дэмократызм меў сваю агентуру.

Нацыянал-опортуністыя павінны былі „ашляхетнічваць“ ідэі нацдэмаў, надаваць ім болей прыстойны выгляд, акутаць іх думкі ў сучасную слоўную фразэолёгію.

Беларускі народ „избранный“ таму, што ён „чыста-славянскі“,— так гаварылі зубры нац.-дэмократызму.

Беларускі народ „избранный“ таму, што ён цалкам складаецца з працоўных. У нас, слава богу, эксплёататараў няма. Так „упрыгожваў“ нац.-опортуністы думкі свайго колегі.

Кастусь Каліноўскі—нацыянальны гэрой,—так гаварылі нацдэмы.

Кастусь Каліноўскі—стопроцантны рэволюцыянэр, папярэднік Леніна,—так „перакладаў“ нац.-опортуністы на „сучасны лад“.

Рэцэпт нац.-опортуністага надзвычайна просты: бяры агульную „тэорыю“ нац.-дэмократызму, дадай усюды слоўцы, падобныя на „працоўныя“, „прыгнечаныя масы“ і г. д. і да т. п., і пірог гатоў.

Гэтым словаблудам нац.-опортунізм ставіў перад сабою адну мэту: давесьці адзінства нацыянальнага фронту, супроцьстаўляючы адзінаму фронту пролетарыяту. Нацыянал-опортуністыя прыхарошвалі чырвонымі баньцікамі ня толькі ўсе ідэі нацдэмаўскай контррэволюцыі, але і пэрсанальна іх главароў. Пра Лёсіка Ігнатоўскі дае водзыў у сваім падручніку беларускай гісторыі, як аб чалавеку, які пагараваў за сваю адданасьць „прыгнечаным“ масам. Ён надае Лёсіку орэол барацьбіта за... працоўнае сялянства. Пад гэтым пашпартам Лёсік падаецца кожнаму вучню сямігадовай школы.

Нац.-опортуністыя самкнуліся з нацыянал-дэмократызмам, цалкам перайшлі на іх пляцформу і разам з імі вялі абстрэл дыктатуры пролетарыяту.

Барацьба з нац.-дэмократызмам азначае ў першую чаргу барацьбу супроць яго агентуры, супроць нацыянал-опортуністых.

---

**Х. Дунец**

# На адным з вучасткаў нацработы

*(Некаторыя вынікі работы КП(б)Б сярод яўрэйскіх працоўных і задачы барацьбы з апартунізмам у гэтай галіне)*

> ...Карціна барацьбы з ухіламі ў партыі будзе ня поўнай, калі мы не закранем ухілаў у галіне нацыянальнага пытаньня, якія наглядаюцца ў партыі. Я маю на мэце, па-першае, ухіл да вялікарасейскага шавінізму , па-другое, ухіл да мясцовага нацыяналізму. Гэтыя ўхілынена гэтулькі прыкметныя і напорыстыя, як „левы" або правы ўхілы. Іх можна было-б назваць паўзучымі ўхіламі. Алё гэта яшчэ ня значыць, што яны ня існуюць. Не, яны існуюць і, галоўнае, растуць. У гэтым ня можа быць ніякага сумненьня. Ня можа быць сумненьня, бо агульная атмасфэра абвостранай клясавай барацьбы ня можа ня весьці да вядомага абвастрэньня нацыянальных трэньняў, якія маюць свой адбітак у партыі. Вось таму трэба было-б выкрыць і выставіць на сьвет божы фізіяномію гэтых ухілаў.
>
> **(Сталін)**

## I

У БССР яўрэйскае насельніцтва складае 8 з лішнім працантаў. Асноўная маса яўрэйскага насельніцтва жыве ў гарадох і мястэчках, дзе яно ў сярэднім складае каля 45 проц. усяго насельніцтва. Процант яўрэйскага насельніцтва вёскі адносна вельмі малы (16,4 проц. з усяго складу яўрэйскага насельніцтва), бо да рэволюцыі яўрэям было забаронена жыць у сельскіх мясцовасьцях. Маса яўрэйскіх земляробаў у БССР, якой зараз налічваецца каля 50.000, уяўляе сабой у асноўным рэзультат Кастрычнікавай рэвалюцыі. Да рэвалюцыі быў значны процант гандлёвага элемэнту сярод яўрэйскага насельніцтва, нават перапіс 1927 г. паказаў сярод яўрэяў 10 проц. гандляроў, значна больш высокі процант, як сярод адсталага астатняга насельніцтва.

Х і XII зьезды УсеКП(б), намячаючы асноўныя заданьні нацпалітыкі партыі, далі вызначаныя дырэктывы таксама ў галіне работы сярод нацменшасьцяй. У адносінах да гэтых нацыянальнасьцяй рэзалюцыя Х зьезду УсеКП(б) кажа наступнае:

„Існуюць яшчэ асобныя бягучыя нацыянальныя групы, нацыянальныя меншасьці, што ўкроплены ў нацыянальныя кампактныя большасьці, якія ня маюць вызначанай тэрыторыі (латышы, эстонцы, палякі, яўрэі і інш.). Палітыка царызму складалася з таго, каб зьвесьці на няма-што гэтыя меншасьці ўсімі сродкамі, аж да пагрому (яўрэйскія пагромы); цяпер нацыянальныя прывілеі зьнішчаны; роўнасьць нацыянальнасьцяй праведзена ў жыцьцё, а права нацыянальных меншасьцяй на вольнае нацыянальнае разьвіцьцё забясьпечана самым

характарам савецкага ладу, задача партыі ў адносінах да працоўных мас гэтых нацыянальных груп складаецца з таго, каб дапамагчы ім поўнасьцю скарыстаць гэтае забясьпечанае за імі права вольнага разьвіцьця“.

Аб гэтым таксама гаворыцца ў шэрагу пастаноў КП(б)Б.

Як-жа гэтая задача партыі выконвалася ў БССР у адносінах да яўрэйскіх працоўных мас? Вядома, савецкая Беларусь у першыя гады рэвалюцыі пэрыодычна знаходзілася пад рознымі акупацыямі. Па сёлах, гарадох і мястэчках пранесьліся белагвардзейскія банды Савінкава, Булак-Балаховіча, прайшла з сваім мячом белапольская армія. Працоўная частка яўрэйскага насельніцтва мястэчак БССР асабліва моцна пастрадала ад гэтых банд, якія падарвалі і да таго жабрацкае існаваньне яўрэйскіх працоўных і беднаты, падпарадкаваўшы іх праізволу і ўціску. Савецкая ўлада вызваліла гэтыя масы і дала ім магчымасьць заняцца вытворчай працай. Пры стварэньні савецкай улады, у прамежках між аднэй акупацыяй і другой, яўрэйская бедната, разам з беларускімі сялянамі і батракамі, разьмясьцілася на былых панскіх землях і прыспасобілася да зямляробства. Як узьніклі першыя яўрэйскія арцелі і пасёлкі? Ужо ў 1919 г. існавала 19 яўрэйскіх арцеляй і камун. А да 1924-1925 г. у БССР (бяз былой Гомельскай і Рэчыцкай акруг) налічвалася, па няпоўных вестках, 8.787 сем'яў яўрэйскіх сялян. У адносінах да дарэвалюцыйнага пэрыоду гэта лічба складае рост на 311 проц., што датычыцца зямлі, якая апрацоўваецца яўрэямі (у 1926 г.—42.216 дзесяцін),—рост на 305 проц. у адносінах да дарэвалюцыйнага часу. Да 1926 г., пасьля таго, як пачалася плянамерная работа па зямляўпарадкаваньню працоўных яўрэяў у БССР, лічба зямлі пад яўрэўскімі гаспадаркамі вельмі вырасла: толькі за два гады, 1925—26, у карыстаньне яўрэям-земляробам было перададзена 15.268 дзесяцін. Да вясны 1926 г. ужо існавала ў БССР 145 яўрэўскіх калгасаў з агульнага ліку 400 калгасаў у БССР. Роўналежна з разьмяшчэньнем на зямлі ў межах у БССР была аказана дапамога і тым групам яўрэйскіх працоўных і бядняцкаму насельніцтву, якія выказалі жаданьне перасяліцца ў другія раёны савецкага саюзу, вылучаныя для надзяленьня зямлёй працоўных яўрэяў (Крым, а потым Біра-Біджан).

Другой важнейшай зброяй палепшаньня эканамічнага становішча працоўных яўрэйскіх мас БССР паслужыла саматужна-прамысловая каапэрацыя. Сярод яўрэйскага насельніцтва БССР саматужнікі, па дадзеных 1926 г., складаюць 26,4 проц. Тут стаяла задача эканамічна дапамагчы гэтым масам, зьяднаць працоўныя масы саматужнікаў вакол кампартыі, грамадзка іх выхаваць і арганізаваць для колектыўнай сацыялістычнай працы. Праз арганізацыю працоўных саматужнікаў-адзіночак у саматужныя т-вы на паявых пачатках і асабліва праз стварэньне магутнай сыстэмы сампрамкаапэрацыі, якая значна ўзмацнілася за апошнія гады, масы яўрэйскіх працоўных саматужнікаў у большай сваёй частцы ўжо далучыліся да сацыялістычнага будаўніцтва.

Сампрамкаапэрацыя ў БССР налічвае 1000 арцеляй: на 1 мая 1930 г. была каапэравана па БССР каля 26.000 саматужнікаў. Сярод гэтай масы яўрэі складаюць большую палову [1]). Слаба параўнаўча тут паказана вёска, гэта хворае месца сампрамкаапэрацыі БССР.

---

[1]) Лічбы ўзяты з матар'ялу з Статаддзелу БКПС.

Дробныя на першых парах саматужныя арцелі сыстэматычна расьлі, а некаторыя з іх перайшлі ў вялікія прадпрыемствы. Існуюць арцелі па 400-500 чал., у шэрагу мястэчак ёсьць арцелі па 100 чал.

За апошнія гады ўтвараецца значны колькасны рост яўрэйскіх рабочых. Гэты рост знаходзіцца ў цеснай залежнасьці ад росту сацыялістычнай прамысловасьці БССР.

Імкненьне да вытворчасьці, асабліва яўрэйскай моладзі, вельмі вялікае ў БССР. У цэнзавай прамысловасьці БССР у 1930 г. налічваліся 16014 яўрэйскіх рабочых, што складае 36,0 проц. усяго складу рабочых і дае павялічэньне гэтай нацыянальнай групы рабочых на 2,5 проц. у параўнаньні з 1926 г. Асабліва прыметна ўзрасла колькасьць яўрэйскіх рабочых у тых галінах прамысловасьці, куды яўрэйскія рабочыя да рэвалюцыі абсалютна ня мелі, або амаль што ня мелі доступу: на электрастанцыях мы маем 10 проц. яўрэйскіх рабочых, у мэталёвай прамысловасьці—33,3 проц., у папяровай—8 проц., наглядаецца таксама прыметны рост яўрэйскіх рабочых у такіх галінах, як керамічная, шкляная.

Ва ўсім гэтым сказалася палітыка, якая няўхільна праводзіцца КП(б)Б, на зьнішчэньне тых ненармальнасьцяй, якія мелі месца да рэвалюцыі.

Праўда, ёсьць яшчэ такія галіны, як чыгункі, транспарт і нарсувязь, дзе процант яўрэяў вельмі малы: усяго яўрэяў на чыгунках 75 чал., што складае 2,2 проц. да ўсяго складу, такое-ж самае становішча прыблізна ў нарсувязі. Тут дырэктыва ЦК КП(б)Б аб уцягненьні яўрэйскіх рабочых выконваецца пакуль што нездавальняюча.

Усё гэта нямінуча павінна было прывесьці да аздараўленьня яўрэйскіх мас як у эканамічным сэнсе (палепшаньня іх матар'яльнага становішча, адчыненьня доступу ў прамысловасьць, паменшаньня беспрацоўя, палепшаньня становішча саматужнікаў, павялічэньня масы сялян-калгасьнікаў, падзеньня проц. гандляроў), так і да пасіленьня выхаваньня яўрэйскіх мас у духу партыі. Расьце культурная работа сярод яўрэйскіх працоўных мас на роднай мове, палепшыўся зьмест гэтай работы, ідзе разгорнутая барацьба супроць яўрэйскага клерыкалізму, супроць рэштак бундызму і сыёнізму [1]) і т. п.

Некалькі лічбаў з галіны культурнага будаўніцтва: пісьменнасьць яўрэйскага насельніцтва ў БССР дасягае 70 проц. Аб росьце яўрэйскіх культурных устаноў гавораць наступныя лічбы: у 1926-27 г. было 147 яўрэйскіх школ першай ступені і 59 сямігодак, а ў 1929-30 г.— 174 школы першай ступені і 80 сямігодак. Ёсьць 60 дашкольных устаноў, 35 вячэрніх школ, 2 пэдтэхнікумы, сельскагаспадарчы тэхнікум, 4 профтэхшколы, яўрэйскія аддзяленьні пры рабфаках, яўаддзяленьне пры пэдфаку БДУ, яўрэйскі сэктар пры Беларускай акадэміі навук, 2 яўрэйскія дзяржаўныя тэатры, дзяржаўная харавая студыя, 20 хат-чытальняў, шэраг бібліятэк і т. п. Расьце кадр яўрэйскіх пралетарскіх пісьменьнікаў, выданьні яўрэйскіх кніг за апошні год выраслі ў $3^1/_2$ разы ў параўнаньні з 1928-29 г. і складаюць 1000 друкаваных аркушаў. На новы 1930-31 навучальны год адчыняецца некалькі дзесяткаў новых яўрэйскіх навучальных устаноў, галоўным чынам, прафтэхнічнага тыпу, аддзяленьні пры рабфаках і пэдтэхнікумах і да т. п. Расьце сыстэматычна і друк на яўрэйскай мове выда-

[1]) Аб барацьбе з бундызмам належала-б пісаць асобна.

юцца 3 газэты і адзін літаратурна-палітычны часопіс. Разовы тыраж друку на яўрэйскай мове ў БССР дасягае 20.000 экзэмпляраў.

Гэтыя кароткія ітогі, зьяўляючыяся вынікам правільнай лініі КП(б)Б у галіне ленінскай нацыянальнай палітыкі, былі-б, аднак, няпоўнымі, калі-б мы не застанавіліся на той барацьбе, якую павінна была весьці партыя супроць рознага роду ўхілаў ад правільнай лініі ЎсеКП(б). На пытаньнях барацьбы з ухіламі ў нацпалітыцы завастрыў увагу XVI партыйны зьезд, аб ім гаварыў тав. Сталін у палітсправаздачы ЦК.

„Належала-б, сказаў тав. Сталін у сваім дакладзе на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б), раскрыць і выставіць на сьвет божы фізыяномію гэтых ухілаў“ (ухілаў у галіне нацыянальнага пытаньня — Х. Д.). Задача работнікаў у гэтай галіне зьмяшчаецца загэтым у тым, каб паказаць твар гэтых ухілаў у іх адчыненым праяўленьні, каб дапамагчы партыі весьці барацьбу з імі. Мы тут хочам, хаця-б у кароткіх рысах, даць характарыстыку ухілу, яўрэйскаму нацыяналізму, і паказаць формы яго праяўленьня за апошні пэрыод. Мы гэта будзем увязваць з становішчам спраў у БССР, хоць трэба адразу-ж агаварыцца, прыдзецца закрануць і нацыянал-апартуністычныя памылкі, утвораныя па-за Беларусьсю, бо адна з спэцыфічнасьцяй работы сярод яўрэйскіх працоўных заключаецца ў тым, што гэта нацыянальнасьць укроплена і сярод нацыянальных груп шэрагу рэспублік Савецкага саюзу; работа сярод гэтых мас, пагэтаму, вядзецца ня толькі ў БССР, і загэтым ухілы не зьяўляюцца чыста мясцовымі.

Правы апартунізм у яўрэйскай рабоце ў БССР найбольш яскрава праявіў сябе ў галіне эканамічнага будаўніцтва. Неабходна адзначыць, што тут мы маем праяўленьні ўхілаў да яўрэйскага нацыяналізму. Разьбярэмся ў гэтым ухіле.

„Ухіл да мясцовага нацыяналізму, гаворыць тав. Сталін, адбівае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пралетарыяту, іх імкненьне адасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне. Небясьпека гэтага ўхілу зьмяшчаецца ў тым, што ён культывуе буржуазны нацыяналізм, паслабляе адзінства працоўных СССР і грае на руку інтэрвэнцыяністым“.

Яўрэйскія нацыяналістыя ў нас ставяць перад сабою нацыяналістычныя задачы. У аднэй з пастаноў нашага яўбюро мела месца фармулёўка, што пры прыцягненьні ў арцелі (саматужна-прамысловыя) неабходна ўцягнуць яўрэйскіх гандляроў, выкарыстоўваючы іх вопыт, ініцыятыву і капітал. У шэрагу пастаноў 1 зьезду ўсебеларускага „ОЗЕТА“ аб эканамічным упарадкаваньні няма клясавай устаноўкі, а ідзе гутарка аб „яўрэйскім насельніцтве“ наогул. У рабоце самкустпрамкаапэрацыі існаваў погляд, што гэты род каапэрацыі ёсьць „чыста яўрэйская справа“.

Калі ЦК КПБ ударыў па гэтаму ўхілу, і з дапамогай самакрытыкі была ўзята пад абстрэл уся яўрэйская работа, было ясна выкрыта, што гэтая „бяскласавая“ па сутнасьці нацыянал-апартуністычная ўстаноўка мела сваім вынікам апартунізм і скрыўленьне клясавай лініі на практыцы. Шэраг яўрэйскіх саматужных арцеляй аказаліся засьмечанымі спэкулятыўна-нэпманскім элементам, у шэрагі яўрэйскіх калгасаў зацясаліся кулакі і контрабандысты, асобныя яўрэйскія калгасы замкнуліся і пачалі праяўляць тэндэнцыю акулач-

ваньня. Яўрэйскія-ж апартуністыя гэтага зусім не прыкмячалі, а калі партыя пачала біць па іх, выкрываючы сутнасьць іх „тэорыі“, яны і „иже с ними“ хацелі дэмагагічна „паглыбіць“ сваю лінію, заяўляючы, што барацьбой супроць бясклясавага падыходу да яўрэйскага насельніцтва партыя быццам бы зусім адмаўляецца ад эканамічнага ўпарадкаваньня яўрэйскіх працоўных і беднаты.

Ці-ж ня ясна, што гэтыя ўхілістыя не ратавалі за яўрэйскія працоўныя масы, а іменна за яўрэйскіх нэпманаў, за яўрэйскіх спэкулянтаў і кулакоў, за яўрэйскіх клерыкалаў, г. зн. у выніку за клясавага ворага. Іменна спэкулянта і кулака гэты, яўрэйскія нацыяналапартуністыя хацелі „ўключыць у сацыялізм“, „калектывізаваць“ іх, і гэтым шляхам ажыцьцёвіць іх „урастаньне ў сацыялізм“. Сваяасаблівае праламленьне бухарынскай праваапартуністычнай устаноўкі.

Гэтай устаноўкай яўрэйскія ўхілістыя адбілі „нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пралетарыяту“ (Сталін). Нацыяналістым гэтага толку прышлі на дапамогу крыкуны і панікеры, тыя работнікі, якія, пад уплывам чуждай партыі ідэолёгіі, сталі фактычна на такую-пазыцыю, падмацоўваючы свае погляды тым, што моў „мястэчка вымірае“, „яўрэйскае насельніцтва гіне“ і г. д., абыходзячы зусім вялізарнейшыя дасягненьні ў галіне палепшаньня становішча яўрэйскіх працоўных мас. Характэрным зьяўляецца ў гэтым напрамку выступленьне на XIII зьезьдзе КП(б)Б, які адбыўся напярэдадні XVI зьезду УсеКП(б), тав. Штэймана, які заявіў, што, замест дапамогі яўрэйскай беднаце, апошняя намі пасаджана ў Допр. Нацыяналістыя гэтага роду ня хочуць бачыць нашу станоўчую работу. А другія шукаюць вырашэньне „яўрэйскага пытаньня“ толькі ў стварэньні яўрэйскай аўтаномнай нацыянальнай рэспублікі: з вуснаў нацыяналістаў гэтага роду мы часта чуем заявы: „яўрэйскаму насельніцтву ў БССР дрэнна жывецца, і яўрэйская культура ў БССР ня мае магчымасьці росту; радыкальнае вырашэньне яўрэйскага пытаньня магчыма толькі ў межах ствараемай яўрэйскай рэспублікі“, пры чым замаскаванасьць ці адкрытасьць гэтых фармулёвак залежыць ад ступені палітычнага вопыту ці грамадзянскай мужнасьці таго ці іншага апартуністага...

Такім чынам, мы тут маем праламленьне „імкненьня аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый адасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне“ (Сталін).

Над гэтай фармулёўкай тав. Сталіна належыць глыбока задумацца.

Адзначаныя праяўленьні яўрэйскага нацыянал-апартунізму ў галіне эканамічнага будаўніцтва ня былі чыста беларускага паходжаньня. Аналёгічныя фармулёўкі і ўстаноўкі мы мелі, акрамя работнікаў БССР (Бейлін, Мар'ясін і інш.), таксама ў некаторых работнікаў цэнтральных устаноў (Чамярынскі, Мярэжын.).

„Калі мы гаворым аб уцягваньні ў соцыялізм, гаварыў т. Чамярынскі ў сваім дакладзе на ўсесаюзным зьезьдзе яўрэйскіх культработнікаў, — мы маем на ўвазе ўсё яўрэйскае насельніцтва“ Гэтую-ж фармулёўку тав. Чамярынскі паўтарыў у 1929 г. на беспартыйнай канфэрэнцыі яўрэйскіх рабочых у Маскве. „К еврейскому отечеству“—такі даў загаловак тав. Чамярынскі свайму артыкулу аб Біра-Біджане, заяўляючы, што мы ставім сабе задачу пераходу „ад лаўкі да сацыялізму“. А тав. Мярэжын, работнік Камзэту пры ЦВК СССР, у сваім дакладзе на 1 усесаюзным зьезьдзе „ОЗЕТА“ асабліва падкрэсьліваў неабходнасьць перасяленьня „1000-рублёвых яўрэяў“, г. зн. заможных элемэнтаў, малюючы гэтым групам пэрспэктыву інды-

відуальнага добрабыту. І калі тав. Мярэжын у 1929 годзе хацеў вызначыць стымул перасяленьня ў Біра-Біджан, дык ён гэтыя стымулы знайшоў у... лёзунгу „Да яўрэйскай бацькаўшчыны“, — бяз гэтага лёзунгу, па словах тав. Мярэжына, яўрэйская моладзь не пашла-б на перасяленьне ў Біра-Біджан. Стымулы сацыялістычнага будаўніцтва адышлі на задні плян, іх месца заняў „нацыянальны ідэал“, шавіністычная нэопалестынская ідэя.

На фоне такіх „установак“, разьвіваемых нацыянал-апартуністымі ў яўрэйскай рабоце, характэрны надрукаваныя ў 1930 г., пад блаславеньнем тав. Літвакова, рэдактара яўрэйскай газэты „Эмэс“, вершы яўрэйскага паэты Галкіна, дзе паэта, абараняючы „яўрэйскі народ“ ад „бальшавіцкіх барбараў“, падбадзёрвае нацыянал-апартунізм і заяўляе:

Не надо было вам нашу агонію узреть
При диком наследстве старом,
А сейчас мы в упряжку идем
И умираем от ваших поцелуев.

У чым сутнасьць гэтага паэтычнага „перла“? А сутнасьць вось у чым: калі вы, заяўляе паэта, а пад гэтым зваротам „вы“ ён бярэ усіх неяўрэяў, зьяўляючыхся, па яго думцы, ворагамі яўрэйскага народу, не маглі „узреть агонію“ яўрэйскага народа „пры дзікай спадчыне старой“, г. зн. пры царскай уладзе, дык гэта дасягнута іншым шляхам пры савецкай уладзе: „Зараз, заяўляе паэта (г. зн. пры сав. уладзе),—мы ў упражку ідзем і ўміраем ад вашых пацалункаў“. Інакш кажучы, паэта лічыць, што яўрэі пакорна ўпрагаліся ў воз рэвалюцыі, атрымаўшы ў аплату за гэта сьмерць праз пацалунак. Сам Літвакоў, які прэтэндуе на марксысцкага крытыка яўрэйскай літаратуры, у абароне гэтых яўна паклёпніцкіх контррэвалюцыйных вершаў, ужыў параўнаньне тых мас, якія разумеюцца ў вышэйпрыведзеных вершах з рымскімі гладыятарамі, якія зьвярнуліся да Цэзара з наступнымі словамі: „Здравствуй, Цезарь! Пришедшие на смерть приветствуют тебя“. Так Літвакоў хацеў давесьці, што яўрэйская буржуазія, ліквідуемая Кастрычнікавай рэвалюцыяй, вітае свайго грабаўшчыка і памірае, мірна пакараючыся сьмяротнаму ворагу. Карацей кажучы, яўна шавіністычная контррэвалюцыўная вылазка Галкіна ў літаратуры была паэтычнай ілюстрацыяй актывізацыі яўрэйскага шавінізму. Таму ня дзіўна, што нацыянал-апартуністы знайшоў неабходным стаць у абарону свайго аднадума. Змычка нацыянал-апартунізму з ваяўнічым шавінізмам пашла па ўсім фронце.

Побач з гэтым, мы мелі факты поўнай недаацэнкі работы сярод яўрэйскіх працоўных мас, адмаўленьне неабходнасьці яўрэйскага культурнага будаўніцтва, адмаўленьне спэцыфічных задач у адносінах да груп яўрэйскай беднаты, якія належалі раней да нявытворчага насельніцтва. Гэты нігілізм у яўрэйскай рабоце жывіць правы ўхіл, яму павінен быць дадзен жорсткі адпор.

Яўрэйскі нацыяналізм даў сябе адчуваць і ў галіне культурнай. У БССР мы мелі шэраг вылазак нац.-дэмакратычнага і нацыяналістычнага парадку. У друкаванай працы яўрэйскага сэктару Акадэміі навук удзельнічалі замежныя яўрэйскія буржуазныя вучоныя, з якімі асобныя вучоныя—камуністыя падтрымлівалі сувязь; у друкаванай працы асобных камуністых (Сосіс) беспартыйных прафэсароў праводзілася лінія струвістычнага аб'ектывізму; у гістарычных работах (Сосіс, Раўрэбе) марксысцкі клясавы аналіз часта падмяняўся на-

цыяналістычным дубноўскім[1]) поглядам. Яўрэйскі нац. дэмакратызм найбольш яскрава сябе праявіў тады, калі партыя разгарнула шырокую барацьбу з беларускім нац.-дэмакратызмам. Тады замаскаваны знадворна пасыўны яўрэйскі нац.-дэмакратызм сябе выкрыў тым, што яго носбіты ўзялі на сябе абарону... беларускіх нац.-дэмакратаў ад.. партыйнай крытыкі. Памянёны яўрэйскі прафэсар-камуністы Сосіс выступіў у абарону беларускага нац.-дэмакрата Марука, калі парткалектыў Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту вaздаў апошняму па яго нац.-дэмакратычных заслугах. Якое чульлівае адзінства нацыяналістаў усіх масьцей у імя... барацьбы з партыяй!

Ударам па яўрэйскаму нацыянал-дэмакратызму і нацыянал-апартунізму КП(б)Б ліквідавала меўшы месца прарыў па гэтай лініі, выхоўваючы масы на гэтым вуроку, згуртоўвала іх навакол генэральнай лініі партыі, прыняўшы меры да зьнішчэньня меўшых месца памылак і да ўзьняцьця тэмпу работы сярод яўрэйскіх працоўных мас. Ва ўсіх галінах партыя дабілася вялікіх посьпехаў у барацьбе з яўрэйскім нац.-дэмократызмам. Аднак барацьба з яўрэйскім нацыяналізмам ня можа быць паслаблена, наадварот, яна павінна быць ва многа разоў пасілена, асабліва павінна быць пасілена барацьба з замаскіраваным скрытым нацыяналізмам і з прымірэнцтвам да гэтага нацыяналізму ў яго усялякіх праявах.

III.

Каб давесьці, наколькі глыбока акапаўся яўрэйскі нацыяналізм, можна ўспамянуць хоць бы аб тым, што, напрыклад, часопіс „Трыбуна“[2]), цэнтральны ворган „Озета“, не знаходзіў патрэбным досыць выразна сказаць аб правым ухіле ў рабоце беларускага „Озета“. Здарылася як раз адваротнае таму, чаго трэба было чакаць: рэзалюцыі зьезду Беларускага „Озета“ былі сканцэнтраваны ЦП „Озета“ на сваім усесаюзным пленуме. Гэтая пастанова не адменена яшчэ і да сёньняшняга дня. У той-жа час друкуецца артыкул з заявай у такім сэнсе, што з БССР яўрэйская беднота вымушана бегчы ў іншыя рэспублікі СССР (артыкул Эйдэльмана), і што у БССР інтэрнацыяналізацыя яўрэйскіх калгасаў прывяла да развалу 80 проц. гэтых калгасаў (артыкул Гольдэ). Зусім яскрава, што гэтыя выступленьні ў іншай форме працягваюць наступ яўрэйскага нацыянал-апартунізму на правільную лінію партыі.

Другі прыклад: у газэце „Эмэс“, ад 8 жніўня г. г., зьявіўся артыкул т. Я. Левіна пад назвай „Патрабуецца рэвізія“. У гэтым артыкуле аўтар паўтарае заданьне правых апартуністых, ён заяўляе, што „эканамічныя мерапрыемствы камуністычнае партыі і савецкай улады ў адносінах да яўрэйскага насельніцтва па сутнасьці зьмяшчаюцца ў грунтоўнай перабудове сацыяльнага складу яўрэйскага насельніцтва...“ нам прыходзіцца сацыяльна рэканструяваць такі народ, які мае стагодныя традыцыі і прывычкі“. Далей аўтар заяўляе, што „большая частка яўрэйскага насельніцтва ўвесь час займалася гандлем Добрая канцэпцыя. „Яўрэйскі народ“ у сваёй большасьці складаецца з гандляроў, задача партыі—сацыяльна рэконструяваць“ гэтых гандляроў—з поля зроку аўтара зусім уплылі яўрэйскія рабочыя масы і

---

[1]) Дубноў—яўрэйскі буржуазны гісторык, махровы нацыяналіст, белы эмігрант, у буржуазным друку нясупынна даводзіць, што яўрэйства у СССР гіне ад палітыкі бальшавікоў.

[2]) Адказным рэдактарам гэтага часопісу зьяўляецца т. Дыманштэйн.

працоўныя масы, дзеля чаго адпала зусім задача дыфэрэнцыяцыі па клясаваму прынцыпу; задачы партыі ў адносінах да працоўных мас яўрэйскай нацыянальнасьці, так яскрава вызначаныя рэзалюцыямі партыйных зьездаў, аказваюцца ад сунутымі пад напорам нэпмана і кулака. У нас у БССР (ці-ж БССР зьяўляецца выключэньнем?) ёсьць дастаткова яўрэйскай працоўнай беднаты: некваліфікаваных саматужнікаў і іх дзяцей, інвалідаў з яўрэйскай беднаты, гарадзкая дэклясаваная беднага з працоўных пластоў, якія адчуваюць патрэбу ўэканамічнай дапамозе. Гэтая маса адчувае патрэбу ў эканамічным упарадкаваньні, А аўтар вышэйцытаванага артыкулу гэту масу зусім ігнаруе. Ён бачыць толькі гандляроў, якія ў яго чамусь ці „вдруг“ вырасьлі ў 1930 г. у „большую частку“ яўрэйскага насельніцтва, Пісаў-жа гэты артыкул Я. Левін, сэкратар Цэнтральнага праўленьня „Озета“. Рэдакцыя-ж газэты „Эмэс“, мабыць, цалкам з ім згадзілася ў яго „прынцыповай устаноўцы“ на „большую гандлёвую частку“ яўрэйскага насельніцтва. [1])

Значыць некаторыя работнікі „нічому не навучыліся і нічога не забылі“, ня гледзячы на жорсткі агонь, які быў адкрыт па правых фармулёўках і справах, якія мелі месца ў яўрабоце ў БССР. Бальшавіцкая самакрытыка яшчэ не пранізала сабою дастаткова дасканальна гэтую работу. Яўрэйскі нацыяналізм моцна акапаўся.

Дадамо, што яўрэйскі нацыяналізм і правы апартунізм маюць добрую глебу яшчэ і таму, што кадр яўрэйскіх работнікаў, „нацыяналаў“, вельмі тонкі, што сярод гэтага кадру ёсьць значны процант былых бундаўцаў і выхадцаў з іншых партый. Таму, калі мы пачынаем дакапвацца карэньняў праваапартуністычных памылак у яўрабоце, дык побач з агульнымі зьявамі сустракаемся таксама з перажыткамі бундызму і сыёнізму, тэрытарыялізму, з рэцыдывамі гэтых ідэялёгічных форм. Калі сыёнізм і тэрытарыялізм ідуць пад сьцягам стварэньня „яўрэйскага ачагу“, г. зн. яўрэйскай адасобленай дзяржавы на буржуазна-дэмакратычных пачатках, дык яўрэйскія шавіністыя ў нашай краіне, перафразуючы гэты лёзунг на савецкі лад, завуць да яўрэйскай бацькаўшчыны“. Калі бундаўцы гаварылі, што пралетарская дыктатура ня можа агульнай сыстэмай сваёй забясьпечыць разьвіцьцё культур працоўных масусіх нацыянальнасьцяй, дык нацыяналістычныя элемэнты ў нас таксама лічаць, што яўрэйскае культурнабудаўніцтва павінна быць якойсьці манаполіяй яўработнікаў, яўсэкцыі.

## IV.

Яўрэйскія нацыяналістыя, правыя апартуністыя і прымірэнцы да іх імкнуліся дыскрэдытаваць лінію партыі на разьвіцьцё калгаснага руху. Яны хацелі даказаць правал гэтага гістарычнага павароту на фактычным становішчы з яўрэйскімі калгасамі. Зьдзекуючыся над лініяй партыі на клясавую дыфэрэнцыяцыю пры камплектаваньні яўрэйскіх калгасаў, яны прарочаскі хацелі даказаць, што: 1) у яўрэйскія калгасы няма каму ісьці, акрамя лішэнцаў; 2) інтэрнацыяналізацыя калгасаў адмоўна адаб'ецца на становішчы гэтых калгасаў: „калгасьнікі разьбягуцца;“ 3) прыліву ў яўрэйскія калгасы няма чаго чакаць і 4) няма чаго зварочваць асаблівую ўвагу на існуючыя калгасы.

---

[1]) Па сутнасці артыкулу Левіна мы тут ня маем магчымасьці гаварыць; адзначым толькі, што ён адкрыта прапануе рэвізаваць лінію партыі ў эканамічнай рабоце сярод яўрэйскіх працоўных.

На самай-жа справе ішло наадварот, і прадведаньні яўрэйскіх нацыянал-апартуністых панесьлі крах па усіх лініях.

Па-першае, аказалася дастаткова беднякоў і дэклясаваных элемэнтаў з пралетарскіх пластоў, а таксама бяднейшых элемэнтаў з былых дробных гандляроў, якія пайшлі ў калгасы. За апошні год яўрэйскія калгасы мелі невялікі прыліў. Як ні біліся над пытаньнем камплектаваньня былыя кіраўнікі яўрэйскай работы у БССР, ніяк гэтага пытаньня не маглі вырашыць. А хваля серадняцка-бядняцкага руху ў калгасы змыла з шляху ўсе перашкоды і дала лепшы прыклад таго, як калгасны рух у ходзе сваім, пры ўлічэньні складанай нац. абстаноўкі, дапамагае вырашэньню нацыянальнага пытаньня.

Калі паглядзець на фактычнае становішча справы і падлічыць посьпехі першай хвалі масавай калектывізацыі ў БССР і яе адбіцьця на яўрэйскіх працоўных і бядняцкіх масах, дык вынікі будуць яўна не на карысьць правых апартуністых. Мы маем наступныя лічбы: па 5 акругах БССР на I-V—29 г., г. зн. да пэрыяду масавай калектывізацыі, было 1576 яўрэйскіх семьяў—калгасьнікаў; на I-V — 30 г. у гэтых-жа акругах мы ўжо мелі 3532 яўрэйскія сямействы, г. зн. за адзін год рост на 123 проц. Гэты колькасны рост ня вычэрпвае ўсяго малюнку, бо разам з гэтым мы маем узбуйненьне яўрэйскіх калгасаў, рост агульных (беларускіх) калгасаў і за лік яўрэйскай беднаты, перамогу замкнутасьці, нацыянальнай і эканамічнай, якая мела месца ў шэрагу яўрэйскіх калгасаў, г. зн., мы ў агуле маем таксама прыкметнае якаснае палепшаньне яўрэйскіх калгасаў. Разам з гэтым мы маем шэраг дасягненьняў таксама ў галіне перасяленьня яўрэйскіх працоўных і дэклясаванай беднаты у Біра-Біджан і Крым. Ня гледзячы на шэраг „левых“ памылак, дапушчаных пры правядзеньні інтэрнацыяналізацыі яўрэйскіх калгасаў (слабасьць падрыхтоўчай работы, факты парушэньня дырэктыў партыі аб дабраахвотнасьці і г. д.), ня гледзячы на гэтыя „левыя“ памылкі, мы мелі шэраг выпадкаў, калі ініцыятыва інтэрнацыяналізацыі яўрэйскіх калгасаў выходзіла з асяродзьдзя яўрэйскіх калгасьнікаў, што зьяўляецца лепшым доказам іх высокай сьвядомасьці і адданасьці лініі партыі. Ці патрэбна даводзіць, што працэс інтэрнацыяналізацыі і зьнішчэньня замкнутасьці і нацыянальнай абмежаванасьці ў асяродзьдзі яўрэйскіх калгасьнікаў зьяўляецца ўдарам па праваму апартунізму і па яўрэйскаму нацыяналізму: недарма апошнія так заўзята супраціўляліся правядзенью партыйнай лініі ў гэтай галіне.

„Левы“ загіб прышоў на дапамогу праваму ўхілу ня толькі ў галіне калектывізацыі. Лявацкія фразы і справы былі праяўлены таксама ў галіне раскулачваньня і муніцыпалізацыі. Гэтыя лявацкія справы пагражалі тымі-ж вынікамі, што і правы апартунізм, бо яны фактычнае вялі да таго, каб пасварыць працоўнага рамесьніка і местачковую бедната з савецкай уладай. У гэтым быў іх аб'ектыўны сэнс.

Меліся выпадкі, калі местачковая бедната без усялякай падставы, без дыфэрэнцыяванага падыходу і „вопреки“ агульным дырэктывам, залічвалася ў разрад лішэнцаў і гэтым аўтаматычна выкідвалася з кустарцеляй і калгасаў, ці не дапускалася туды. Таксама і ў галіне пазбаўленьня права голасу.

Жадаючы застрахаваць сябе ад абвінавачваньня ў правым ухіле, некаторыя работнікі ў шэрагу мястэчак дакаціліся да скажэньня нац.-палітыкі партыі ў адносіне да яўрэйскага насельніцтва, перашкодзіўшы,

у ходзе калектывізацыі, уступленьню ў калгасы тае яўрэйскае беднаты, аб якой ідзе гутарка ў дырэктывах ЦК і г. д. і да т. п.

Гэтыя „левыя“ загібы, якія, граючы на руку праваму ўхілу, мелі падчас яўна контррэвалюцыйны характар, атрымалі свой яркі выраз у тых брыдотах, якія былі дапушчаны паасобнымі мясцовымі арганізацыямі пры раскулачваньні. У шэрагу мястэчак шчырыя „левыя“ загібшчыкі раскулачылі саматужнікаў, нарабілі шэраг брыдот пры абкладаньні падаткам, пры муніцыпалізацыі і да т. п. Прыкладам такіх дзеяньняў служыць Плешчаніцкая справа. Плешчаніцкі РВК (Менскае акругі) муніцыпалізаваў бядняцкія хаткі, ён пераабкладаў вялікімі сумамі бедных саматужнікаў, „злосных неплацельшчыкаў“ такога рода судзілі і арыштоўвалі, утваралі аблавы на неплацельшчыкаў, пад кіраўніцтвам самога старшыні РВК Якубовіча; адабраныя рэчы ў неплацальшчыкаў зьбіралі на склад. Падобнага роду факты мелі месца ў некаторых іншых мястэчках БССР.

Адсюль выцякае задача барацьбы на два франты. Недаацэнка важнасьці гэтай барацьбы ўжо сама па сабе ёсьць апартунізм. У сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы яўрэйскі нацыяналізм наглее, ён шукае сабе дастаткова сяброў таксама на „левым“ флангу. Барацьба з гэтым ухілам ёсьць неад'емная, арганічная частка барацьбы за генэральную лінію партыі. Праводзячы барацьбу супроць велікарасейскага шавінізму, як галоўнай небясьпекі ў нацпалітыцы на даным этапе, мы павінны непаслабна праводзіць барацьбу з мясцовым шавінізмам, адным з разнастайнасьцяй якога ёсьць яўрэйскі нацыяналізм, „выкрыць і выставіць на сьвет божы фізіяномію гэтых ухілаў“ (Сталін). Узмацняючы барацьбу з беларускім контррэвалюцыйным нац.-дэмакратызмам, неабходна ўзмацніць барацьбу з яўрэйскім шавінізмам, разам з гэтым пасіліць барацьбу супроць бесхрабетнасьці ў барацьбе з правым апартунізмам і нацыяналізмам у яўрэйскай рабоце.

## V.

БССР ляжыць у блізкім „суседзтве“ з фашысцкай Польшчай. Эўропейская нац.-дэмакратычная і сацыял-фашысцкая пячаць на тым баку нясупынна сочыць за работай, якая праводзіцца партыяй і Савецкай уладай сярод яўрэйскіх мас у СССР. Служачы інтарэсам польскага фашызму, гэты друк лезе з скуры вон, каб даказаць, што ў Савецкім саюзе „3 мільёны яўрэяў умірае з голаду“, што ў прыватнасьці ў БССР местачковае насельніцтва „гіне“. Асабліва гэты друк імкнуўся скарыстаць барацьбу КП(б)Б супроць яўрэйскага нацыянал-апартунізму, робячы з гэтай барацьбы „дэмагагічны вывад“ аб тым, што партыя і савецкая ўлада адмовіліся ад дапамогі яўрэйскай дэклясаванай беднаце. На гэты раз хор прадажнага, вернага Пілсудзкаму яўрэйскага друку быў так чульліва салідаран, што нават кожнаму палітычнаму „младенцу“ стала ясна, якая сувязь існуе паміж унутранай палітыкай зьнясіленьня яўрэйскіх мас, якая сыстэматычна праводзіцца Пілсудзкім, і паміж гэтымі кіўкамі яўрэйскага друку Пілсудзкага ў бок СССР: „не біянтэжцеся, моў, становішчам яўрэйскіх мас у Польшчы: у СССР справа горш абстаіць“. Адсюль ясна відаць, што яўрэйскі буржуазны друк у Польшчы арыентуецца на інтэрвэнцкую палітыку Пілсудзкага і Пуанкарэ.

Орган польскага „Бунда“,—„Фолгсцайтунг“,—асабліва адлічыўся ў бязладавым тлумачэньні пастановы ЦК УсеКП(б) аб ліквідацыі нацсэкцыі. Бундаўцы ў Польшчы, ругаючы „яўсэкцыяністаў“, у душы

хавалі мару, што яўрэйская сэкцыя будзе тым востравам унутры УсеКП(б), які захавае тыя ці іншыя элемэнты бундаўскага сэпаратызму і нацыянальнай замкнутасьці ўнутры УсеКП(б), унутры Савецкага саюзу, што, т. ч., бундаўскія традыцыі „пераўзброяць“ УсеКП. Сьмела вельмі. Гэта надзея ў нейкім родзе магла заснавацца на дакумэнце, які быў напісан апошнімі бундаўскімі „магіканамі“ ў СССР, калі яны ўступалі ў УсеКП(б) (1921 г.); яны тады ў сваёй адозьве да яўрэйскіх рабочых пісалі наступнае:

> „Мы і зараз лічым, што калі-б у адзінай цэнтралізаванай кампартыі заўстаўся-б „Бунд“, нам лягчэй і лепш было-б арганізаваць яўрэйскіх рабочых, увесьці іх у камунізм, дапамагчы ім будаваць яўрэйскае жыцьцё на новых пачатках“ (Наш курсіў—Х. Д.).

„Надзеі бундаўцаў 1921 г. „рухнулі“, таксама „рухнулі“ і надзеі польскіх бундаўцаў. Недарма яны паднялі вой па „памершай яўсэкцыі“, скардзячыся, што цяпер, калі і „яўсэкцыі ужо ня стала“, „яўрэйскаму пралетарыяту“ і „яўрейскай культуры“ пагражае пагібель. А бундавец Літвак проста горкімі сьлязьмі заплакаў; ён у сацыял-фашыстаўскім Нью-Ёрскім „Форвэрсьце“ пісаў, што УсеКП(б) сваёй пастановай аб ліквідацыі нацсэкцыі дае прыклад прыгнечаньня яўрэйскага народу, бо, бачыце, усе нацыі ў Савецкім саюзе будуць мець свае асобныя партыі (маюцца на ўвазе рэспубліканскія КП), „толькі яўрэі“ губяць усялякую самастойнасьць. Ён знайшоў выпадак для абвінавачваньня УсеКП(б) у... антысэмітызьме.

Але ці-ж толькі нацдэмакраты і сацфашыстыя за мяжой так ставілі пытаньне?

Правыя элемэнты ў партыі таксама разважалі ў фальшывым сэнсе ліквідацыю яўрэйскай сэкцыі, і тут сказаліся сэкцыоніцкія (сэпаратыстычныя) навыкі і тэндэнцыі некаторых таварышоў. Варожы-ж нам элемэнт у краіне загаварыў па гэтаму выпадку „простым“ языком. Вось характэрны ліст, атрыманы пасьля ліквідацыі яўбюро на адрас рэдактара яўрэйскай газэты „Октябрь“, орган ЦК КП(б)Б:

> „Паважаны рэдактар газэты „Октябрь“ Гомон (гоман—гэта ўвасабленьне зла — Х. Д.) зьяўляецца благадзецелем у параўнаньні з вашай яўсэкцыяй. Вы пагромшчыкі. Надыйдзе час, калі мы будзем скакаць у вашай крыві, і толькі ў вашай яўрэйскай крыві, бо расейцы ня могуць рабіць таго, што Вы робіце.. Пурышкевіч і Замыслоўскі былі благадзецелямі ў параўнаньні з Вамі. Цяпер трошкі паменьшыцца Ваша сьпесь, канец сэкцыі. Ваша кроў яшчэ будзе праліта; за кроў равінаў Вам будзе адомшчана“.

Гэта заява кулацка-клерыкальнага падгалоску.

Імкненьне варожых элемэнтаў абняславіць агульна мінулую дзейнасьць яўсэкцыі і „яўр. камуністых“ зьяўляецца прызнакам актывізацыі клясава-варожых нам элемэнтаў.

Яўсэкцыя адыграла ў свой час ролю зброі партыі, але гэта пройдзены этап, і партыя ў нацсэкцыях больш не адчувае патрэбы. Аднак, было ня мала сярод яўрэйскіх работнікаў і сярод яўрэйскай інтэлігенцыі людзей, якія расцэньвалі ліквідацыю яўсэкцыі ня як крок партыі ўперад, а як крок назад. У гэтых хваравітых настроях адыграў нямалую ролю існуючы сярод некаторых таварышоў шкодны

погляд, што яўсэкцыя—гэта „маленькі яўрэйскі ЦК“, а работнікі яўсэкцыі—„упаўнаважаныя партыі па яўрэйскіх справах“. Гэтыя тэндэнцыі, адрыжкі бундызму, атрымалі яшчэ адзін руйнуючы ўдар ліквідацыяй яўсэкцыі. Пагэтаму правільна думаюць тыя таварышы, якія выступаюць супроць „яўсэкцыянісцкага“ сэпаратызму. Аднак, няправільна будзе заднім числом адмаўляць станоўчую ролю нацсэкцыі, у гэтым ліку і яўсэкцыі, у мінулым. Калі-б гэтыя сэкцыі ня былі патрэбны раней, дык партыя іх бы даўно ліквідавала. Заяўляючыя зараз, што нацсэкцыі ўжо даўно павінны былі быць ліквідаваны, фактычна сьцьвярджаюць адно і тое-ж з нацыяналістымі, бо з такога погляду нямінуча сьледуе вывад, што партыя не займалася нацменработай, паколькі яна нават не прыкмячала наяўнасьці няпатрэбнага апаратачнага прыдатку, нацсэкцыі. Пагэтаму нельга да гэтага пытаньня падыйсьці так, як гэта робіць т. Агурскі ў адным з нумароў „Бальшавіка Беларусі“. Яшчэ больш тав. Агурскі паглыбляе сваю памылку, рalі ён нацыянал-апартунізм і адрыжкі бундызму групы яўрэйскіх аработнікаў ператварае нібы ў хваробу яўсэкцыі, г. зн. у хваробу кпарату партыі. Гэта страшэнная памылка.

Рашуча адхіляючы такую ацэнку работы нацсэкцыі і ў прыватнасьці яўбюро, сьцьвярджаючы, наадварот, што ў мінулым нацсэкцыі саслужылі вялікую службу ў справе ўнядрэньня бальшавіцкіх ідэй сярод яўрэйскіх рабочых і працоўных, ажыцьцяўляючы нацыянальную палітыку партыі сярод гэтых мас. Патрэбна асудзіць сапраўды нацыяналістычныя настроі ў адносіне да пастановы ЦК УсеКП(б) аб ліквідацыі нацсэкцыі.

## VI.

КП(б)Б мае шэраг буйных дасягненьняў у рабоце сярод яўрэйскіх працоўных. ЦК КП(б)Б правёў вялікую работу ў барацьбе з яўрэйскім нацыяналізмам. Але, разам з гэтым, належыць сказаць, што мы маем у шэрагу галін работы „нажніцы“ паміж запатрабаваньнямі і іх задавальненьнем. Гэта зьяўляецца вынікам слабасьці кіраўніцтва яўрэйскай работай з боку мясцовых арганізацый. Гэтая работа зараз ускладняецца ў сувязі з ліквідацыяй акруг, бо кіраўніцтва яўрэйскай работай у Беларусі ў асноўным было згрупавана ў акругах. Належыць пагэтаму ўзмацніць тэмп усяе работы і забясьпечыць далейшае пасьпяховае вырашэньне пытаньняў эканамічнага ўпарадкаваньня яўрэйскіх працоўных і беднаты і культурнага будаўніцтва, нацыянальнага па форме і сацыялістычнага па зьместу. Цэлы шэраг пытаньняў ставіцца зараз па-новаму. Адчыняюцца новыя магчымасьці; стаіць задача перасяленьня вялікіх мас працоўных і беднаты ў Біра-Біджан і Крым. Усё гэта патрабуе не равізіі правільнай партыйнай лініі, а напружанай работы партарганізацый імення ў духе рашэньняў XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б.

Усякая недаацэнка работы рэспубліканскіх кампартый на месцы пбо перасяленчаскай работы ня можа быць расцэнена інакш, як вравы апартунізм, бо яно аб'ектыўна працуе ў інтарэсах клясавага порага, у інтарэсах кулака і нэпмана. Тое-ж самае адносіцца і да пытаньняў культурнага будаўніцтва, нацыянальнага па форме, але пралетарскага па зьместу. Трэба сказаць, што на галіну культуры зяпер патрэбна зьвярнуць больш увагі, чым да гэтых пор. Гэтая садача дыктуецца неабходнасьцю ўзмацненьня барацьбы за камуністычную ідэалёгію супроць варожай ідэалёгіі, супроць шавінізму.

Праводзячы барацьбу з яўрэйскім шавінізмам, нам патрэбна ўлічыць, што мы тут маем справу з „паўзучым“, мімікруючым ворагам.

Атрымоўваючы ўдар за ўдарам, правы апартунізм манэўруе і мяняе сваю тактыку і свае лёзунгі „ў залежнасьці ад абставін“. Тое-ж самае ўтвараецца і з „паўзучымі ўхіламі“. Яўрэйскі шавінізм за апошні час меняе тактыку. Аглушаны нябачным ростам сацыялізму ў краіне, клясавы вораг спрабуе знайсьці новыя аргуманты супроць наступаючага сацыялізму. Губячы магчымасьць спэкуляваць на эканамічнае разарэньне яўрэйскіх мас, бо апошні пэрыод дае зрух у напрамку вырашэньня пытаньня эканамічнага ўпарадкаваньня яўрэйскіх працоўных і дэклясаванай беднаты, „улічваючы“ ўсё гэта, клясавы вораг бярэцца за зброю значна патрапаную, але тым ня менш дастаткова небясьпечную ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы: за аргумант „асыміляцыі“.

Яўрэйскія нацдэмакраты і шавіністыя заяўляюць: „вы гаворыце аб дасягненьнях нацпалітыкі, але на справе вы ніякай нацпалітыкі не ажыцьцяўляеце, вы не разьвіваеце нацыянальнае культуры, а наадварот, нішчыце гэтую культуру, праводзіце палітыку асыміляцыі (зьліяньня) яўрэйскіх мас з навакольным насельніцтвам, пазбаўляеце магчымасьці гэтыя масы разьвівацца і расьці ў культурных адносінах“. Вось аб чым загаварылі яўрэйскія шавіністыя за апошні час. Іх намер зусім яскравы: яны хочуць сказаць, што масавае ўцягваньне ў прамысловасьць яўрэйскай працоўнай моладзі, інтэрнацыяналізацыя калгасаў, паток яўрэйскіх рабочых у індустрыяльныя цэнтры нашага саюзу—усе гэтыя працэсы ўцягваньня яўрэйскіх працоўных у соц. будаўніцтва яны хочуць скампрамэнтаваць, даказваючы, што гэты працэс мае сваім ракавым вынікам асыміляцыю яўрэйскіх мас. Бадзёрачы нацыяналістычнае пачуцьцё, яўрэйскія шавіністыя сваім новым аргумантам імкнуцца расхаладзіць пачуцьцё энтузыязму соц. будаўніцтва, якое ўсё больш і больш прапітвае шырокія масы яўрэйскіх рабочых і працоўных. У гэтым сэнсе характарны ліст нейкага Бэрмана, адрасаваны на імя Наркамасьветы, якому дадзен загаловак „Пытаньне аб яўрэйскай мове“, але напісаны ён на расейскай мове. Аўтар заяўляе: „Кастрычнікавая рэвалюцыя дала нам толькі хлеб, але не дала, як аказалася, ні ідэалаў, ні пашаны з боку іншых народаў, ні бясьпечнасьці, ні роўніцтва“. У чым-жа справа, чаму так заплакаў „прадстаўнік яўрэйскага народу“? Аказваецца, вось чаму: „Нам, гаворыць ён далей, не хапае таго, што маюць іншыя народы... (мовы сваей, г. дзяржавы бясьпечнасьці)“. Утвараецца культурная і палітычная асыміляцыя яўрэяў, пагэтаму далоў Кастрычнікавую рэвалюцыю. І вось контрпраграма гэтага „караспандэнта“: „неабходна, прапануе ён, пераведці усе яўрэйскія пэдтэхнікумы на дрэўняяўрэйскую мову, утварыць яўрэйскую акадэмію навук, ЕССР, яўрэйскія вайсковыя школы, яўрэйскую армію, інак нас, яўрэяў, праз 10 год ня стане зусім“. Разгорнутая праграма яўрэйскага нацдэмакратызму, ці-ж няпраўда. Пабудавана-ж гэтая праграма на рэвізіі савецкага ладу з пункту гледжаньня нацпалітыкі, „базуючыся“ на тым, што савецкая ўлада вядзе палітыку „асыміляцыі яўрэйскага народу“.

Тлумачыць прыведзеныя цытаты няма неабходнасьці. Іх сэнс вельмі яскравы. Але таксама яскравы з гэтага лісту і той бясспрэчны факт, што яўрэйскі шавінізм згубіў сваю базу і шукае новую зброю. І сапраўды, мацнейшым ударам па шавінізму зьяўляецца той факт, што працоўныя пласты яўрэйскага насельніцтва (саматужнікі і г. д.) эканамічна і матар'яльна ўпарадкаваліся і ўпарадкоўваюцца на базе наступленьня сацыялізму па ўсяму фронту, і што расьце культурнае

будаўніцтва і г. д. Ускладненьне задач па культурнаму абслугоўваньню і палітычнаму выхаваньню новых кадраў яўрэйскіх рабочых і працоўных на даным этапе хоча скарыстаць клясавы вораг. Не адмаўляючыся ад сваёй барацьбы наогул, ён пасіляе сваё наступленьне на фронце культуры. Пагэтаму належыць расшыфраваць ворага і даць яму адпор, ускрываючы варожую сутнасьць гэтых размаўленьняў аб асыміляцыі і т. п. Лепшай зброяй барацьбы тут зьяўляецца наша работа па ўзмацненьню культурнай і масавай выхаваўчай работы сярод яўрэйскіх рабочых і працоўных мас побач з эканамічнай работай. На гэты конт маецца шэраг найлепшых пастаноў ЦК КП(б)Б. Праводзячы барацьбу за правядзеньне гэтых дырэктыў і супроць яўрэйскага шавінізму, неабходна ўдарыць з усёй бязьлітаснасьцю па тых, якія, прымаючы на словах гэтыя рэзалюцыі, ня робяць неабходнае для іх правядзеньня і такім чынам вядуць варожую палітыку, застаўляючы з прычыны гэтага лазейку для клясавага ворага.

---

В. Шчарбакоў

# Пытаньні культуры і асьветы на XIII зьезьдзе КП(б)Б[1])

## IV. Тэорэтычная падрыхтоўка членаў партыі і аб становішчы партасьветы

Вялікая колькасьць пытаньняў паўстала перад зьездам, якія зьвязаны з правадзімай намі работай у галіне партасьветы, з тэорэтычнай падрыхтоўкай нашых партыйцаў, якія сядзяць на кіруючай рабоце. У пачатку сваёй работы нам прыходзілася казаць аб тым, наколькі складаныя ёсьць тыя абставіны, у якіх нам прыходзіцца працаваць, будаваць новую грамаду, соцыялізм. Ня гледзячы на ўсю гэтую складанасьць, ня гледзячы на вялізарныя цяжкасьці, мы ідзем ад аднэй перамогі да другое, мы ажыцьцяўляем пасьпяхова тыя задачы, якія пастаўлены перад намі пролетарскай рэволюцыяй. Комуністычная партыя вядзе рабочую клясу, усіх працоўных па правільнаму шляху. Пад яе кіраўніцтвам мы дасяглі тых вынікаў, якія так яскрава адлюстроўваліся і на XIII зьезьдзе КП(б)Б і на XVI зьезьдзе УсеКП(б).

Дзе сакрэт гэтых вялізарных нашых перамог у галіне соцыялістычнага будаўніцтва? Дзе сакрэт таго, што мы з кожным годам узмацняем дыктатуру пролетарыяту, што мы ідзем па правільнаму шляху, па шляху генэральнай лініі нашай партыі? Сакрэт гэты заключаецца ня толькі ў тым, што справе пролетарскай рэволюцыі, справе барацьбы за комунізм аддана рабочая кляса СССР. Не, гэты сакрэт захоўваецца яшчэ і ў тым, што наша партыя ў цэлым, штаб нашай партыі, наш Цэнтральны комітэт усё свае кіраўніцтва пабудоваў на тым вялізарнейшым вучэньні, якое нам пакінулі Маркс, Энгельс і Ленін. Вучэньне асновапаложнікаў навуковага комунізму, вучэньне аб пролетарскай рэволюцыі Леніна служыць ў руках нашай партыі і яе ЦК тым вялізарнейшым сродкам, з дапамогаю якога толькі і дзякуючы якому магчыма была перамога пролетарскай рэволюцыі, магчыма тое вялізарнейшае будаўніцтва, наглядчікамі і ўдзельнікамі якога мы зьяўляемся. На маркса-ленінскім вучэньні пабудавана ўся наша програма дзейнічаньня, усе нашы пляны будаўніцтва, увесь генэральны плян нашага ходу да комунізму.

Але калі наша партыя цалкам, кіруючы штаб комуністычнай партыі прасякнуты гэтым вялізарнейшым вучэньнем строга, прытрымліваюцца яго, дык гэтага ніяк нельга сказаць аб аграмадных масах нашых членаў партыі, асабліва нядаўна прынятых у партыю, якія працуюць на мясцох, якія на прадпрыемствах, у вёсках, калгасах і саўгасах павінны праводзіць ў жыцьцё ўсе рашэньні партыі і яе Цэнтральнага Камітэту. Аграмадныя пласты радавых членаў партыі, нізавых партыйных работнікаў ня маюць яшчэ адпаведнай падрыхтоўкі ў галіне маркса-ленінскага вучэньня, значная частка сярод іх яшчэ недастаткова знаёмы з

[1]) Канец. Пачатак гл. № 8-9, стар. 58-71.

элемэнтарнымі пытаньнямі гэтага вучэньня. Яны працуюць, яны праводзяць рашэньні партыі ў жыцьцё часта так, як ім паказвае іх эвалюцыйнае бальшавіцкае сумленьне. Узровень падрыхтоўкі нашых нізавых партыйцаў вельмі нізкі. Адсюль цэлы шэраг памылак, адсюль часта без усялякага суб'ектыўнага жаданьня гэтыя партыйцы робяць грубейшыя памылкі, саскалзываюць з генэральнай лініі нашай партыі.

„У чым асноўны корань памылак у пытаньнях колектывізацыі на мясцох? У тым, што мы недастаткова палітычна падрыхтаваліся, што наш актыў, які ўзяўся праводзіць гэтую работу, надзвычай важную палітычную работу, у дастатковай ступені ня ведаў таго вучэньня, аб чым гаварыў Ленін".

Так тлумачыць памылкі нашых нізавых партыйных організацый і паасобных камуністых на мясцох у пытаньні калектывізацыі т. Каравін, выступаўшы на зьезьдзе. Бясспрэчна, што прычыны гэтых памылак хаваюцца ня толькі ў гэтым, але адна з галоўнейшых прычын захоўваецца і ў тым, што політычная і тэорэтычная падрыхтоўка нашых нізавых партыйных работнікаў і радавых партыйцаў вельмі нізкая.

У сваёй рабоце аб асьвеце тэорэтычнай падрыхтоўкі членаў партыі, у рабоце па партасьвеце мы ў працягу мінулага году мелі вельмі многа недахопаў. Многія нашы політшколы, саўпартшколы і гурткі, якія ўваходзяць ў сетку партасьветы, амаль зусім не працавалі. Завочнае навучаньне было пастаўлена з рук вон кепска. Самі партыйныя работнікі, за малым выключэньнем, не працавалі над павышэньнем свайго політычнага ўзроўню.

„Трэба сказаць, гаварыў тав. Эльман, што мы партвучобу ў гэтым годзе зусім правалілі, і мы, таварышы, павінны ў надыходзячы зімовы пэрыод партвучобу паставіць так, каб можна было кожнаму вясковаму партыйцу прайсьці, як сьлед, гэтую вучобу".

„Другое пытаньне, казаў тав. Сысоў, гэта адносна тэорэтычнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі тых кадраў работнікаў, якія працуюць на вёсцы. Ужо ня раз канстатавалася аб тым, што батрацка-бядняцкія масы вёскі значна вырасьлі і часамі стаяць па сваім разьвіцьці вышэй некаторых вясковых комуністых. Гэта патрабуе неадкладных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы вясковых комуністых для далейшай работы па ажыцьцяўленьню задач партыі на вёсцы".

Аб гэтым у сваім выступленьні т. Ларыс гаварыў:

„Партыйная асьвета за мінулы пэрыод, як ужо было канстатавана, была пастаўлена ня зусім добра, між тым як партасьвета для ўсёй нашай работы адыгрывае надзвычай вялікае значэньне. Правільна вырашыць усе пытаньні бягучай работы мы зможам, калі наша марксысцкая асьвета будзе пастаўлена на больш высокую ступень, калі кожны член партыі будзе орыентавацца ў складаных умовах нашай работы".

Чым тлумачыць, што мы не маглі, як належыць, паставіць справу партасьветы ў працягу мінулага году? Чым тлумачыць, што нашы партыйцы так адстаюць у галіне ўзьняцьця сваіх тэорэтычных ведаў ад тых запатрабаваньняў, якія нам прад'яўляюць сучасныя абставіны? Прычын тут, зразумела, шмат. Яны скрываюцца, само сабой разумеецца, у тым, што нашы партыйцы, у прыватнасьці нізавыя партработнікі, вельмі перагружаны штодзённай практычнай работай па выкананьню тых задач, якія на іх ускладаюцца ў сувязі з соцыялістычным будаўніцтвам і колектывізацыяй сельскай гаспадаркі; прычыны заключаюцца ў тым, што мы ня маем дастатковага і высокакваліфікаванага

штату пропагандыстых, што наша сетка партвучобы недастатковая, што ў нас няма дастатковай колькасьці вытрыманых вучэбнікаў, што кіраўніцтва работай ў гэтай галіне было недастатковае. Ня ў гэтым толькі захоўваюцца прычыны слабасьці нашай работы па партасьвеце, тут ёсьць і так званыя суб'ектыўныя прычыны. Шмат нашых партыйцаў, і ў прыватнасьці даволі адказныя партыйныя работнікі, яшчэ ня прывыклі працаваць над сабою з упартасьцю, сыстэматычна. Ды і не анэкдотам зьяўляецца тое, што адзін з адказных партыйных работнікаў гор. Менску ў працягу 3 гадоў чытае популярны вучэбнік па політэкономіі Міхалеўскага і ніяк яго не дачытае. Мы ніяк ня можам згадзіцца з тым, што ўся перашкода заключаецца ў вялікай перагружанасьці; няма ўпартасьці, няма сілы волі ў таварышоў, каб прымусіць сябе працаваць у гэтым напрамку. Цэлы шэраг таварышоў яшчэ не прасякнуты думкаю аб тым, наколькі патрэбна, настойліва неабходна працаваць над павышэньнем свайго політычнага ўзроўню. Вось як ставіў пытаньне ў організацыйнай справадзачы ЦК КП(б)Б аб партвучобе т. Васілевіч:

„Ленін казаў: без рэволюцыйнай тэорыі ня можа быць і рэволюцыйнага руху". „Ролю перадавога барацьбіта можа весьці толькі партыя кіруючай перадавой тэорыяй". А вось, таварышы, наконт тэорэтычных ведаў, наконт партыйнай вучобы, наконт таго, каб падкавацца, прыступаючы да вырашэрьня важнейшых задач, хаця-б пастановамі партыі, пачытаць Леніна, тут справа вельмі дрэнная. Гэта трэба прызнаць адкрыта. Думаю, што маюць месца яшчэ і такія выпадкі, калі некаторыя, прачытаўшы програму партыі, ужо і забыліся пра яе. Часта гэта не залежыць ад добрай ці злой волі паасобных комуністых, часта ўмовы працы, абставіны працы ствараюцца такія, калі партыйцаў нагружаюць з галавою, і яны ня маюць магчымасьці займацца над сабою. Трэба замяніць мэтоды самаадукацыі. Трэба даць магчымасьць, каб кожны партыец мог над сабою працаваць. Трэба будзе актыву (паступова пашыраючы гэты круг) раз ці два разы ў год даваць магчымасьць адпаведны час прапрацаваць над сабой, каб падкавацца, калі яго ня можна адпусьціць на сталую вучобу. Без таго, каб стварыць спэцыяльныя ўмовы для адукацыі і самаадукацыі, бяз гэтага немагчыма будзе вырашыць пытаньне аб павышэньні тэорэтычнага ўзроўню і тэорэтычнай падкоўкі нашай організацыі.

Мы тут спаткаемся ў некаторых мясцох яшчэ з недаацэнкамі, з нясур'ёзнымі адносінамі да тэорэтычнай вучобы. Гэтая недаацэнка таксама не зьяўляецца пашыраным зьявішчам, якое было-б ва ўсіх організацыях, але такія настроі маюцца, калі недаацэньваць у прыватнасьці таго, што неабходнасьць стварэньня адпаведных умоў для вучобы—гэта адзін з важнейшых элемэнтаў, ад якіх залежыць сама вучоба".

У раёнах мы мелі ня мала адказных работнікаў, якія ў працягу многіх месяцаў ня бралі ў рукі „Праўды", ня кажучы ўжо аб марксысцкіх кніжках. Тав. Агульнік на зьездзе паказваў, што „у нас вельмі многа гавораць, што актыў павінен падрыхтоўвацца, больш адукоўвацца, больш вывучыць ленінізм. Тут вельмі многія тлумачаць гэта об'ектыўнымі ўмовамі, перагрузкай і іншае, але я-б сказаў, што ёсьць шмат выпадкаў, калі таварышы проста ўвільваюць ад гэтага, і зьяўляецца поўнае нежаданьне вывучэньня партыйных пытаньняў. Я падам два факты: ня зусім даўно мне прыходзілася гутарыць з двума сэкратарамі буйных

парткОлектываў. І вось мне сэкратар кажа: Слухай, ты кажы, што гэта такое за прышчэпаўшчына была нядаўна.

Не, скажэце, таварышы, куда-ж гэта годна, калі нашы асобныя кіраўнікі не разумеюць да апошняга часу, у чым сутнасьць прышчэпаўшчыны".

Мы павінны спыніцца і яшчэ на адной прычыне, якая тармозіць да гэтага часу нашу партасьвету—гэта закасьцянеласьць мэтодаў і форм партвучобы, гэта схоластычнасьць, яе адарванасьць ад баявых задач па соцыялістычнаму будаўніцтву.

Існуючы ў БССР Комуністычны унівэрсытэт імя Леніна павінен адыграць у галіне тэорэтычнай падрыхтоўкі нашых членаў партыі асабліва вялікую ролю. Ён, бясспрэчна, і адыгрывае вялікую ролю ў гэтых адносінах. Аднак і ў яго рабоце ёсьць шмат недахопаў.

„Мы нядаўна падлічылі, казаў тав. Гантман, колькі Камвуз даў на працягу 3 год партыйнайных работнікаў, і выявілася, што 16 сэкратароў райкомаў, ды і то некаторыя з іх, на колькі мне вядома, зьняты. 16 сэкратароў райкомаў на працягу 3 год. Я лічу, што гэта зьяўляецца ненормальным, што наш Комвуз, асноўная кузьня для Беларусі ў падрыхтоўцы партыйных работнікаў, у павышэньні іх палітычнага ўзроўню, патрабуе зьмены, адчувае патрэбу ў тым, каб перагледзець усю работу Комвузу. Я лічу, што тут зусім правільны папрок, які рабіўся па адрасу ЦК, аб тым, што мы мала робім для таго, каб падрыхтаваць, для таго, каб узьняць тэорэтычны ўзровень партыйных работнікаў. Я, вядома, ня згодзен з некаторымі паасобнымі таварышамі, якія ставілі пытаньне, што памылкі, якія былі на вёсцы пры колектывізацыі тлумачацца выключна палітычнай непадрыхтаванасьцю. Гэта няправільна, але тое, што мы мала зрабілі ў гэтым напрамку, правільна. І я лічу, што нам трэба перабудаваць работу Комвузу, каб ён даваў значна больш шырокую продукцыю. Нам трэба організаваць сталыя курсы пры Комвузе, праз якія прапусьціць увесь склад кіруючых партыйных работнікаў, у першую чаргу кіруючых партработнікаў, працуючых на вёсцы".

Далёка незадавальняюча абстаіць у нас справа і з матар'яльным забясьпечэньнем тых, каго мы здымаем і пасылаем на партвучобу. Гэты момант адыгрывае ня малую ролю ў нашай рабоце па партасьвеце. Маюць рацыю, зразумела, тыя таварышы, якія, выступаючы на зьезьдзе паказвалі на гэты наш недахоп.

„У рэзолюцыях пленумаў не адзін раз запісвалася, што трэба забясьпечыць саўпартшколы, якія рыхтуюць калгасьнікаў настаўнікамі па дысцыплінах колектывізацыі, агрономамі і г. д. Колькі раз мы ні ставілі гэтае пытаньне, няма такіх настаўнікаў. Я ведаю, што іх мала, але ўсё-ж такі неабходна што-небудзь зрабіць.

І апошні момант,—гэта адносна таго цяжкага матар'яльнага становішча, у якім знаходзяцца нашы кадры як у Комвузе, так і ў саўпартшколах. Дазвольце далажыць, што, калі матар'яльнае становішча ня будзе грунтоўна палепшана, мы на будучы навучальны год не ўкомплектуем нашых навучальных устаноў. На гэтае пытаньне ЦК павінен зьвярнуць сур'ёзную ўвагу." (тав. Агульнік).

Аб незабясьпечанасьці матар'яльна нашых слухачоў саўпартшкол і Комвузу гаварыў і тав. Левіт:

„Трэба пасылаць вучыцца комуністых. Але калі мы гаворым аб кадрах, дык, па-мойму, ЦК павінен паклапаціцца аб забясьпе-

чаньні гэтых комуністых матар'яльна. Я думаю, што на зьезь-і дзе можна сказаць, што ў нас комуністыя вучацца ў Комвузе партшколе, напрыклад, у нас у Гомлі гэтыя комуністыя—курсанты матар'яльна не забясьпечаны. Калі мы хочам стварыць добрыя кадры, калі мы хочам, каб комуністыя вучыліся, дык трэба, каб яны былі забясьпечаны".

XIII зьезд КП(б)Б вынес сваё рашэньне і па пытаньню аб партасьвеце. У рэзолюцыі па справаздачах ЦК сказана па гэтым наступнае:

„15. Становішча са справай тэорэтычнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіруючых партыйных кадраў, а таксама са справай павышэньня тэорэтычнай падрыхтоўкі, асабліва нанова прынятых членаў партыі, зьезд лічыць нездавальняючым. Неабходна палепшыць у якасным і колькасным сэнсе комплектаваньне слухачамі і выкладчыкамі сыстэмы партасьветы (СПШ, Комвуз, завочнае навучаньне і г. д.), палепшыць матар'яльнае забясьпечаньне слухачоў, дабіцца пералому адносін мясцовых парторганаў да справы адбору слухачоў для сеткі партасьветы і да сыстэмы завочнага навучаньня. Неабходна выкарыстаць надыходзячы асеньня-зімавы пэрыод для інтэнсыўнага разгортваньня партыйна-выхаваўчай працы."

Гэтае рашэньне трэба праводзіць ў жыцьцё. Ужо зараз трэба прыгледзецца да таго, як мы яго выконваем.

## V. Аб масавай палітасьветрабоце і культурна-бытавым аблсугоўваньні рабочае клясы

Масавая палітасьветработа і культурна-бытавое абслугоўваньне працоўных перш ўсяго рабочых набылі зараз ня меншае значаньне, чым, скажам, пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў. Рабочая кляса, шырокія масы сялянства, батракі, колгасьнікі ў процэсе штодзённай работы, у процэсе ўдзельнічаньня ў разгорнутым соцыялістычным будаўніцтве ў горадзе і ў вёсцы набываюць вялікі вопыт. На гэтым вопыце яны вучацца, падымаюць свой культурны ўзровень, разьвіваюцца. Алё гэты рост культурнасьці, гэтае пашырэньне ведаў нас ні ў якім разе задаволіць ня можа. Гэта не задавальняе і саміх мас. Яны імкнуцца да асьветы, яны хочуць яе. У процэсе работы рабочыя калгасьнікі і батракі сустракаюцца з цэлым шэрагам пытаньняў, у якіх ім іншы раз вельмі цяжка разабрацца. Масы патрабуюць штодзённага кіраўніцтва, штодзённага іх культурнага абслугоўваньня. Яны патрабуюць разумовага адпачынку.

Між тым, у культурных адносінах мы яшчэ не абслугоўваем дастаткова, як гэтага патрабуюць абставіны, умовы нашага бурнага соцыялістычнага будаўніцтва. І, зразумела, цалкам мае рацыю тав. Вайман, які выступаючы на зьезьдзе, казаў:

„Апошняе пытаньне аб палепшаньні культурна-бытавых умоў рабочае клясы. Я лічу, што тэмпы жыльлёвага будаўніцтва і культурнага будаўніцтва рабочых мас адстаюць ад агульных тэмпаў будаўніцтва. Але мы будуем фабрыкі, дык гэта добра, але мы ў той-жа самы час не задумваемся над клюбам, над іншымі культурнымі ўстановамі для таго, каб соцыялістычна выхоўваць нашых рабочых, дык гэта гаворыць аб недастатковай увазе з боку некаторых цэнтральных організацый.

XIII зьезд КП(б)Б таксама зафіксаваў аб нездавальняючым становішчы нашае масавае культасьветработы. У рэзолюцыі па дакладу тав. Рыжова зафіксавана наступнае:

„15 Зьезд констатуе, што культработа яшчэ зьяўляецца найбольш слабым месцам работы профсаюзаў па зьместу, форме і ахопу,не адпавядаючым тэмпам і задачам соцыялістычнага будаўніцтва і ўсё ўзрастаючым культурным і політычным запатрабаваньням рабочае клясы. Культработа слаба ўвязана з вытворчасьцю, з барацьбой за выкананьне промфінпляну, ліквідацыяй прарываў, непрыстасавана да абслугоўваньня ўдарніцтва, бесьперапыннага рабочага тыдню і сыстэматычна адстае ў асьвятленьні гаспадарча-політычных задач рабочае клясы. Гэтыя задачы набываюць асаблівае значэньне ў сувязі з уцягненьнем ў вытворчасьць новых пластоў рабочых, не прашоўшых яшчэ пролетарскай школы“.

Тут, у гэтай часьці рэзолюцыі, зьездам з усёй яскравасьцю пастаўлены пытаньні, якія кранаюцца нашай культурна-асьветнай работы. Тут адзначаны ўсе галоўнейшыя недахопы яе. Ясна, што з гэтымі недахопамі трэба павесьці барацьбу, трэба зьнішчыць іх.

Зьезд не абмежаваўся толькі пака:аньнямі на недахопы нашай культасьветработы. Ім дадзены даволі падрабязныя паказаньні, па якіх шляхох мы павінны будзем ісьці далей у гэтых адносінах, якая павінна быць наша культурная работа.

„Зьезд прапануе, гаворыцца далей у рэзолюцыі, профсаюзным організацыям перабудаваць культработу ў напрамку рашучага падпарадкаваньня ўсёй культработы гаспадарча політычным задачам рабочае клясы, барацьбе за генэральную лінію партыі, за выкананьне промфінпляну, за клясавае выхаваньне рабочых, асабліва новых пластоў рабочых, за новыя формы комуністычнае працы і быту, за ўзмацненьне ролі пролетарыяту ў соцыялістычнай перабудове вёскі, барацьбе з клясава-чужымі ўплывамі і ідэолёгіяй: антысэмітызмам, нацыянал-дэмократызмам, шовінізмам усіх колераў, рэлігійнымі забабонамі, рвацкімі і адсталымі настроямі; абслугоўваньне „ударнікаў і прыцягненьня іх да штодзённай работы і кіраўніцтва ва ўсёй сыстэме культработы; організацыі адзінага пляну культпрацы на прадпрыемстве, у раёне, акрузе з аб'яднаньнем сіл і сродкаў усіх організацый, якія вядуць культурна-масавую работу.

Культурна-асьветная работа павінна стаць ударнай работай. Вакол гэтай работы неабходна мобілізаваць усе маючыяся ў нас сілы. Трэба скончыць з саматужніцтвам у гэтай галіне. Трэба адкінуць самацёк і бяссыстэмнасьць работы на гэтым вучастку. Ёсьць яшчэ шмат сярод нашых гаспадарнікаў і профработнікаў такіх, якія глядзяць на культработу, як на нешта малаважнае, пабочнае, другараднае. З такімі поглядамі трэба рашуча пакончыць.

Неабходна дабіцца такога становішча, каб ударныя прадпрыемствы, цэхі і паасобныя брыгады ня толькі былі-б ударнымі ў вытворчых адносінах, а былі-б ударнымі ў правядзеньні політмасавай работы, прымалі-б удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці, кіраўніцтве і дапамозе колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

На XIII зьезьдзе гэтае зьявішча было ўлічана. І ня толькі ў рэзолюцыі па дакладу аб профсаюзах былі ўнесены адпаведныя пункты аб культрабоце, але і ў рэзолюцыю па дакладу т.т. Бэнэка і Грысевіча зьезд ўключыў пункт аб тым, што,

„выходзячы з таго, што палепшаньне матар'яльных і культурна-бытавых умоў рабочае клясы зьяўляецца аднэй з важнейшых

задач соцыялістычнага будаўніцтва, прапанаваць усім гаспадарчым, коопэрацыйным, профэсіянальным і партыйным організацыям сконцэнтраваць сваю ўвагу на поўным ажыцьцяўленьні мерапрыемстваў па палепшаньню аховы працы, тэхнікі забясьпекі, пашырэньню будаўніцтва клюбаў і ясьляй, лепшаму іх абслугоўваньню, далейшаму разгортваньню рабочага жыльлёвага будаўніцтва".

Нашы гаспадарнікі павінны ведаць гэтае рашэньне і праводзіць яго ў жыцьцё. Трэба сур'ёзную ўвагу зьвярнуць ўсёй нашай савецкай грамадзкасьці на галіну работы па перабудове нашага быту, на будаўніцтва бытавых установ. У гэтых адносінах робіцца вельмі мала. Між тым і бытавы бок, быт працоўных, быт рабочых мае велікае значэньне для нашай вытворчасьці, для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва. Колькі, сапраўды, трацяць нявытворчай працы масы і асабліва жанчыны на бытавое абслугоўваньне сябе, свае сямьі. Колькі, сапраўды, ідзе нявытворчай энэргіі хоць на індывідуальнае выхаваньне дзяцей, на сьцірку, на кухню. Але-ж сутнасьць пытаньня ня толькі ў гэтым,—сутнасьць справы заключаецца яшчэ і ў тым, што той стары быт, у якім яшчэ знаходзяцца массы, ён тармозіць справу комуністычнага выхаваньня нашага падрастаючага пакаленьня. Ён тармозіць культурнае разьвіцьцё рабочых і сялян і перш за ўсё жанчын. З ім, з гэтым старым бытам, зьвязана пьянства, рэлігійныя абрады, гразь і бытавое загніваньне.

Вось чаму XIII зьезд нашай партыі ня мог абыйсьці гэтага пытаньня. Вось чаму ён рашуча паставіў пытаньне аб неабходнасьці рэканструкцыі нашага быту. Вось чаму зьезд павінен быў уключыць у рэзолюцыі да дакладу аб профсаюзах спэцыяльны пункт аб антырэлігійнай рабоце, аб падрыхтоўцы кадраў у гэтым напрамку.

„17. Пытаньні перабудовы быту на соцыялістычны лад не знайшлі дастатковага адлюстраваньня у рабоце профсаюзаў. Ня гледзячы на рост антырэлігійных гурткоў і дакладаў, гэтая работа зьяўляецца нездавальняючай. Антыалькагольная работа пастаўлена зусім слаба.

Зьезд прапануе профарганізацыям і СВБ наладзіць падрыхтоўку антырэлігійных кадраў з такім разьлікам, каб на працягу году забясьпечыць усе буйныя прадрыемствы, клюбы кваліфікаванымі прапагандыстамі-антырэлігійнікамі, здольнымі організаваць сыстэматычную антырэлігійную работу, якая павінна быць цесна ўвязана з пытаньнямі пераходу на бесьперапынку, колектывізацыяй, абвастрэньнем клясавай барацьбы, вытворчай дысцыплінай, якасьцю продукцыі, работай з новымі кадрамі рабочых, узмацненьнем антыалькагольнай работы".

Аб разгортваньні бытавых установ, аб дашкольным выхаваньні ў сувязі з неабходнасьцю ўцягненьня жанчын у вытворчасьць у другім месцы рэзалюцыі адзначаецца:

„10. Значны прыток жаночае рабочае сілы ў вытворчасьці, укараненьне новага быту з асаблівай вострасьцю паставілі перад гаспадарчымі і профорганізацыямі пытаньне разгортваньня сеткі ясьляў і дашкольных установ (дзіцячыя сады і пляцоўкі) з водпускам на гэтыя мерапрыемствы значных сродкаў (павялічэньне з 10 да 12 проц. да сродкаў ФПБР'у).

XIII зьезд КП(б)Б, пацьвярджаючы пастановы студзенскага пленуму ЦК КП(б)Б у частцы організацыі дашкольных установ,

ясьляў, прапануе органам профсаюзаў, Наркамасьветы, Жылкоопэрацыі дабіцца на працягу 1930-32 г. 100-процантнага ахопу ясьлямі і дашкольнымі ўстановамі дзяцей работніц з прыстасаваньнем работы гэтых устаноў да ўмоў працы работніц на вытворчасьці".

Ня зусім добра ў нас абстаяла справа і ў адносінах работы клюбаў. Прафсаюзныя організацыі шмат трацілі і трацяць сродкаў на клюбную работу. Між тым яна не давала нам таго эфэкту, якога мы ад яе чакалі. Па БССР налічвалася да 150 профсаюзных клюбаў і да 2500 чырвоных куткоў. Сетка клюбаў і куткоў, чым далей, тым усё больш і больш пашыраецца. Будуюцца новыя клюбы, на што трацяцца вялізныя сродкі.

Здавалася-б клюбная работа павінна была мець вялікую ролю, як у адносінах узьняцьця агульна-культурнага ўзроўню профсаюзных і асабліва рабочых мас і ў справе абслугоўваньня нашай вытворчасьці. Клюбнай работай мы павінны былі абслужыць шырокія рабочыя масы, надаючы ўсёй рабоце клюбаў вытворчы характар. Гэтага якраз мы і ня бачылі. У рабоце клюбаў была замкнутасьць; членства заставалася на паперы.

Зьезд зьвярнуў увагу і на гэтую галіну работы. У рэзолюцыі па дакладу аб профсаюзах мы бачым такі пункт:

„Рост клюбаў, чырвоных куткоў і палепшаньне іх абсталяваньня ўсё яшчэ адстаюць ад тэмпаў росту рабочае клясы, клюбнае членства заставалася папяровым, сьпісачным і дэзорыентавала работу клюбаў; замест накіроўваньня работы на абслугоўваньне ўдарнікаў з новых пластоў рабочых, кіраўніцтва і дапамогі чырвоным куткам, жактаўскім клюбам-прымітывам, клюбы імкнуліся прыстасаваць работу выключна да членаў клюбу.

Зьезд прапануе перабудаваць усю клюбную работу ў напрамку да абслугоўваньня шырокіх рабочых мас, надаўшы ўсёй рабоце клюбаў вытворчы характар, адпавядаючы задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Зьезд лічыць неабходным далейшае пашырэньне і разгортваньне клюбнага будаўніцтва".

Разам з усёй сумаю мерапрыемстваў, якія павінны праводзіцца профсаюзамі ў галіне масавай культасьветработы, на профсаюзы ўскладаецца вялікая роля, на іх ускладаюцца вялікія задачы і ў адносінах правядзеньня сярод профсаюзных мас нацыянальнай работы. Профсаюзы—школа комунізму. Яны павінны адыграць вялізарную ролю ў справе выхаваньня рабочых і профсаюзных мас наогул у духу запатрабаваньня пролетарскай рэволюцыі.

Нацыянальная работа, асабліва ва ўмовах БССР, павінна займаць у рабоце профсаюзаў вялізарнае месца. Барацьба з антысэмітызмам, нацыянал-дэмократызмам, вяліка-расейскім шовінізмам—немалаважны вучастак у нашай рабоце. Профсаюзы павінны былі ўдзяляць гэтай галіне работы вялікую ўвагу.

Як-жа профсаюзы праводзілі гэтую работу да пэрыоду XIII зьезду? Зьвернемся да ацэнкі, якая дадзена зьездам па гэтым пытаньні, паглядзім, як зьезд ставіць пытаньне аб нацыянальнай рабоце.

„18. Адзначаючы ў нацыянальнай рабоце некаторыя дасягненьні (беларусізацыя, каранізацыя апарату і г. д.), а таксама зрух у галіне інтэрнацыянальнага выхаваньня, зьезд лічыць, што нацработа ў профсаюзах яшчэ не заняла дастатковага месца,

і прапануе проforганізацыям усю сыстэму палітычна-выхаваўчай культурна-масавай работы прасякнуць інтэрнацыянальна-клясавым зьместам, непрымірымай барацьбой з велікадзяржаўным шовінізмам антысэмітызмам і шовінізмам (беларускім, яўрэйскім, польскім і інш.) і шырока растлумачыўшы буржуазную нацыянал-фашысцкую яго сутнасьць, выкрываючы контррэволюцыйную ролю беларускага нацыянал-дэмократызму і фашызму Заходняй Беларусі, як агэнтуры польскага фашызму.

Адначасова з гэтым узмацніць рашучую барацьбу супроць усякіх праяў расійскага вялікадзяржаўнага шовінізму) пасыўнае супраціўленьне беларусізацыі, змазваньне значэньня нацпалітыкі партыі і г. д.").

Так ставіцца пытаньне аб нацыянальнай рабоце профсаюзаў XIII зьездам КП(б)Б.

Зьезд ня мінуў цэлага раду і іншых пытаньняў, якія кранаюцца масавае палітасьветработы правадзімай як сярод рабочых і профсаюзных мас, так і на вёсцы сярод батрацтва, беднаты і працоўнага сялянства Ён зьвяртае ўвагу профсаюзаў на ўдасканаленьне і узмацненьне профасьветы, дае паказаньні, як гэтая работа павінна быць пабудована, як павінна існаваць сыстэма профасьветы.

„Адзначаючы ўзрост сеткі вячэрніх профсаюзных школ,— гаворыцца ў рэзолюцыі, (87 супроць 18 у мінулым годзе) гурткоў і курсаў профасьветы, зьезд прапануе партыйным і профсаюзным організацыям удасканаліць сыстэму профасьветы, наладзіць сваячасовае комплектаваньне школ і гурткоў і ўвязаць гэтую работу з профасьветай, забясьпечыўшы мэтодычнае кіраўніцтва праз агітпрофгабінэты, організацыі профгабінэтаў і работы рэспубліканскай школы профруху".

У масавай палітасьветрабоце, у галіне правядзеньня выхаваўчай работы сярод працоўных нашы добраахвотныя таварыствы павінны адыграць вялікую ролю. Між тым і ў іх рабоце ёсьць шмат недахопаў, а некаторыя з іх зьяўляюцца сьпячымі організацыямі. Вот якая ацэнка давалася гэтым арганізацыям.

„Мы маем саюз ваяўнічых бязбожнікаў. У 1929 годзе было 40000, у 1930 годзе—101 000 членаў і 41.000 юных бязбожнікаў. Ня гледзячы на гэты рост, саюз ваяўнічых бязбожнікаў можна характарызаваць як асноўную організацыю, якая не вызначаецца вялікай актыўнасьцю. Саюз ваяўнічых бязбожнікаў трэба пабальшавіцку разбудзіць, трэба каб ён актыўна ўзяўся за ажыцьцяўленьне тых вялікіх задач, якія стаяць у галіне антырэлігійнай пропаганды.

У МОПР'ы ў канцы 1928 году было 200.000 членаў, у 1930 г. 300.000 членаў. Гэтая организацыя наогул баявая і актыўная, мае рад і недахопаў, галоўным чынам, у сэнсе вядзеньня наогул растлумачальнай агітацыйнай работы, культурнай работы сярод сваіх членаў.

Так працуе таварыства ваяўнічых бязбожнікаў. Гэта у той час, калі нашы ворагі ня дрэмлюць, калі рознага роду папоўшчына і рэлігійнікі ня толькі не складаюць свайго аружжа, а яшчэ больш актывізуюцца, калі ступень рэлігійнасьці мас, асабліва на вёсцы, яшчэ вельмі высокая.

На зьезьдзе шэраг выступаючых таварышоў закранал і пытаньні палітасьветрабоцы ў вёсцы. Там становішча з работай яшчэ больш

нездавальняючае, чым у горадзе. Мы маем па БССР 526 хат-чытален і да 100 народных дамоў. У сярэднім на адну хату прыходзіцца да $4^1/_2$ тысяч насельніцтва. Адна хата чытальня павінна абслугоўваць тэрыторыю цэлых трох сельсаветаў. Зразумела, гэтая сетка нас ня можа задаволіць. Але бяда ня толькі і толькі ў гэтым. Бяда у тым, што і існуючыя хаты-чытальні не працуюць, ледзь палавіна з іх знаходзіліся і знаходзяцца пад замком, няма работнікау, няма хатнікаў, слабае забясьпечаньне літаратурай, вельмі нізкае абсталяваньне.

Тав. Маўшовіч у сваім выступленьні адзначаў, што „калі ўзяць другую галіну асьветніцкай справы, політасьветную галіну, дык мы бачым, што нашы хаты-чытальні яшчэ не займаюць таго месца, якое яны павінны заняць, як культурныя цэнтры на вёсцы. Звычайна яны былі на замку, а хатнік праводзіў сход недзе за 10 кілёмэтраў. Хаты-чытальні не зьяўляюцца тымі цэнтрамі, якія-б прапагандавалі задачы, што стаяць перад партыяй на вёсцы. Рашэньне ЦК УсеКП(б) аб політасьветных кадрах, аб увазе політасьветным установам ня выконваецца".

## VI. Аб навуковых установах, настаўніцтве, ліквідацыі няпісьменнасьці, выхаваньні падрастаючага пакаленьня і друку

Ня толькі паказаныя вышэй пытаньні стаялі на XIII зьезьдзе нашай партыі. Цэлы рад і іншых пытаньняў асьветы і выхаваньня абгаварваліся на зьезьдзе. Усім вопытам работы ў галіне культурнага будаўніцтва дэлегаты зьезду стараліся падзяліцца. Цэлы шэраг каштоўнейшых думак па пытаньні розных галін нашага культурнага будаўніцтва былі выказаны дэлегатамі на зьезьдзе.

Сур'ёзную, напрыклад, увагу XIII зьезд удзяліў пытаньню аб рабоце нашых навукова-дасьледчых устаноў. Масы, нашы організацыі і ўстановы прад'яўляюць нам зараз вельмі вялікія запатрабаваньні ў адносінах работы спэцыяльных устаноў, якія займаюцца тэорытычнай распрацоўкай проблем, зьвязаных з баявымі пытаньнямі соцыялістычнага будаўніцтва. Вялізарны вопыт накапляецца зараз ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва. Абставіны патрабуюць таго, каб гэты вопыт быў падставай для тэорытычных дасьледваньняў. Цэлы рад проблем, якія паўстаюць перад намі ў процэсе штодзённай практыкі, патрабуюць свайго вырашэньня. Навука і навуковыя ўстановы павінны прысьці на дапамогу масам і нашым організацыям у вырашэньні цэлага раду балючых пытаньняў.

Што-ж мы маем на гэтым фронце ў БССР? Становішча тут надзвычайна дрэннае. Мы маем цэлы шэраг сур'ёзнейшых ідэолёгічных прарываў на фронце навукі, асабліва ў такіх установах, як Акадэмія навук, як Сельска-гаспадарчы навукова-дасьледчы інстытут імя Леніна, Варожыя нам ідэі пранікаюць і ў тэорыю, і ў літаратуру, і ў мастацтва, і ў мовазнаўства, і ў галіну сельскае гаспадаркі. Дзе толькі магчыма, нашы клясавыя ворагі стараюцца пралезьці. Есьць цэлы шэраг галін навуковай работы, дзе ў нас наогул вельмі дрэнна праводзіцца работа або зусім не вядзецца.

Нашы навуковыя кадры вельмі нязначныя па колькасьці, недастатковай якасьці і ў значнай сваёй частцы засьмечаны варожымі нам элемэнтамі. Вось некаторыя данныя для характарыстыкі навуковых кадраў. Намі сабраныя даныя аб навуковых работніках па адзінаццаці галоўнейшых установах і ВНУ, дзе навуковыя працаўнікі праводзяць сваю работу. Што мы там маем?

Перш за ўсё адносна недахопу навуковых сіл. Па Горацкай, напрыклад, сельска-гаспадарчай акадэміі нам не хапае на сёньняшні дзень 24 профэсараў, 45 дацэнтаў і 56 асыстэнтаў. Горацкая акадэмія ўкомплектавана толькі на 50 проц., таксама мы можам сказаць аб цэлым шэрагу іншых ВНУ і навукова-дасьледчых устаноў.

Але справа ня толькі ў гэтым. Справа ў якасьці, у політычнай фізыономіі нашых навуковых работнікаў. Аказваецца з 499 навуковых работнікаў (мы маем даныя толькі на гэты лік) маюць друкаваныя работы, кнігі або брошуры, толькі 92 чалавекі, маючых толькі журнальныя артыкулы 187 чалавек і ня маючых ніякіх работ у тым ліку і журнальных артыкулаў—220 чалавек. Палова навуковых работнікаў ня маюць покуль што ніякай продукцыі.

Социяльны склад. Мы маем паказаную колькасьць па соцыяльнаму паходжаньню: 41—з рабочых, 124—з сялян, 253 чл. са служачых і 98 чал. з варожых нам праслоек. Прычым гэта апошняя лічба фактычна павінна быць папоўнена з трэцяй групы прыблізна яшчэ чалавек на 80. Сярод навуковых работнікаў мы знойдзем па сацыяльнаму паходжаньню каго заўгодна: дзяцей гандляроў, купцоў, папоў, равінаў, абшарнікаў і г. д.

Зразумела, гэтыя людзі ў масе сваёй прасякнуты такімі ідэямі і такімі настроямі, пры наліччы якіх цяжка меркаваць, каб у нас ня было ідэолёгічных прарываў.

XIII зьезд нашай партыі ўдзяліў сваю ўвагу і навуковай галіне, і рабоце навуковых устаноў. Рад таварышоў выступалі на зьезьдзе і адзначалі, як нашы ўстановы працуюць і на каго яны ў большасьці працуюць. Тав. Гей у сваім дакладзе таксама даволі падрабязна спыняўся на гэтым. Гэтае выступленьне мы ўжо прыводзілі вышэй. Прывядзем яшчэ адну вынятку з выступленьня тав. Гея:

„Нацыянал-опортунізм можна ахарактарызаваць, як разгалінаваньне нацыянал-дэмократызму ў радох нашай партыі. Нацыянал-дэмакраты сваяасабліва ўжываюць тэорыю самабытнасьці да гісторыі Кастрычнікавай рэволюцыі і гісторыі партыі. Жылуновіч ацэньвае Кастрычнікавую рэволюцыю, як сялянскую, як рэволюцыю, якая прышла „ад цяжкасьці сох". Жылуновіч перапавялічвае ролю інтэлігенцыі, прыпісваючы ёй кіруючую ролю ў Кастрыцніцкім перавароце. Гэтая ідэалізацыя ролі інтэлігенцыі агульная, як мы бачылі, і для нацыянал-дэмакратаў, і для нацыянал-фашыстых, зьвязана з ідэалізацыяй „Нашай Нівы" і беларускай соцыялістычнай грамады".

Вось выступленьне тав. Чапелкіна: „Меліорацыйныя работы, якія праводзяцца на Беларусі, праходзяць без дастатковага вывучэньня, у якім напрамку павінна пайсьці і быць асвоена асушанае балота.

На Бабруйшчыне ёсьць Арэскі колфонд. Над гэтым Арэскім колфондзе ўжо асушана некалькія тысяч гэкт. плошчы. Але мы да гэтага часу ня мелі пэўнай ўстаноўкі, што мы павінны сеяць на гэтым балоце. Мы маем такое становішча: на паперы організавана навукова-дасьледчая станцыя, гэта пададдзел навукова-дасьледчага інстытуту імя Леніна, на справе-ж яна там нічога не зрабіла. Адвялі вялікі кавалак плошчы, разьбілі на вучасткі, а ніякага вывучэньня не правялі: які напрамак павінен быць узяты, якія культуры павінна быць засеяны на гэтай плошчы".

У рэзолюцыі па пытаньні аб колгасным руху ўключаны такі пункт, які кранаецца навукова-дасьледчай работы ў галіне сельскай гаспадаркі.

„22. Надаючы асаблівую ўвагу рабоце навукова-дасьледчых устаноў у справе колектывізацыі і лепшай організацыі вытвару ў сельскай гаспадарцы, неабходна дабіцца, каб навукова-дасьледчыя сельска-гаспадарчыя ўстановы зьяўляліся адным з асноўных дапаможнікаў у рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, правадзімай рабочай клясай на чале з Комуністычнай партыяй, каб іх праца не адставала, а папярэджвала-б рэконструкцыйныя працэсы і ўносіла-б новыя дасягненьні навукі і тэхнікі ў справу соцыялістычнай перабудовы вёскі. Выходзячы з гэтага XIII зьезд даручае ЦК узмацніць працу Навукова-дасьледчага інстытуту імя Леніна і ўсіх дасьледчых устаноў і станцый, увязаўшы больш іх работу з вытворчасьцю, узмацніўшы іх комуністычнымі кадрамі і ўтварыўшы для іх належную матар'яльную базу".

Побач з пытаньнем аб навуковай рабоце і навуковых кадрах стаіць, як ужо нам вядома, пытаньне аб кадрах наогул. На гэтым пытаньні мы ўжо даволі падрабязна спыняліся. Зараз нам трэба спыніцца спэцыяльна на пытаньні аб настаўніцтве і кадрах асьветнікаў наогул. Шмат з нас ведаюць, якое значэньне надаваў настаўніцтву, асабліва настаўніцтву на вёсцы, У. І. Ленін. Партыя пасьля сьмерці Леніна таксама ўдзяляе вельмі вялікую ўвагу вясковым асьветнікам. Даволі спаслацца хаця-б на рашэньне ЦК нашай партыі і нашага ўраду аб параўнаньні настаўніцтва, якое працуе ў вёсцы, у адносінах забясьпечаньня да катэгорыі рабочых.

Ва ўмовах БССР настаўніцтва асабліва заслугоўвае нашае ўвагі. Галоўнейшым культурным кадрам на вёсцы зьяўляецца настаўніцтва. Ад таго, якое гэта настаўніцтва, у значнай меры залежыць культурная работа ў вёсцы, характар гэтае работы. Нашы памежныя раёны павінны стаяць на асобным ліку ў сэнсе падбору туды работнікаў наогул і ў прыватнасьці настаўніцтва. Зараз, у сувязі з разгортваньнем політэхнічнай асьветы, на наша настаўніцтва ўскладаюцца яшчэ большыя задачы, чым яны стаялі раней.

Між тым сярод настаўніцтва ёсьць яшчэ праслойка далёка ня з блізкіх да нас элемэнтаў. На гэтую праслойку мы ніяк ня можам ускласьці правядзеньня нашага комуністычнага выхаваньня. Адзін з дэлегатаў гаварыў аб пагражаючым становішчы з настаўніцтвам. Другое пытаньне аб кадрах. Культурны фронт зьяўляецца самым незабясьпечаным у сэнсе кадраў. На асьветніцкім фронце, асабліва ў прымежных раёнах, мы маем такія выпадкі, калі на чале асьветніцкай справы стаяць ня проста чужыя элемэнты, а былыя людзі, пэтлюраўскія афіцэры, людзі, якія адкрыта варожа да нас адносяцца. Гэтыя людзі вядуць разлагаючую шкодную работу сярод падрастаючага пакаленьня.

Але ёсьць сярод настаўнікаў і блізкія да партыі. Яны сумленна працуюць па паказаньнях партыі і савецкай улады, яны цалкам адданы савецкай уладзе. Вось такую праслойку настаўніцтва трэба было-б яшчэ больш наблізіць да нас і шмат з іх прыняць ў шэрагі комуністычнай партыі.

Бясспрэчна, зараз, як ніколі, пытаньні выхаваньня набылі асабліва вострае значаньне.

Ад таго, якім будзе настаўніцтва, якая сярод яго будзе праслойка, будзе залежаць посьпех нашай выхаваўчай работы.

Зараз мы ня можам пахваліцца нашай працай у галіне комуністычнага выхаваньня. Цэлы рад дэлегатаў адзначалі, якія вялікія недахопы мы маем у гэтай галіне.

„Апошняе пытаньне аб кадрах. Калі мы гаворым аб кадрах, калі мы прымаем адпаведныя меры ў адносінах упарадкаваньня навучальных установаў, укамплектаваньня іх і г. д., дык давайце паглядзім, што робіцца у нас з моладзьдзю, асабліва на вёсцы. Тав. Васілевіч у сваім дакладзе падкрэсьліў, што кіраўніцтва Цэнтральнага камітэту КСМ у дастатковай ступені было кепскім. Гэтае кіраўніцтва было недастатковым—і гэта факт.“ (тав. Каровін).

Вось выступленьне тав. Жыгуновіча па пытаньні аб падрыхтоўцы, выхаваньні і асьвеце нашай моладзі, аб выхаваньні нашых дзяцей:

„Палітычны ўзровень нашых комсамольцаў слабы. Гэта тлумачыцца тым, што школы ня былі прыстасаваны да ўзроўню ведаў камсамольцаў. Камсамольцы малапісьменныя, а іх пасылаюць у партшколу ў той час, калі яны ня ўмеюць чытаць.

У нас ёсьць дзіцячыя організацыі, але на сёньняшні дзень шмат дзяцей ходзіць яшчэ па вуліцах, хуліганяць. Дастатковага выхаваньня сярод дзяцей няма. Бацькі знаходзяцца на працы, а дзіця прыходзіць са школы і ня мае прытулку. Трэба зьвярнуць увагу на дзяцей. Наша бяда заключаецца ў тым, што ў школе амаль няма новага палітычнага выхаваньня, каб магчыма было ў пролетарскім духу выхоўваць дзяцей. Для гэтага трэба адчыняць курсы, прыцягваць туды лепшых таварышоў, лепшых работнікаў, якія-б у будучым далі не старых інтэлігэнтаў-настаўнікаў, а новых“.

Зараз партыя і, у прыватнасьці, ЦК КП(б)Б праводзіць вялікую работу па насычэньні раёнаў падрыхтаванымі работнікамі, і ў прыватнасьці настаўніцтвам. У сувязі з ліквідацыяй акруг мы ў гэтых адносінах маем некаторыя вынікі. Аднак, нам яшчэ доўга прыдзецца працаваць, каб гэтую проблему вырашыць. Сярод скончыўшых нашы пэдагогічныя навучальныя ўстановы ёсьць нездаровая тэндэнцыя застацца ў гарадох, у прыватнасьці мы маем шмат такіх і ў горадзе Менску. Трэба правесьці рашучыя мерапрыемствы ў адносінах зьняцьця такіх таварышоў з работы і паслаць іх ў вёску.

Усеагульнае навучаньне, на якім завастраў ўвагу зьезду ў сваім выступленьні тав. Платун, політэхнічная асьвета, якой мы надаем вялікае грамадзкае палітычнае і гаспадарчае значэньне, неабходнасьць выхаваньня нашай моладзі і дзяцей у комуністычным духу,—усё гэта ставіць рашуча пытаньне аб нашых кадрах асьветнікаў, аб іх падрыхтоўцы, складзе, палітычным выхаваньні і г. д.

Зьезд не абышоў маўчаньнем і такой вялікай галіны нашай работы як ліквідацыя няпісьменнасьці.

У арганізацыйнай справаздачы ЦК КП(б)Б адзначае: Статыстычным сэктарам Дзяржпляну была абследавана цэнзавая прамысловасьць, былі перапісаны рабочыя цэнзавай прамысловасьці,—чыгуначных майстэрань, дэпо у лютым 1930 г., і вось вынікі.

У большасьці галін нашае прамысловасьці мы маем сярэдні процант няпісьменных—10 проц., а ў тэкстыльнай прамысловасьці мы маем 16,2 проц. няпісьменных рабочых, з іх 20,3 проц. жанчын.

Таварышы, ці не зьяўляюцца гэтыя лічбы довадам таго, што неабходна задачу ліквідацыі няпісьменнасьці сярод рабочае клясы ва што-б там ні стала ў бліжэйшыя часы вырашыць, і што гэта задача не вырашаецца належным чынам. Таварыства „Прэч няпісьменнасьць“, нашы органы Нарасьветы і профсаюзы па культурнай лініі, як бачыце, зрабілі невыстарчальна.

У працягу мінулага году ў нас быў даволі вялікі ахоп нашымі школамі няпісьменных. У пачатку году была разгорнута даволі вялікая работа. На вялікі жаль, мы яе не давялі да канца. Цэлы рад школ, груп і гурткоў спынілі сваю работу ў сярэдзіне году. Савецкая грамадзкасьць не прыцягвалася ў належнай меры да гэтай справы.

Зьезд вынес спэцыяльную пастанову аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод вытворчых рабочых: „Адзначаючы некаторы зрух у ліквідацыі няпісьменнасьці, зьезд прапануе партыйным, профсаюзным і савецкім арганізацыям мэтодам культпаходу закончыць ліквідацыю няпісьменнасьці сярод вытворчых саюзаў да канца 1930 г.“.

Так стаяла пытаньне аб ліквідацыі няпісьменнасьці на XIII зьезьдзе КП(б)Б.

Што да друку, дык гэтаму пытаньню зьезд удзяліў таксама шмат увагі. Друк у нас зьяўляецца магутным сродкам ня толькі палітычнага выхаваньня мас, ня толькі ён адыгрывае вялізарнейшую ролю ў барацьбе за чыстату пролетарскай ідэолёгіі, за правядзеньне генэральнай лініі нашай партыі, супроць усякага роду пакрыўленьняў, ухілаў ад генэральнай лініі партыі, друк адыгрывае вялізарнейшую ролю ў справе культурнага будаўніцтва.

Аб тым, якое дасягненьне мае наш друк у колькасным разрэзе, мы ўжо гаварылі вышэй. Там, дзе нам прыходзілася адзначаць аб нашых дасягненьнях на культурным фронце, там мы прыводзілі вынятку з дакладу тав. Гея, якая дакраналася нашага друку. Нам трэба адзначыць ня толькі нашыя дасягненьні, але і недахопы друку. Тав. Будзінскі вельмі яскрава і метка ахарыктарызаваў на зьезьдзе наш пэрыодычны друк. У сваім выступленьні ён сказаў аб друку наступнае:

„Пераходжу да пытаньняў друку. У гэтым абсягу мы маем сур'ёзныя дасягненьні. Мы дабіліся значнага арабочваньня і камунізацыі нашых радоў. Мы дабіліся таго, што наш друк страціў той налёт жаўцізны, які прыносілі ў яго журналістыя з буржуазнымі традыцыямі і які ў свой час выразна адлюстраваўся ў газэце „Рабочий“. Да рэчы, газэта „Рабочий“ стала яшчэ больш партыйнай ня толькі па зьместу, але і па сваім тоне. У наш актыў неабходна запісаць уцягненьне ў работу газэт больш шырокай рабкораўскай і селькораўскай масы і некаторае, хаця і невыстарчальнае, ажыўленьне рабкораўскай работы. Разам з тым у рабоце друку ёсьць сур'ёзныя недахопы. Аб іх больш усяго і буду гаварыць, але неабходна адзначыць і гэтыя дасягненьгі. Увесь наш друк і цэнтральны, і правінцыяльны, і фабрычна-заводзкія шматтыражкі правільна біліся за генэральную лінію партыі пад кіраўніцтвам нашага ЦК. Але, таварышы, у гэтым

змаганьні за правільную лінію партыі газэты дапусьцілі цэлы рад памылак, перагібаў, якія часамі прыводзілі нават да скрыўленьня і скажэньня партыйнай лініі".

Пытаньне аб друку стаяла на зьезьдзе ня толькі ў сэнсе ацэнкі толькі нашага пэрыодычнага друку, газэт, не, цэлы рад дэлегатаў ставіў пытаньне шырэй. Гаварылі аб нашай прэсе наогул, аб нашых часопісах, кніжках, адзначаючы вялікія недахопы ў гэтай галіне. Мы мелі за мінулы год вельмі многа ідэолёгічных прарываў у галіне друку, у галіне вучэбнай літаратуры, у нашых часопісах. Правыя апартуністыя, нацыянал-дэмократы і ўсякага роду буржуазныя і дробна-буржуазныя элемэнты ўсялякім чынам хацелі скарыстаць друк у сваіх варожых пролетарскай рэволюцыі мэтах. Вось маленькі толькі штрышок, на якім спыняўся адзін з дэлегатаў:

„Я хачу напомніць тое, што гаварылі на XII зьезьдзе КП(б)Б, што часам праз календары і масавыя іншыя выданьні прабуюць правалакаць прышчэпаўскую ідэолёгію. Калі хто сачыў за нашым календаром, ён заўважыў, што ў лістку за 16 мая праводзіцца ідэалізацыя Даніі, адкуль Прышчэпаў прыводзіў прыклады таго, як трэба будаваць сельскую гаспадарку. У гэтым лістку Данія падносіцца, як „шчасьлівая краіна", дзе ня трэба праводзіць пролетарскай рэволюцыі, дзе сялянства жыве бясьпечна, дзе сялянства бязбожнае, дзе яму ня трэба думаць аб пролетарскай рэволюцыі, гэта сьведчыць аб тым, што агенты Прышчэпава, правыя ўхілістыя, яшчэ знаходзяць сабе месца у нашых апаратах".

* * *

Вось якія галоўнейшыя пытаньні асьветы і культурнага будаўніцтва, якія знайшлі сабе не малое месца у працы XIII зьезду КП(б)Б. Нам трэба закрануць яшчэ адно пытаньне у сувязі з усім тым, аб чым мы тут гаварылі, пытаньне, якое стаяла таксама і на XIII зьезьдзе. Пытаньне гэтае кранаецца агульнага кіраўніцтва культурным фронтам.

Няма чаго казаць аб тым, што ў сучасных умовах хутка разгортваючыхся тэмпах соцыялістычнага будаўніцтва, наступленьня на капіталістычныя элемэнты і ліквідацыі кулацтва, як клясы, ва ўмовах абвостранейшай клясавай барацьбы, фронт культуры і асьветы мае для насаграмаднае значэньне. На гэтым фронце мы можам сустрэцца з вельмі вялікай небясьпекай з боку варожых нам элемэнтаў, варожай нам ідэолёгіі. Нам неабходна быць на гэтым фронце больш уважлівым ня ў меншай меры чым на фронце гаспадарчага будаўніцтва. Адсюль кіраўніцтва гэтым фронтам павінна быць асабліва вытрыманым, цьвёрдым, а побач з гэтым умелым і гібкім. Культурны фронт патрабуе мобілізацыі вялікіх пластоў працоўных. Масамі трэба ўмець кіраваць і кіраваць такім чынам, каб яны самі штодзённа прымалі актыўны удзел у культурным будаўніцтве. Зараз мы павінны прыцягваць шырачайшыя масы ня толькі да вырашэньня такіх проблем, як ліквідацыя няпісьменнасьці, ўсеагульнае навучаньне, політэхнічная асьвета і г. д., але нават і такі вучастак культурнага фронту, як навуковая работа, нават гэты вучастак патрабуе ўдзелу працоўных мас і перш за ўсё рабочае клясы.

І ня дзіўна, што на XIII зьезьдзе КП(б)Б пытаньні кіраўніцтва культурным фронтам таксама павінны былі стаяць і стаялі. Цэлы рад таварышоў выказвалі свае погляды па гэты пытаньні. Спынімся

толькі на некаторых з іх. Тав. Каменштэйн адзначаў недахопы нашых культпропаў і ў прыватнасьці сэктараў Народнае асьветы і масавай культработы. Вось, што ён казаў:

„Зараз я хачу спыніцца на пытаньні ўнутрыпартыйнага парадку. Хуткі тэмп социялістычнай рэконструкцыі нашай гаспадаркі паставіў перад партыяй задачу рэорганізацыі партыйнага апарату, прыстасаваўшы яго работу да новых задач і тэмпаў. Агітпропаддзел з мэтай павышэньня культурнай работы і культурнага кіраўніцтва рэорганізаваўся у Аддзел культуры і прапаганды. Сэктар культуры мае сваёй мэтай узмацніць работу культурнага будаўніцтва. Ён мае мэту наблізіць народную асьвету да комуністычнай партыі. Ён мае мэту павялічыць ўвагу ўсёй партыі да пытаньняў разьвіцьця культурнай рэволюцыі.

Такім чынам, наш культурны сэктар павінен быў-бы зрабіцца сапраўдным штабам культурнага будаўніцтва. Ён павінен быў-бы праводзіць, асабліва зараз, пасьля партыйнай нарады па пытаньнях народнай асьветы ў Маскве, вялізарную работу ў адносінах культурнага будаўніцтва".

Тав. Сянькевіч, кажучы аб тым, які характар павінна насіць наша культурная работа, паказваючы на неабходнасьць цясьнейшай сувязі яе з вытворчасьцю, у той-жа час падкрэсьліваў, што органы народнае асьветы павінны ператварыццца ў сапраўдныя штабы культурнай рэволюцыі.

„Наша задача сёньня ўсю нашу культработу перавесьці на рэйкі вытворчай прапаганды. Наша задача сёньня перавесьці ўсю нашу культасьветную работу, пераключыць яе тварам да вытворчасьці.

Наша задача стварыць такія органы асьветы, якія сапраўды сталі-б штабамі нашай культурнай рэволюцыі".

Будзем спадзявацца, што працоўныя масы, нашы партыйцы, камсамольцы, азнаёміўшыся з рашэньнем XIII зьезду КП(б)Б па пытаньнях культуры і асьветы, прымуць самы жывейшы ўдзел у будаўніцтве нашай беларускай нацыянальнай пролетарскай культуры, будзем думаць, што шырокія масы асьветнікаў, культурных работнікаў, усебакова вывучыўшы гэтыя рашэньні, будуць цьвёрда праводзіць іх у жыцьцё.

**М. Ганчарык**

# Беларускі навукова-дасьледчы інстытут сел. і ляс. гаспадаркі на службе ў беларускай кандрацьцеўшчыны

Нянавісьць клясавага ворага да першай у сьвеце пролетарскай дзяржавы, Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, ня толькі не паменшылася з часу Кастрычнікавай рэволюцыі, грамадзкай вайны і інтэрвэнцыі капіталістычных дзяржаў, але, наадварот, гэта нянавісьць яшчэ больш распальвалася з боку капіталістычных краін усяго сьвету і астаткаў варожа-клясавых пролетарыяту сіл у межах нашага Савецкага саюзу з кожным годам пабеданоснага соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

Капіталістычныя краіны, разьбітыя ў адкрытым баю, прымушаны былі перайсьці да патайнай шалёнай падрыхтоўкі новага нападу, скалачваючы анты-савецкія блёкі, падрыхтоўваючы экономічную блёкаду, у тайніках сваіх генэральных штабаў распрацоўваючы пляны новай інтэрвэнцыі, прыкрываючы ўсё гэта бессаромнай хлусьнёй аб Савецкім саюзе, які нібы-та вінаваты і ў агульным экономічным крызісе капіталістычных краін, які нібы-та пагражае агульнай культуры і цывілізацыі і г. д. Гэтыя байкі пра савецкі дэмпінг, гэтыя азьвярэлыя гаўканьні капіталістычнай апоры: папоўшчыны і сотні іншых хлусьлівых правакацыйных баек, што пускае ў ход супроць нас міравы капіталізм, маюць мэтай прыкрыць тую належную ваенную падрыхтоўку, якую яны рыхтуюць супроць нас, разам з тым жадаючы падманіць пільнасьць рабочай клясы ўсіх краін у іх гатоўнасьці ў любы момант стаць на абарону Савецкага саюзу, сваёй адзінай пролетарскай бацькаўшчыны.

У межах нашага Савецкага саюзу клясавы вораг, разьбіты ў адчыненых бойках, свае змаганьне з дыктатурай пролетарыяту перанёс у падпольле, паставіўшы сваёй задачай паступовую консолідацыю сваіх сіл для організацыі падрыўной, контррэволюцыйнай і здрадніцка-шпіёнскай працы для дапамогі капіталістычнай інтэрвэнцыі з тым, каб у спрыяючы момант усадзіць пролетар'яту нож у сьпіну.

Цэлы шэраг шкодніцкіх контррэволюцыйных організацый, у нас выкрытых за апошнія часы, паказалі, што рабочая кляса нашага Савецкага саюзу, якая здолела даць рашучы бой капіталізму ў нашай краіне 13 год таму назад, з вялікім посьпехам вядучы соцыялістычную перабудову ўсёй народнай гаспадаркі, ператвараючы нашу краіну з краіны аграрнай у краіну індустрыяльную, соцыялістычную,—здольна штодзённа кіраваць усім гаспадарчым і культурным будаўніцтвам, і сваім клясавым чуцьцём выкрываць ворага ня толькі ў яго адчыненай бойцы, але і ў яго скрытай падпольнай контррэволюцыйнай дзейнасьці, і бязьлітасна з ім змагацца.

Правыя опортуністыя і прымірэнцы, згубіўшы клясавае пачуцьцё, патураюць клясаваму ворагу, сваёй працай дапамагаючы яму ў яго падрыўной дзейнасьці. Толькі гэтым можна тлумачыць тое, што на працягу шмат гадоў гэтым шкодніцкім контррэволюцыйным элемэтам удавалася часта на вачох паасобных нашых партыйцаў весьці сваю шкодніцкую працу. Змыкаючыся, з аднаго боку, па устаноўках са шкоднікамі, з другога—правыя опортуністы самкнуліся з „левакамі" у бяспрынцыпным двурушніцкім блёку, об'ектыўна дапамагаючы працы гэтых шкодніцкіх элементаў.

Раскрытыя органамі ДПУ контррэволюцыйныя організацыі, як „промпартыя" на чале з Рамзіным, Ларычавым і др., „ТКП" на чале з Кандрацьцевым, Чаянавым і др., паказалі нам, чаго хацелі і што несьлі рабочай клясе і ўсім працоўным Савецкага саюзу гэтыя клясавыя ворагі пролетарыяту. Зварот назад усёй своры выгнаных Кастрычнікам капіталістаў і фабрыкантаў і аддача ім назад фабрык і заводаў, зварот зямлі паном і магнатам з аддачай яе ў рукі кулацтва, рэстаўрацыя буржуазна-капіталістычнага строю, устанаўленьне ваеннай дыктатуры, вось што несьлі нам контррэволюцыянэры з „промпартыі" і ТКП: зьнішчыць дыктатуру пролетарыяту, зьнішчыць рабочую дзяржаву, зноў аддаць рабочых і працоўнае сялянства ў лапы фабрыканта, пана і кулака,—вось якія мэты ставілі перад сабой гэтыя заядлыя ворагі пролетарыяту і ўсіх працоўных.

З гэтага боку для нас прадстаўляе значную цікавасьць і праца беларускіх нацыянал-дэмократычных контррэволюцыйных элемэнтаў у межах БССР, паколькі іх праца гэта—праца клясавага ворага, які меў на мэце зьнішчэньне дыктатуры пролетарыяту і рэстаўрацыю капіталістычна-буржуазнага ладу ў БССР і праводзіў шкодніцкую контррэволюцыйнную працу, апіраючыся на інтэрвэнцкія пляны нашых блізкіх капіталістычных суседзяй.

Беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм на працягу шмат гадоў імкнуўся ўсімі мерамі шкодзіць нашаму социялістычнаму будаўніцтву ў БССР, працівапастаўляючы яму свае буржазныя тэорыі, старанна і няўхільна імкнучыся правесьці іх у практыку нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Зрабіўшы асноўнымі цытадэлямі сваёй контррэволюцыйнай дзейнасьці ў галіне культурнага будаўніцтва Беларускую акадэмію навук, скарыстоўваючы для гэтага былое кіраўніцтва Н. К. асьветы, беларускі нацыянал-дэмократызм для сваёй шкодніцкай працы ў галіне сельскай гаспадаркі акапаўся ў Беларускім навукова-дасьледчым інстытуце, праводзячы сваю працу з дапамогай былога кіраўніцтва Н. К. земляробства.

Зьяўляючыся па сутнасьці часткай агульнай контр-рэволюцыйнай плыні ў галіне сельскай гаспадаркі, найбольш віднымі ідэолёгамі якой была група Кандрацьцева-Чаянава, беларускі нацыянал-дэмократызм ставіў сваёй мэтай зрыў соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, усімі мерам імкнучыся накіраваць разьвіцьцё сельскай гаспадаркі БССР па капіталістычнаму шляху, робячы стаўку на разьвіцьцё кулацкіх гаспададарак, як сваёй надзейнай апоры ў змаганьні супроць дыктатуры пролетарыяту і за рэстаўрацыю капіталістычнабуржуазнага ладу ў БССР.

Не выпадкова ў дзейнасьці беларускай кандрацьцеўшчыны і тое, што галоўная ўвага іх была зьвернута на аўладаньне навукова-дасьледчай працы, паколькі гэта давала магчымасьць абаснаваньню сваіх нацыянал-дэмократычных, буржуазных тэорый, падмацаваных „навуковым досьледам" з тым, каб праводзіць іх у жыцьцё праз нашы

зямельныя органы. Вядомы пэрыод „прышчэпаўшчыны“ у дзейнасьці Наркамзему БССР і зьяўляецца ня чым іншым, як пэрыодам практычнага ажыцьцяўленьне нацыянал-дэмократызму, буржуазных тэорый у практыку нашага будаўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі, стаўка на разьвіцьцё капіталістычных кулацкіх элемэнтаў вёскі, супроць правадзімай нашай партыяй і ўсёй рабочай клясай соцыялістычнай перабудовы нашай вёскі.

Аб мэтавых устаноўках беларускай кандрацьцеўшчыны у галіне нашай зямельнай політыкі і навукова-дасьледчай працы досыць зразумела гавораць самі-ж лідэры беларускага нацыянал-дэмократызму, як былы кіраўнік НКЗ БССР Прышчэпаў і былы кіраўнік навукова-дасьледчага інстытуту Гарэцкі. Праўда, свае асноўныя, прынцыповыя ўстаноўкі яны імкнуцца захаваць пад „соцыялістычнай“ вывескай, але ўсё-ж з-пад яе буржуазная сутнасьць выступае настолькі ясна, што трэба быць зусім блізарукім або зусім непісьменным, каб яе не заўважыць.

У № 2 часопісу „Сельская і лясная гаспадарка“, выданьня Навукова-дасьледчага інстытуту і НКЗ БССР, у артыкуле „Нашы дасягненьні ў аграрнай політыцы“, Прышчэпаў так характарызуе асноўныя ўстаноўкі сваёй зямельнай політыкі:

> „Пры правядзеньні земляўпарадкаваньня мы будуем новыя пасялковыя формы землякарыстаньня, на якіх ўжо пачалася і ў бліжэйшыя гады пойдзе самае шырокае коопэраваньне.
>
> Ужо моцна ўрастае пасялковая форма землякарыстаньня (створаная рэволюцыяй) на якой пачынае будавацца новы тып гаспадаркі, працівалеглы таму, які будаваў Сталыпін“ (стар. 5) *(падкрэслена аўтарам)*.

У працівалегласьць соцыялістычнай перабудовы вёскі на базе разгорнутага саўгаснага і колгаснага будаўніцтва з канчатковым выкарчоўваньнем кулацкіх капіталістычных элемэнтаў вёскі, беларускі кандрацьцевец, нацыянал-дэмократ Прышчэпаў, ставіць мэтай правядзеньне разгорнутай сталыпінскай програмы насаджваньня кулацкіх хутарскіх і дробна пасялковых гаспадарак, нічуць не саромячыся выкладаць гэтую сваю ўстаноўку на старонках нашага друку. Праўда, каб крыху замаскаваць запазычанасьць гэтай устаноўкі ў былога царскага міністра Сталыпіна, Прышчэпаў ідзе на бессаромную фальсіфікацыю: у дужках, замест „створаная Сталыпіным“, ставіць „створаная рэволюцыяй“, а замест „працівалеглы таму, які будуецца рэволюцыяй“ піша „процівалеглы таму, які будаваў Сталыпін“. Праводзячы кандрацьцеўскую працу ў галіне зямельнай політыкі і навукова-дасьледчай працы, беларускі нацыянал-дэмократызм імкнуўся разьвіцьцё сельскай гаспадаркі БССР накіраваць па капіталістычнаму шляху. Для гэтага ён меў на ўвазе, апрача насаджваньня кулацкіх гаспадарак, стварыць найбольш спрыяючыя ўмовы для іх разьвіцьця. У вышэйпрыведзенай цытаце Прышчэпава мы бачым, што беларускі нацыянал-дэмократызм дбаў і абсамым шырокім вытворчым коопэраваньні гэтых кулацкіх гаспадарак тыпу Сталыпіна. Якое гэта вытворчае коопэраваньне, аб якім гаворыць Прышчэпаў, мы ведаем ужо са слоў Кандрацьцева, які шчэ шмат гадоў таму назад імкнуўся навязаць нам капіталістычныя формы сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Гэта яўна кулацкія, капіталістычныя, акцыянэрныя таварыствы з наёмнай

працай па прыкладу Даніі і др. капіталістычных краін. Але і сам Прышчэпаў растлумачвае па сутнасьці тыя формы с.-гаспадарчай кооперацыі, якія ён прапагандуе:

„Ёсьць чаму нам навучыцца ва Ўсходняй Прусіі і Даніі ў галіне будаўніцтва с.-г. коопэрацыі" („Сел. і лясн. гаспадарка", № 2, ст. 78 і далей):

„Прызнаючы каштоўным замежны прынцып пабудовы ні завой спэцыяльнай сеткі с.-г. коопэрацыі, згодна якому практычна тэхнічную працу вядзе толькі спэцыялісты, прызначаны праўленьнем, а само праўленьне толькі кіруе і рэвізуе (без аплаты), правесьці ў некаторых раёнах такі вопыт з некаторымі спэцыяльнымі формамі коопэрацыі і, калі вопыт удасца, скарыстаць яго у больш шырокіх разьмерах" (Сел. і лясн. гаспадарка, № 2, стар. 81—„Вынікі вывучэньня замежнай сел. гасп. і прапановы.")

Таксама і дзяржаўныя агрономічныя мерапрыемствы беларускія кандрацьцеўцы меліся паставіць на службу кулацкіх гаспадарак:

„Вельмі цікавай для нас зьяўляецца організацыя ў Даніі агрономічнай дапамогі сельскай гаспадаркі. Там справа пастаўлена так, што датчане дабіваюцца толькі таго, каб мець агрономічна падрыхтаванага гаспадара, а спэцыялісты толькі дае консультацыю па тых ці іншых пытаньнях. А ў нас на ролю спэцыялістага склаўся такі погляд, што, скажам, агроном павінен сам непасрэдна абслугоўваць амаль што кожную сялянскую гаспадарку". („Сел. і лясн. гаспадар." № 2, ст. 77. Прышчэпаў)

Ва ўмовах капіталістычнага шляху разьвіцьця сельскай гаспадаркі, агрономічная граматнасьць зьяўляецца даступнай толькі кулацкай верхавіне вёскі, затым зусім зразумела вышэйпрыведзеная ўстаноўка беларускіх нацыянал-дэмократаў у галіне дзяржаўнай аградапамогі паставіць яе на службу толькі агрономічна граматнаму гаспадару, прасьцей сказаўшы, кулаку.

Больш поўную, больш разгорнутую програму дзейнасьці беларускага нацыянал-дэмократызму ў галіне сельскай гаспадаркі, прынцыповыя ўстаноўкі беларускай кандрацьеўшчыны мы знаходзім другога лідэра беларускай кандрацьцеўшчыны—Гарэцкага. Даючы мэтавыя ўстаноўкі навукова-дасьледчай працы БССР у галіне сельскай і лясной гаспадаркі, Гарэцкі выкладвае галоўныя ўстаноўкі беларускага нацыянал-дэмократызму ў галіне сельскай гаспадаркі.

Так, у сваім уступе да гадавой справаздачы, першага году працы БНДІ Гарэцкі піша:

„Рэволюцыя разбурыла старую экономічную сыстэму і аддала зямлю сялянам. Гэтым стварылася мажлівасьць больш моцнага капіталазьбіраньня ў сялянскай гаспадарцы, у першыя часы, праўда, капіталазьбіраньня ў натуральнай форме. Нацыяналізацыя лясоў перадала лясныя прыбыткі Беларускай дзяржаве, стварыўшы ўмовы аккумуляцыі і асяданьня капіталу на месцы. Нязвычайна ўзрасьлі гаспадарчыя функцыі і роля дзяржавы, павялічылася сфэра гаспадарчага ўплыву дзяржавы на сялянскую гаспадарку, стварыліся ўмовы для шыбкага разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Гэта разьвіцьцё, пры адпаведных спрыяючых рынкавых умовах і організацыі рыначных сувязяй, дасягне разьмераў ня знаных ні за які іншы мінулы пэрыод гісторыі беларускае сельскае гаспадаркі. Павялічэньне вытворчасці зямлі і працы стала ня толькі лёзунгам, але

гаспадарчай неабходнасьцю і няўхільным фактам далейшай стадыі гаспадарчага разьвіцьця Беларусі. Адгэтуль вялікі попыт на агрономічную і дасьледчую працу, як з боку саміх вытворцаў сялян, так і з боку дзяржавы. Бо якраз дасьледчая праца, шукае новыя спосабы павялічэньня вытворчасьці зямлі, а разам пры рацыянальнай організацыі і павялічэньня вытворчасьці працы. Бо як раз дасьледчая і агрономічная працы дапамагаюць дапасаваць да нашых беларускіх умоў ня толькі новыя, але і старыя, ужо знаныя, дасягнутыя ў іншых раёнах спосабы павялічэньня вытворчасьці зямлі" („Першы год працы" БНДІ 1927, ст. 5). (*Падкрэсьлена мной—М. Г.*)

Даючы ў прыведзенай цытаце больш менш закончаную концэпцыю тэорытычнага абаснаваньня ўстановак беларускага нацыянал-дэмократызму ў напрамку шляхоў разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР, Гарэцкі, праўда, ня ўсё поўнасьцю называе сваімі імёнамі, але там, дзе ён не дагаварвае да поўнай яснасьці, яму ў гэтым дапамагаюць другія.

Гарэцкі без усякіх падыходаў, па-просту ўсю ўстаноўку ў разьвіцьці с. г. БССР бярэ на кулацкую гаспадарку, гаспадарку, для якой Прышчэпаў сваёй кулацкай політыкай у працы НКЗ БССР стварыў „мажлівасьці больш моцнага капіталазьбіраньня". Аб гэтых мажлівасьцях для больш шпаркага і моцнага разьвіцьця капіталістычных элемэнтаў вёскі. кулацтва, дбае, як бачым, і Гарэцкі. Для больш шпаркіх тэмпаў разьвіцьця капіталістычных элемэнтаў беларускай вёскі „ня знаных ні за які іншы мінулы пэрыод гісторыі беларускай сельскай гаспадаркі", Гарэцкі, як бачыце, патрабуе „спрыяючых" рыначных умоў і рыначных сувязяй, разумеючы пад гэтымі рынчнымі ўмовамі і сувязямі ня толькі капіталістычную сыстэму рыначных узаемаадносін унутры краіны, але і рыначныя сувязі з замежнымі капіталістычнымі краінамі Беларусі. Нацыянал-дэмократызм, як і група Кандрацьцева-Чаянава, бачылі вялікую перашкоду з монополіі нашага зьнешняга гандлю для разьвіцьця капіталістычных элемэнтаў ўнутры нашай краіны, затым зразумелае іх жаданьне зьнішчэньня гэтай монополіі, што мы бачылі з боку групы Кандрацьцева, „альбо шуканьне" прадушын, „лазеек" у гэтай монополіі, а гэта фактычна адназначана з поўным зьнішчэньнем гэтай монополіі, што мы бачым у беларускіх нац-дэмократаў.

Разьвіваючы ідэі перанясеньня опыту капіталістычных мэтодаў працы ў галіне сельскай гаспадаркі БССР, для стварэньня спрыяючых умоў для разьвіцьця кулацкіх гаспадарак у БССР, Прышчэпаў у № 2 „Сел. і лясн. гасп." растлумачвае нам сутнасьць тых рыначных сувязяй, аб якіх гаворыць Гарэцкі. Ён накіроўвае на практычныя рэйкі пытаньне аб ажыцьцяўленьні адмены монополіі зьнешняга гандлю, для чаго лічыць патрэбным даручыць (так, даручыць) Наркамгандлю ўтварыць „прадушынку" у гэтай монополіі ў выглядзе акцыянэрнага „беларуска-прускага гандлёвага вобчаства".

„Б) Даручыць Народнаму камісарыяту гандлю пачаць вясьці папярэднія перамовы з Усходняй Прусіяй аб організацыі супольнага „Беларуска-прускага гандлёвага вобчаства". („Сел. і лясн. гасп.", № 2, стар. 80).

Робячы стаўку на разьвіцьцё кулацкіх гаспадарак, на ўзмацненьне капіталістычных элемэнтаў ў сельскай гаспадарцы БССР, імкнучыся пры гэтых умовах дбаць аб павялічэньні „вытворчасьці зямлі і працы,

як лёзунг і гаспадарчую неабходнасьць для разьвіцьця гэтых кулацкіх гаспадарак, беларускія кандрацьцеўцы добра ведалі сутнасьць павялічэньня вытворчасьці зямлі і працы“ у гэтых умовах. Яны разумелі, што пры капіталістычных умовах разьвіцьця гаспадаркі, пры капіталістычнай рацыяналізацыі, усякае павялічэньне вытворчасьці працы перш за ўсё ідзе за кошт узмацненьня клясавай эксплёатацыі, і што іх шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР—гэта аддача батрацкабядняцкай часткі беларускай вёскі ў самую жорсткую эксплётацыю культывуемага імі кулацтва.

Але ў дадзеным выпадку мы бачым нешта яшчэ значна больш горшае. Беларускі нацыянал-дэмократызм ня толькі імкнуўся аддаць вясковую беднату і батрацтва на эксплёатацыю кулаку, але і дапамагчы эксплёатаваць іх на грунце найноўшых навуковых дасягненьняў. Ня проста па „старынушцы“, а па-новаму, па апошняму слову навукі.

„Капіталістычная інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі вывучана, але яна неорыгінальна і стара (падкрэсьлена мной—М. Г.), як і сам капіталістычны сьвет. Перад намі стаіць проблема організацыі соцыялістычнага (?? М. Г.) земляробства, і ў гэтай справе вялікую ролю павінен адыграць Навукова-дасьледчы інстытут; паколькі тут справа новая і сама па сабе грандыёзная, яна павінна захапіць кожнага навуковага працаўніка“. („Першы год працы“ БНДІ 1927 г. Прышчэпаў).

Як бачыце, Прышчэпаў прызывае ўсіх навуковых працаўнікоў БНДІ дапамагчы ў распрацоўцы найноўшых навуковых мэтодаў капіталістычнай эксплёатацыі ў сельскай гаспадарцы, бо вядомыя дагэтуль мэтоды капіталістычнай інтэнсыфікацыі (а гэта інтэнсыфікацыя ў капіталістычнай грамадзе і ідзе ўперад праз узмацненьне клясавай эксплёатацыі) „стары і неорыгінальны“.

Як бачым, беларускія кандрацьцеўцы ня толькі стварылі тэорытычную програму капіталістычнага шляху разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР, але і імкнуліся яе практычна ажыцьцёвіць, што мы і бачым у вядомай кулацкай палітыцы НКЗ часоў прышчэпаўшчыны.

Добра разумеючы, што пры строгім плянаваньні разьвіцьця ўсіх галін народнай гаспадаркі савецкай уладай, пры кіраўніцтве рабочае клясы разьвіцьцём сельскай гаспадаркі, „надзвычайна ўзрасьлі гаспадарчыя функцыі і роля дзяржавы, павялічылася сфэра гаспадарчага ўплыву дзяржавы на сялянскую гаспадарку“, беларускія нацдэмы імкнуліся скарыстаць усе тыя шляхі, якія толькі мажлівы для шпаркага насаджэньня і разьвіцьця кулацкіх гаспадарак. На службу гэтаму мобілізуюцца і вядомыя, спрабаваныя мэтоды капіталістычнай коопэрацыі і аградапамогі, земляўпарадкаваньне і навукова-дасьледчая праца, якая павінна была даць тэорытычнае абаснаваньне ўсім гэтым мерапрыемствам.

Як першыя вынікі гэтай дасьледчай працы, мы ўжо ведаем вядомую працу Кісьлякова „Пасёлкі“, якая падводзіла тэорытычную базу пад правадзімую Прышчэпавым хутарызацыю ў выглядзе насаджваньня дробных пасёлкаў і хутароў, а таксама працы Ждановіча „Умовы разьвіцьця рыначнай сьвінагадоўлі ў БССР“, Макарава, Смоліча і інш. Я не мяркую тут спыняцца на разглядзе гэтай „навуковай продукцыі“ беларускай кандрацьцеўшчыны,—гэта справа спэцыялістых-экономістых, я-ж тут маю на ўвазе застанавіцца на тым, як гэтыя нацдэмаўскія ўстаноўкі ў БНДІ адбіліся на навукова-дасьледчай працы па тэхнічных дысцыплінах у галіне паляводзтва, мэліорацыі і лясной гаспадаркі, якімі ўстановамі кіраваліся гэтыя разьдзелы навукова-дасьледчай працы БНДІ.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы цесная, неразрыўная сувязь з агульнымі кандрацьцеўскімі ўстаноўкамі, якімі прасякнута асноўная мэтавая ўстаноўка беларускіх нацыянал-дэмакратаў у напрамку разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР і тымі, якія пакладзены імі ў аснову навукова-дасьледчай працы БССР, кажучы тым самым, што ўся сыстэма БНДІ зьяўлялася пэўнай арганізаванай сыстэмай для выкананьня заказу беларускага нацыянал-дэмократызму.

Так, у былога кіраўніка аддзелу расьлінагадоўлі Скандракова мы знаходзім цікавыя дапаўненьні да тых установак, якія даваліся ў навукова-дасьледчай працы Гарэцкім і Прышчэпавым. Скандракоў ставіць пытаньне ня толькі аб наданьні буржуазна-клясавай сутнасьці навукова-дасьледчай працы ў галіне сельскай гаспадаркі БССР, але гаворыць аб пэўным зрастаньні працы дасьледчых установ БССР з суседнімі капіталістычнымі краінамі. Для яго ня існуе БССР, краіна будуючагася соцыялізму, ня існуюць новыя ўстаноўкі ў навукова-дасьледчай працы гэтай краіны, зусім адменныя ад тых, якія існуюць у капіталістычных краінах. Ён гаворыць не аб дасьледчай працы БССР, а аб дасьледчай працы „Палескай краіны“, куды ўключае і тэрыторыю Заходняй Беларусі і Літву, марыць аб яе аб'яднаньні з дасьледчымі ўстановамі Польшчы, Літвы.

„Аддзел с.-г. расьлінагадоўлі БНДІ будзе весьці пры дапамозе ўсіх мэтодаў ня толькі самастойную паглыбленую дасьледчую працу ў адпаведных галінах с. г., але адначасова ён павінен навукова аб'яднаць працу ўсіх дасьледчых установ „Палескай краіны“ у галіне расьлінагадоўлі і дапамагаць належнаму яе выкананьню („Сельская і Лясная гаспадарка“, № 4, ст. 3).

„Вельмі важна было-б мець сталую сувязь і з Віленскай дасьледчай станцыяй (Біняконі), а таксама з дасьледчымі палямі Заходняй Беларусі. Апроч гэтага, патрэбна пры плянаваньні дасьледчай працы ў галіне расьлінагадоўлі ўтварыць належны контакт з абласнымі дасьледчымі організацыямі сумежных з Палескай краінай вобласьцяй—з паўднёва-заходняю, цэнтральна-прамысловаю і пажадана Харкаўскай і Кіеўскай, а таксама са станцыяй Бейсаголе (Літва)“ („Сельск. і лясн. гаспадар.“, № 4, ст. 3).

Гэтым самым Скандракоў ставіць пытаньне і аб тым, каб працу БНДІ паставіць на службу ня толькі капіталістычным элемэнтам у нашай сельскай гаспадарцы, але паставіць яе на службу капіталістычных суседніх краін, як Польшча і Літва:

„...Распрацоўка ўсімі мэтодамі галоўных пытаньняў с.-г. расьлінагадоўлі, агульных для ўсяе Палескае краіны з выкарыстаньнем для гэтага як установ БНДІ, так і іншых дасьледчых установ краіны (чытай: дасьледчых установ Польшчы і Літвы—М. Г.“) („Сел. і лясн. гаспад. № 4, ст. 5).

Для Скандракова, як і наогул беларускага нацыянал-дэмократызму, ня існуе розьніцы паміж краінай будуючагася соцыялізму і капіталістычным сьветам, паміж БССР і Польшчай. І гэта зразумела, шляхі разьвіцьця с. г. суседніх капіталістычных краін тыя-ж, якія яны намячалі і для с. г. БССР, а, як паказваюць выкрытыя органамі ДПУ контррэволюцыянэры групы Лёсіка, Ластоўскіх, Некрашэвічаў і др., іх канчатковай мэтай было зьвяржэньне савецкай улады і ўстанаўленьне „народнай“ рэспублікі пад пратэктаратам Польшчы. (Газ. „Савецкая Беларусь“, № 286 ад 11-XII „Беларуская наццэмаўская контррэволюцыя ўчора і сёньня“). Як бачым, розьніцы ва ўстаноўках беларускіх нацыянал-дэмократаў, працуючых у розных галінах, няма ніякай.

На туюж тэму гаворыць і Серада, былы „вучоны“ сэкратар БНДІ. Розьніца ў яго з Скандраковым толькі ў тым, што ён абасноўвае патрэбу падпарадкаваць навукова-дасьледчую працу БССР дасьледчым установам капіталістычнай суседкі Польшчы не агульнасьцю навуковых інтарэсаў, а агульнасьцю грамадзкіх інтарэсаў.

„Беларускі навукова-дасьледчы інстытут зьяўляецца ня толькі чыста навуковай установай, якая прарабляе ў сваіх лябораторыях і габінэтах грунтоўныя проблемы навукі і навукова-прыкладных ведаў: інстытут таксама і навукова-грамадзкая ўстанова, якая зьвязана з усёй Беларусьсю (разумей і Заходнюю Беларусь.—М. Г.), з яе дзяржаўнымі грамадзкімі і дасьледчымі ўстановамі (падкрэсьлена мной—М. Г.), так ці інакш датычнымі да вывучэньня вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы і маючымі які-колечы ўплыў на яе разьвіцьцё і продукцыйнасьць. Таму інстытут (БНДІ—М. Г.) наладжвае сувязь і будзе сьціслa падтрымліваць яе ня толькі з навуковымі і навучальнымі ўстановамі БССР і Саюзу, але і з некаторымі замежнымі дасьледчымі інстытуцыямі“. („Сел. і Лясн. гаспад.“, № 3, ст. 92). (Падкрэсьлена мной—М. Г.).

У працы іншых разьдзелаў БНДІ мы таксама бачым адсутнасьць мэтавай ўстаноўкі падпарадкаваць сваю працу інтрэсам сацыялістычнай перабудовы нашай гаспадаркі, а то часам сустракаем і проста змазваньне тых асаблівасьцяй, якія рэзка адрозьніваюць напрамак разьвіцьця гэтай галіны ва ўмовах пролетарскай дзяржавы ад капіталістычных краін і тым самым або выконваючы заданьні беларускага нацыяналдэмократызму, або об'ектыўна дапамагаючы яму. Праф. Мельнік у № 1 „Сел. і лясн. гаспад“. (ст. 41) піша, што

„самым радыкальным вынікам рэволюцыі ў галіне лясной гаспадаркі была нацыяналізацыя ўсіх лясоў, што знаходзяцца на тэрыторыі СССР. Цікава тое, што процэс гэты прайшоў настолькі гладка і проста (падкрэсьлена мною—М. Г.), што зусім не адбіўся ні ў навуковай літаратуры, ні ў дэбатах на зьезьдзе лясных спэцыялістых. Аб іх упаміналася толькі ў агульнадаступных лясных брошурах і газэтных артыкулах“.

Згодна проф. Мельніку можна лічыць, што нацыяналізацыя прыватна-ўласьніцкіх лясоў у выніку Кастрычнікавай рэволюцыі зусім ужо не зьяўляецца рэволюцыйным актам. Мала чаго там не спрабавалі пісаць у газэтных артыкулах і агульнадаступных брошурках (мабыць для шырокіх працоўн. мас), мы-та лясныя спэцыялістыя другой думкі, бо

„справа ў тым, што сама прырода лесу і асаблівасьці лясной гаспадаркі такія, што яны ў першую чаргу вымагаюць концэнтрацыі ўласьніцтваляснымі плошчамі і якраз концэнтрацыі ў руках дзяржавы, а ня прыватных асоб, ці невялічкіх груп насельніцтва. Дзеля гэтага нават у тых дзяржавах, дзе існуе прынцып прыватнай уласнасьці на зямлю, правы ўласьніцтва на лес прыватных асоб абмяжоўваюцца самою буржуазнаю ўладаю. Інакш лясы вельмі хутка зьніклі-б з тэрыторыі дадзенай дзяржавы“. („Сел. і Лясн. гаспадарка“ № 1, ст. 41).

Іначай кажучы, згодна тлумачэньням проф. Мельніка, выходзіць, што ніякай прыватнай уласнасьці на лес да Кастрычнікавай рэволюцыі ў нас ня было, а калі яна і была, дык скарэй фіктыўная, бо ўласнасьць прыватных асоб на лес была абмежавана дзяржавай, і розьніцы, такім чынам, паміж прыватна ўласьніцкім карыстаньнем лесу ў часы царскай Расіі і ўласнасьцю на лес самой пролетарскай дзяржавы ў СССР ніякай і быць ня можа.

Ну а адсюль і лёгічны вывад, што і прынцыпы лясной політыкі Савецкай улады ня так ужо павінны чым розьніцца і ад прынцыпаў лясной політыкі дарэволюцыйнай царскай Расіі, хаця і зьяўляюцца вытрыманымі ў духу агульнай політыкі савецкай улады.

„У сувязі з правядзеньнем у жыцьцё прынцыпу нацыяналізацыі лясоў павінны былі рэзка зьмяніцца і прынцыпы лясной політыкі. Ізноў-жа такі, дзякуючы асаблівасьцям прыроды лесу і лясной гаспадаркі ня так рэзка, як прынцыпы зямельнай політыкі, (падкрэсьлена мною—М. Г.) але ўсё-ж досыць рэзка, досыць азначана і поўнасьцю вытрымана з агульнай політыкай Савецкай улады“ (Сел. і Лясн. гаспадарка“ № 1, ст. 41).

І толькі радыкальную рэорганізацыю проф. Мельнік бачыць у галіне пераапрацоўчай прамысловасьці, дзе ён прызнае, што пасьля рэволюцыі яна павінна была поўнасьцю організавацца нанова на руінах прыватна-ўласьніцкай.

Але і гэта не дало проф. Мельніку мажлівасьці ўбачыць тыя сапраўдныя моманты, якія вызначаюць усю сутнасьць нашай савецкай лясной гаспадаркі і якія павінны вызначыць і шляхі навукова-дасьледчай працы ў галіне лясной гаспадаркі і асабліва ва ўмовах соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнай гаспадаркі краіны, у сувязі з пераводам нашага Савецкага Саюзу з краіны аграрнай у краіну індустрыяльнааграрную

І як вынік усяго гэтага, як вынік такога разуменьня задач савецкай лясной гаспадаркі, які мы бачым у кіраўніцтве лясного аддзелу БНДІ, лясны аддзел па сутнасьці чаго-небудзь карыснага для патрэб соцыялістычнага будаўніцтва і ня даў. Тыя аб'ёмістыя зборнікі „Матэрыялы па лясной дасьледчай справе БССР“, якія выпушчаны лясным аддзелам, у пераважнай сваёй частцы запоўнены програмамі, справаздачамі, фінансавымі плянамі, пэрспэктыўнымі плянамі, леса-фэнолёгічнымі назіраньнямі, выпіскамі з протоколаў і г. д., сярод якіх сапраўдных вынікаў дасьледчай працы прыходзіцца шукаць даволі пільна. Амаль на 1500 старонках гэтых 5 томаў мы знаходзім толькі 11 прац. дасьледчага характару. Дутай аказваецца і таўшчыня саміх зборнікаў. Тут, як гэта на першы погляд ні дзіўна, у БДНІ, прасякнутым нацыянал-дэмократычнымі ўстаноўкамі, даваўся поўны прастор і вялікадзяржаўнаму шовінізму, прыкладам чаго, і даволі паказальным, могуць быць гэтыя тоўстыя „навуковыя“ зборнікі па лясной дасьледчай справе. Прыкрываючыся тым, што навуковыя матэрыялы трэба зрабіць даступнымі для ўсяго Савецкага Саюзу і замежных вучоных, амаль усе матэрыялы друкуюцца на 3 мовах: беларускай (па абавязку), расійскай (для сябе) і чужаземнай (для навуковасьці). Так, пэрспэктыўны пяцігадовы плян займае 40 старонак беларускага тэксту, 41 старонку расійскага і 5 старонак нямецкага. Нават організацыйная і грашовая справаздача друкуецца на дзьвюх мовах—беларускай і расейскай. Калі некаторыя матэрыялы, маючыя шырокую цікавасьць для ўсяго Савецкага Саюзу і патрэбна друкаваць на расійскай мове, то гэтым ніяк ня можна апраўдаць, тое што надрукавана ў гэтых „тоўстых“ зборніках.

На першы погляд здаецца несаўмясьцімым нацыянал-дэмократызм і вялікадзяржаўны шовінізм, але адзіная клясавая сутнасьць іх у нашых умовах дае шмат прыкладаў, калі яны ідуць адзін другому насустрач, калі яны дапамагаюць адзін другому. Такі выразны прыклад мы бачылі і ў справе профэсара Крукава (гл. „Сав. Бел.“ № 274—27-XI-1930 г.), які, зьяўляючыся махровым вялікадзяржаўным

шовіністым у той-жа час актыўна змагаўся за нацыянал-дэмакратычныя ўстаноўкі, нічым не адрозьніваючыся ў гэтым ад сапраўдных беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Загэтым нас не павінна дзівіць і тое, што і ў сьценах БНДІ, гэтай цытадэлі беларускай нацдэмаўшчыны ў сельскай гаспадарцы, мы знойдзем шэраг прыкладаў праяў і натуральнага вялікадзяржаўнага шовінізму, цеснага змыканьня аднаго з другім.

У галіне мэліорацыі і культуры балот мы бачым поўную адсутнасьць накіраванасьці працы на задаволеньне актуальных патрэб соцыялістычнай рэконструкцыі.

Былы кіраўнік аддзелу Дубах пачатак сучаснай мэліорацыі бярэ з 1900 году, і гэта „сучаснасьць“ азначаецца ім сувязьзю яе з зямляупарадкаваньнем, перасяленьнем і інтэнсыфікацыяй гаспадаркі. Калі ўзяць вядомыя ўжо нам устаноўкі беларускай кандрацьцеўшчыны, дык такі погляд з яе пункту гледжаньня і будзе зусім правільным. Бо розьніцы ў шляхох разьвіцьця сельскай гаспадаркі апошняга пэрыоду царскай Расіі (асабліва пэрыоду сталыпіншчыны) і тых, якія намечаны беларускімі нацдэмамі, амаль няма, зачым і ўстаноўка ў шляхох сучаснай мэліорацыі па Дубаху нічым не павінна розьніцца ад тых, якія існавалі ў апошнія часы перад Кастрычнікавай рэволюцыяй:

> ...„Гэтыя экспэдыцыі за пэрыод з 1873-1897 гадоў займаліся асушкаю адкрытымі канавамі балотных масываў Беларускага Палесься і часткаю балот цэнтральных губ. Экспэдыцыяй Жылінскага заканчваецца гісторычны час мэліорацыі, пасьля яе з 1900 г. ідзе сучасная мэліорацыя, зьвязаная з зямляупарадкаваньнем, перасяленьнем і інтэнсыфікацыяй с. гасп.“ („Сел. і Лясн. гасп.“ № 1, ст. 11—Дубах).

Але гэтая „сучасная“ мэліорацыя пры савецкай уладзе, па Дубаху, адно пасьмешышча, бо практычная мэліорацыя, пачатая ў 1923 г., выяўлялася ў тым, што крыху штось рабілася на балотнай Менскай станцыі, зарадзіліся аж два (!!) мэліорацыйных таварыствы, спэцыялістым мэліоратарам даручылі рамантаваць памяшканьне Наркомзему. Паказчыкам увагі да справы мэліорацыі прыводзяць тыя невялікія сродкі, якія былі асыгнаваны на гэтую справу ў той час:

> „Практычная справа па мэліорацыі пачалася ў 1923 г.; выяўлялася яна ў тым, што рыліся новыя канавы, закладваліся ганчарна-трубчатыя драўляныя бутцаўскія дрэвы на пашыранай плошчы Менскай балотнай станцыі, аднавіліся назіраньні над роўнем вады ў рэчках, каналах, пачаліся назіраньні за сплавам лесу. На вытворчыя працы выдаткавана было 38.119 руб., што зьявілася адразу паказчыкам узноўленай увагі да гэтай справы: зарадзіліся два мэліорацыйныя таварыствы: апроч працы па спэцыяльнасьці, пэрсоналу аддзелу мэліорацыі даручаны быў рамонт памяшканьняў Наркомзему. („Сел. і Лясн. гаспад.“ № 2, ст. 10-11—Дубах).

Можна толькі падзівіцца гэтаму роўнаму, спакойна-эпічнаму тону, сапраўды профэсарскаму, якім гаворыць Дубах і гаворыць ужо тады, калі грандыёзна як у сваіх памерах, гэтак і тэмпах вялася мэліорацыйная і культурна-тэхнічная праца на абшарах БССР, калі вялізарнейшыя абшары непрахадзімых балот нашай краіны на вачох гэтага-ж Дубаха ператварыліся ў ураджайні, палеткі і сенажаці, на якіх шпарка распачалі ўзрастаць нашы буйнейшыя беларускія гіганты сельскае гаспадаркі—саўгасы і колгасы..

Зусім зразумела, што і праца ўсяго аддзелу мэліорацыі пры такім кіраўніцтве ня ставіла перад сабой задачы прыстасаваньня да сучасных запатрабаваньняў соцыялістычнай рэконструкцыі, а, наадварот, займалася абмеркаваньнем пытаньня, якім шляхам паставіць нашу мэліорацыю на службу ўзброенай інтэрвэнцыі капіталістычных краін, плян якой так старанна распрацоўвалі генэральныя штабы Францыі, Польшчы і іншых нашых суседзяў, аб чым нам гаварылі контррэволюцыянэры з „промпартыі“.

Менская балотная станцыя, зрабіўшая нямала для вырашэньня шэрагу проблем зьвязаных з культурай балот, усё-ж таксама ня мела пэўнай і выразнай устаноўкі. Ня дзівіць загэтым, што кіраўнік станцыі т. Дакукін мажлівасьці шырокага разьвіцьця культур тэхнікі ў БССР бачыць у пытаньні кошту мінэральных угнаеньняў і правядзеньні зямляўпарадкаваньня:

„У сучасную пераходную шмат у чым эпоху (падкрэсьлена мною—М. Г.) мы стаім і ў галіне культуры балот на рубяжы двух пэрыодаў.

У бліжэйшыя гады, бязумоўна, культура балот атрымае мажлівасьць шырокага разьвіцьця на Беларусі, таму што паступова зжываюцца тормазы, якія рабілі да гэтага часу шырокае разьвіцьцё культуры балот немажлівым: дарагоўля мінэральных угнаеньняў і незямляўпарадкаванасьць“ („Басэйн ракі Талькі“ выд. 1929 г., стар. 4—Дакукін).

Характэрна ў прыведзенай цытаце і тое, што, як відаць з яе, т. Дакукін альбо ня ведае, альбо ня хоча называць рэчы сваімі імёнамі, называючы сучасную эпоху соцыялістычнай рэконструкцыі „пераходнай шмат у чым“ эпохай.

У сваіх работах Балотная станцыя часамі праводзіла выразныя нацыянал-дэмократычныя ўстаноўкі, агітуючы за кулацкія гаспадаркі, імкнучыся скарыстаць нашы колёнізацыйныя фонды на асушаных балотных масывах для насаджваньня на іх кулацкіх хутарскіх гаспадарак, што марыў зрабіць і Прышчэпаў на асушаным Марыінскім масыве.

Так у вышэйпамянёнай працы Балотнай станцыі „Басэйн ракі Талькі,“ выд. 1929 г., якая складаецца з вынікаў шэрагу абсьледваньняў басэйну р. Талькі для мэт складаньня пляну колёнізацыі балотнага масыву гэтага басэйну пасьля асушкі, мы знаходзім і вынікі экономічнага дасьледваньня Дуброўскага, дзе ён у кожным радку імкнецца паказаць на перавагу хутарской кулацкай гаспадаркі:

...„Сьвінагадоўля толькі па другой групе хутарскіх гаспадарак (група з большай колькасьцю пахаці—М. Г.) носіць больш-менш выяўлены характар таварнай гаспадаркі з гадоўляй сьвіней на адкорм“...

...„Па хутарскіх гаспадарках, па ўсіх групах рознай ступені маюцца некаторыя накапленьні, у той час, калі на вёсках накапленьні маюцца толькі па дзьвюх вышэйшых групах і накапленьні гэтыя значна меншыя, ня гледзячы на тое, што сенапашні тут некалькі больш“.

...„Нават пры наяўнасьці заробкаў бюджэт цераспалосьнікаў вельмі малы як па абсолютнай сваёй велічыні, таксама і ў адносінах бюджэту хутараніна“.

...„Хутары па ўсіх групах значную частку сваёй продукцыі выкідваюць на рынак, у той час ніжэйшыя групы вёскі купляюць продукты спажываньня, а вышэйшая група, хоць і прадае частку сваёй

продукцыі, але значна меншую, чым хутары“ (стар. 50-52-54), і, як вынік з ўсяго гэтага, у практычных прапановах з гэтага чытаем:

„1. Проектуемыя колёнізацыйныя гаспадаркі ў басэйне р. Талькі павінны будавацца па прынцыпу мажліва больш рэзка выражанай таварнасьці“... (ст. 54).

Прасьцей гаворачы, колёнізацыя павінна быць організавана па хутарской сыстэме, праз насаджваньне кулацкіх гаспадарак, бо па аўтару хутары зьяўляюцца такой сыстэмай, якая дае найбольшую таварнасьць гаспадаркі.

Я ня буду тут застанаўлівацца на прыёмах аўтара, якія ён ужывае для доказу гэтых вывадаў, які нарочна групуе гаспадаркі ў сваім дасьледваньні толькі па аднаму прызнаку колькасьці пахаці—гэта задача спэцыяльнага крытычнага агляду, якім павінны заняцца экономістыя.

Калі многія разьдзелы працы БНДІ беларуская кандрацьцеўшчына імкнулася паставіць на службу сваім задачам і патрэбам, дык там, дзе гэтае зрабіць было немажліва, беларускі нацыянал-дэмократызм імкнуўся проста зрываць работу, зрабіць яе непатрэбнай, бескарыснай для патрэб соцыялістычнага будаўніцтва.

Як прыклад гэтага можа быць праца станцыі аховы расьлін, якая, організаваўшыся ў 1923 годзе, да апошніх часоў амаль што зусім нічога не дала для патрэб сельскай гаспадаркі БССР, для дапамогі соцыялістычнае перабудовы нашае вёскі.

Станцыя працавала, мела штат, які акуратна атрымліваў пэнсію, ставіла досьледы, выпускала „навуковыя“ працы. Але толькі трэба запытаць, каму гэтыя працы патрэбны? Што практычнага, карыснага даюць для сельскай гаспадаркі БССР працы па вывучэньню суслакоў на Беларусі, іх біолёгіі, іх адмен, мэтодаў барацьбы з імі, калі ўсіх суслакоў на Беларусі ёсьць менш, чым тых асоб, якія займаліся іх вывучэньнем. Альбо што карыснага нам даюць працы па вывучэньню бактэрыі Меражкоўскага і др., вывучэньню чмялёў і г. д., і гэта ў той час, калі сотні мільёнаў рублёў штогодна сельская гаспадарка БССР нясе страт ад розных грыбных і бактэрыяльных хвароб нашых сельска-гаспадарчых расьлін, ад розных шкоднікаў, шасьціножак, якія заставаліся амаль зусім бяз увагі станцыі аховы расьлін.

Што зрабіла карыснага, апрача страт, праца БНДІ ў галіне „жывёлагадоўлі“?

Трэба сказаць, што абсолютна нічога. Існаваўшы аддзел жывёлагадоўлі фактычна не існаваў, толькі лічыўся ў структуры і атрымліваў асыгнаваньні, а станцыя буйной рагатай жывёлы, організоўваючыся да восені г. г., так і не організавалася, хаця на працягу некалькіх гадоў існавалі штаты, людзі, кіраўнікі, якія атрымлівалі грошы, пісалі справаздачы, у якіх аб працы станцыі пісалася:

...„У працягу лета выконвалася навучаньне лябораторнай тэхніцы практыканта П. І. Гамалея (пры катэдры зоотэхнікі БДСГАк), гэтая праца, на жаль, ня была скончана з прычыны звальненьня т. Гамалея з працы па прычынах мне невядомых“. („Другі год працы БНДІ,“ ст. 139—Пелехаў).

Але ніякай карыснай дасьледчай працы станцыя не праводзіла. Пачаўшы сваю організацыю ў Прылуках пад Менскам, не організаваўшыся, пашыраецца, падпарадкаваўшы сабе і гасп. „Атоліна“, потым, па прычынах зусім невядомых, перакідаецца ў „Камароўскія пасекі“, ля самага Менску, дзе для яе адведзена плошча толькі вышаўшая

з-пад лесу, на асваеньне якой і для правядзеньня ўсіх пабудоў патрэбна затраціць мінімум некалькі гадоў, на працягу якога часу не магло быць ніякай гаворкі аб навукова-дасьледчай працы.

І гэта ў той час, калі жывёлагадоўля зьяўляецца аднэй з асноўных галін сельскай гаспадаркі БССР, гэта тады, калі проблема жывёлагадоўлі стала як адна з важнейшых проблем у сельскай гаспадарцы ня толькі ў БССР, але і ва ўсім Савецкім саюзе.

Ня менш паказальны ў гэтым напрамку і другі прыклад з Менскай расьлінаводнай станцыяй, якая, організаваўшыся ў 1922 г., да сёньняшняга дню пабывала ў пяці мясьцінах (Банцэраўшчына, Пярэспа, Прылукі, Атолін, Сьляпянка); на працягу васьмі гадоў станцыя дарма затрачвала сродкі, бо для стацыонарных палявых досьледаў, якія зьяўляюцца асноўнымі ў працы станцыі, можна атрымаць пэўныя вынікі толькі праз некалькі год працы на тым-жа месцы, у тых-жа самых умовах. Тут-жа, з пераходам на новае месца, усякі раз працу патрэбна распачынаць нанова і не атрымаўшы ніякіх вынікаў.

Аб гэтым зусім выразна кажа нам сучасны кіраўнік яе т. Прахараў:

„Трэба адзначыць, што, пасьля першых 2 год існаваньня станцыі пад Менскам і даволі хуткага тэмпу разьвіцьця яе працы, у апошнія гады гэты тэмп разьвіцьця ў напрамку пастаноўкі новых пытаньняў, патрабуючых безадкладнага і хуткага вырашэньня дзеля задавальненьня запатрабаваньняў жыцьця с.-г. раёну сёньняшняга дню амаль зусім быў спынены з прычыны адсутнасьці ў распараджэньні станцыі вольных зямельных плошчаў, адпавядаючых мэтоду пастаноўкі палявых досьледаў.[1]) (падкрэсьл. мной—М. Г.)

Ня менш паказальна ў гэтым і праца Турскай дасьледчай станцыі, якая на працягу шасьці гадоў займалася пераважна організацыйнай працай, а не дасьледчай, ня гледзячы на тое, што выбранае месца зусім адпавядала патрэбам станцыі, аб чым гавораць самі кіраўнікі станцыі:

„На працягу гэтых мінулых шасьці гадоў станцыя аддавала галоўную увагу організацыйнай працы, а першыя тры гады былі адданы ёй выключна (падкрэслена мной—М. К.). Гэта было неабходна дзякуючы таму, што абраны для організацыі і месцазнахаджэньня станцыі—абшарніцкі маёнтак Турск падыходзіў дзеля гэтага толькі з прыродна-гаспадарчага боку, адбіваючы даволі ўдала сярэднія прыродныя ўмовы паўднёва-усходняй часткі Беларусі“ („Сел. і Лясн. гаспадарка“, № 8, ст. 100—Драздоў і Трапашка).

Аўтары не дагаварваюць, што патрэба займацца організацыйнай працай станцыі на працягу шасьці год была не затым, што было выбрана для станцыі, ўдалае месца, а затым, што патрэбна было тормозіць працу станцыі бо другога вываду зрабіць з гэтага я ня бачу мажлівым.

Цікавыя штрыхі з гэтай організацыі працы Турскай дасьледчай станцыі мы можам знайсьці ў невялічкай корэспондэнцыі аб Турскай станцыі, зьмешчанай у газэце „Зьвязда“ („Царскі цэрбэр на савецкай працы“).

А ў выніку такой дзейнасьці дасьледчых устаноў БНДІ і НКЗ у галіне расьлінагадоўлі, мы можам констатаваць, што праца ў гэтай

---

[1]) „Сел. і ляс. Гасп.“, № 8, ст. 21.

галіне сарвана, патрэбных вынікаў для нашага соцыялістычнага будаўніцтва ад іх мы не атрымалі, а тая нязначная навукова-дасьледчая продукцыя, якая маецца ў некаторых выпадках, прападнесена ў такім выглядзе, што зьяўляецца зусім бескарыснай, немажлівай для практычнага скарыстаньня. Так, у справаздачы Горацкай дасьледчай станцыі мы чытаем:

„На падставе вынікаў працы Іванаўскага дасьледчага поля магчыма констатаваць вялізарнае значэньне карэннай запраўкі нашых суглінкаў органічнымі матар'ямі".

Рацыянальная апрацоўка глебы пад ярыну дае падвышэньне ўраджаю да 20 проц., розныя апрацоўкі папару пэўных вынікаў ня далі". („Сел. і лясн. гаспадарка", № 8, ст. 53—Рэнард).

Хіба-ж каму-небудзь невядома, што запраўка нашых глеб органічнай матэрыяй мае вялізарнае значэньне, альбо што рацыянальная апрацоўка глебы дае падвышэньне ўраджаю і ня толькі пад ярыну, але пад усякую іншую культуру? І хіба Рэнарду невядома, што патрэбна констатаваць ня гэта, а якія формы, віды маючыхся ў нас запасаў органічнай матэрыі і ў якой колькасьці патрэбна ўносіць для запраўкі глебы, каб атрымаць найлепшы станоўчы эфэкт, і з якіх прыёмаў менавіта складаецца тая апрацоўка пад ярыну, якую патрэбна лічыць рацыянальнай для нашых умоў. Гэтага ня ведаць ён ня мог, ён, хто на працягу блізка двух дзесяткаў гадоў кіраваў дасьледчымі ўстановамі (Энгельгардаўская, Горацкая), хто, атрымаўшы вышэйшую агрономічную асьвету, шмат гадоў профэсарстваў у ВННУ, езьдзіў у навуковыя камандыроўкі за межы і г. д., той, хто марыў заняць адну з адказных тэорытычных організацыйных катэдр. Ціміразеўскай с.-г. акадэміі.

Гэтакіх прыкладаў, як прыведзены вышэй, можна прывесьці неабмежаваную колькасьць:

„Вапна ў пасевах Дрыбінскага дасьледчага поля заслугоўвае асаблівай увагі. Так, у досьледах з вапнай аднэй пад авёс яна дае прыбаўку ўраджаю аўсу, пры чым з павялічэньнем нормы вапны ураджай павялічваецца" („Сел. і лясн. гасп.", № 8, ст. 53—Рэнард)

„Найлепшымі травянымі мешанкамі для залужэньня нормальных і нізінных сухадолаў будуць такія, якія маюць у сваім складзе 20 проц. бабовых, 30 проц. нізавых злакаў і 50 проц. верхавых злакаў" („Сел. і лясн. гасп.", № 8—Драздоў і Перапашка).

„На працягу 5 год вяліся назіраньні над разьвіцьцём маладняку буйнай рагатай жывёлы ангельскай і швэдзкай пароды.

Гэта праца вялася адначасова пры катэдры спэцыяльнае зоотэхнікі і аддзелам жывёлагадоўлі" („Сел. і лясн. гаспад.", № 8, ст. 65—Рэнард) і г. д. і г. д.

Каму патрэбны такія вынікі, што яны карыснага даюць для сельскай гаспадаркі БССР? Апрача шкоды, нічога, бо гаворачы аб тым, што з павялічэньнем норм вапны ўвесь час павялічваецца і ўраджай аўсу, значыць казаць вядомую няпраўду, пэўна не дапа магаць але шкодзіць нашай сельскай гаспадарцы. Бо ня толькі для аўсу, і на дрыбінскіх палёх, але пад любую культуру і на любой ужыткоўнай глебе ёсьць пэўны максымум норм вапны, вышэй якога ўсякае павялічэньне будзе шкодзіць для росту расьлін і паніжаць ураджай да поўнай немажлівасьці росту расьліны.

Усіх прыведзеных вышэй прыкладаў я думаю будзе даволі, каб уявіць сабе поўнасьцю ня толькі тое, чаго дамагаўся беларускі нацыянал-дэмократызм у галіне разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР, але і тыя прыёмы і мэтоды, якімі ён карыстаўся для ажыцьцяўленьня гэтага. Таксама з гэтага мы можам пабачыць тую організацыйна-практычную дзейнасьць беларускай кандрацьцеўшчыны, якая зьвіла сабе гняздо ў былым БНДІ, жадаючы зрабіць яго аплотам сваёй працы па адраджэньню буржуазнага ладу БССР, накіраваньня с. г. БССР на разьвіцьцё кулацкіх гаспадарак, як сваёй апоры ў барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту.

Для больш пэўнай характарыстыкі нацыянал-дэмократычнай працы ў БДНІ ня можна абыйсьці моўчкі часопісь „Сельская і лясная гаспадарка“, якая, зьяўляючыся масавым органам БНДІ і НКЗ БССР дапамагала беларускай кандрацьцеўшчыне праводзіць свае шкодныя ўстаноўкі як у галіне нашай зямельнай політыкі і яе практычнага ажыцьцяўленьня, гэтак і ў галіне пабудовы і мэтавых установак у галіне навукова-дасьледчай працы па сельскай гаспадарцы.

У дадатак да тых артыкулаў і прац, якія мной у вялікай колькасьці прыводзіліся вышэй узятымі з гэтай часопісі, можна прывесьці цэлы шэраг новых, каб паказаць, як беларускі нацыянал-дэмократызм скарыстоўваў наш друк у барацьбе супроць савецкай улады, супроць марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі ў галіне навуковага досьледу.

У № 8 часопісі „Сельская і лясная гаспадарка.“ зьмешчана маленькая заметка, якая не займае і 3 старонак. „Шляхі агрохэміі ў БССР“ Сьцяпуржынскага, і толькі прыхоходзіцца дзівіцца, як аўтар яе змог у ёй так поўна і выразна выявіць свой твар агалцелага рэакцыянэра і нацыянал-дэмократа. Кастрычнікавая рэволюцыя ў пэрыод грамадзянскай вайны, барацьбы з узброенай контррэволюцыяй за заваёвы Кастрычніка, па аўтару гэта пэрыод барбарства і бясчынства, якое тварылі „бальшавікі“ у адносінах да навукі.

> „Праўда, і да 1922 г., у самыя цяжкія і цёмныя гады для навукі, як 1919 і 1920 г., падобна да мэтэораў і бліскавіцы займаюць паасобныя іскаркі агрономічных лябораторый, то тэхнікумаў, але, як бліскавіцы, яны хутка і гаснуць у віхры бязумных організацый і рэорганізацый“ (падкрэсьлена мной— М. Г., ст. 131).

Аўтар ня робіць розьніцы паміж бандыцкімі шайкамі і партызанскімі атрадамі, ды нават цяжка зразумець, што ён лічыць за партызанскія атрады і што за бандыцкія шайкі:

> „Такім чынам пачатак больш спакойнага і пачатак творчага навуковага жыцьця трэба лічыць з канца 1921 г. ці нават з 1922 г., калі барацьба і зьнішчэньне бандыцкіх шаек і партызанскіх атрадаў амаль зусім спыняецца“ (там-жа ст. 130). (Падкрэсьлена мною—М. Г.).

Кастрычнікавая рэволюцыя на Беларусі, гэроічная барацьба пролетарыяту, БССР і ўсяго савецкага Саюзу за Савецкую Беларусь, па аўтару гэта „Соцыялістычнае самавызначэньне“ беларускага народу праз яго ўпартасьць, якую ён нёс праз стагодзьдзі і якой ён трымаецца і зараз пры дыктатуры пролетарыяту, аказаўшыся пасаджаным на галодным пайку.

„Задачы цяжкія, але благародныя, і залогам іх поўнага выконваньня на Беларусі служыць і тая ўпартасьць, якую беларус

нёс праз стагодзьдзі да соцыялістычнага самавызначэньня, і тая беларуская ўпартасьць, з якой яе моладзь набывае веды на сваёй бацькаўшчыне і на галодным пайку па-за межамі (разумей у РСФСР—М. Г.), і тая надмерная ўпартасьць, якую мы бачым у нашых родных заходніх братоў, у іх пакуль што няроўнай барацьбе за панскую Польшчу" (там-жа, ст. 133).

Тут мы бачым вядомыя нам ўжо тэорыі аб адзінстве беларускай нацыі і такую прасякнутасьць нейкай асаблівай упартасьцю, аб якой кажуць шовіністы ўсіх нацыянальнасьцяй у адносінах да сваёй нацыі: тут і жаданьне падмяніць адзіную заслугу пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу ў Кастрычнікавай перамозе ў БССР „соцыялістычным" самавызначэньнем усяго беларускага народу і г. д. Выходзіць, што на Беларусі ніякай Кастрычнікавай рэволюцыі і ня было, ня было змаганьня за яе заваёвы, а што проста беларускі народ: беларуская буржуазія, памешчыкі, кулакі, мабыць, разам з рабочымі, бядняцка-серадняцкім сялянствам узялі да самавызначыліся ў Беларускую савецкую соцыялістычную рэспубліку і не абыяк, а „соцыялістычна"!

Але гэтыя тэорыі ня новы нам, мы іх ня раз ужо чулі з вуснаў нашых клясавых ворагаў, ад нашых нацыянал-дэмократаў. Толькі другія гэта рабілі менш нахальна, менш адчынена, чым гэта робіць іх саратнік Сьцяпуржынскі.

Ня гледзячы на ўсе патугі клясавага ворага як унутры нашай краіны так і за яе межамі, ня гледзячы на яго шалёную нянавісьць да краіны саветаў, да дыктатуры пролетарыяту, усе яго спробы зьнішчыць адзіную ў сьвеце краіну Саветаў упартым змаганьнем за соцыялістычную стройку, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, рабочая кляса ўсяго Савецкага саюзу, разам з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, ня толькі пасьпяхова прывядзе нашу краіну да лепшай будучыні, да соцыялізму, але на аснове разгорнутага соцыялістычнага наступу ва ўсіх галінах нашай гаспадаркі здолее ў самым хуткім часе выкарчаваць тыя астаткі капіталістычнага карэньня, якія яшчэ у нас засталіся. І як-бы ні стараліся кандрацьцеўцы ўсіх рангаў у тым ліку нашы беларускія, ім ня спыніць пабеднага ходу соцыялістычнай рэконструкцыі нашай сельскай гаспадаркі, не зьвярнуць перабудову нашай вёскі на капіталістычныя рэйкі. З кожным днём узрастаючы тэмп нашага колгаснага і саўгаснага будаўніцтва зьнішчае рэшткі тых кулацкіх элемэнтаў, на якіх строіў свае пляны беларускі нацыянал-дэмократызм і ўся контррэволюцыйная кандрацьцеўшчына, і пролетарыят нашага Саюзу з дапамогай сусьветнага пролетарыяту сумее даць рашучы адпор усякім вылазкам, адкуль-бы толькі яны ні выходзілі, будзь гэта наш „бацькаўскі" клясавы вораг, ці то клясавы вораг у асобе ўсяго міжнароднага капіталу.

Менск. 15-XII—30 г.

**М. Канаплін**

# Становішча на фронце тэорыі дзяржавы і права ў БССР і задачы таварыства марксыстых-дзяржаўнікаў. [1])

Ня прыходзіцца сумнявацца ў тым, што якраз гэты фронт нашай тэорыі зьяўляецца найбольш адсталым. Да яго асабліва дапасоўваюцца словы тав. Сталіна, што„ за нашымі практычнымі посьпехамі не пасьпявае тэорэтычная думка, што мы маем некаторы разрыў між практычнымі посьпехамі і разьвіцьцём тэорэтычнай думкі“ .[2])

Замест таго, каб ня толькі пасьпяваць, але і весьці за сабою практычную працу па будаўніцтву дзяржавы дыктатуры пралетарыяту і канкрэтнаму савецкаму праву, наша тэорыя ў гэтых галінах значна пляцецца ў хвасьце практыкі і вельмі слаба ўзбройвае нашых практыкаў у іх барацьбе за перамогу сацыялізму.

Асабліва гэта павінна быць сказана аб тэорыі і практыцы права. Гэта галіна, якая да гэтага часу прыцягвала да сябе мала ўвагі з боку тэорэтыкаў-марксыстых. „Пагэтаму, кажа тав. Пашуканіс у адным з сваіх дакладаў, у галіне права нам прыходзіцца часта абараняць такія пазыцыі, якія у другіх галінах сацыяльна эканамічных дысцыплін зьяўляюцца даўно заваяванымі“.

Зусім зразумела, што нашай тэорыяй можа быць толькі рэвалюцыйная тэорыя пралетарыяту, якая павінна запладняць нашу рэвалюцюйную практыку, а не пасыўна абагульваць дасягнутыя вынікі яе, ператвараючыся такім чынам у звычайнае эмпірычнае супастаўленьне і абмежаваньне фактаў.

Сучасная абстаноўка патрабуе ад нас яснага асмысьленьня новых законамернасьцяй, шырокіх тэорэтытных абагуленьняў, глыбокага сынтэтычнага ахопу тых новых і вялікіх клясавых зрухаў, якія адбіліся і адбіваюцца ў апошнія часы.

Усё тое новае, што зьявілася ў нашых сацыяльна-эканамічных адносінах, усё тое новае, што дае наша ўваходжаньне ў пэрыод сацыялізму“, патрабуе ад работнікаў у галіне савецкага будаўніцтва і права сапраўды ленінскай клясава-вытрыманай тэорыі і практыкі.

„Я ня буду тутака, кажа тав. Сталін, распаўсюджвацца аб значэньні тэорыі... Вядома, што тэорыя, калі яна зьяўляецца сапраўднай тэорыяй, дае практыкам сілу арыентыроўкі, яснасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у працы, веру ў перамогу нашай справы.[3])

Якія-ж адбыліся зьмены ў нашай краіне, што цяпер з асаблівай сілай вымагаюць ставіць па-новаму ўсе пытаньні будаўніцтва дзяржавы дыктатуры пралетарыяту і савецкага права.

---

[1]) Даклад, прачытаны ў Беларускім таварыстве марксыстых-дзяржаўнікаў 24-XII—30 г.

[2]) Сталін. „Вопросы Ленинизма“, ГИЗ. 1930 г., стар. 545

[3]) Сталін. Тамсама, ст. 546.

Хуткі тэмп сацыяллістычнай індустрыялізацыі краіны ўносіць глыбокія зьмены ў суадносінах клясаў унутры нашай дзяржавы. Гэтыя зьмены перш за ўсё характарызуюцца, рэзолюцыя як адзначае XVI зьезду ЎсеКП(б) па справаздачы ЦК, узмацненьнем кіруючай ролі рабочае клясы ў адносінах да бядняцкага і серадняцкага сялянства. Эканамічная змычка рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства набыла пераважна вытворчы характар. Пэрыод рэканструкцыі ўсяе нашае гаспадаркі выклікаў рэзкае падзеньне ролі прыватнага капіталу і далейшае яго выцясьненьне; рашуча ўзмацняецца плянава-рэгулюючая роля савецкае дзяржавы. Адбываецца рашучы паварот серадняцкіх мас да сацыялізму, у выніку чаго ствараюцца новыя суадносіны клясаў, магчымасьць перайсьці ад палітыкі абмежаваньня і выцясьненьня кулацтва да л-квідацыі кулацтва як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Ажыцьцяўляецца пастаўленая Ленінам задача ператварэньня „Расіі нэпаўскай“ у „Расію сацыялістычную“. (З рэз. XVI зьезду).

Наша рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты нямінуча выклікае абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне з боку кулацка-капіталістычных элемэнтаў і бязьлітаснае іх супраціўленьне. У сваёй зьвярынай нянавісьці і ў сваіх імкненьнях ізноў зьвярнуць сваё былое панаваньне клясавыя ворагі ідэёва і практычна зьвязваюцца з капіталістычным сьветам у надзеі на дапамогу апошняга праз адкрытую інтэрвэнцыю.

Усе практычныя пытаньні палітыкі нашай партыі і савецкай улады, як ніколі, востра ставяць перад намі задачу ўсваеньня і асмысьленьня па-новаму ўсяго комплексу пытаньняў пралетарскай дыктатуры і актыўна-рэвалюцыйнай ролі нашага савецкага права.

Сучасны пэрыод зусім ня зьбіраецца зьнімаць з павесткі дня пытаньне: „хто каго“. Наадварот. Цяпер яно толькі і будзе канчаткова рашацца. Таму несваячасовае, стыхійнае, клясава ня вытрыманае рэагаваньне з нашага боку на ўсю багацейшую практыку сацыялістычнага будаўніцтва, няўменьне і нежаданьне ўключыцца ў тэорэтычнае вывучэньне і распрацоўку ўсіх актуальнейшых праблем нашае дзяржавы, павінна разглядацца як „эміграцыя“ ад савецкай рачаіснасьці ў пустое схалястычнае тэорэтызаваньне, нікчэмны, больш правільна будзе шкодны акадэмізм. Забываньне таго, што наша тэорыя ёсьць ня догма, а кіраўніцтва для рэволюцыйнага дзеяньня, адрыў тэорыі ад практыкі канкрэтных праблем пераходнага часу, ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва—усё гэта ня што іншае, як адмаўленьне ад удзелу ў пераможнай барацьбе пралетарыяту з рэшткамі капіталізму ў нашай краіне.

„Каб не адстаць ад практыкі, кажа тав. Сталін, трэба заняцца зараз жа распрацоўкай усіх гэтых проблем з пункту гледжаньня новай абстаноўкі. „Бяз гэтага, гаворыць далей т. Сталін,—немагчыма перамаганьне буржуазных тэорый, засьмечваючых галовы нашых практыкаў (і ня толькі практыкаў, скажам мы—М. К.). Бяз гэтага немагчыма выкарчоўваньне гэтых тэорый, якія набылі сталасьць забабонаў.“[1])

Тэорыя пралетарскай дзяржавы ў гэты адказьнейшы гістарычны пэрыод павінна быць цалкам пастаўлена на службу новай практыцы. Павінны быць ускрыты ўсе спробы ўмаленьня ролі органаў дыктатуры пралетарыяту, найменшая спроба рэвізіі маркса-ленінскага вучэньня аб дзяржаве. Новая абстаноўка, калі пачалася перабудова працы

[1]) Сталін Цытав. твор, ст. 546.

ўсіх органаў пралетарскай дыктатуры, калі ўносіцца новае ў пабудову самой сыстэмы дзяржаўнага кіраўніцтва, калі пастаўлена проблема рашучай зьмены зьместу і мэтадаў працы асноўных зьвеньняў дыктатуры пролетарыяту, саветаў (гл. рэзолюцыю XVI зьезду УсеКП(б) па справаздачы ЦКК РСІ), з асаблівай выразнасьцю паказвае, што ў нас няма абстрактнай навукі, а што нашая навука шчыльна зьвязана з палітыкай, з клясавай барацьбой пралетарыяту.

Яшчэ ні на водным з этапаў рэвалюцыі не прад'яўляліся такія аграмадныя патрабаваньні, якія прад'яўляюцца да тэорыі на сучасным этапе. І гэта зусім натуральна. Рашучае і разгорнутае сацыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту дапушчае наступленьне і на тэорэтычным фронце. Адсюль разьвіцьцё тэмпаў тэорэтычнай працы, актуалізацыя распрацоўкі тэорэтычных праблем у розных галінах навукі, змаганьне за падрыхтоўку высокакваліфікаваных кадраў, барацьба за вытрыманасьць і чыстату марксысцка-ленінскай тэорыі.

Але разам з выкарчоўваньнем рэшткаў капіталізму, разам з звужэньнем базы капіталізму, клясава-варожыя элемэнты імкнуцца зрабіць супраціўленьне і ў галіне ідэолёгіі. Гэтыя элементы спрабуюць затрымацца на ўсіх вучастках, у тым ліку і на тэорэтычным. Клясавы вораг асабліва аблюбаваў гэты фронт. Ён досыць добра ведае, што фронт тэорэтычнай працы марксыстых да апошняга часу зьяўляўся так званым „вузкім месцам". Таму ўсякае найменшае адставаньне тэорыі ад практыкі, недаацэнка паасобных вучасткаў нашай тэарэтычнай працы, адсутнасьць належных марксысцка-ленінскіх вытрыманых кадраў, давалі часам магчымасьць клясава-чужым і варожым элемэнтам працягваць і разьвіваць свае погляды. Вельмі часта вораг драпіраваўся ў псэўда-марксысцкую вопратку.

Варта толькі зьвярнуцца да тых дыскусій, якія адбываліся ў галінах тэарэтычнай эканоміі, філёзофіі, літаратуры, каб упэўніцца ў існаваньні мэханістых, ідэалістых, фармальна-схолястычных ухілаў на фронце шэрагу навук.

Але гэтыя дыскусіі паказалі і іншае і вельмі шкоднае, да рэчы, зьявішча, а менавіта: адрыў тэорыі ад баявых пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва і міжнароднага рабочага руху. Спрэчкі вельмі часта і ўпарта атрымоўвалі характар спрэчак аб „дэфініцыях". Тэорыя дзеля тэорыі, перанясеньне спрэчак у сфэру „акадэмізаваньня", абстракцый—вось што займала важнейшае месца ў гэтых дыскусіях.

У падобным-жа становішчы апынулася, прыблізна, і праўная дыскусія. На гэта зусім правільна і своечасова зьвярнуў увагу тав. Бэрман, у № 8—9 часопісі „Советское государство и рэволюция права". „Між тым, кажа Бэрман, вырашэньне ўсіх спрэчных пытаньняў... абстрактна-тэарэтычнымі разважаньнямі без аналізу канкрэтных праблем савецкага права немагчыма. Лепшым довадам і ўрокам у гэтым выпадку для нас павінна служыць дыскусія, якая нядаўна была праведзена па эканамічных праблемах. Яе асноўны грэх у адарванасьці ад канкрэтных праблем савецкай эканомікі, грэх, які паклаў адбітак на ўсю дыскусію. На жаль, пачатак дыскусіі па праўных праблемах сыгналізуе небясьпеку паўтарэньня памылак дыскусіі эканамістых. Мы таксама пачалі з абстрактна-тэарэтычных разважаньняў. З адкрытасьцю прызнаю такі грэх і за сваімі артыкуламі... Але сам лічу, што ў такім стыле працягваць ня сьлед".[1]) Тав. Бэрман адзначае далей, што неабходна працягваць, паглыбляць крытыку памылак і на гэтай падставе разьвіваць марксысцкую праўную думку. Але

---

[1]) „Сов. госуд. и револ. права", № 8-9, 1930 г.-ст. 158.

гэтую задачу можна выканаць з найлепшым посьпехам толькі ў тым выпадку, калі памылкі паасобных тавдрышоў будуць выяўляцца і выпраўляцца на разборы канкрэтных праблем савецкага права і іх тэорытычнага высьвятленьня і аналізу. Такі напрамак дыскусіі, зразумела, дапаможа ўсямерна ўвязаць тэорытычную распрацоўку праўных праблем з практыкай савецкага будаўніцтва[1]).

Будзем лічыць, што сапраўды ў далейшым дыскусія стане на такі шлях, бо імкненьне паасобных таварышоў і груп удзельнікаў дыскусіі „стабілізавацца“ ў межах „беспристрастных академических споров“ і гэтым самым затрымаць дыскусію на адным і тым самым этапе, у сучасных умовах набывае зусім ясны палітычны сэнс, напаўняе дыскусію поўным клясавым зьместам, які ў кожным разе перашкаджае ўсьведамленьню марксызму-ленінізму, вельмі часта прыводзіць да рэвізіі апошняга, прыводзіць да апартунізму.

Нельга бескантрольна праходзіць міма таго багацейшага фактычнага матар'ялу і вопыту, якія даюцца нам у рукі пры вывучэньні нашага дзяржаўнага будаўніцтва. Тут тэорыі ёсьць дзе знайсьці харчавальныя сокі. „Калі да тых эканамістых, кажа тав. Кагановіч, якія адрываюць палітыку ад экономікі і экономіку ад палітыкі, ужываецца лёзунг: „тварам да полiтыкі, да дзяржавы, да клясавай барацьбы“, дык дзяржаўнікам і праўнікам мы павінны даць лёзунг: „тварам да экономікі, да клясавай барацьбы“[2]).

Гэты лёзунг аўтар лічыць абавязковым для кожнага марксыстага. Значымасьць гэтага лёзунгу стане асабліва яснай, калі мы зьвернемся да фронту савецкага будаўніцтва і праўнага рэгуляваньня, які ў апошнія часы стаў найадказьнейшым вучасткам сацыялістычнага будаўніцтва. На гэтым фронце з асаблівай выразнасьцю адлюстроўваецца ўся складанасьць і рознастайнасьць форм клясавай барацьбы ў эпоху дыктатуры пралетарыяту, у паасобку ў рэканструкцыйны пэрыод. Гэта—фронт, дзе працоўныя масы, дзе наш апарат кіраўніцтва непасрэдна сустракаецца з клясавым ворагам. Таму працаўнікі адпаведных адказьнейшых органаў дыктатуры пралетарыяту, органаў, праз якія мільённыя масы ажыцьцяўляюць савецкую дэмакратыю і сваё клясавае панаваньне, павінны быць моцна і практычна ўзброены для выкананьня сваіх палітычных задач, На гэтым фронце хутчэй за ўсё праяўляецца, пры малейшым скажэньні правільнай палітычнай лініі, той ці іншы ўхіл, на гэтым вучастку тэорыі і практыкі дыктатуры пралетарыяту вораг ці ў адкрытай ці ў завуаляванай форме накіроўвае свой агонь атакі.

У першую чаргу гэта выражана ў „жорсткім супраціўленьні наступаючаму марксызму з боку старых і новых прыхільнікаў юрыдычнага, г. зв. буржуазнага, сьветапогляду, якія нярэдка прыкрываюць свае буржуазныя погляды марксысцкай фразэолёгіяй“.

У адозьве да ўсіх работнікаў у галіне савецкага будаўніцтва і права, якая была прынята на ўстаноўчым сходзе Таварыства марксыстых-дзяржаўнікаў, пералічан шэраг прозьвішчаў, якія аднесены да прадстаўнікоў памянёнага сьветапогляду. Сярод гэтай групы мы знаходзім Трайніна, Піонткоўскага, Архіпава, Кельмана, Розэнблюма, Пашэ-Озерскага. Побач з імі пастаўлены і наш стары знаёмы, носьбіт найрэакцыйнейшай ідэолёгіі былых кляс, праф. Шыраеў. На гэтым сьпіс гэтай групы вучоных, зразумела, не канчаецца. Далей, калі мы

[1]) Тамсама, с. 158.

[2]) „Сов. госуд. и револ. права“, № 1, 1930 г., ст. 11.

пяройдзем непасрэдна да разгляду становішча на тэарытычным фронце ў БССР, убачым, што ў гэтую групу павінен быць залічан яшчэ хто з тых, якія працавалі і працуюць у нашай рэспубліцы.

Фармальна-юрыдычны мэтад, захаплепьне юрыдычна-дагматычнымі аналізамі фактаў тых зрухаў, якія адбываюцца ў нашай краіне, выхалашчваньне палітыкі з мэтадаў вывучэньня савецкай дзяржавы і права павінна разглядацца, як спроба навязаць пралетарыяту і працоўным масам варожую рэвалюцыйнай дыялектыцы ідэолёгію паміраючай буржуазіі. У аснове гэтых мэтадаў „ляжыць уплыў старой буржуазнай думкі, якая разглядае гаспадарку і ўзаемаадносіны людзей, працэсы эканамічнага жыцьця як нешта прыватнае, а законы, права і дзяржаву як нешта агульнае, што стаіць над людзьмі, над клясамі. Адсюль і вывучэньне законаў ня ў сувязі з жывой рачаіснасьцю".[1]) Гэта ёсьць тое, што Энгельс ахарактарызаваў як клясычны сьветапогляд буржуазіі.

На старонках нашых часопісяй у апошнія часы вядзецца ўпартая барацьба супроць усякіх праяў гэтага буржуазнага юрыдычнага мысьленьня. Ачышчаюцца і нашыя ВНУ ад буржуазнай прафэсуры, якая яшчэ нядаўна ў спэцыяльных навучальных установах, факультэтах савецкага права, займала пануючае месца. Актывізацыя ідэалёгічнай барацьбы на ўсім тэорытычным фронце дала значнае абвастрэньне гэтай барацьбы і ў праўных ВНУ. Асабліва гэта стала адчувацца з арганізацыяй па-новаму праўнай асьветы. Усё-ж такі гаварыць, што ў значнай ступені гэтыя былыя цытадэлі буржуазна-юрыдычнага сьветапогляду захоплены марксыстымі, нельга. Тав. Доцэнка ў сваім артыкуле „Падрыхтоўка навуковых кадраў па савецкаму будаўніцтву" так гаворыць па гэтаму повадy: „Да гэтага часу ў асноўным навукова-практычная праца знаходзіцца ў руках манапалістаў „спэцыялістаў", і шэраг ВНУ і навуковых інстытутаў застаецца цытадэльлю юрыдычнага сьветапогляду".[2])

Ёсьць шэраг факультэтаў сав. права, дзе яшчэ па гэты час адказьнейшыя мэтадалёгічныя курсы знаходзяцца ў руках варожай тэорыі пралетарыяту групы навуковых працаўнікоў.

Гэта паказвае, як варожыя нам сілы імкнуцца захапіць усе магчымыя пазыцыі, бо клясавы вораг досыць добра ведае, што барацьба за гэгемонію марксызму-ленінізму ёсьць барацьба за перамогу сацыялізму, ведае, што добрымі і надзейнымі яго будаўнікамі могуць быць толькі выхаваныя ў духу ваяўнічага матэрыялізму кадры. Таму барацьбу за кадры мы разглядаем, як адзін з адказьнейшых вучасткаў клясавай барацьбы, дзе ня можа быць ні найменшага адступленьня, ні затрымкі ў ліквідацыі ўсіх варожых сіл.

Зусім зразумела, што ўплыў ідэалёгіі чужых і варожых пралетарыяту слаёў пранікае і ў шэрагі марксыстых і, як адзначае ўжо цытаваная адозва Таварыства марксыстых-дзяржаўнікаў, „атрымлівае ў іх асобах паборнікаў буржуазных і апартуністычных тэорый".

У адозьве зьмешчаны толькі дзьве асобы: Магэроўскі і Маліцкі, якія да гэтага часу яшчэ публічна ад сваіх памылак не адмовіліся і іх ня прызналі. Але з таго часу марксысцкая крытыка і барацьба за чыстату маркс-ленінскай тэорыі дзяржавы і права значна разгарнулася і актывізавалася. Асабліва вялікую працу ў даным напрамку прарабіла невялікая група марксыстых-тэорэтыкаў дзяржавы і права, якія аб'яднаны Інстытутам савецкага будаўніцтва і права Камакадэміі.

[1]) „Советское госуд. и револ. права", № 1, 1930 г., ст. 10.
[2]) Бюллетень ЭКО Инст. красной профессуры, № 8, 1930 г., ст. 36.

За гэты час, акрамя Магэроўскага і Маліцкага, ускрыты антымарксысцкія тэорыі Вольфсона Л., Бухарына, Зіноўева; ускрыты шэраг памылак і анты марксысцкіх канцэпцый у т. т. Стальгевіча, Пашуканіса і інш., вялася і вядзецца барацьба на два фронты: з праваапартуністычнымі тэорыямі і „левымі" загібамі ў галіне савецкага будаўніцтва і права, пры чым галоўная ўвага была ўдзелена барацьбе з праявамі правага ўхілу, як галоўнай небясьпекай у даны пэрыод.

Адна з самых небясьпечных праяў правага апартунізму ў галіне тэорыі і практыкі савецкае дзяржавы гэта тэорыя ліквідацыі нізавых органаў дыктатуры пралетарыяту, саветаў, у сувязі з масавай калектывізацыяй. На саветы некаторыя тэорэтыкі і практыкі сталі глядзець як на „пройдзены этап", лічылі, што савецкае „сёньня" і „заўтра" пойдзе міма гэтых асноўных органаў дыктатуры пролетарыяту, што масавая калектывізацыя вёскі ўвойдзе ў русло сацыялістычнага будаўніцтва без забясьпечаньня сапраўднага пралетарскага кіраўніцтва. Разам з гэтым ігнаравалася задача самастойнай арганізацыі беднаты і батрацтва ў вёсцы. Замест таго, каб усямерна ўзмацняць саветы, праводзіць праз іх пралетарскі ўплыў, ператвараць іх у застрэльшчыкаў шырокага калгаснага руху, узьнімаць гэты рух на усё больш высокую ступень, разьвіваліся думкі і настроі аб „адміраньні" саветаў і перадачы іх функцый і палітычнай ролі калгасам і іншым органам.

Усім нам памятны яшчэ выступленьні ў друку т.т. Рахава і Дацэнка, якія былі імі зроблены ў лістападзе 1929 г.[1]). Але ня толькі памянёныя таварышы зьяўляліся носьбітамі гэтага новага віду „ліквідатарства". У пэрыодычным друку розных частак Саюзу і ў паасобных брашурах прыводзіліся падобныя-ж думкі. Лічу, што і ў нас у гэтай галіне „не все на Шипке спокойно". Такое правазглашэньне начала адміраньня пралетарскай дзяржаўнасьці ва ўмовах, калі адбываецца вялізарнейшы гістарычны этап, калі адбываецца жорсткая клясавая барацьба за перамогу над капіталізмам, ёсьць поўнае незразуменьне асноў дыктатуры пралетарыяту, тэорыі і практыкі клясавай барацьбы, незразуменьне маркса-ленінскай тэорыі аб дзяржаве. Зусім зразумела, што гэтая-ж пастаноўка пытаньня прыводзіць да думкі аб „адміраньні" права, ліквідацыі яе актыўна-рэвалюцыйнай ролі ў соцыялістычным будаўніцве.

„Гэтая тэорыя „ліквідатарства" мае пад сабою пэўную клясавую сутнасьць. Перш за ўсё—дзяляцкія настроі,—таньней, як кажуць, будзе каштаваць,—„адлюстроўваюць аб'ектыўна кулацка-эсэраўскую контррэвалюцыйную ідэолёгію. Разам з гэтым яны адбіваюць сваясаблівы калгасны анарха-сындыкалізм" (Кагановіч). Усё гэта па сутнасьці азначае гуляць на руку нашым клясавым ворагам, кулацтву і яго паплечнікам. Усякае аслабленьне таго ці іншага зьвяна дыктатуры пралетарыяту аслабляе кіраўнічую ролю пралетарыяту. Вось чаму гэтая тэорыя павінна разглядацца як самы небясьпечны від правага апартунізму ў тэорыі і на практыцы савецкага будаўніцтва. Між тым трэба адзначыць, што яшчэ да сёньня, як аб гэтым гаварылі прамоўцы на III сэсіі ЦВК БССР XI склікапьня, ня ўсе с/с перабудавалі сваю працу тварам да калгаснага будаўніцтва. Ёсьць паасобныя выпадкі, калі с/с зусім ня кіруе калгасамі, ня цікавіцца іх працай. Гэткія праявы „кіраўніцтва" павінны разглядацца як праявы правага апартунізму на практыцы.

[1]) „Рабочая Москва" от 19-IX-29 г. і „Известия" от 11-IX-29 г.

Тав. Хацкевіч у сваім дакладзе на паказанай сэсіі „аб ліквідацыі акруг і ўзмацненьні раённага і сельскага апарату“ зазначыў, што яшчэ „у недалёкім мінулым мы сустрэліся з фактамі, што... сельсаветы значнай часткай пляліся ў хвасьце калгаснага руху“... Усё гэта паказвае, як на мясцох у паасобных работнікаў нізавога зьвяна дыктатуры пралетарыяту праяўляліся гэтыя „ліквідатарскія“ тэндэнцыі і настроі“. Другім відам правага апартунізму ў тэорыі і практыцы савецкага будаўніцтва зьяўляецца недаацэнка пераходу на раённую сыстэму і імкненьне да ўзбуйненьня сельсаветаў і раёнаў з мэтаю прывядзеньня іх у стан валасьцей і паветаў.

XII зьезд, цалкам і поўнасьцю ўхваляючы рашэньне ЦК аб ліквідацыі акруг і ўзмацненьні раёну як асноўнага зьвяна сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, адзначыў, што гэтае мерапрыемства павінна прывесьці да рашучага набліжэньня партыйна-савецкага апарату да вёскі, да калгасаў, да мас.

Таму ўсё, што перашкаджае ажыцьцяўленьню гэтага рашэньня, ня можа інакш разглядацца, як спроба затармазіць тэмпы нашага будаўніцтва, што, зразумела, грае ў руку нашаму клясаваму ворагу.

І таму мы павінны, знаёмячыся з вынікамі ліквідацыі акруг, кваліфікаваць як праявы апартунізму на практыцы тыя паасобныя прыклады, аб якіх гаварыў у сваім дакладзе тав. Хацкевіч. Вось надзвычай красамоўныя факты з дзейнасьці некаторых нашых цэнтральных органаў па гэтым пытаньні. „Па лініі ВСНГ нават у кастрычніку м-цы ня было распрацавана пытаньне ў праекце аб кіраўніцтве мясцовай прамысловасьцю. Мы да гэтага часу яшчэ ня ведаем, у якім становішчы зараз, у зьвязку з пераходам на раённую сыстэму, знаходзіцца мясцовая прамысловасьць, хто ёю кіруе, хто дапамагае, якія пляны яе разьвіцьця ў БССР. Наркамасьветы, арганізаваўшы ліквідацыйную камісію, больш нічога не зрабіў, і камісія ня ведала, што ёй рабіць. Дзякуючы гэтаму раёны ў час пераходу на раённую сыстэму былі пакінуты на саміх сябе. Дзяржгандаль, замест дапамогі, пры ўзмацненьні раёнаў пачаў арганізоўваць па сутнасьці павятовыя філіялы, назваўшы іх вучасткамі, ён, замест існаваўшых 8 акруг, спраектаваў 18 так званых вучасткаў. Саюзхлеб арганізаваў буйныя філіялы, якія павінны былі аб'яднаць некалькі раёнаў, напрыклад, Слуцкі, Копыльскі, Старобінскі і г. д. Наркамюст арганізаваў для Заслаўскага, Смалявіцкага, Самахвалавіцкага, Койданаўскага раёнаў пракурорска-дасьледчыя вучасткі з месцам знаходжаньня ў Менску. Галоўашчадкаса да канца кастрычніка яшчэ не арганізавала ні аднэй раённай касы і ў выніку да гэтага часу больш чым у 50 раёнах раённыя ашчадныя касы адсутнічалі“ [1]).

Да гэтай-жа катэгорыі „ліквідатарскіх“ тэндэнцый, па-мойму, трэба аднесьці наступную сыстэму „жывой“ сувязі цэнтру з месцамі і „плянамернае“, „сыстэматычнае“ кіраўніцтва і „дапамогу“ ў працы раёнаў.

Зварочваюся ізноў да матэрыялаў прыведзенага дакладу.

„Інспэктар НКФ за 10 дзён аб'ехаў раёны Мазырскі, Калінкавіцкі, Азарыцкі і Нараўлянскі; прадстаўнік Народнага камісарыяту ўнутраных спраў за 7 дзён аб'ехаў Віцебскі, Аршанскі, Крупскі, Ушацкі, Лепельскі і Полацкі раёны. Інспэктар Дзяржпляну за 5 дзён аб'ехаў Барысаўскі, Магілеўскі, Аршанскі раёны. Інспэктар Галоўнай управы ашчадкасамі за 10 дзён аб'ехаў Астрашыцка - Гарадоцкі, Лагойскі,

[1]) „Савецкая Беларусь“, ад 21-XII-30 г., № 295.

Пляшчаніцкі, Бягомльскі, Смалявіцкі і інш., усяго 8 раёнаў. Інструктар Белкоопсаюзу ў Высачанскім раёне паказаўся на некалькі гадзін і заразжа выехаў у другі раён, хаця з боку Высачанскага РВК і была прапанова застацца хаця на адзін дзень. Але ў Вушацкім раёне інструктар Белкоопсаюзу спаткаўся на чыгуначнай станцыі з старшынёю спажыўтаварыства, атрымаў ад яго весткі і адразу - жа выехаў у Менск" [1]).

Для кожнага павінна быць ясна, што гэткая „практыка" савецкага будаўніцтва нічога супольнага з ленінізмам ня мае. Яна павінна сустрэць самы рашучы адпор з нашага боку.

Пэўным відам апартунізму мы павінны лічыць палітычную недаацэнку перавыбараў у саветы. Надзеі на самацёк, слабая падрыхтоўка да перавыбарнай кампаніі, няўменьне арганізаваць навакол перавыбараў шырокія масы працоўных, незразуменьне таго, што асноўны палітычны сэнс кампаніі—гэта ўзьняць ролю саветаў у справе правядзеньня генэральнай лініі партыі,—усе гэтыя праявы, як адзначае адозва ЦВК СССР, „зьяўляюцца адным з найгоршых праяў апартунізму на практыцы."

Тыя весткі аб перавыбарах, якія паступілі ў аргаддзел ЦВК і надрукаваны ў „Савецкай Беларусі", сьведчаць аб тым, што яшчэ ня зусім дастаткова мабілізавана ўвага да перавыбараў з боку некаторых партыйных і савецкіх арганізацый і савецкай грамадзкасьці.

На фронце перавыбараў адбываецца вялізарнейшы ўдзел працоўных мас у ажыцьцяўленьні савецкай дэмакрытыі і непасрэдны ўдзел у кіраўніцтве дзяржаваю. Тут-жа праходзіць і самая сапраўдная клясавая барацьба за ўплыў на масы з боку клясава-варожых нам элемэнтаў. Кулак паспрабуе скарыстаць усе сродкі для аслабленьня саветаў, рознымі мэтадамі павядзе контр атаку на практыку стварэньня клясава-баяздольнага складу сельсаветаў. Таму недаацэнка гэтай кампаніі прыводзіць аб'ектыўна да тэорыі „ліквідацыі" саветаў, да адмаўленьня кіруючай ролі пралетарыяту ў адносінах да сялянства.

З другога боку, тэорыя і практыка апартуністычнага самацёку ёсьць вынік бухарынскай канцэпцыі аб „мірным" урастаньні ў сацыялізм, аб тым, што пасьля рэвалюцыі пачынаецца „мірны", „арганізацыйны" этап разьвіцьця нашай дзяржавы". [2])

Тут, дарэчы, будзе ўспомніць, што да такой-жа пасыўнасьці ў адносінах пралетарыяту да сялянства аб'ектыўна вядуць якраз Бухарын і Зіноўеў. Розьніца толькі ў тым, што Бухарын прыводзіць к пасыўнасьці, маючы на ўвазе скарачэньне дыяпазону рэгулюючай ролі пралетарскай дзяржавы ў сэнсе выпадзеньня з паняцьця дыктатуры пралетарыяту кіраўніцтва рабочае клясы, а Зіноўеў высоўвае думку аб самаабмежаваньні дзяржаўнай улады пралетарыяту. Абое, такім чынам, прыходзяць к тэзісу аб „зьмякчэньні рэжыму дыктатуры пралетарыяту", што непасрэдна прыводзіць да ўступкі дробнабуржуазным пластом, адказ ад асноўных прынцыпаў ленінізму. Гэтае-ж палажэньне прыводзіць да супроцьстаўленьня дыктатуры дэмократыі, што асабліва сказалася ў часы ажыцьцяўленьня лёзунгу „тварам да вёскі", калі партыя і савецкая ўлада перайшлі да палітыкі ажыўленьня саветаў.

Толькі знаходзячыся ў палоне „дэмакратычных" ілюзій, незразуменьне асноў марксысцка-ленінскага вучэньня аб дзяржаве, дробнабуржуазнае разуменьне суадносін клясаў і панаваньня пралетарыяту

[1]) „Савецкая Беларусь", ад 21-XII-30 г., № 295.

[2]) „Атака".

далі магчымасьць у свой час унесьці ў праект канстытуцыі БССР артыкул аб дыктатуры працоўных мас, а таварышу Нодэлю зусім сур'ёзна на сэсіі ЦВК БССР VII скліканьня ў 1925 г., апэруючы Марксам і Леніным, абгрунтоўваць гэтую новую формулу дыктатуры пралетарыяту, і Г. Парэчыну аб гэтым-жа пісаць у сваім артыкуле „Як будуецца савецкая дзяржава“[1]). Больш падрабязна да гэтага пытаньня мы вернемся ніжэй.

Ня менш шкодную праяву правага апартунізму, якая з першага погляду можа нават стварыць уражаньне сугуба „левага“ настрою з вельмі „левай“ фразэалёгіяй, мы наглядалі яшчэ нядаўна па пытаньні аб падрыхтоўцы кадраў па савецкаму будаўніцтву і праву. Тут існавала—і, на жаль, яшчэ некаторымі ня зусім зжыта да гэтага часу—цэлая тэорыя „ліквідатарства“.

Гэтыя настроі ў адносінах да праўнай асьветы ў СССР і ў паасобку ў БССР імкнуліся стварыць сабе тэарытычную базу ў вучэньні Маркса і Леніна аб адміраньні дзяржавы і права, зусім мэханічна прыстасоўвалі і прыстасоўваюць, бяз уліку асаблівасьцяй пераходнай ад капіталізму да камунізму эпохі, да сучаснага этапу нашага разьвіцьця. Хуткі тэмп перабудовы ўсяе нашае гаспадаркі, звужэньне, у выніку росту сацыялістычнага сэктару, праўнай базы, супаданьне права з палітыкай нашай дзяржавы, усё больш узмацняючаеся значэньне ў нашых законах палітычна-арганізацыйнага і тэхніка-рэгулюючага боку, тое, што па-новаму ставіцца шэраг актуальнейшых праблем нашай палітыкі, рашучае зжываньне фармальна-юрыдычных элемэнтаў,—вось тая глеба, на якой узрасло пытаньне аб непатрэбнасьці праўнай асьветы.

Перш за ўсё трэба канстатаваць поўную няпісьменнасьць „ліквідатараў“ у галіне марксысцка-ленінскай тэорыі і незразуменьне ролі дзяржавы і права ў пераходны пэрыод. Яны не зразумелі ўсяе важнасьці дзяржаўнага апарату і рэвалюцыянізуючай ролі права ў сучасны момант абвостранай клясавай барацьбы. Толькі абсалютнае незразуменьне дыялектыкі і дапушчэньне думкі аб „затуханьні“ клясавай барацьбы пасьля рэвалюцыі можа прывесьці да адмаўленьня ад падрыхтоўкі кадраў для адказьнейшых органаў дыктатуры пралетарыяту.

„Ліквідатары“ праўнай асьветы выпучваюць толькі адзін бок усяе злучнасьці разьвіцьця пераходнага часу—працэс адміраньня. Тут, на гэтым стыку, яны сустракаюцца з „ліквідатарамі“ сельсаветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі. Такім чынам, з-пад „левых“ фраз аб адміраньні праўнай асьветы досыць выразна выглядаюць асьліныя вушы правага апартуністага. Гэты стык у рэвалюцыі ўсесаюзнай нарады па падрыхтоўцы кадраў, якая адбылася пры Інстытуце савецкага будаўніцтва і права, ахарактарызаваны як „дзівоснае перапляценьне настрояў правага ўхілу і „левых“ загібаў як у тэорыі, гэтак і на практыцы“[2]). Этап гэтакага „перапляценьня“ перажываўся ў свой час і зусім ня так даўно (ня ведаю, наколькі можна гаварыць аб гэтых настроях цяпер) і ў нас. Галоўным чынам гэтыя настроі, як правільна зазначае тав. Галанза ў сваёй нататцы „Падрыхтоўка кадраў па сацбудаўніцтву ў БССР“[3]) былі „канцэнтраваны ў Наркамасьвеце“, які, у асобе сваіх адказьнейшых працаўнікоў, стаяў на пункце гледжаньня ліквідацыі праўнага факультэту Бел. дз. ун-ту. Неаднакроць

[1]) Маладняк, № , 1925 г.

[2]) „Сов. гос. и рэвол. права“, № 2, 1930 г., с. 159.

[3]) Тамсама, № 10, 1930 г., с. 1 7.

рабіліся на нарадах і сходах сур'ёзныя заявы кіраўнікоў Наркамату аб тым, што дзяржава можа абыйсьціся без кваліфікаваных спэцыялістых у галіне права і савецкага будаўніцтва і што для належнай кваліфікацыі патрэбных спэцыялістых у гэтых галінах досыць будзе арганізаваць кароткатэрміновыя курсы. Зусім зразумела, як гэтакія тэндэнцыі маглі адбіцца на настроях студэнтаў, пачаўшых сапраўднае бегства з факультэту; як уплывалі гэтыя тэндэнцыі на арганізацыю падрыхтоўкі належных кадраў; як адносіліся да працы застаўшыяся на факультэце студэнты, і як нэрвавала гэта навуковых працаўнікоў. Гэтае дэмаблізацыйнае становішча працягвалася даволі доўга і дайшло да свайго кульмінацыйнага пункту, калі пастаўлена было пытаньне аб падзяленьні факультэту на два аддзяленьні. Тут да „ліквідатарскіх" настрояў далучыліся і некаторыя навуковыя працаўнікі, пайшлі па лініі найменшага супраціўленьня, папляліся ў хвасьце часткі студэнцтва па пытаньнях арганізацыі аддзяленьня савецкага будаўніцтва.

Толькі сваячасовае і рашучае ўмяшаньне з боку прэзыдыуму ЦВК БССР спыніла працэс далейшага паглыбленьня ненармальнага становішча на факультэце. Факультэцкія арганізацыі таксама ўзяліся за ліквідацыю „ліквідатарскіх" настрояў, праводзячы шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненьні аўтарытэту і стварэньні нармальных умоў працы. Але мне здаецца, што будзе памылкаю сказаць, што мы можам супакоіцца на гэтым. Яшчэ далёка ня ўсё зроблена, каб можна было сказаць, што справа падрыхтоўкі кадраў можа ісьці бесьперабойна. Гэта адносіцца і да савецкага аддзяленьня Камвузу. Трэба наогул сказаць, што гэтае пытаньне павінна быць у цэнтры ўвагі нашага таварыства, і да яго (пытаньня) нам, напэўна, прыдзецца зварочвацца не адзін раз. Як прыклад няўважлівых адносін да пытаньня аб падрыхуоўцы кадраў па савецкаму будаўніцтву, можна прывесьці гісторыю выданьня спэцыяльнай пастановы аб гэтай падрыхтоўцы, але лёс і нораў гэтай пастановы аказаўся надта капрысным, застраўшы, здаецца, у лябірынтах падрыхтоўчай камісіі СНК.

Мы падыйшлі шчыльна да пытаньня аб становішчы на фронце тэорыі дзяржавы і права ў нас у БССР. Дзеля таго, каб быць найбольш пасьлядоўным, мне здаецца, ня будзе лішнім пачаць агляд і аналіз гэтага становішча з папярэдніх гадоў, з гадоў, калі мы ўваходзілі і на гэтым фронце ў рэканструкцыйны пэрыод.

Гэты час можна кваліфікаваць як эпоху пераломную, калі, у выніку папярэдняй ідэалёгічнай барацьбы на ўсім тэорытычным фронце, у нас таксама стала мяняцца паветра. Вораг адчуваў набліжэньне рашучых схватак, але яшчэ трымаўся моцна.

Выражалася гэта ў тым, што амаль усе асноўныя мэтадалёгічныя і спэцыяльныя курсы на факультэце знаходзіліся ў руках варожых нам прафэсароў і выкладчыкаў. Крымінальнае права, вучэньне аб савецкай дзяржаве (тады яшчэ дзяржаўнае права і адміністрацыйнае права—2 самастойных дысцыпліны), гісторыя народнай гаспадаркі, палітычная эканомія, зямельнае права, міжнароднае права, працоўнае права выкладаліся такімі прадстаўнікамі буржуазна-юрыдычнага сьветапогляду, як Шыраеў, Крыльцоў, Яўціхіеў і прадстаўнік тэорыі „арганізаванага капіталізму" Гэрцык і інш.

Ня маючы на гэтым фронце дастатковай колькасьці марксысцкіх кадраў, якія маглі-б даць гэтай плеядзе буржуазнай прафэсуры мэтадалёгічны бой, апошнія выкарыстоўвалі ўвесь свой уплыў для замацаваньня свайго аўтарытэту сярод студэнцтва, пільна сачылі за тым,

каб стварыць патрэбныя ім кадры навуковых працаўнікоў, сабатавалі прынцыпы вылучэньня на навуковую працу маладых марксыстых.

Застановімся асабіста на некаторых з іх. Найбольш выдатным і найбольш адкрытым у выкладаньні сваіх поглядаў зьяўляўся праф. Шыраеў. Што ён сабою прадстаўляе, можна судзіць аб тым, як ён уяўляе сабе марксысцкую мэтадалёгію: „ёсьць якісьці марксызм“,—неаднакроць заяўляе ён у сваіх лекцыях і на занятках са студэнтамі. Аб марксысцкай тэорыі права наогул нельга гаварыць, бо, па думцы Шыраева, ні Маркс, ні Энгельс, ні Ленін спэцыяльных прац па праву не напісалі, а таму і ня існуе адпаведнай сыстэмы тэорыі права. Так ён заявіў два гады таму назад у час прыезду з Масквы тав. Эстрына, які ў юрыдычным таварыстве пры БДУ прачытаў два даклады. Тады-ж Шыраеў атрымаў належную водпаведзь з боку дакладчыка, які ўскрыў усю рэакцыйную сутнасьць яго канцэпцыі.

Студэнты, якія ў сваіх дыплёмных працах выкарыстоўвалі марксысцкую мэтадалёгію, пападалі ў няміласьць, і дабіцца абароны падобнай працы па катэдры Шыраева ў свой час каштавала нячуваных цяжкасьцяй, і сама абарона працы лічылася вялікім здарэньнем у факультэцкім жыцьці. Звычайна гэтыя працы зварочваліся з рэцэнзіяй аб тым, што гэта хутчэй „палітычны памфлет, чымся праца, якая прэтэндуе на навуковы зьмест“, альбо „занадта многа сацыёлёгіі і мала крыміналёгіі“. Буржуазны прафэсар разумее, што маркса-ленінская мэтадалёгія ва ўсялякай навуцы выражае перш за ўсё палітычна-дзейнічы характар яе. Ленін у свой час зазначыў, што „Маркс і Энгельс з пачатку да канца былі партыйнымі ў філёзофіі“. Значыцца, філёзофія дыялектычнага матэрыялізму,—а мы будуем сваю тэорыю і практыку на гэтай аснове,—зьяўляецца афіцыяльным пунктам гледжаньня пралетарыяту, сьветапоглядам камуністычнай партыі. Таму вораг рабочае клясы, вораг дыктатуры пролетарыяту гэтай філёзофіі прыняць ня можа, ён вядзе супроць яе сьвядомую барацьбу ўсялякімі сродкамі. Шыраеў не пераносіць грубасьці, бо яна „зьневажае эстэтычнае пачуцьцё“ рэакцыйнага вучонага. Шыраеў ня хоча зьмешваць палітыку з навукай, таму ён раіць публіцыстым і палітыкам займацца памфлетамі, а навука павінна карыстацца мандатам на недатыкальнасьць з боку „грубай матэрыі“—палітыкі. Як праф. Шыраеў, аднак, праводзіў гэты падзел палітыкі ад навукі, якую „беспартыйную“ філёзофію ён выкладаў, можна ўбачыць з тэй сыстэмы поглядаў, якія досыць яскрава вызначыліся у яго навуковай дзейнасьці. Шыраевым зьмешчаны шэраг артыкулаў у „Працах БДУ“, у „Запісках катэдры сучаснага права БАН“ (т. I). Акрамя гэтага, ён у 1926 г., у выданьні У-ту, выпусьціў кніжку „Участие общества в борьбе с преступностью“ і прачытаў за час свайго прабываньня ў Менску шэраг дакладаў у юрыдычным таварыстве пры унівэрсытэце. Уся гэтая дзейнасьць прафэсара паказала зусім выразна у яго асобе прадстаўніка школы рэакцыйнай часткі буржуазіі, клясычнай школы крымінальнага права. Шыраеў на працягу шмат гадоў, выступаючы і ратуючы за „чыстую“ пазаклясавую навуку крымінальнага права, праводзіў варожыя нам ідэі. Як разглядаць, напрыклад, наступнае яго палажэньне: „Мы предпочитаем говорить о социальной среде, обществе, коллективе, а не о господствующем классе, так как интересы, охраняемые нормой уголовного закона, в большей своей части одинаково близки всем классам общества, равно как одинаково опасны всему обществу и нарушители этих интересов...“ „Ведь подлежали же по улож. о наказаниях усиленной ответственности лица т. н. привилегированных сословий за деяние корыстного характера. Поэтому в уголовном

праве, где дело идет об охране прежде всего наиболее элементарных интересов личности, общества и государства, классовое начало не имеет того значения, как в других областях права [1]). Яшчэ больш адкрыта і з большым цынізмам пацьвярдзіў сваю рэакцыйнасьць, замаскаваную ідэяй надклясавасьці, пры абгаварэньні пытаньня аб арышце ў 1927 г. урадам фашысцкай Польшчы дэпутатаў „Грамады“: „Усё было-б законна і юрыдычна вытрымана, калі-б яны, дэпутаты, былі арыштаваны ў адпаведнасьці з канстытуцыйнымі актамі Польскай рэспублікі“. Паміж іншым, гэтая тэза надзвычайна актыўна была падтрымана кіраўніком катэдры дзяржаўнага права ў БДУ праф. Крыльцовым па другому пытаньню, менавіта—па пытаньню аб пазбаўленьні ў польскім парлямэнце права на недатыкальнасьць дэпутатаў.

Шыраеў заклікае грамадзкасьць зьмягчаць супярэчнасьці клясавых адносін. Ён лічыць, што „ўдзел грамады ў барацьбе з злачынствам паслабляе клясавае начала ў правасудзьдзі“... [2])

Працягваючы тую-ж думку, аўтар дадае: „грамада сваім удзелам у дзейнасьці дзяржаўных органаў, якія вядуць барацьбу з злачынствам, уносіць пэўны карэктыў“, які выражаецца ў „запатрабаваньні ўстанаўленьня роўнавагі соцыяльных супярэчнасьцяй“... [3])

Практычна-ж гэты ўдзел, па думцы Шыраева, выражаецца ў тым, што „грамада прымушае пануючую клясу... не паслабляць энэргіі ў крымінальна-праўнай абароне жыцьцёвых інтарэсаў грамады, незалежна ад клясавай прыналежнасьці правапарушніка, і, наадварот, затрымлівае занадта шырокі размах мяча правасудзьдзя, як толькі справа датычыцца клясавых супрацiўнікаў“ [4]).

Ці можна яшчэ больш няпрыкрыта выражаць сваю сыстэму поглядаў, якія наскрозь прасякнуты варожасьцю супроць дыктатуры пралетарыяту? Больш адкрытага змаганьня за абарону інтарэсаў клясавых супраціўнікаў пралетарыяту з катэдры савецкага ВНУ цяжка нават уявіць сабе.

Але ад своеасаблівай тэорыі „клясавага замірэньня“ праф. Шыраеў пасьлядоўна перайшоў да яшчэ больш адкрытай апалёгетыкі рэакцыйных тэорый і іх ідэолёгаў. Завяршэньне яго сыстэмы поглядаў выявілася ў 1927 г. у яго дакладзе, прысьвячаным крыміналісту Таганцаву, таму самаму Таганцаву, які адкрыта ўдзельнічаў у стварэньні царскага крымінальнага ўлажэньня 1903 г., з яго славутымі артыкуламі 102 і інш., накіраванымі супроць рэвалюцыйных барацьбітоў, супроць рабочае клясы. Па думцы Шыраева, Таганцаў павінен лічыцца асновапаложнікам... чаго-б вы думалі?—нашага савецкага крымінальнага законадаўства. Успамінаючы свайго вучыцеля, Шыраеў урачыста, у прысутнасьці савецкай аўдыторыі, заяўляе: „У сучасную эпоху, калі адбываецца перабудова ўсіх грамадзкіх адносін, ідзе поўная пераацэнка каштоўнасьцяй, і ў адпаведнасьці з гэтым адбываецца грунтоўная рэформа законадаўства, прадстаўляецца ня лішнім застанавіцца з пачуцьцём удзячнасьці перад памяцьцю тых, працай якіх ствараліся магчымасьці і гэтай перабудовы, і гэтай пераацэнкі, і гэтай рэформы“ [5]).

---

[1]) В. Н. Ширяев „Участие общества в борьбе з преступностью“ Минск 1926 г., стар. 9.

[2]) В. Н. Шыраев, там сама, стр. 4.

[3]) Тамсама, стар. 4.

[4]) Тамсама, стар. 4.

[5]) „Працы БДУ“, № 21, 1928 г.

Такім чынам, па думцы Шыраева, Кастрычнік зьяўляецца вынікам папярэдняй, „падрыхтоўчай“—„грунтоўнай“ дзейнасьці паноў Таганцавых, Шыраевых і інш.

На працягу гадоў, у выніку ўсё большага ўзрастаньня марксысцкай крытыкі, шыраеўшчына была ўскрыта. Трэба сказаць, што і ў першыя гады тэорыі Шыраева сустракалі адпор, але неабходна прызнаць, што ў асноўным правільная гэтая крытыка з пачатку ня была дастаткова завостранай. Гэта таксама адносіцца і да першага выступленьня ў друку аб шыраеўшчыне маёй рэцэнзіі ў „Бальшавіку Беларусі“ за 1927 г., № 4. У парадку самакрытыкі трэба сказаць, што я тады, канстатуючы мэтадалёгічную шкоднасьць аднэй з прац Шыраева і кваліфікуючы яе як працу, якую ні ў якім разе нельга раіць нашай савецкай грамадзкасьці і ўвазе пралетарскага студэнцтва, не знайшоў яшчэ больш вострых фармулёвак для ацэнкі рэакцыйнай сутнасьці „шыраеўшчыны“ наогул.

Ня лепш абстаялі справы ў другой галіне навукі, галіне дзяржаўнага права. Дзіўным зьяўляецца той факт, што гэты адказьнейшы вучастак марксысцкай тэорыі знаходзіўся ў руках буржуазнага юрыста-дагматыка, які ні ў малейшай ступені ня меў уяўленьня аб сутнасьці і зьмесьце сыстэмы дыктатуры пралетарыяту і яго органаў. Курс, які ім чытаўся, мала чым адрозьніваўся ад курсаў, што чыталіся і чытаюцца ў буржуазных унівэрсытэтах. Паклоньнік Магазынэра і Ельінека, ён мэтадалёгічна праводзіў буржуазную ідэалёгію з катэдры савецкае ВНУ. Для яго не існавала новых клясавых суадносін у СССР, якія ў корані зьмянялі ўсю дзяржаўную структуру, і так сама, як і проф. Шыраеў, зайздросьліва ахоўваў сваю тэорыю ад разлагаючага ўплыву савецкай палітыкі. Таму ён праводзіў догматыка-юрыдычнае параўнаньне паміж саветам міністраў буржуазнае дзяржавы і СНК у нашай краіне, паміж прэзыдэнтам і старшынёю ЦВК, ЦВК і буржуазным парлямантам і г. д.

Так сьвядома выхалашчвалася клясавая сутнасьць нашай дзяржаўнай сыстэмы, так арыентавалася студэнцтва наша ў бок успрыняцьця усякай буржуазнай трухі. Крыльцоў, стоячы на грунце адрыву палітыкі ад практыкі, стварыў спэцыяльнае палажэньне аб двуіснасьці тав. Сталіна—практыка і тэорэтыка. Характэрна тое, што Крыльцоў, на аснове гэтай тэзы супроцьстаўленьня тэорыі і практыкі, пабудаваў цэлую тэорыю несупаданьня рэальнай палітыкі савецкай улады з тэорытычнымі ўстаноўкамі ленінізму. Так, напрыклад, Крыльцоў даводзіў,што характарыстыка нашага ўраду як рабоча-сялянскага, не адпавядае сапраўднаму становішчу рэчаў, і лічыў, што дыктатура пралетарыяту ня ўлічвае рэальных суадносін рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства; гэтым самым ён не прызнаваў рэальнага значэньня саюзу рабочых з працоўным сялянствам. Гэтая-ж концэпцыя „падзелу“ працягвалася ім уразуменьні нацыянальнага пытаньня, калі ён сьцьвярджаў, што пытаньне аб сувэрэнітэце наогул у нашых умовах ня мае рэальнага значэньня, і што наогул саюзныя рэспублікі пазбаўлены фактычна свайго сувэрэнітэту.

Між іншым, цікава адзначыць, што гэты-ж прафэсар ня толькі ў БССР, але і ў час працы ў Ташкенцкім унівэрсытэце вядомы, як варожы нам элемэнт. Нядаўна тав. Ангараў у „Известиях ЦВК СССР“ прывёў вельмі яскравы факт шкоднага ўплыву Крыльцова на падрыхтоўваемыя намі кадры. Студэнт-рабочы, партыец з дарэвалюцыйным стажам, у выніку знаходжаньня пад „навуковым“ кіраўніцтвам памянёнага профэсара, у час паступленьня ў асьпіранты Камакадэміі, паказаў сваю юрыдыка-догматычную вышкалку. І гэта не выпадкова,

бо яго кіраўнік іншага сьветапогляду яму прывіць ня мог, як ня мог ён і не жадаў прывіваць маркса-ленінскую мэтодолёгію студэнтам БДУ, якім ён раіў вывучаць курсы буржуазных прафэсароў, а творы Маркса, Энгельса і Леніна раіліся толькі паміж іншым.

Не выпадковым трэба лічыць у проф. Крыльцова супроцьстаўленьне дзьвюх дзяржаўных сыстэм: дзяржавы дыктатуры пралетарыяту і дзяржавы пераходнага часу. Тут поўнасьцю сказваецца ўстралаўшчына ў разуменьні нашай дзяржавы. Падобна да таго, як Устралаў, а ўсьлед за ім унутраная і вонкавая буржуазія ў свой час орыентавалася на рэволюцыйнае перараджэньне нашай краіны ў капіталістычную сыстэму, таксама і гэты рупар устралаўшчыны ў БССР Крыльцоў меў на ўвазе, што эпоха дыктатуры пралетарыяту адпавядала эпохе ваеннага „камунізму“, а эпоха НЭП'у—гэта нешта іншае, да чаго сыстэму дыктатуры пралетарыяту дапасаваць нельга. Таму дзяржава пераходнай эпохі, па „тэорыі“ Крыльцова, больш падобна да сучасных „праўных“ дзяржаў, з больш шырокай дэмократыяй і г. д. Такая яўна буржуазная тэорыя, ня прыкрытая нават некаторай марксысцкай фразэолёгіяй, ужывалася на адказьнейшай мэтодолёгічнай катэдры БДУ. Аб гэтым неаднакроць сыгналізавалася як паасобнымі студэнтамі, так і некаторымі навуковымі працаўнікамі, але адпаведныя ўстановы, якія непасрэдна павінны былі праявіць актыўнасьць у зьнішчэньні падобнага становішча, аказаліся няздольнымі рашуча ліквідаваць гэтую цытадэль буржуазнай ідэолёгіі. І толькі з 1929 г. становішча зьмянілася: катэдра цалкам перайшла ў рукі марксыстых.

Пераходзім да галіны права, дзе са ўсёю яснасьцю праявілася беларуская кандрацьцеўшчына, да зямельнага права. „Бадай можна сказаць, зазначае тав. Пінчук у сваім выступленьні ў Комакадыміі, да даклалу аб кандрацьцеўшчыне, што кандрацьцеўшчына нідзе не знайшла такой спрыяючай глебы, як на Беларусі“[1]). І гэта зусім правільна, бо праграма контррэвалюцыйнага нацынал-дэмакратызму, як і праграма кандрацьцеўшчыны, зьяўлялася праграмай буржуазнай рэстаўрацыі, з установкай на разьвіцьцё ўсяе нашае народнае гаспадаркі паводле капіталістычнага пляну. Контррэвалюцыйная аграрная праграма кандрацьцеўшчыны і нацыянал-дэмакратызм знайшлі свой адбітак у так званай прышчэпаўшчыне“.

Гэтая мэтадалёгія вельмі добра выражана ў „Матар'ялах да пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну народнай гаспадаркі БССР на 1927/28—1931/32 г.г.“ у наступнай формуле: „Асаблівых пэрспэктыў на значнае павялічэньне плошчы калгасаў і саўгасаў ня можа быць..., продукцыйнасьць іх нават некальлі разоў ніжэй за продукцыйнасьць зямель працоўнага (ня інакш, як кулацкага.—М. К.) зямлякарыстаньня..., саўгасы і калгасы не набудуць на працягу гэтай пяцігодкі асаблівага значэньня, як фактар непасрэднага абагульненьня сельскай гаспадаркі“. Усе гэтыя тэзы павінны былі аформіцца пэўным чынам ў тэорыі і практыцы зямельнага права БССР.

Гэтай справай і займаўся былы юрысконсульт АКВК Вішнеўскі, у мінулым земскі начальнік і віцэ-губэрнатор. На працягу шэрагу гадоў галіна зямельнага права знаходзілася на правох манаполіі ў яго руках. Ён узяў на сябе абавязак тэорытычнага апраўданьня кулацка-хутарской палітыкі былога НКЗ Прышчэпава.

Пачынаючы з 1925 г., Вішнеўскі па пытаньнях тэорыі і практыкі зямельнага права зьмясьціў шэраг артыкулаў у часопісах "Полымя",

[1]) Кондратьевщина (сборник). Комакадемия. 1930 г., с, 124.

„Плуг“, „Весьці НКЮ“, „Рэвалюцыйная законнасьць“, „На аграрным фронце“. Дарэмна мы будзем шукаць у яго літаратурных працах аналізу зямельнапраўных адносін з пункту гледжаньня клясавай дыфэрэнцыяцыі сялянства ў БССР, стымуляваньня пераходу да калектыўных форм сельскай гаспадаркі. Палітыка партыі і савецкай улады— гэта terra incognita ў тэорытычнай творчасьці ідэолёга кулацтва. У яго працах чырвонаю ніцьцю праводзіцца ідэя абароны капіталістычных шляхоў разьвіцьця сельскай гаспадаркі: у адным месцы гэта робіцца вельмі асьцярожна, у другім больш адкрыта і сьмела. Буйны сялянскі двор—гэта ідэал Вішнеўскага. Усю пэрспэктыву разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі гэты беларускі кандрацьцевец бачыць у наступных марах: „у вялікім сялянскім двары, які дружна жыве..., зямлі хапае; яна ўгнойваецца і старанна апрацоўваецца, дзеля таго што ёсьць быдла і рабочыя рукі... Буйная гаспадарка ні ў чым ня мае патрэбы“ (нужды). (Падкрэсьлена мною—М. К.) [1]).

Вішнеўскі супроць калектывізацыі с. г., і таму ён абгрунтоўвае шкоднасьць абшчыны па савецкаму зямельнаму законадаўству з прычыны таго, што „пры ёй двор ня можа мець упэўненасьці і ўстоўлівасьці свайго зямлякарыстаньня і пагэтаму пазбаўлен імкненьня ўкладваць у зямлю як мага больш працы і капіталу“. [2]) (Падкрэсьлена мною—М. К.). Для Вішнеўскага кулака ня існуе. Кулак—гэта, па яго разуменьні, працоўны элемэнт вёскі, адсюль і кулацкая гаспадарка адносіцца да „працоўных“ гаспадарак. Тут мімаволі ізноў успамінаецца формула аб „дыктактуры працоўных“, меўшая хаджэньні ў некаторых артыкулах і палітычных дакумантах.

„Зямельная рэформа 1920 г..., кажа верны саратнік Прышчэпава, не зачапіла буйных працоўных гаспадарак, г. зн., дзе сельскагаспадарчую работу праводзілі разам з парабкамі і члены двара“ [3]). (Падкрэсьлена мною—М. К.). Пасьля гэтай аполёгэтыкі капіталістычнага шляху разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі Вішнеўскаму больш нічога не застаецца рабіць, як толькі старанна даводзіць непатрэбнасьць абрэзкаў буйных кулацкіх гаспадарак. Ён ня бачыць ніякай „эканамічнай мэтазгоднасьці“ гэтага мерапрыемства.

Шэраг артыкулаў зямельнага кодэксу БССР (напр., арт. арт. 124, 125), праект якога, па ўласнаму прызнаньню Вішнеўскага, складзен ім самім, ня менш яскрава сьведчыць аб мэтаімкненьні разглядаемага прадстаўніка беларускай кандрацьцеўшчыны.

Прыхільнік буйнае індывідуальнае гаспадаркі, гэты апалёгэт нэосталыпіншчыны ў БССР, дае свае „заўвагі“ да арт. арт. 35 і 36 праекту агульных начал зямлякарыстаньня і зямлябудаўніцтва, у якіх („заўвагах“) зазначае: „лішкавымі зьяўляюцца арт. арт. 35 і 36 аб савецкіх гаспадарках, так як у адзначаных артыкулах утрымліваюцца дырэктывы па адрасу зямельных органаў, а не адрасаваныя да насельніцтва агульныя начала зямлякарыстаньня“. Як бачыце, нават самую ідэю аб савецкіх гаспадарках аўтарам хочацца захаваць ад насельніцтва. Вось у агульных рысах характар навуковай і практычнай дзейнасьці пана Вішнеўскага.

Калі навуковая праца і продукцыя па зямельнаму праву ўяўляе сабою суцэльны прарыў, з тэорытычным і практычным адлюстраваньнем кандрацьцеўшчыны і контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму,

[1]) „Весьці НКЮ“, № 4-5, 1927 г. „Аб сямейнамаемасных падзелах працоўных земляробчых гаспадарак“.

[2]) „Весьці“, № 2-3, 1927 г. „Зямельны кодэкс БССР“.

[3]) „Полымя“, № 7, 1927 г. с. 126.

дык і фронт гаспадарчага права мае шэраг досыць сур'ёзных недахопаў і прарываў. Большасьць прац у гэтай галіне зьвязаны з больш альбо менш актуальнымі пытаньнямі нашага законадаўства і судовай практыкі. Але пры азнаямленьні з распрацаванымі тэмамі трэба канстатаваць, што аўтары былі больш актыўны ў галіне вывучэньня інстытутаў, якія ўнасьледаваны намі ад буржуазнага права, чымся ў галіне распрацоўкі створаных рэволюцыяй новых праўных праблем. Тут, у гэтай галіне, мы з асаблівай аскравасьцю можам наглядаць факт адставаньня тэорыі ад практыкі сучаснага гістарычнага этапу нашай краіны.

У працах па пытаньнях гаспадарчага права пануе, галоўным чынам, юрыдыка-догматычны мэтод. І нават, калі мы сустракаем паасобныя працы, дзе аўтар імкнецца скарыстаць марксысцкі мэтад, дык у выніку мы маем альбо пэўную вульгарызацыю марксызму альбо зусім нягрунтоўны і непасьлядоўны маркса-ленінскі аналіз. Шэраг прац прасякнуты юрыдычным догматызмам і голым эмпірызмам, што павінна разглядацца як адна з адмен буржуазна-юрыдычнага сьветапогляду. Да гэтай катэгорыі адносіцца праф. Грэдынгер. Прывядзем некалькі прыкладаў. Перш за ўсё дыскусія аб шлюбе. У асьвятленьні гэтага пытаньня праф. Грэдынгер, акрамя таго, што ён праявіў у гэтым пытаньні эклектызм, стаяў на пазыцыі юрыдычнага ідэалізму па пытаньні аб форме заключэньня шлюбу і праўнай арганізацыі сям'і. Адсутнічае малейшая спроба аналізу эканамічных адносін у растлумачэньні новых праяў у грамадзкіх адносінах. Наадварот, у яго артыкуле „Шлюб і закон"[1]) ёсьць довады, што не ў эканоміцы проф. Грэдынгер шукае тлумачэньня форм шлюбу. У памянёным артыкуле можна знайсьці зусім ня прыкрыты падыход да старых праўных інстытуцый, пракланеньне перад „никем не превзойденной попыткой" Модэстына даць азначэньне шлюбу і г. д. Праф. Грэдынгер гатоў прыняць з некаторымі „агаворкамі" фармуліроўку Модэстына. Вось на якую фармуліроўку аўтар дае сваю згоду: „Брак есть союз мужчины и женщины и об'единение их на всю жизнь", і далей баязьліва дадае: „поскольку не наступят отменяющие его обстоятельства". Але, па думцы аўтара, і гэта недастаткова,—трэба, каб усе папярэднія ўмовы супольнага жыцьця былі падтрыманы правам. Дзеля таго, каб абгрунтаваць сваю думку аб неабходнасьці толькі праўна афармленага шлюбу, аўтар сьцьвярджае: „С прихотью же, с капризом отдельных граждан советский строй считаться не должен, ибо не государство существует для гражданина, а гражданин для государства"[2]). Недастатковае разуменьне сувязі паміж правам і эканомікай паказана і ў другой працы таго-ж аўтара „Наша права на спадчыну", якая надрукавана ў „Запісках Бел. Акадэміі Навук"[3]). Яна, як і шэраг іншых прац праф. Грэдынгера, паказвае яго ўменьне скрупулёзна опэраваць нарматыўным матар'ялам, эмпірычна абагульваць практыку, але не разуменьне карыстацца маркса-ленінскай мэтодолёгіяй. У некаторай частцы гэта адносіцца да ранейшых прац Гаўзе.

Да гэтай жа катэгорыі прадукцыі з пункту гледжаньня мэтадалёгіі належаць і працы М. Гуткоўскага, з тэй толькі розьніцай, што ў творчасьці апошняга дадаткова яшчэ маюць месца праявы ня прыкрытага нацыянал-дэмакратызму.

---

[1]) „Працы БДУ", № 11, 1926 г.

[2]) Тамсама, ст. 63.

[3]) „Запіскі БАН", т. I, 1929 г., ст. 36-52.

На XVI зьезьдзе тав. Сталін даў поўную характарыстыку пэўным імкненьням аджываючых кляс зьвярнуць сабе страчаныя прывілеі. Як адзін з відаў адлюстраваньня гэтага імкненьня з боку буржуазіі панаваўшай раней вялікарускай нацыі, адзначае вялікарускі шавінізм, які зьяўляецца на гэтым этапе галоўнай небясьпекай у галіне нацыянальнага пытаньня.

Было-б сапраўды дзіўным, каб буржуазная прафэсура, праводзячы ідэалёгію капіталістычнай рэстаўрацыі, не праяўляла ў сваіх тэорыях памянёнага шавінізму.

Характэрна тут адзначыць, што як раз прадстаўнікі самай рэакцыйнай групы прафэсуры, якая праводзілася вышэй, адначасова уяўляюць сабой і вялікадзяржаўных шавіністых. Да іх трэба аднесьці тых самых Шыраева і Крыльцова.

Шыраеў—прыхільнік „адзінай і недзялімай“, аб чым ён не двухсэнсоўна даводзіць у сваім артыкуле „Основные начала уголовного законодательства СССР“[1]).

Аўтар раіць законадаўцы змагацца са старымі забабонамі і ўсякага гатунку перажыткамі, унядраць у сьвядомасьць шырокіх мас здаровыя ідэі. Пад гэтымі „здаровымі ідэямі“ аўтар мае на ўвазе мажлівасьць перанясеньня на савецкую глебу практыкі кодэксаў крымінальнага права „Заходня-эўропейскіх краін“ (Шыраеў ня ўжывае тэрміну буржуазная краіна), якія ўсё больш яднаюць сваю архітэктоніку, асымілірующь склад дзеяньняў і інш. Гэта павінна, бачыце, давесьці, што ў СССР няма патрэбы для існаваньня паасобнага крымінальнага законадаўства ў саюзных рэспубліках. Шыраеў лічыць, што „подданные“ (так і напісана,—у Шыраева няма грамадзян,—гл. с. 35) паасобных частак Саюзу, хаця і маюць некаторыя асаблівыя бытавыя рысы, усё-ж яны не настолькі адрозьніваюцца, каб мець рознае крымінальнае законадаўства ў розных саюзных рэспубліках, бо падобны „шлях партыкулярызму“, на думку Шыраева, зусім, бачыце, не адпавядае патрабаваньням розных нацыянальнасьцяй нашага Саюзу, якія „доўгі час жылі ў аднолькавых гістарычных умовах і таму прасякнуты адзіным правасазнаньнем“. Для большага эфэкту аўтар спасылаецца на тое, што і ўмовы савецкага ладу выпрацоўваюць адзінства правасазнаньня, што яшчэ больш выклікае неабходнасьць цэнтралізацыі законадаўства. Чым гэта не падобна да тэорыі адмаўленьня ад прынцыпаў савецкага фэдэралізму? Па сутнасьці-ж уся гэтая ўстаноўка, апроч свае рэстаўратарскае тэндэнцыі, ясна адлюстроўвае імкненьне вялікадзяржаўнага шавіністага.

У асобе Крыльцова мы знаходзім добрага паплечніка Шыраева. Яго тэорыя аб адсутнасьці сапраўднага сувэрэнітэту ў кожнай нацыі, якая жыве на тэрыторыі нашага Саюзу, нерэальнасьць, па яго думцы, 3 і 4 артыкулаў констытуцыі СССР, наяўнасьць і пераважнасьць саюзнага бюджэту, дабраахвотная перадача часткі сваіх сувэрэнных праў саюзным органам,—усё гэта разумеецца Крыльцовым як імкненьне да цэнтралізму, які памяншае значэньне паасобных частак СССР, і ён прывітае гэтакія прычэпленыя ім самім Саюзу рысы. Але кульмінацыйны пункт вялікарускага шавінізму ў канцэпцыі Крыльцова выражаны ў яго артыкуле „Новая конституция Белорусской СС Республики“, дзе ён лічыць, што арт. 22 нашай канстытуцыі, які гаворыць аб тым, што беларуская мова, як мова пераважнай большасьці насельніцтва БССР, выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж

[1]) „Працы БДУ“, № 11, 1926 г.

дзяржаўнымі, профэсійнымі і грамадзкімі ўстановамі і організацыямі, „д э г р а д ы р у е сапраўдную роўнапраўнасьць моў“[1].

Што хаваецца за гэтай „дэградацыяй“, асаблівых камэнтараў не патрабуе. Кожнаму і так ясна, што тутака выступае плакальшчык „вялікай мовы, вялікай нацыі“. І таму нас нікольki не ўпэўняюць „артадаксальныя“ заўвагі і камплімэнты аўтара ў бок правядзеньня партыяй і савецкай уладай нацыянальнай палітыкі.

Ты сер, а я, прыятель, сед,
И волчью вашу я давно натуру знаю...

Але, ускрываючы сутнасьць вялікарускага шавінізму ў галіне нашай тэорыі, трэба з такою-ж рашучасьцю змагацца і супроць скрыўленьня ленінскай нацпалітыкі ў сыстэме нашага савецкага апарату. Наш друк за апошні час праводзіў шэраг праяў вялікадзяржаўнага шавінізму ў паасобных зьвеньнях нашага дзяржаўнага апарату. Нядаўна, напрыклад, на паседжаньні нацкамісіі ЦВК БССР, пры заслухоўваньні дакладу Горацкага гарсавету аб рабоце сярод працоўных нацменшасьцяй, быў устаноўлен поўны правал і безадказнасьць мясцовага гарсавету ў справе выкананьня важнейшых пастаноў партыі і ўраду па нацыянальнаму пытаньню. Гэта, зразумела, не адзіны прыклад. Тут нашае таварыства павінна сачыць за ўсімі гэтымі праявамі, даваць ім адпаведную ацэнку і непрымірымы бальшавіцкі адпор гэтым скажэньням нац. палітыкі партыі і савецкай улады.

Яшчэ на XII зьезьдзе ЎсеКП(б) адзначалася контррэвалюцыйная роля мясцовага нацыяналізму ва ўмовах будаўніцтва савецкіх рэспублік. Жыцьцё пацьвердзіла правільнасьць гэтага прагнозу. У шэрагу савецкіх рэспублік за апошнія гады мясцовы нацыяналізм даў шмат прыкладаў сваей актыўнай варожасьці і контррэвалюцыйнай сутнасьці.

У працэсе дакладу мы падайшлі да высьвятленьня ролі і сутнасьці беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ў дачыненьні да пытаньняў дзяржавы, права і савецкага будаўніцтва. Неабходна было-б зараз даць спэцыяльны аналіз усяе нацыянал-дэмакратычнай канцэпцыі дзяржавы. Прыдаючы асьвятленьню гэтага пытаньня вялікае значэньне, як аднэй з галін ідэалёгічнай дзейнасьці нашага клясавага ворага на працягу шэрагу год, лічу неабходным паставіць перад таварыствам задачу спэцыяльнай распрацоўкі гэтай праблемы, якая патрабуе адпаведнай увагі з боку нашага калектыву.

Аднак, у парадку выкананьня тэмы дакладу, лічу абавязкам паказаць, як ідэі нацыянал-дэмакратызму прасякнулі і нашлі адбітак у выказваньнях некаторых працоўнікоў нашага фронту.

У якасьці яскравага прыкладу праяў нацыянал-дэмакратызму возьмем некаторыя з прац М. Гуткоўскага, які зьяўляецца аўтарам проекту беларускай праўнай тэрміналёгіі. Аб ёй і будзе ісьці гутарка.

Мы досыць добра ведаем, як нацыянал-дэмакраты займаліся шкодніцтвам у галіне мовазнаўства. Трэба сказаць, што праца Гуткоўскага таксама праходзіла „аўтарытэтную“ кансультацыю, як ён кажа, „старых беларускіх культурнікаў“—Лёсіка, Сьцяпана Некрашэвіча, Чаржынскага і іншых.

Якія-ж прынцыпы былі пакладзены ў аснову стварэньня гэтай тэрміналёгіі?

Гуткоўскі дае на гэта адказ: „...трэба было прыцягнуць сюды багацейшыя крыніцы старажытнага беларускага права: Акты Літоўскае

[1]) Советское право, „№ 3, 1928 г., ст. 32.

мэтрыкі, Літоўскі статут, Акты зах. Расіі.. Імкненьнем ўсіх камісій, праглядаўшых праект праўнай тэрміналёгіі, было даць самабытную праўную тэрміналёгію...“

На некаторых прыкладах, якія гавораць самі за сябе, пакажам, якою праўнаю тэрміналёгіяю павінны былі карыстацца шырокія колы працаўнікоў у галіне права і савецкага будаўніцтва і працоўныя масы БССР.

Вось як камісія, у асобе „старых беларускіх культурнікаў“, запазычала словы з крыніц народнай мовы: земледелец—на першым месцы даецца рольнік, коллектив—на першым месцы—суполка, абонент на першым месцы—перадплата, завещание—духоўніца, заседатель—на першым месцы—асэсар, прабел—пярэрва. І вось гэтакая тэрміналёгія даміруе ў слоўніку. За тое сярод 3135 слоў вы ня знойдзеце шэрагу паняцьцяў і слоў, вельмі актуальных ва ўмовах савецкай рачаіснасьці, як, напрыклад, дыктатура, саўгас, камуніст, савет. Затое вельмі старанна наматваліся такія „самабытныя“ словы былой рачаіснасьці як: кабак, мэдаль, кара, пісар, міністар, пасёлкі, выселкі і інш. такога-ж гатунку.

Як бачыце, у гэтай частцы тэрміналёгіі ў аўтара і яго кансультантаў, ужываючы іх-жа тэрмін, ніякай „пярэрвы“ ня было. Ці патрабуюцца яшчэ далейшыя камэнтары для характарыстыкі сутнасьці гэтай працы, якая варожа накіравана супроць ідэолёгіі пралетарыяту?

Не выпадкова-ж аўтар зазначае, што аднэй з крыніц беларускай мовы зьяўляюцца палітычныя акты Б. Н. Р.

Мы закранулі адну з прац М. Гуткоўскага. Але для таго, каб давесьці у яго наяўнасьць нацыянал-дэмакратычных поглядаў, прывядзем яшчэ адзін прыклад з яго працы „Афіцыйныя крыніцы заканадаўства БССР“, якая надрукавана ў № 11—12 „Сав. Будаўніцтва“ за 1927 г. Тут аўтар ізноў працягвае стары ланцуг разважаньняў аб крыніцах самабытнасьці ў крыніцах сучаснага савецкага законадаўства. Ён гаворыць: „Так, аб вялікай культурна-палітычнай ролі нашае бацькаўшчыны, Беларусі, гавораць багацейшыя скарбы—Літоўская мэтрыка і Літоўскі статут. І надзвычайна важна тое, што гэтыя крыніцы дайшлі да нашых часоў, што людзі таго часу, 5 стагодзьдзяў таму назад, разумелі значэньне гэтых крыніц і пакінулі іх нам у вялікім парадку... Мы не павінны адставаць ад XIV—XVI стагодзьдзяў“ [1]).

Досыць выразныя праявы нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі ў пытаньнях дзяржаўнага будаўніцтва адбіў у сваёй навуковай прадукцыі Г. Парэчын. Характэрна адзначыць, што ў яго працах сумяшчаецца дагматыка, якая харчуецца нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіяй з некаторай марксысцкай фразэалёгіяй. Сыстэму поглядаў Г. Парэчына можна знайсьці ўжо ў яго ранейшых працах. За апошнія гады Г. Парэчын часткова маскуе гэтую сыстэму ўжываньнем марксысцкай тэрміналёгіі.

Пяройдзем да фактаў. Калі мы вышэй паказалі як у асобе Крыльцова догматыка была скарыстана на службу вялікадзяржаўнага шавінізму, дык у адным з твораў Парэчына „Советские республики в их взаимоотношениях“ нацыянал-дэмакрат выкарыстаў дагматыку. Парэчын, як і Крыльцоў, лічыць, што „мы можам рассматривать Союз советских республик с точки зрения сравнения его с существующими

[1]) „Савецкая Будаўніцтва“, № 11—12, 1927 г.

типами сложных буржуазных государств".[1]) І далей, пералічваючы гэтыя буржуазныя дзяржавы, як ПАЗШ, Швэйцарыю і Германію, аўтар знаходзіць, што „...общее у Советского союза с названными государствами мы, несомненно, можем установить".

Якія-ж агульныя рысы знаходзіць аўтар у СССР з буржуазнымі фэдэрацыямі?

Калі мы проста прывядзем шэраг палажэньняў аўтара аб узаемаадносінах саюзнага ўраду з паасобнымі нацыянальнымі рэспублікамі, дык „тэорыйка" аўтара аб нацыянальным самавызначэньні ў СССР становіцца зусім зразумелай.

„Конституция", кажа аўтар, имеет в виду деление национальностей, населяющих Росию, на две категории, одной из которых может быть предоставлена полная самостоятельность, в то время как национальности другой категории могут пользоваться только правом автономии".[2]) Словам, паводле концэпцыі Парэчына, і ў буржуазных краінах, з аднаго боку, і ў СССР, з другога—узаемаадносіны нацый пабудаваны па аднолькавых прынцыпах: існуюць дзьве катэгорыі: роўнаправўныя і няроўнаправўныя нацыі. Што аўтар мае менавіта гэта на ўвазе, сьведчыць шэраг месц з яго працы. Парэчын усю сваю старанасьць прыкладае да таго, каб тэарытычна выхаласьціць сутнасьць нацыянальнай палітыкі савецкай ўлады. „Правительство Крымской рэспублики не является верховной суверенной властью Крыма",—кажа аўтар[3]).

„Сами автономные республики... часто бывают вынуждены становиться на точку зрения защиты перед центральнай властью своих специфических интересов"[4]). Такім чынам, ніякага самавызначэньня нацый, ніякага сувэрэнітэту ў Савецкім Саюзе няма. Усё, як у буржуазных краінах. Аўтар задае пытаньне, ці можна лічыць аўтаномныя рэспублікі дзяржавамі, альбо іх трэба лічыць проста правінцыямі, і ў далейшым Парэчын, спасылаючыся на аўтарытэты махровых буржуазных юрыстаў, як Вормс, Какошкін, прыходзіць да вынікаў, што і БССР таксама фактычна не карыстаецца нават шырокай аўтаноміяй[5]). Якога-ж сувэрэнітэту, якога нац. самавызначэньня хоча Парэчын? Аб гэтым адчыненага адказу вы ў кніжцы не знойдзеце; але сьцьвярджэньні аб тым, што зьезды саветаў зацямняюць пытаньні савецкіх рэспублік да вышэйшых заканадаўчых органаў РСФСР, паказваюць шкодную ідэолёгічную сутнасьць поглядаў Парэчына.

„Дэклярацыя праў народаў Расіі", ўпяршыню ў гісторыі ўзаемаадносін розных нацыянальнасьцяй паказала сутнасьць устанаўленьня сапраўднага роўнапраўя народаў, якія на сваіх зьездах самастойна вырашаюць усе пытаньні свайго нацыянальнага будаўніцтва, пры братэрскай дапамозе эканамічна і культурна больш моцных больш адсталым. Парэчын і ў 1922 г., калі выдавалася яго кніжка, павінен быў ведаць, што на зьезьдзе саветаў не магло „произойти нечто такое, что известную ясность в этом вопросе совершенно затемнило"[6]). Ён павінен быў ведаць, што яшчэ 5/II 1919 г. ЦВК РСФСР прызнаў сувэрэннасьць БССР, і таму дапушчэньне думкі аб няроўнаправўнасьці

[1]) Поречин. „Советские республики в их взаимоотношениях." Минск, 1922 г., с. 9 V
[2]) Тамсама, ст. 11.
[3]) Тамсама, ст. 11.
[4]) Тамсама, ст. 15.
[5]) Тамсама, ст. 25.
[6]) Тамсама, ст. 23.

паасобных рэспублік, якія знаходзіліся, як і БССР, у дагаворных адносінах з РСФСР, аб нейкім „зажыме“ з боку РСФСР супадае з разважаньнямі нац.-дэмакратаў аб „дрэнным уплыве ветра са Ўсходу“. Парэчын знаходзіць, што РСФСР, як гаспадар, надзяляе прыгнечаныя нацыянальнасьці рознымі падарункамі частковага роўнапраўя, якое, па яго думцы, пабудавана „на принципе равноправия национальностей, по крайней мере, в отношении языка“ [1]).

Тут Парэчын поўнасьцю змыкаецца, як і па раней закранутых пытаньнях, з апалёгетамі буржуазнай юрыспрудэнцыі, у даным выпадку з праф. Дурдзенеўскім, вядомым у СССР прадстаўніком буржуазна-юрыдычнага сьветапогляду.

У Парэчына РСФСР адносіцца да іншых рэспублік, як пан да парабка; у Дурдзенеўскага больш эканамічна моцная саюзная рэспубліка не дапамагае эканамічнаму і культурнаму ўздыму другіх нацыянальных рэспублік і вядзе з імі наступную гутарку, накшталт гутаркі растаўшчыка с крэдыторам; „это—твое, поступай тут, как найдешь нужным; остальное—мое, и тут ты без меня не действуй“; у другім палажэньне перакульваецца: это—мое, здесь ты мне только помогаешь, а остальное пока твое, потом разберемся точнее“; у трэцім яно зьмяняецца так: „это—мое, остальное—твое, в случае сомнений, взгляни, нет ли моей метки“ [2]). Парэчын можа нам сказаць, што гэта яго старая праца, якая не дае падставы залічаць яго ў лягер нацыянал-дэмакратычнай плыні. Але і ў яго апошніх творах можна знайсьці паасобныя палажэньні тае самае канцэпцыі. Новым у яго творчасьці зьяўляецца пераход да ўжываньня марксысцкай фразэолёгіі. Парэчын ня скупіцца на скарыстаньне цытат т.т. Леніна, Сталіна, але вельмі часта ў яго творах літара марксызму накіроўваецца супроць сэнсу марксызму. Довадам гэтага можа служыць сыстэматычнае нежаданьне бачыць дыфэрэнцыяцыю сялянства ў нашай краіне, неразуменьне сутнасьці прынцыпу дыктатуры пролетарыяту, якая ім замяняецца формулай—дыктатура працоўных, ідэалізацыя „Беларускай соцыялістычнай грамады“, Кастуся Каліноўскага, упартае падкрэсьліваньне фармальнай незалежнасьці, фармальнага роўнапраўя БССР у складзе СССР, як гэта прыводзіцца Парэчыным у апошнім творы, які яшчэ знаходзіцца на рэдакцыі, і на які яшчэ павінна быць дадзена дакладная крытыка.

> „Нацыянал-дэмакратычная канцэпцыя дзяржаўнасьці знайшла свой адбітак ня толькі ў так званай акадэмічнай творчасьці, але яе ідэалы, на жаль, часам гучэлі і на пасяджэньні вышэйшых органаў нашай рэспублікі. Так, тав. Нодэль у сваёй прамове на IV сэсіі ЦВК БССР УІ склікаканьня наступным чынам абгрунтоўваў асноўныя прынцыпы праекту канстытуцыі БССР. Ен казаў: „Артыкул 4 канстытуцыі 1919 г. сфармуляваны наступным чынам: асноўная задача, разьлічаная на даны пераходны момант,—канстытуцыя БССР заключаецца ў устанаўленьні дыктатуры гарадзкога і сельскага пралетарыяту і бяднейшага сялянства... У той праект, казаў тав. Нодэль, які мы прадастаўляем увазе, мы ўносім на першы погляд маленькую зьмену: у арт. 2-м мы слова „бяднейшага“ замяняем словам „працоўнага“. Калі павярхоўна падыйсьці да гэтай зьмены, дык нібыта ніякай розьніцы няма. Але калі вы ўдумаецеся, дык вы нясумненна са мной згодзіцеся, што гэта найвялікшае палітычнае і прынцыповае значэньне“ [3]).

[1]) Поречин. „Сов. республики в их взаимоотношениях“, ст. 13.
[2]) Сборник. Федерализм, с. 221.
[3]) Стенограмма IV сессии ЦИК БССР VI созыва, 1925 г., с. 159.

Сапраўды тав. Нодэль не памыліўся,—гэта была-б прынцыповая зьмена ў сутнасьці дыктатуры пралетарыяту у БССР. У гэтым выпадку т. Нодэль об'ектыўна аказаўся рупарам ідэолёгіі нацдэмакратызму, як (нацдэмократызм) імкнуўся праз формулу дыктатуры працоўных мас выхаласьціць клясавы зьмест дыктатуры пралетарыяту. Вось як акадэмічная пастаноўка гэтых пытаньняў у творах Парэчына саўпадала з антыленінскімі і варожымі ўстаноўкамі ў адпаведных артыкулах праекту канстытуцыі БССР 1925 г.[1])

Характарыстыка становішча нашага тэарэтычнага фронту была-б няпоўнай, калі б мы не закранулі пытаньня паасобных выпадкаў скажэньняў марксысцка-ленінскай тэорыі дзяржавы і права, з боку таварышоў, якія лічаць сябе староннікамі рэв. марксызму. Так, трэба спамянуць брашуру тав. Сташэўскага „Як работніца і сялянка кіруе СССР“, у якой мы наглядаем шэраг скажэньняў і адыходаў ад правільнага растлумачэньня клясавай сутнасьці нашай улады. У кніжцы тав. Сташэўскага змазана кіруючая роля пралетарыяту, абойдзена пытаньне аб месцы партыі ў сыстэме нашай дзяржавы. Гэта сьведчыць аб неабходнасьці разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі і ўнутры нашых радоў і пільнасьці да ўсякай прадукцыі па пытаньнях галін нашай працы.

Новы этап соцыялістычнага будаўніцтва паставіў пытаньне аб пераацэнцы нашых дасягненьняў з мэтаю рашучага высьвятленьня меўшыхся памылак і розных ухілаў сярод ваяўнічых марксыстых. Зараз у нас праходзіць праўная дыскусія. Неабходна канстатаваць поўнае адставаньне з нашага боку ў гэтай галіне. Да сёньня мы мелі толькі адно выступленьне тав. Рудзіцкага, які зусім своечасова закрануў некаторыя няправільныя палажэньні ў працах тав. Пашуканіса [2]). Перад нашым таварыствам непасрэдна стаяць задачы прыняць удзел у абгаварэньні спрэчных пытаньняў тэорыі права і мэтодалёгіі савецкага права, тым больш, што ў часе дыскусіі называлася прозьвішча аднаго з нашых таварышоў—тав. Галанза.

Бясспрэчна, што ўсё раней прыведзенае азначае і тыя задачы работнікаў у галіне як тэорыі, гэтак і практыкі сав.-будаўніцтва, права і дзяржавы. Спынімся на некаторых найбольш важных з іх.

1. Распрацоўка проблем тэорыі права і дзяржавы пераходнага часу павінна праходзіць ва ўмовах змаганьня за генэральную лінію партыі. Толькі выразная барацьба на два фронты адзіна можа забясьпечыць правільнае ўжываньне зброі маркса-ленінскай мэтадалёгіі пры аналізе канкрэтнай рачаіснасьці. Уся наша праца павінна праводзіцца ў гэтым сэнсе пад знакам маркса-ленінскай крытыкі паасобных палажэньняў ухілістых ад ленінскай лініі.

2. Пастроіць сваю працу такім чынам, каб яна поўнасьцю адпавядала новаму этапу сацыялістычнага будаўніцтва. Таварыству ў сувязі з гэтым неабходна дабіцца кансалідацыі ўсіх тэарэтыкаў і практыкаў, працуючых у галіне савецкага будаўніцтва і права, якія, згуртаваўшыся навакол таварыства, павінны па-новаму прыступіць да вырашэньня проблем, пастаўленых партыяй і сав. уладаю.

3. Правесьці шырокую і сыстэматычную популярызацыю маркса-ленінскай тэорыі сярод працоўных мас і савецкага актыву. Гэта ўзьніме актыўнасьць шырокіх колаў працоўных да асноўных пытаньняў савецкага будаўніцтва.

---

[1]) Да больш дэталёвага разгляду гэтага пытаньня мы яшчэ вернемся ў другі раз.

[2]) „Працы Бел. Дз. ун-ту“, № 25, 1930 г., с. 91—111.

4. Перад тэорытычнай думкай у галіне аналізу канкрэтнай дзейнасьці савецкай дзяржавы стаіць некалькі груп праблем. Рознастайнасьць форм клясавай барацьбы, дынаміка клясавай барацьбы—вось адна з груп праблем. Па-другое, група пытаньняў, якія адносяцца непасрэдна да савецкага апарату. Сюды павінны быць аднесены такія пытаньні, як склад апарату, карэньні і конкрэтныя формы бюрократызму, пытаньні рэконструкцыі дзяржапарату, масавая праца саветаў і г. д. Па-трэцяе, вывучэньне дзяржапарату з пункту гледжаньня форм і зьместу яго працы.

5. Надаючы асабліва сур'ёзнае значэньне пытаньням нашага законадаўства і распрацоўкі проблем савецкага права на падставе паглыбленага вывучэньня марксысцкай мэтадалёгіі ў дачыненьні да галін канкрэтнага права, таварыства павінна актыўна ўдзельнічаць у папярэднім вывучэньні і распрацоўцы важнейшых законадаўчых актаў, якія маюць найбольш прынцыповае значэньне, і праводзіць працу па вывучэньні мэтадаў і форм правядзеньня рэвалюцыйнай законнасьці ўва ўсіх зьвеньнях дзяржапарату.

6. Прыдаючы адказьнейшае палітычнае значэньне пытаньню падрыхтоўкі кадраў у галіне сав. буд. і права, таварыства павінна весьці рашучую барацьбу з умаленьнем значэньня гэтага пытаньня, за стварэньне належных умоў у нашых спэц. ВНУ і ўскрываць малейшыя тэндэнцыі „ліквідатарскіх“ настрояў у дачыненьні да праўнай асьветы; разам з гэтым дабівацца ўзмацненьня плянаў нашых сацыяльна-эканамічных факультэтаў і курсаў спэцыяльнымі пытаньнямі сав. будаўніцтва і права.

7. Неабходна правесьці каардынацыю працы розных устаноў, якія займаюцца пытаньнямі сав. буд. і права, а таксама пабудаваць сваю працу на падставе стварэньня шчыльнай сувязі з адпаведнымі органамі дзяржапарату.

8. У сваёй дзейнасьці таварыства павінна асабліва сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на вывучэньне вырашэньня на практыцы у БССР нац. пытаньня. Правядзеньне сыстэматычнай барацьбы з праявамі ў навукова-пэдагагічнай і практычнай працы сав. будаўніцтва і права, як вялікадзяржаўнага расійскага шавінізму, найбольш небясьпечнага на даным этапе, гэтак і з контррэвалюцыйным беларускім нац.-дэмакратызмам і шавінізмам розных колераў, таксама і з праявамі нац. апартунізму, зьяўляецца першачарговай палітычнай задачай таварыства.

9. Зусім зразумела, што ўсе гэтыя задачы таварыства зможа выканаць, калі яно павядзе супроць усіх як адчынена клясава-варожых, гэтак і замаскаваных антымарксыстых і квазімарксыстых выступленьняў бязьлітасную ідэолёгічную барацьбу, якая таксама павінна быць накіравана супроць усякага замоўчваньня тэорыі нэўтральнасьці і наогул прымірэнчых адносін да розных праяў варожае нам ідэалёгіі ў галіне права і дзяржавы.

10. Таварыства павінна прыняць усе захады да таго, каб арганізаваць сваю працу, маючы на ўвазе калектыўныя прынцыпы.

11. Разам з правядзеньнем пералічаных вышэй задач таварыства павінна ставіць перад сабой таксама задачу асьвятленьня пытаньняў вывучэньня паасобных праблем сучаснай капіталістычнай дзяржавы і ў першую чаргу не праходзіць міма пытаньняў фашызму і соцыялфашызму.

Мы лічым, што, толькі кансалідаваўшыся на пляцформе ваяўнічага маркса-ленінскага вучэньня аб дзяржаве і праве вакол нашага

таварыства, мы зможам выканаць тыя адказьнейшыя палітычныя задачы, якія стаяць перад камуністычнай партыяй і савецкай уладай.

Нарэшце, я павінен адзначыць тую вялікую ролю, якая адыграна пры распрацоўцы гэтага дакладу групай нашых маладых навуковых працаўнікоў (Рудзіцкі, Янэль, Лушчыцкі, Юрашны і інш.), правёўшых крапатлівую і адказную працу па падборы і асьвятленьні некаторых пытаньняў, зьвязаных з нашай тэмай. Вось гэты пачын ужо зьяўлецца прыкладам колектыўнай працы, аб якой я вышэй памянуў і якая, спадзяюся, у далейшым будзе сыстэматычна разгортвацца.

Ул. Гесэн

# Нацыянал-дэмакратычная гісторыя Беларускай літаратуры

Барацьба з варожай нам буржуазнай тэорыяй і навукай прымусіла партыйную і савецкую грамадзкасьць пільней глянуць на тое, што робіцца ў нашых навуковых і навукова-пэдагогічных установах. І вялікадзяржаўны шавінізм і контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм прабуюць у сваёй барацьбе з дыктатурай пралетарыяту абаперціся таксама і на адпаведнае вытлумачэньне гістарычнага мінулага Беларусі, стараючыся ў гэтым мінулым знайсьці неабходныя ім аргуманты для абаснаваньня свае праграмы барацьбы супроць сацыялістычнага будаўніцтва. Буржуазная навука і буржуазная прафэсура імкнуліся ўстанавіць сваю гэгемонію ва ўсіх галінах чалавечых ведаў. Частка гэтых спроб, а значыць і асоб, ужо дастаткова выяўлена і раскрытыкавана, але гэтага мала. Пара паставіць усе „кропкі над і“. Трэба да барацьбы на ідэалёгічным фронце, да барацьбы з усякімі адхіленьнямі ад марксысцка-ленінскай тэорыі прыцягнуць увагу шырокай партыйнай і рабочай грамадзкасьці, трэба, нарэшце, вывесьці гэтую работу і гэтую барацьбу за межы тых ці іншых навуковых устаноў і арганізацый. Неабходна ўзяць пад абстрэл марксысцкай крытыкі ня толькі носьбітаў яўна варожых тэорый, але таксама і ўсіх тых, хто яшчэ не захацеў і ня змог канчаткова парваць з буржуазнаю, а значыць, клясава-варожай навукай, хто суб'ектыўна можа, і не жадаючы, затрымаць працэс падрыхтоўкі навуковых марксысцка-ленінскіх кадраў, аб'ектыўна гэтаму якраз і садзейнічае. Абгаварэньне і крытыка такое літаратуры, такіх падручнікаў, якія да гэтага часу рэкамэндуюцца ў нашых ВНУ у якасьці асноўных дапаможнікаў, павінна ня толькі дапамагчы нашаму студэнцтву крытычна ўспрыняць тое, што ім падносіцца, але таксама зрабіць дапамогу тым навуковым работнікам, якія шчыра імкнуцца зразумець і ўспрыняць рэвалюцыйны марксызм, але да гэтага часу ў сваіх друкаваных навуковых работах працягваюць абараняць пазыцыі буржуазнай навукі.

Такою кнігай, якая ў вельмі моцнай меры адчула на сабе ўплыў нацыянал-дэмакратычнай канцэпцыі гістарычнага працэсу Беларусі і якая ў той-жа час зьяўляецца адным з асноўных падручнікаў, рэкамэндуемых студэнтам БДУ і тэхнікумаў, зьяўляецца, на наш погляд, работа прафэсара М. Піотуховіча—„Нарысы гісторыі беларускай літаратуры“ [1]).

---

[1]) Мы лічым неабходным агаварыцца, што даем крытыку гэтай кнігі па лініі агульных установак аўтара аб працэсе клясавай барацьбы на Беларусі. Мэтадалёгічныя ўстаноўкі аўтара спэцыяльна ў адносінах да літаратуры ўяўляюць самастойны інтарэс, і мы думаем, што яны павінны быць раскрытыкаваны марксыстымі-літаратуразнаўцамі.

У. Г.

Ужо першыя радкі ў прамове аўтара прымушаюць нас настаражыцца, наколькі праф. Піотуховіч бачыць цяжкасьці ў вывучэньні новай беларускай літаратуры ў яе блізкасьці да сучаснасьці, якая, мауляў, не дае магчымасьці аб'ектыўна і бесстаронна адносіцца да яе (стар. 3). Гэта ёсьць ня што іншае, як адгалоскі старое ідэйкі, што прадметам гісторыі можа быць толькі тое, што мела месца 50 ці 100 гадоў назад, што сучасныя падзеі і ідэі не павінны ўплываць на высьвятленьне падзей і працэсаў, што навука апалітычна і інш. У канцы прамовы аўтар яшчэ раз падкрэсьлівае, што ў адносінах да тых пісьменьнікаў, творчасьць якіх ужо адышла ў „нябыт", можна і адносіцца аб'ектыўна і зрабіць у адносінах іх тыя ці іншыя абагульняючыя высновы; што-ж датычыцца сучасных пісьменьнікаў, то ў адносінах да іх падыход можа быць ня толькі навукова-дасьледчы, колькі суб'ектыўна-крытычны (стар. 7). Ясна, што ў праф. Піотуховіча ёсьць зусім няправільнае ўяўленьне аб задачах марксысцкага навуковага дасьледваньня. Але гэта між іншым. Куды больш цікавіць нас тая пэрыодызацыя гістарычнага разьвіцьця Беларусі, якую ўстанавіў праф. Піотуховіч.

Гісторыю беларускае літаратуры ён падзяляе на чатыры пэрыоды: 1) эпоха прыгоннай гаспадаркі (1-ай пал. XIX ст.), 2) 2-ая пал. XIX ст., 3) пэрыод, які пачынаецца з рэвалюцыі 1905—6 г. і 4) пасьлякастрычнікавы пэрыод. Узяўшы для першых двух пэрыодаў у якасьці паказальнікаў вытворчыя адносіны і спосаб эксплёатацыі, азначаныя грамадзкія фармацыі, для апошніх двух пэрыодаў аўтар адмаўляецца ад такога падыходу: атрымаўся даволі тыповы эклектызм, варожы, вядома, марксызму і марксысцкай пэрыодызацыі. Буйнай памылкай лічым мы таксама зусім няправільнае азначэньне хранолёгічных рамак тэй ці іншай эпохі. Першая палова XIX ст. у гісторыі Беларусі—гэта якраз эпоха раскладу і ліквідацыі фэўдальна-прыгоньніцкіх адносін, а другая палова XIX ст.—пэрыод росту капіталістычных адносін, у цэлым разьвіцьцё капіталізму пры наліччы вельмі можа быць і значнага ліку астанкаў, толькі астанкаў старое грамадзкае фармацыі, фэўдальных спосабаў вытворчасьці і вытворчых адносін. Першая палова XIX ст. яшчэ цалкам належыць фэўдальна-прыгоніцкаму ладу, ня гледзячы на тое, што па сутнасьці гэта ёсьць пэрыод распаду гэтай фармацыі, унутры якое растуць сілы капіталізму, хоць разьвіцьцё апошняга і затрымліваецца шматлікімі астанкамі прыгоньніцтва і фэўдалізму. У лепшым выпадку толькі поўнае незнаёмства з гістарычным працэсам Беларусі і Расіі магло прывесьці аўтара да такога скажаючага рачаіснасьць пункту погляду на пэрыодызацыю гісторыі Беларусі. Гэта памылка, як мы ўбачым, таксама зьяўляецца адною з асноўных і цягне за сабой цэлы шэраг другіх немарксысцкіх палажэньняў праф. Піотуховіча. Выводзячы характар творчасьці таго ці іншага пісьменьніка непасрэдна з экономікі эпохі, аўтар да кожнага разьдзелу, што адпавядае якому-небудзь пэрыоду яго схэмы, дае ў якасьці прадмовы невялікі агляд экономікі краіны на даным адцінку часу. Гэтыя гістарычныя экскурсы грашаць такім мноствам памылак, і такая іх якасьць, што дазваляюць паставіць пытаньне пра сувязь гэлых памылак з нацыянал-дэмакратычнымі канцэпцыямі беларускага гістарычнага працэсу.

Зусім няправільная характарыстыка дадзена і Расіі і Беларусі ў канцы XVIII і пачатку XIX стагодзьдзя. Праф. Піотуховіч, надзвычайна прымітыўна выходзячы з таго палажэньня, што сельская гаспадарка ў Расіі трымалася на прымусовай працы, робіць выснову, што і ў эканамічных і палітычных адносінах Расія ўяўляла сабою тады той-жа

„хворы організм“, і яе становішча нічым не адрозьніваецца ад таго становішча, у якім знаходзілася тады перад падзеламі Польшча. Гэта, зразумела, няправільна. Уся другая палова XVIII стагодзьдзя характарызуецца для Расіі росквітам прыгоньніцкай гаспадаркі, адносна хуткім тэмпам накапленьня капіталаў, надзвычайна актыўнаю знадворнай і каленіяльнаю палітыкаю як на Захад, так і на Усход. Падзелы Польшчы і захоп Беларусі і зьяўляліся якраз вынікамі гэтых працэсаў. Няправільна, што сельская гаспадарка ў Расіі ў канцы XVIII стагодзьдзя зайшла ў тупік, з якога ня было выхаду. Якраз у гэты час у значнай меры, у выніку прамысловага перавароту ў Англіі, мацнее памешчыцкая гаспадарка, растуць памешчыцкія і сялянскія мануфактуры, ўсе большая права грамадзянства заваёувае сыстэма аброчнае гаспадаркі. Пра натуральны характар памешчыцкай гаспадаркі ня прыходзіцца і гаварыць: гэты пункт погляду ўжо даўно здадзены ў архіў, а праф. Піотуховіч ўсё яшчэ працягвае яго падтрымліваць (стар. 9-10).

Зусім няправільныя і ў мэтадалёгічных адносінах развагі праф. Піотуховіча і пра становішча сялян на Беларусі і ў Расіі, прычым для Расіі канца XVIII і першай паловы XIX стагодзьдзя аўтар не аднакроць ужывае тэрмін „Маскоўшчына“. Калі гэты тэрмін дапасавальны яшчэ для Маскоўскай дзяржавы XVI—XVII стагодзьдзяў, то выкарыстоўваньне яго для XVIII, а тым болей XIX, стагодзьдзя ўяўляецца па крайняй меры дзіўным. Але апрача таго, праф. Піотуховіч не разумее, што пранікненьне грашовых адносін у сельскую гаспадарку, ва ўмовах прыгоньніцкай сыстэмы, ва ўсякім разе не паляпшае „становішча“ сялянства. Трэба разумець, што ва ўмовах гандлёвага капіталу, які разьвіваецца, селянін адчувае на сабе падвойны ўціск памешчыка, зьвязанага з рынкам, і самага рынку гандлёвага капіталу ці непасрэдна, ці праз памешчыка. З ідэалізацыяй аброчнай гаспадаркі пара скончыць. Незразумела таксама, як можа чалавек, які прэтэндуе на марксызм, пісаць, што становішча сялянства паляпшаецца ў эпоху першапачатковага накапленьня. Разам з тым ня менш рашуча трэба адкінуць і другую яўна варожую тэндэнцыю праф. Піотуховіча, які, гаворачы пра надзвычайна цяжкае становішча беларускага селяніна, цяжкасьць якога (становішча) падвоілася пасьля далучэньня Беларусі да Расіі, нядвусэнсава супроцьстаўляе яму селяніна „Маскоўшчыны“, які жыў у лепшых умовах. Натуральна ствараецца ўражаньне, што менавіта расійскі селянін прыгнятае і эксплёатуе селяніна беларуса. Клясавая барацьба і клясавыя супярэчнасьці між памешчыцкай клясай і сялянствам падмяняюцца нацыянальнай барацьбой і нацыянальнымі супярэчнасьцямі. Але-ж у гэты час сялянскія хваляваньні і непаладкі таго часу накіраваны якраз ня столькі супроць Расіі наогул, колькі супроць свайго памешчыка, які павялічвае і паглыбляе паншчыну і аброчныя павінасьці. І ў гэтых адносінах асабліва важна падкрэсьліць, што вядомыя сялянскія паўстаньні, якія пракаціліся ў 1796—97 г.г. па Беларусі, зьяўляюцца толькі часткаю таго масавага сялянскага руху на тэрыторыі імпэратарскай Расіі, які, ажывіўшы ў дваранстве ўспаміны пра пугачоўшчыну, прымусіў урад пайсьці на шэраг мерапрыемстваў, якія павінны былі заспакоіць сялянскую масу, як, напр., вядомы закон пра трохдзённую паншчыну. Не разумеючы гэтага, праф. Піотуховіч робіць шэраг грубых памылак, аналізуючы клясавую сутнасьць беларускай літаратуры першай паловы XIX стагодзьдзя.

Вось асноўныя палажэньні аўтара: першае палажэньне—дробнае і сярэдняя шляхта—гэта тыя „пласты насельніцтва“, якія найбольш блізка стаяць да беларускага народу і яго быту, і затым менавіта ў іх мы бачым імкненьне пазнаёміцца „з носьбітам гэтага побыту“,

г. ё. з беларускім народам, сялянствам (стар. 17). У гэтакім выглядзе тут усё няправільна. Дробная і сярэдняя шляхта, якая непасрэдна гаспадарыла ў сваіх маёнтках, ня толькі не слабей прыгнятала прыгоннае сялянства, але магла прыгнятаць яго значна мацней, чым буйныя памешчыкі. Сьцьвярджаць, што дробная і сярэдняя шляхта „блізкая“ да сялянства, гэта значыць ідэалізаваць адносіны між памешчыкам і прыгонным сялянствам, замазваць клясавую барацьбу і клясавыя супярэчнасьці тае эпохі. Тут яўна мае месца пераклічка з нацдэмаўскай канцэпцыяй самабытнага гістарычнага разьвіцьця Беларусі.

Другое палажэньне аўтара заключаецца ў тым, што „беларуская літаратура эпохі прыгоннай гаспадаркі зьяўляецца... па зьместу народніцкай, па ідэалёгіі гэтая літаратура яскрава шляхецкая“ (стар. 17). Тут таксама ўсё няправільна. Нельга народніцкі характар творчасьці таго часу азначаць тым, што прадметам гэтай творчасьці зьяўляецца вёска і селянін, і ў той-жа час сьцьвярджаць, што носьбітамі гэтага народніцтва зьяўляліся памешчыкі, якія ідэалізавалі прыгонную вёску і жыцьцё запрыгоннага сялянства. Гэта гаворыць ня толькі аб поўным неразуменьні сутнасьці рэвалюцыйнага народніцтва, гэта ёсьць ня што іншае, як дыскрэдытацыя таго грамадзкага руху, які зьяўіўся выказьнікам інтарэсаў сялянскай рэвалюцыі ва ўмовах капіталістычных адносін, што разьвіваюцца.

І, нарэшце, ня можам мы згадзіцца і з трэцім палажэньнем праф. Піотуховіча, які, адзначаючы, што ў мастацкай літаратуры таго пэрыоду ў наяўнасьці яўная тэндэнцыя, з аднаго боку, паказаць селяніна ў сьмешным выглядзе, а з другога, ідэалізаваць „патрыярхальныя“ адносіны між памешчыкамі і прыгонным, піша: „ужо адзін той факт, што шляхта, адчуваючы патрэбу пісаць на „простай“ беларускай мове, уводзіла гэтую мову ў колы літаратурнага ўжытку і тым зварочвала ёй былое значэньне,—ужо самы гэты факт зьяўляецца крокам наперад; па-другое, у данай літаратуры выяўляецца поцяг да селяніна, імкненьне пазнаць яго быт і жыцьцё“, і далей, што ў прадстаўнікоў гэтай літаратуры „ёсьць проста эмацыянальны, бесьсьвядомы поцяг да беларускай народнасьці“ (стар. 18). Праф. Піотуховіч ня можа ці ня хоча зразумець тае простай рэчы, што нельга ставіць знак роўнасьці між народнікамі і прыгоньніцкай шляхтай у сэнсе іх імкненьня пазнаць сялянства, сялянскі быт, што патрэба шляхты пісаць на беларускай мове, увядзеньне гэтай мовы ў кола літаратурнага карыстаньня, імкненьне пазнаць сялянскае жыцьцё і інш.,—усё гэта апраўдвалася клясавымі інтарэсамі прыгоньніка-памешчыка, павінна быць расцэнена менавіта з пункту погляду клясавай барацьбы. Тады стане зразумела, што вуснамі гэтых пісьменьнікаў гаварыла ня „ідэя нацыянальнага адраджэньня“ Беларусі, а страх памешчыка перад сялянскай рэвалюцыяй. Пачуцьцё самазахаваньня прымушала іх ставіць у цэнтры творчасьці вёску і селяніна, замазваючы працэсы клясавай барацьбы, ідэалізуючы прыгоньніцкія адносіны і прыгонны быт. І той, хто адрываецца ад гэтага факту, той ня можа напэўна даць марксысцкага аналізу гістарычнага разьвіцьця беларускай літаратуры[1]), як бы ён ні прэтэндаваў на гэта, бо фактычна па сутнасьці ён абедзьвюма нагамі стаіць на пазыцыі нацыянал-дэмакратызму з яго тэорыяй адзінай бясклясавай Беларусі.

---

[1]) Мы не застанаўліваемся на мностве болей дробных памылак, як, напр., мацнейшым пераўвялічэньні значэньня сялянскай фабрыкі ў пач. XIX стагодзьдзя (стар. 11), ацэнцы клясавых супярэчнасьцяй між памешчыкамі і сялянствам як „трагічнай каалізіі“ (стар. 17—18), злоўжываньні такімі тэрмінамі, „як беларуская народнасьць“, „маскоўшчына“ і інш.

Няправільная трактоўка рускага сантымэнталізму таксама зьвязана з раней паказанымі памылкамі праф. Піотуховіча. Сантымэнталізм у літаратуры зьяўляецца ў выніку эксплёатацыі і разбурэньня дробных вытворцаў буйным капіталам, або ён можа служыць прыгоньніку-памешчыку, зьвязанаму з гандлёвым, а не прамысловым капіталам, які, фальшыва прыкрываючыся гэтым сантымэнталізмам, праводзіць думку пра неабходнасьць умацаваньня патрыярхальных, прыгоньніцкіх адносін. Менавіта такі сантымэнталізм характарызуе Карамзіна і Жукоўскага, тыповых прыгоньнікаў і рэакцыянэраў у эпоху першых спроб буржуазных рэформ у пачатку XIX стагодзьдзя. Менавіта гэтай барацьбой між новымі буржуазнымі адносінамі, якія разьвіваліся, і старымі фэўдальна-прыгоньніцкімі, а не асаблівымі ўмовамі славянскіх краін (стар. 21) тлумачыцца памешчыцкі сантымэнталізм нач. XIX стагодзьдзя ў Расіі. І толькі поўнае незнаёмства з разьвіцьцём грамадзкай думкі ў Расіі змагло дазволіць праф. Піотуховічу характарызаваць сантымэнталізм у адносінах да Расіі толькі ўсяго як літаратурную школу, а не як цэльную сыстэму сьветапогляду, як ідэалёгію азначанай клясы (стар. 21). Калі не сказаць нічога пра рэакцыйную сутнасьць расійскага сантымэнталізму, то лепш было-б гэтага пытаньня зусім не закранаць.

Памылкі праф. Піотуховіча, дапушчаныя ім у высьвятленьні сацыяльна-гістарычных прадпасылак беларускай літаратуры эпохі прыгоннай гаспадаркі, не маглі не адбіцца і на аналізе творчасьці таго ці іншага пісьменьніка. Узяць хоць-бы Рыпінскага, творы якога аўтар залічвае да народніцкіх, хоць той і глядзіць на селяніна як на ніжэйшую істоту і над якім гіранічна сьмяецца з вышыні свайго шляхецкага вялічча. Тое-ж самае робіць праф. Піотуховіч і з Баршчэўскім, хоць у апошняга ёсьць такі верш, як „Рабункі мужыкоў", які зусім яўна накіраваны супроць сялянскіх непаладкаў і паўстаньняў, які ідэалізуе „патрыярхальныя" адносіны між памешчыкам і прыгонным (стар. 49). Да рамантычнага народніцтва залічваецца нашым аўтарам і Чачот, які ў сваіх творах зусім яўна выступае як прадстаўнік памешчыцкіх інтарэсаў, які падтрымлівае сельскую буржуазію, кулацтва. Беднасьць і цемра -вынік п'янства. Хто працуе, слухае пана, ходзіць у царкву, старанны і інш., той будзе забясьпечан і матар'яльна. За працу сваіх рук селянін атрымае „працу нашай (г. ё. Чачота) мысьлі і асьветы". А гэткія, як Чачот атрымаюць ня толькі магчымасьць пісаць за кошт селяніна, але яшчэ зьбіраць матар'ял для свае творчасьці (стар. 53-56). Такая ідэалёгія Чачота. Залічваючы ягоную творчасьць, як і двух папярэдніх, да „рамантычнага народніцтва", праф. Піотуховіч выходзіць ня з сутнасьці і клясавага зьместу іхніх твораў, а з тэматыкі. Калі вёска і селянін фігуруюць у паэме ці апавяданьні, як галоўная дзейная асоба, то гэтага дастаткова для нашага аўтара, каб прыпісаць ім народніцкія тэндэнцыі. З якою мэтаю і чаму той ці іншы пісьменьнік вывучае, пазнае побыт селяніна, гэта ўяўляецца Піотуховічу ня істотным. У выніку і атрымліваецца аб'яднаньне пад аднэй шыльдай яўна прыгоньніцка-дваранскіх і кулацкіх пісьменьнікаў з сапраўднымі народнікамі другой паловы XIX стагодзьдзя.

Няправільная ацэнка, якая ідэалізуе памешчыка-прыгоньніка, дадзена ў творчасьці Дуніна-Марцінкевіча (сантымэнтальна-утапічнае народніцтва). Праф. Піотуховіч яўна акрэсьлена адзначае, што ў сваіх творах гэты пісьменьнік ідэалізуе прыгоньніцкія адносіны і становішча сялянства, узвальваючы ўсю віну за адхіленьне ад гэтага на эканомаў, прыказчыкаў і інш., што часамі ён дае малюнак сялянскага гора, але зноў-такі, чаго ўжо не падкрэсьліў праф. Піотуховіч, гора гэтае ёсьць вынік не сацыяльна-эканамічных умоў, а індывідуальных

асаблівасьцяй (напр., сіроцтва), пры чым на дапамогу селяніну прыходзіць пан і інш. [1]). Але выводзіць адсюль, што Дунін-Марцінкевіч меркаваў палепшыць існаваньне сялянства не праз ломку „сацыяльных форм“, а шляхам „зьмен форм сузнаньня ў маральнай удасканаленасьці“ (стар. 73), зразумела, нельга. Дунін-Марцінкевіч перш за ўсё баіцца бунту, ад гэтага бунту трэба ўсьцерагчыся. Гэтай асноўнай ідэі падпарадкавана ўся творчасьць пісьменьніка. Таму ён і навучае, з аднаго боку, памешчыкаў вярнуцца да ранейшых патрыярхальных адносін, узяць стырно кіраўніцтва ў маёнтку непасрэдна ў свае рукі, каб адкінуць повад да нездавальненьня з боку сялянства, захоўваючы пры гэтым прыгоньніцкія адносіны, а, з другога, навучае сялян слухацца сваіх паноў, бо апошнія жадаюць сваім прыгонным толькі дабра, падпарадкавацца іхняй волі, тады яны будуць жыць у дастатку і задаволенасьці, а бунты толькі пагоршаць іхняе становішча (стар. 64-72). Дунін-Марцінкевіч ідэалізуе ня проста ўсіх памешчыкаў і сучасныя яму адносіны. Ён патрабуе захаваньня тых адносін і тых форм старое гаспадаркі, якія ня ведалі яшчэ разьвіцьця таварна-грашовых адносін, а ў цэлым усяе прыгоньніцкае сыстэмы. Дунін-Марцінкевіч і ня думаў пра магчымасьць ломкі гэтых адносін, і думка яго працавала ў адным толькі кірунку—захаваць залежнасьць селяніна ад памешчыка. Па аднаму гэтаму ўжо нельга прылічыць Дуніна-Марцінкевіча ні да народніцтва наогул, ні да ўтапічнага народніцтва ў прыватнасьці. І як сантымэнталісты, Дунін-Марцінкевіч выступае якраз і перш за ўсё з пачуцьця самазахаваньня. Пад лібэральнай формай захоўваецца рэакцыйная сутнасьць творчасьці гэтага пісьменьніка, які адлюстроўвае інтарэсы прыгоньніка-памешчыка.

Самае цікавае ў ацэнцы Піотуховічам Дуніна-Марцінкевіча—гэта тое, што ён (Піотуховіч) амаль цалкам узяў характарыстыку гэтага пісьменьніка у У. М. Ігнатоўскага з яго кнігі „Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагодзьдзя“. На старонках 152-153 Ігнатоўскі піша, што „грамадзкі рух на Беларусі характарызуецца сантымэнтальным народніцтвам, якое імкнецца абараніць запрыгоненага селяніна“. Ігнатоўскі лічыць, што „так сама“, як калісь рускі пісьменьнік Карамзін, беларускія пісьменьнікі гэтага кірунку (курсыў наш—У. Г.) стараюцца пераканаць паноў, што „и крестьянки чувствовать умеют“, што сяляне такія самыя людзі, як і паны. Зразумела, што гэтая сацыяльна-народніцкая літаратура вытвараецца ў беларускай мове. Тыповым прадстаўніком беларускага руху гэтых часоў (50, 60 і 70 гады) зьяўляецца беларускі пісьменьнік Вінцук Дунін-Марцінкевіч... Калі мы ўглядаемся ў творы Марцінкевіча, то адразу бачым, што перад намі пясьняр-народнік у тым сэнсе, як вызначана вышэй“. Амаль слова ў слова тое, што гаворыць Піотуховіч. Ітак, ня толькі Дунін-Марцінкевіч, але нават і Карамзін—народнікі. Карамзіна, гэтага найтыповага і рэакцыйнейшага ідэолёга прыгоньніцкіх памешчыкаў, выставіць у якасьці заступніка прыгнечанага сялянства! Ці можна дайсьці да большае фальсыфікацыі, да большае падтасоўкі фактаў, да большага паклёпу на народніцкі рух! Ігнатоўскі правы, што Дунін-Марцінкевіч па сваёй ідэалёгіі, усёй сваёй ккясавай сутнасьці ровен Карамзіну, але ён ровен яму толькі як прыгоньнік. Розьніцы ў ацэнцы Марцінкевіча і ў „разуменьні“ народніцтва ў Піотуховіча і Ігнатоўскага роўна ніякай няма. На гэтым прыкладзе ня цяжка ўбачыць, як праф. Піотуховіч пераклікаецца з Ігнатоўскім на глебе адных і тых-жа нацыянал-дэмакратычных установак.

[1]) Гл. стар. 70-72 і інш

Наступны разьдзел кнігі праф. Піотуховіча афяраваны эпосе распаду і ліквідацыі прыгоннай гаспадаркі. Мы ўжо адзначалі вышэй, шот наогул гэтая характарыстыка, дадзеная аўтарам 2 паловы XIX стагодзьдзя, няправільная, паколькі тут мы маем ужо эпоху прамысловага капіталізму, хоць астанкі фэўдалізму і прыгоньніцтва і затрымліваюць капіталістычнае разьвіцьцё Беларусі. Асноўнае гэта тое, што цяпер дамінуюць капіталістычныя спосабы вытворчасьці і капіталістычныя адносіны. Ня зусім правільны аналіз дадзен як самой рэформе 1861 г., гэтак і яе вынікам (стар. 74 і інш.). Справа-ж у тым, што „19 лютага“ зьявілася вынікам ня толькі разьвіцьця прамысловага капіталу, але таксама і распаду ўсяе прыгоньніцкай сыстэмы, якая ўзрывалася з сярэдзіны, у выніку пранікненьня капіталістычных адносін у сельскую гаспадарку. І, апрача таго, прамысловая буржуазія патрабавала ня столькі свабодных рабочых рук (іх было адносна дастаткова), сколькі пашырэньня ўнутранага рынку. Менавіта памешчык, які капіталізуецца, быў зацікаўлены ў рабочай сіле для сваіх вызваленых ад прыгону сялян, лятыфундый, у той час, як пашыраны рынак для прадукцыі сельскае гаспадаркі быў больш-менш відавочны. Увесь сэнс рэформы 1861 г. і заключаецца якраз у тым, што яна была праведзена ў інтарэсах ня толькі прамысловага, але і гандлёвага капіталу, а значыць і памешчыка. Зусім няправільна сьцьвярджаць, што рэформа ня ўнесла па сутнасьці новага ў становішча селяніна, што вызваленьне н сіла толькі характар юрыдычны. Тое па сутнасьці новае, што прынесла з сабою рэформа 1861 г., заключаецца ў тым, што селянін цяпер адчувае на сабе падвойны прыгнёт. Застаючыся яшчэ пад уладай памешчыка, ён цяпер падпадае таксама і пад уладу рынку.

Становішча селяніна можа не зьмяніцца ці зьмяніцца да горшага. Цяпер важна ня гэта, важна тое, што відавочны цяпер іншыя спосабы вытворчасьці, другія маёмасныя адносіны, разьвіцьцё якіх затрымліваецца астанкамі фэўдалізму і прыгоньніцтва. Але, бязумоўна, памылкова гаварыць пра натуральны характар памешчыцкай гаспадаркі і памену між горадам і вёскай. Гэта несправядліва для першай паловы XIX стагодзьдзя. Гэта тым болей няправільна для пасьлярэформенага пэрыоду. Не характэрны таксама і тыя лічбовыя дадзеныя, прыведзеныя Піотуховічам, якія малююць становішча прамысловасьці ў 60 г.г., бо ў гэты час, па-першае, працягваў адчувацца крызіс 50-х г.г., а падругое, карэнная ломка адносін у першыя гады праявіла сябе заняпадам прамысловай дзейнасьці на тэрыторыі амаль усяе б. імпэрыі. Апрача гэтага, праф. Піотуховіч, пад уплывам І. М. Ігнатоўскага, няправільна характарызуе К. Каліноўскага, як актыўна-рэвалюцыйнага народніка, які абараняў выключна інтарэсы сялянства, няправільна падзяляе народніцтва на два струмені: актыўна-рэвалюцыйны і радыкальна-дэмакратычны, памылкова разумее разначынца, як „разумовага пралетара“, і інш. Але значна горш абстаіць справа з тэй канцэпцыяй Піотуховіча, якую ён разьвівае, аналізуючы творчасьць Ф. Багушэвіча. Яшчэ да разбору яго твораў праф. Піотуховіч піша: „ідэёвы бок літаратурнай спадчыны Багушэвіча асабліва зварачваў на сябе ўвагу ў наш час, калі пад сьцягам пралетарскай рэвалюцыі закладваюцца моцныя падваліны культурна-нацыянальнага і сацыяльнага адраджэньня Беларусі. У думках Багушэвіча, песьняра гэтага адраджэньня, можна выявіць першапачатковае зараджэньне, так сказаць эмбрыён, тых ідэалаў, якія зьяўляюцца баявым лёзунгам сёньняшняга дня“ (стар. 85) [1].

[1] Курсыў наш. У. Г.

Тут усё ясна, і асобных камэнтараў не патрабуецца. Праф. Піотуховіч устанаўляе наступніцкую і непасрэдную сувязь між беларускай пралетарскай культурай і беларускім адраджэнцкім дробна-буржуазным рухам; ён думае, што Кастрычнікавая рэвалюцыя завяршае тое, што было пачата ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя, калі на Беларусі яшчэ ня было моцнага пралетарыяту, які ўсьвядоміў сябе як клясу, калі клясавая дыфэрэнцыяцыя не прайшла дастаткова глыбока; ён, нарэшце, выхалашчвае клясавы зьмест сучаснай нам беларускай культуры, якая бурна расьце, расцэньвае яе з нацыянал-дэмакратычнага пункту погляду, як культуру беларускага народу наогул. Дробна-буржуазны паэта выступае ў ролі роданачальніка і ідэёвага правадыра сацыялістычнага будаўніцтва, будаўніцтва беларускай пралетарскай культуры.

Сапраўды, ёсьць над чым падумаць.

Хто-ж такі Багушэвіч? У яго творчасьці асобнае месца аддаецца беларускаму народу, прыгнечанаму і прыціснутаму. Ён не дыфэрэнцуе народ на клясы, гісторыя Беларусі ня ведае ні клясавых супярэчнасьцяй, ні клясавай барацьбы. Беларусь—„не вялікая, не малая, ня чорная яна была, а белая, чыстая: нікога ня біла, не падбівала, толькі баранілася“ (стар. 90). Багушэвіч апісвае гора беларускага народу, але ці кліча ён яго на барацьбу за сваё нацыянальнае вызваленьне? Нічуць не. Дробнабуржуазнаму паэту дадзена толькі праліваць горкія сьлёзы над лёсам свайго народу, гаварыць „прекраснодушные“ фразы, але не заклікаць народ да дзеяньня. Праф. Піотуховіч правільна адзначае, што паэзія Багушэвіча накіравана супроць прыгоньнікаў-памешчыкаў, супроць эксплёатацыі сялянства, але разам з тым нельга не падкрэсьліць, што Багушэвіч выступае супроць паноў, абараняючы інтарэсы сельскай буржуазіі, інтарэсы вясковага кулака, бо менавіта для праграмы сельскай буржуазіі характэрна барацьба, з аднаго боку, супроць памешчыка і астанкаў прыгоньніцтва і фэўдалізму, якія перашкаджаюць буржуазнай сялян. гаспадарцы, а, з другога, супроць бедняка-лодара, які прапівае сваю маёмасьць у карчме. А менавіта гэта агалашае Багушэвіч у сваім вершы „Ахвяра“ (стар. 96). І зусім няўдалая тая аналёгія, якая праводзіцца праф. Піотуховічам між Багушэвічам, з аднаго боку, і Гэрцэнам і Чарнышэўскім, з другога. Калі ўся гэтая ацэнка, якая дадзена нашым аўтарам Гэрцэну і Чарнышэўскаму, можа быць прыкладзена да Багушэвіча, то затое яна абсалютна не падыходзіць да самаго Гэрцэна і Чарнышэўскага, у асаблівасьці да апошняга. Сказаць, што Гэрцэн і Чарнышэўскі выяўлялі да палітычных пытаньняў „вялікі скэптыцызм і індыфэрэнтызм“, што лёзунг „палітычнай свабоды“ (стар. 99) не захапляў і ня прываблівaў іх, таму што іх не прываблівaў лёзунг парлямантарызму, гэта значыць зусім ня ўцяміць ідэалёгіі і праграмы шасьцідзесятнікаў, гэта значыць не зразумець значэньня Чарнышэўскага, як рэвалюцыйнага дэмакрата. Праф. Піотуховіч правільна ў заключных высновах расцэньвае Багушэвіча, як дробна-буржуазнага паэту, народніка, які верыў у асаблівую ролю інтэлігенцыі, якая пойдзе ў народ і панясе з сабою асьвету, свабоду і інш. Але спроба зьвязаць творчасьць Багушэвіча з сучаснай пралетарскай літаратурай. г. ё. найсьці ў іх агульны зьмест, зьяўляецца, зразумела, памылкай. Гэта асноўная ідэя праф. Піотуховіча прымушае яго ідэалізаваць і другія бакі ў творчасьці паэты, і рэакцыйнейшыя думкі і ідэі падносяцца як вельмі прагрэсыўныя (гл., напр., на стар. 101—102 развагі пра тое, якое месца ў творчасьці Багушэвіча займае жанчына). Цэлы шэраг няправільных установак праф. Піотуховіча ў адносінах Багушэвіча ўсё-ж бляднеюць перад асноўнай палітычна грубой памылковай устаноўкай аўтара,—мы маем на ўвазе спробу

ўстанавіць непасрэдную і наступніцкую сувязь між дробнабуржуазным беларускім адраджэнствам і беларускай пралетарскай культурай, спробу разглядаць сацыялістычнае будаўніцтва на фронце культуры, як працяг тае справы, якая была пачата Багушэвічам, інакш кажучы, спробу выхаласьціць клясавы пралетарскі зьмест тае культуры, якую будуе Савецкая Беларусь і, нарэшце, спробу разглядаць дробнабуржуазнага паэту, як песьняра пралетарскай культуры і сацыялістычнага будаўніцтва (гл. стар. 85).

І тут трэба паставіць усе кропкі над „і". Установкі праф. Піотуховіча ня толькі глыбока памылковыя, яны бязумоўна варожыя сацыялістычнай Беларусі.

Паўтараем, паасобныя памылкі праф. Піотуховіча пры аналізе творчасьці таго ці іншага пісьменьніка ня маюць таго значэньня, якое маюць тыя яго ўстаноўкі, якія ён дае пры цэлым шэрагу абагуленьняў, у асаблівасьці тады, калі ён зьвязвае, напрыклад, літаратуру XIX стагодзьдзя з сучаснасьцю.

Гэта асабліва ярка праяўляецца ў развагах Піотуховіча пра Янку Лучыну. Залічваючы гэтага пісьменьніка да народнікаў, устанаўляючы розьніцу між ім і Багушэвічам, праф. Піотуховіч зусім дарэмна, прызнаючы больш нізкую грамадзкую значнасьць і каштоўнасьць творчасьці Лучыны, імкнецца гэта апраўдаць „мяккімі лірычнымі эмоцыямі", рамантызмам і інш., якія, моў, характарызуюць яго творчасьць.—„Грамадзкая каштоўнасьць яго (Я. Лучыны) творчасьці значна ніжэй",—піша Піотуховіч,—„але затое (курсыў наш—У. Г.) значна шырэй дыяпазон гэтай творчасьці... Янку Лучыне даступны былі больш мяккія лірычныя эмоцыі: ён успрыймае хараство прыроды, ведае рамантычнае парываньне ў вобласьці мары" (стар. 118).

Ці ня бачыць гэтым праф. Піотуховіч наш пісьменьніцкі маладняк, што адсутнасьць грамадзкіх матываў у паэзіі і адсутнасьць сугучнасьці з эпохай вялікіх работ і ўдзел у іх праз літаратуру можбыць цалкам выкуплены інтэлігенцкімі лятуценьцямі, захапленьнем прыгожасьцямі прыроды і г. д.? Зусім недастаткова затрымлівае ўвагу чытача праф. Піотуховіч на тым, як вырашаецца нацыянальная праблема у творчасьці Лучыны, нарэшце, на яго несупраціўленьні злу (стар. 116) і інш. Праф. Піотуховіч падкрэсьлівае, што Янка Лучына бачыў у асьвеце і ў навуцы адзіны сродак, які можа зьмяніць і палепшыць становішча сялянства, і прыводзіць наступную цытату з яго вершу „Роднай старонцы".

„Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
— Прагляне ясна над нашаю ніваю,—
— І будуць жыць дзеткі патомныя
Добраю доляй, доляй шчасьліваю" (стар. 117).

Гэта гаворыць Янка Лучына, поэта 70-80-х г. г. XIX стогодзьдзя, а М. Піотуховіч, гісторык беларускай літаратуры і прафэсар савецкага унівэрсытэту ў 1928 г., на 12 годзе Кастрычнікавай рэвалюцыі дае наступную выхвальную ацэнку гэтым чатыром радком. Ён піша: „Гэта—залатыя словы нашага паэты: яны ствараюць сабой сьцяг, пад якім павінна разьвіцца і сацыяльнае і нацыянальнае адраджэньне Беларусі" (ст. 117). Што хацеў сказаць гэтым праф. Піотуховіч, мы ня ведаем, але што ён сапраўды сказаў, гэта зусім ясна. Праф. Піотуховіч перш за ўсё сам стаіць тут на пазыцыях вельмі ўмераных асьветнікаў (просветителей), ён ня прызнае клясавай барацьбы, ён ня толькі ня кліча да яе, ён нават перасьцярагае ад яе, па яго думцы,

трэба чакаць толькі масавай асьветы (асьвета, відавочна, штука бясклясавая) і інш., і тагды ўсе стануць шчасьлівымі. Усе гэтыя наіўныя, каб не сказаць больш, развагі ня цікавілі-б нас самі па сабе, калі-б яны у канчатковым разрахунку не разварочваліся ў сыстэму, у праграму, якую праф. Піотуховіч рэкамэндуе і савецкай Беларусі. Не дарэмна-ж праф. Піотуховіч піша, што гэтыя словы Лучыны зьяўляюцца тым сьцягам, „пад якім павінна разьвівацца", г. ё. цяпер, нацыянальнае і сацыяльная адраджэньне Беларусі—бяз клясавай барацьбы, без разгорнутага наступу на астанкі капіталізму і інш., а толькі ўсяго праз пазаклясавую, бязклясавую і надклясавую асьвету, навуку і інш.

Зусім відавочна, што паасобныя памылкі ў разуменьні таго ці іншага пісьменьніка ня маюць, зразумела, таго значэньня, якое мае палітычнае credo праф. Піотуховіча, што агалашаецца ім у вышэйпаданых цытатах, у прыватнасьці, у гэтай апошняй.

Праф. Піотуховіч у сваіх выказваньнях ясна паказаў, што, устанаўляючы непасрэдную і наступніцкую сувязь між дробна-буржуазным беларускім адраджэнцтвам і соцыялістычным будаўніцтвам і інш, ён стаіць на пазыцыях контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму.

Трэці разьдзел свае кнігі праф. Піотуховіч прысьвячае беларускай літаратуры эпохі рэвалюцыі 1905 г., эпохі „нашаніўскага адраджэньня".

Калі характарыстыцы сацыяльна-эканамічных умоў і адносін на Беларусі ў XIX стагодзьдзі праф. Піотуховіч змог удзяліць шмат увагі і месца, то для эпохі першай рэволюцыі і пэрыоду нашаніўскага адраджэньня ён абмяжоўваецца надзвычайна беглымі заўвагамі, з якіх, аднак, можна зрабіць выснову, што „Наша ніва" у 1906—09 г. г. стаіць на пляцформе лібэральнага нац.-дэмакратызму, часамі сходзіць з гэтых пазыцый, абараняе інтарэсы вясковай беднаты (!) і робіцца сялянскай газэтай (стар. 121). Гэта, зразумела, няправільна. Адлюстроўваючы інтарэсы дробнай буржуазіі, „Наша Ніва" ў вёсцы ў пасьлярэвалюцыйны пэрыод, асабліва ў пэрыод сталыпіншчыны, заўжды адлюстроўвала інтарэсы вясковай буржуазіі, сельскага кулака.

Мы ня будзем спыняцца на больш дробных памылках у гэтым уступе. Мы адзначым толькі адну, таму што яна знаходзіць сваё адлюстраваньне ў далейшым выкладаньні праф. Піотуховіча.

Трэба сказаць, што разьдзел, прысьвячаны творчасьці Цёткі зяўляецца нам найболыш удалым, але ўсе-ж трэба зрабіць папраўку, што Цётка, зразумела, ні ў якім разе ня можа лічыцца сьпеваком рэвалюцыі 1905г. наогул, што яна адлюстроўвала ў сваёй творчасьці інтарэсы сялянскай рэволюцы, якая наносіла удар самаўладзка-памешчыцкаму ладу. Цётка адлюстроўвае інтарэсы ўсяго сялянства пастолькі, паскольку ў рэвалюцыі 1905 г. мы маем, галоўным чынам, барацьбу ўсяго сялянства супроць памешчыка. І невыпадкова, што ў другі пэрыод свае дзейнасьці, калі рэвалюцыя разгромлена, а буржуазна-памешчыцкі блёк імкнецца забясьпечыць сябе саюзьнікам у вёсцы, шляхам вылучэньня заможнага пласту вескі на хутары, шляхам стварэньня моцнай кулацкай гаспадаркі,—гэтая тыповая дробна-буржуазная пратэса Цётка адмаўляецца ад рэвалюцыйнай барацьбы, гаворыць пра сваю веру ў вызваленьне наогул:

„Веру, братцы, людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон,
На свет божы шчырай глянем,
Век напіша нам закон.
(стар. 133)

Дзе ні глянеш,
Поўна скрыня
То арэхаў, то пшаніцы
Па куточках у сьвятліцы (стар. (135.

Ранейшага закліку да барацьбы ці, ва ўсякім выпадку, апраўданьня барацьбы, мы ў Цёткі цяпер ня стрэнем. Ня менш характэрна, што ў гэты-ж пэрыод Цётка ідэалізуе становішча сялянства — „восень, міла гаспадыня:

Рэвалюця 1905 г., якая разбудзіла шматмільённае сялянства і загартавала рабочую клясу, якая паказвае шлях барацьбы і перамогаў, па думцы Цёткі, нічога не зрабіла, і ў 1906 г. яна піша:

„У нас цёмна,
Край наш хмурны,
Ад цямноты людзі сьпяць.
Я (г. е. віхор) там біўся,
Я там віўся,
Я ім хаты паламаў,
А ўсё-ж такі не дабіўся,
Каб народ свой голас даў“
(„Мае думкі“.)

Ня дзіва, што вярнуўшыся ў Беларусь ужо ў гады рэакцыі, Цётка, забыўшыся на мінулае, аддаецца звычайнай культурна-асьветнай дзейнасьці ў межах, дазволеных і ўстаноўленых царскім урадам.

Другая буйная фігура, буйнасьць якое таксама падае на пэрыод між дзьвюма рэвалюцыямі—гэта Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Супрацоўнік „Нашай нівы“ у гады рэакцыі, ён ўваходзіць ва урад БНР у 1917 г., а восеньню 1920 г. эмігруе ў Вільню ген. Жалігоўскага, дзе, і памірае ў 1922 г. Вось шлях палітычнай і грамадзкай дзейнасьці Антона Лявіцкага, І прывёўшы гэтыя факты, у праф. Піотуховіча хапае сьмеласьці заявіць, што Ядвігін Ш. выступае перад намі „як культурна-нацыянальны і літаратурны дзеяч. ад раньніх гадоў студэнцтва. і да самай магілы працаваўшы на роднай беларускай ніве“ (стар. 141.) Эміграваць з чырвонага Менску ў фашыстаўскую Вільню — гэта значыць працаваць на роднай беларускай ніве? І для каго яна родная ці толькі для Лявіцкага, ці таксама і для праф. Піотуховіча? Мы-ж маем права паставіць гэтае пытаньне, калі праф. Піотуховіч палічыў сябе ў праве, сам перад гэтым адзначыўшы факт эміграцыі Ядвігіна Ш. з Савецкай Беларусі ў фашыстоўскую Польшчу, прывесьці бяз усякіх агаворак і заўваг, а значыць, цалкам салідарызуючыся, наступную вынятку з ўспамінаў Бадуновай „Халодная зямля прыняла ўжо на век агнявую душу аднаго з лепшых сыноў сваіх, аднаго з тэй арлінай нашаніўскай сям'і, якая першая пачала змаганьне за долю шчасьлівую дзеткам патомным, за край наш бедны, за край наш родны, за слова беларускае, сталецьцямі загнанае ў падпольле. Яны, гэтыя першыя ластаўкі волі народнай, правадыры вялікай ідэі адраджэньня заняпаўшага беларускага народу, уміраюць адзінока, часта далёка ад роднай сям'і ад бацькаўшчыны мілай... родная душа ня схілілася і над пасьцеляй Ядвігіна Ш.; сумна чуць, як адзінока на больнічным ложку ўміраюць лепшыя белар. дзеячы ў гэты цяжкі час падзелу нашай бацькаўшчыны... [1]) (стар. 142). Тут і „цяжкі час“, што перажываецца радзімай у сувязі з яе падзелам (!), і адзіноцтва лепшых барацьбітоў, і

[1]) Курсыў усюду наш. У. Г.

больнічны ложак, словам усе тое, што павінна садзейнічаць бязьмежнай ідэалізацыі адкрытага і пры тым контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакрата, якім быў Ядвігін Ш., што уцёк з савецкай Беларусі і зьвязаў свой лёс з фашыстаўскай Польшчай. Няхай гэтыя словы не Піотуховіча, а Бадуновай. Але ці-ж, прыводзячы гэты панэгірык Ядвігіну Ш. бяз усякіх заўваг, растлумачэньняў ці агаворак, праф. Піотуховіч гэтым самым не становіцца на пазыцыі тае-ж Бадуновай у ацэнцы контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмакрата, як лепшага беларускага дзеяччаʔ Ці-ж гэтым самым ён не апраўдвае арыентацыю на Варшаву, ня ідэалізуе „Нашу ніву“ і інш? Напэўна, так.

Зусім зразумела, што пачаўшы з ідэалізацыі гэтага пісьменьніка, праф. Піотуховіч знаходзіць у ягонай творчасьці такія рысы, якія, напэўна, не характарызуюць Ядвігіна Ш. Праф. Піотуховіч сам прызнае, што ў ягонай творчасьці дастаткова яркае адлюстраваньне знайшлі „дваранская псыхалёгія“ пісьменьніка (стар. 166), ягоная ідэалізацыя мінулага, насьмешлівыя адносіны да сялянства, адсутнасьць рэвалюцыйных матываў і інш. Але ўсё-ж, „як народнік новай фармацыі (?), Ядвігін Ш. вострым аналізам выкрывае сацыяльную злабеднасьць і эксплёатацыю“ (стар. 156). Сапраўды, ня ведаеш, хто можа праглынуць такі вінегрэт! У сапраўднасьці-ж справа куды прасьцей. Ядвігін Ш. абараняе вёску супраць гарадзкой буржуазнай культуры, якая разбэшчвае, а вымаўляючы надта прыгожыя фразы пра беднасьць, ён малюе мяшчанскі ідэал чалавечага шчасьця—уют, куточак і інш. (стар. 151). Але ўсяго гэтага селянін павінен дабівацца праз барацьбу, рэвалюцыю і да т. п., наадварот, ягоны характар процілеглы рэвалюцыйнаму дзеяньню—ён селянін—прастадушны, мяккі, ня любіць рэзкасьцяй і грубасьцяй, яны яго палохаюць і г. д. (стар. 143—144). Адным словам, Ядвігін Ш. малюе такога селяніна, які, напэўна, ня можа парушыць яго дробнабуржуазнага мяшчанскага шчасьця і спакою.

Трэба сказаць, што праф Піотуховіч ідэалізуе і другога пісьменьніка—Алеся Гаруна, яшчэ ў эпоху першай рэвалюцыі эсэра. У часы польскай акупацыі ен (А. Гарун) працаваў у беларускай вайсковай арганізацыі, а потым разам з белапалякамі эміграваў з Менску. Тут ужо праф. Піотуховіч робіць глыбокадумную заўвагу, што „нацыяналізм“ [1]), такім чынам, штурхнуў Гаруна на памылковы шлях супрацоўніцтва з урадам акупантаў“ (стар. 170).

І пасьля таго, як сам Піотуховіч прывёў усе гэтыя біяграфічныя даныя, пасьля таго, як ён сам даў шэраг прыкладаў творчасьці Гаруна, якія сьведчаць пра даволі-такі прымітыўны дробнабуржуазны нацыянал-дэмакратызм паэты (стар. 172-175), пасьля ўсяго гэтага сам праф. Піотуховіч зьдзіўлена пытае, чаму гэта матывы, якія характарызуюць сучасную пралетарскую паэзію, зусім засталіся ня выяўленымі ў паэзіі Алеся Гаруна, сына рабочага і партыйнага дзеяча (стар. 176), г. е. эсэра, які блёкаваўся з польскім фашызмам. Ня менш дзіўным здаецца Піотуховічу, што пры ўсім сваім жаданьні ён не знаходзіць у поэзіі Гаруна соцыялістычнай ідэалёгіі (стар. 176), матываў клясавай барацьбы і інш.

І адказ на гэтыя пытаньні ён знаходзіць у самога-ж паэты. Выяўляецца, што ўся справа ў тым, што Гарун не фантазаваў, не займаўся бяссэнсоўнымі лятуценьнямі пра лепшую будучыну (як „некаторыя“? У. Г.), а імкнуўся зьмяніць сучасныя яму грамадзкія адносіны, перабудаваць іх на новых асновах.

[1]) Толькі „нацыяналізм“, а клясавая барацьба? У. Г.

Усё да лепшага, усё гаворыць у карысьць Алеся Гаруна, нават у параўнаньні з сучаснымі пралетарскімі паэтамі. Ці можна дайсьці да большага скажэньня гістарычных фактаў, да большага прыхарошваньня „родных“ пісьменьнікаў і паэтаў, знаходзячыся толькі-што пад „уплывам“ нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі? А гэтакія памылкі і ў такой колькасьці, як яны сустракаюцца ў кнізе праф. Піотуховіча, у канчатковым рахунку перарастаюць у сыстэму. Вазьмеце, напр., яго апісаньне беларускай вёскі і параўнаньне апошняй з Волскімі гарадамі (гутарка ідзе пра М. Багдановіча): „Замест сталага, вякамі ўтворанага быту беларускай вёскі, з якой зьвязана муза большасьці беларускіх паэтаў, песьняра абкружае стракаты быт гандлёвых цэнтраў Паваложжа... У вёсцы, дзе выхаваліся Янка Купала, Якуб Колас ды іншыя песьняры Беларусі, жыцьцё цякло павольна, адліўшыся ў пэўныя рамкі, закасьцянеўшы ў рамках традыцыі таго, што вякамі складаўся, быту. Як на паверхні соннага ляснога возера ледзь відаць хвалі гэтага жыцьця, ад усяго тут павявала супакоем і цішшу, усё схіляла тут да ціхай задуманасьці, разважнасьці“ (стар. 194). Ітак, беларуская вёска 1904—17 г. г. ня ведае барацьбы, хваляваньняў, ніякага руху. У ўяўленьні праф. Піотуховіча гэта якоесьці стаячае мяшчанскае балота, бяз клясавых супярэчнасьцяй, без эксплёатацыі і прыгнёту. Беларуская вёска, што перажыла рэвалюцыю 1905 году і дзікую рэакцыю пасьля яе, беларуская вёска ў крывавых схватках з буржуазна-памешчыцкім блёкам і сваёю кулацкаю верхавінкай, якая супраціўлялася сталыпінскай рэформе, беларуская вёска, што ведае разгром панскіх маёнткаў і кулацкіх хутароў у дні мабілізацыі 1914 г., як пратэст супроць імпэрыялістычнай вайны, гэтая беларуская веска параўноўваецца з „сонным лясным возерам“. Што-ж гэта, проста няпісьменнасьць ці паклёп на бядняцкія і серадняцкія масы беларускага сялянства, быццам бы такога, якое не вядзе клясавай барацьбы? Ці-ж тут ня мае месца сьвядомае ці несьвядомае працягваньне ўсім добра вядомых нац.-дэмакратычных ідэек пра бясклясавую беларускую вёску і Беларусь наогул і пра многае іншае, пра што няма патрэбы і ўпамінаць?

Ці-ж гэтыя развагі праф. Піотуховіча не павінны, калі іх давесьці да адмаўленьня кулацтва, а, значыць, і да адмаўленьня неабходнасьці ліквідацыі яго, як клясы, да адмаўленьня саюзу пралетарыяту і бядняцкага сялянства з серадняком, саюзу патрэбнага для барацьбы з буржуазіяй і ў горадзе і ў вёсцы і інш..? Паўтараем, трэба паставіць усе кропкі над „і“. Кніга праф. Піотуховіча дапамагае беларускаму контррэвалюцыйнаму нацыянал-дэмакратызму ў яго барацьбе з пралетарскай дыктатурай, дапамагае тым болей, што ідэалёгія і праграма нацыянал-дэмакратызму падносіцца ў кнізе, якая прэтэндуе на марксызм і якая зьяўляецца адзіным падручнікам па гісторыі беларускай літаратуры і ў ВНУ і тэхнікумах Беларусі.

Менавіта загэтым з усёй вастрынёй павінны мы паставіць пытаньне пра неабходнасьць у самым тэрміновым парадку падрыхтаваць і выпусьціць марксысцкі падручнік па гісторыі беларускай літаратуры, бо, сапраўды, зусім недапушчальна, што ў 1928 г. студэнты ВНУ і тэхнікумаў карыстаюцца і вучацца па падручніку, з яўна нацыянал-дэмакратычнай устаноўкай. Пытаньне аб складаньні такога падручніка трэба паставіць асабліва востра ў асаблівасьці цяпер, таму што лябараторны мэтад прадугледжвае самастойную работу студэнта над кнігай.

І вось „лепшай“ кнігаю, падручнікам, над якім і з якім павінен працаваць студэнт, зьяўляецца да гэтага часу кніга Піотуховіча. На

Беларусі ёсьць дастатковыя кадры марксыстых-літаратуразнаўцаў, і на дадзеным этапе важнейшай і першачарговай задачай зьяўляецца складаньне падручніка. Трэба, нарэшце, зразумець, што пакіданьне кнігі Піотуховіча на становішчы адзінага падручніка па гісторыі беларускай літаратуры недапушчальна, што яно павінна быць расцэнена, як прымірэнцкія адносіны да контррэволюцыйнага нац.-дэмакратызму.

Літаратура, мастацкая творчасьць цалкам, зьяўляецца надзвычайна магутным сродкам у клясавай барацьбе пралетарыяту. Ня меншае значэньне ў гэтым сэнсе мае і гісторыя гэтай творчасьці, гэтай літаратуры. І вось да апошняга часу гэта зброя знаходзіцца на Беларусі ў руках нашага клясавага ворага, працягвае стаяць на службе вялікадзяржаўнаму шавінізму і беларускаму нац.-дэмакратызму. Вораг павінен быць выбіт з займаемай ім пазыцыі. Марксыстыя-літаратуразнаўцы павінны быць мабілізаваны для складаньня падручніка ці кнігі для чытаньня па гісторыі беларускай літаратуры, яны павінны разьбіць і зьнішчыць нацыянал-дэмакратычную канцэпцыю гістарычнага разьвіцьця беларускай літаратуры.

# Зьмест „Бальшавіка Беларусі“ за 1930 год

## Ленін і Ленінізм



## Партыйнае жыцьцё і пытаньні партработы



## Нацыянальная політыка



## Пытаньні экономікі



## Гаспадарчая політыка ў вёсцы

## Культурнае будаўніцтва



## Міжнароднае становішча і ўсясьветны рэволюцыйны рух



## Рэволюцыйны рух у заходняй Беларусі і Польшчы



## Савецкае будаўніцтва



## Друк і соцыялістычнае будаўніцтва



## Гісторыя



## Матэрыялы і дакуманты



## Крытыка і бібліографія



## Рознае





---

